# 11

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ



МЕНСК
1931

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІС ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 11

ЛІСТАПАД



МЕНСК — 1931

**І. В. Сталін**

# Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму

## Пісьмо ў рэдакцыю журналу „Пролетарская Революция“.

ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Рашуча протэстую супроць зьмяшчэньня ў журнале „Пролетарская Революция“ (№ 6, 1930 г.) антыпартыйнага і паўтрацкісцкага артыкулу Слуцкага „Большевики о Германской Социал-демократии в период ее предвоенного кризиса“, як артыкулу дыскусійнага.

Слуцкі сьцьвярджае, што Ленін (бальшавікі) недаацэньваў небясьпекі *цэнтрызму* ў Германскай і наогул перадваеннай социялдэмократыі, гэта значыць недаацэньваў небясьпекі прыкрытага опортунізму, небясьпекі прымірэнцтва з опортунізмам. Інакчай гаворачы, паводле Слуцкага выходзіць, што Ленін (бальшавікі) ня вёў непрымірымага змаганьня з опортунізмам, бо недаацэнка цэнтрызму ёсьць па сутнасьці справы адмова ад разгорнутага змаганьня з опортунізмам. Выходзіць, такім чынам, што Ленін у пэрыод перад вайной ня быў яшчэ сапраўдным бальшавіком, што толькі ў пэрыод імпэрыялістычнай вайны, або нават на зыходзе гэтай вайны, Ленін стаў сапраўдным бальшавіком. Так апавядае ў сваім артыкуле Слуцкі. А вы замест таго, каб заклеймаваць гэтага новаяўленага „гісторыка“, як паклёпніка і фальсыфікатара, увязваецеся з ім у дыскусію, даеце яму трыбуну. Не магу не протэставаць супроць зьмяшчэньня ў вашым журнале артыкулу Слуцкага, як артыкулу дыскусійнага, бо нельга абарачаць у прадмет дыскусіі пытаньне аб *бальшавізьме* Леніна, пытаньне аб тым, *вёў* Ленін прынцыповае непрымірымае змаганьне з цэнтрызмам, як пэўным відам опортунізму, ці *ня вёў яго, быў* Ленін сапраўдным бальшавіком ці *ня быў* такавым.

У сваёй заяве „Ад рэдакцыі“, прысланай у ЦК 20-га кастрычніка, вы прызнаеце, што рэдакцыя дапусьціла памылку, зьмясьціўшы артыкул Слуцкага ў якасьці дыскусійнага артыкулу. Гэта, вядома, добра, ня гледзячы на тое, што заява рэдакцыі зьяўляецца з вялікім спазьненьнем. Але вы дапускаеце ў сваёй заяве новую памылку, дэкляруючы, што „рэдакцыя лічыць політычна надзвычай актуальным і неабходным далейшую распрацоўку на старонках „Пролетарской Революции“ ўсяго кругу проблем, зьвязаных з узаемаадносінамі бальшавікоў з даваенным II Інтэрнацыяналам“. Гэта значыць, што вы маеце намер зноў уцягнуць людзей у дыскусію па пытаньнях, якія зьяўляюцца аксіомамі бальшавізму. Гэта значыць, што пытаньне аб бальшавізьме Леніна вы зноў думаеце абярнуць з аксіомы ў проблему, падлягаючую „далейшай распрацоўцы“. Чаму, на якой падставе? Усім вядома, што

ленінізм нарадзіўся, вырас і ўмацаваўся ў бязьлітасным змаганьні з опортунізмам усіх масьцей, у тым ліку з цэнтрызмам на Захадзе (Каўцкі), з цэнтрызмам у нас (Троцкі і інш). Гэтага ня могуць адмаўляць нават простыя ворагі бальшавізму. Гэта аксіома. А вы цягнеце нас назад, прабуючы абярнуць аксіому ў проблему, падлягаючую „далейшай распрацоўцы“. Чаму? На якой падставе? Можа быць з прычыны незнаёмства з гісторыяй бальшавізму? Можа быць дзеля гнілога лібэралізму, каб Слуцкія і іншыя вучні Троцкага не маглі сказаць, што ім заціскаюць рот? Даволі дзіўны лібэралізм, які праводзіцца за кошт кроўных інтарэсаў бальшавізму...

Што ўласна лічыць рэдакцыя дастойным дыскусійнага разгляду ў артыкуле Слуцкага?

1) Слуцкі сьцьвярджае, што Ленін (бальшавікі) ня вёў лінію на разрыў, на раскол з опортуністамі Германскай соцыял-дэмократыі, з опортуністамі ІІ Інтэрнацыяналу даваеннага пэрыоду. Вы хочаце дыскусаваць супроць гэтага трацкісцкага тэзісу Слуцкага. Але што тут дыскусійнага? Хіба ня ясна, што Слуцкі проста ўзводзіць паклёп на Леніна, на бальшавікоў? Паклёп трэба заклеймаваць, а не абарачаць у прадмет дыскусіі.

Усякі бальшавік ведае, калі ён сапраўды бальшавік, што Ленін яшчэ задоўга да вайны, прыкладна з 1903-1904 гг., калі аформілася ў Расіі група бальшавікоў і калі ўпяршыню далі аб сабе знаць левыя ў Германскай соцыял-дэмократыі, — вёў лінію на разрыў, на раскол з опортуністамі і ў нас, у Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі, і там, у ІІ Інтэрнацыянале, у часнасьці ў Германскай соцыял-дэмократыі. Кожны бальшавік ведае, што іменна таму бальшавікі ўжо тады (1903—1905) заслужылі сабе ў радох опортуністаў ІІ Інтэрнацыяналу пачэсную славу „раскольнікаў“ і „дэзорганізатараў“. Але што мог зрабіць Ленін, што маглі зрабіць бальшавікі, калі левыя с.-д. у ІІ Інтэрнацыянале і, перш за ўсё, у Германскай соцыял-дэмократыі прадстаўлялі слабую і кволую групу, організацыйна неаформленую, ідэолёгічна не падкаваную, групу, якая баіцца нават выгаварыць слова „разрыў“, „раскол“? Нельга-ж патрабаваць, каб Ленін, каб бальшавікі ўстроілі з Расіі за левых раскол у Заходніх партыях. Я ўжо не кажу аб тым, што організацыйная і ідэолёгічная слабасьць была характэрнай рысай левых с.-д. ня толькі ў пэрыод даваенны. Яна, гэта адмоўная рыса, як вядома, захавалася за левымі і ў пэрыод пасьля вайны. Усім вядома ацэнка германскіх левых с.-д. у вядомым артыкуле Леніна „Аб брошуры Юніуса“ [1]), пісанай у кастрычніку 1916 году, гэта значыць больш як праз два гады пасьля пачатку вайны, дзе Ленін, крытыкуючы цэлы рад сур'ёзьнейшых політычных памылак левых с.-д. у Германіі, гаворыць аб *„слабасьці ўсіх нямецкіх левых, аблытаных з усіх бакоў агіднай сеткай каўцкіянцкай ліцамернасьці, пэдантызма, „дружалюбнасьці“ да опортуністаў*, дзе ён гаворыць аб тым, што *„Юніус ня вызваліўся зусім ад „асяродзьдзя“ нямецкіх, нават левых соцыял-дэмократаў, якія баяцца расколу, баяцца дагаварваць да канца рэволюцыйныя лёзунгі“*.

З усіх груповак ІІ Інтэрнацыяналу рускія бальшавікі былі тады яднынай групоўкай, здольнай па свайму організацыйнаму вопыту і ідэолёгічнай падкаванасьці прадпрыняць што-небудзь сур'ёзнае ў сэнсе простага разрыву, расколу са сваімі опортуністамі ў сваёй расійска соцыял-дэмократыі. Вось калі-б Слуцкія папрабавалі нават

[1]) Юніус — Роза Люксэмбург, лідэр левых с.-д. у Германскай соцыял-дэмократыі.

не даказаць, а проста прадпалажыдь, што Ленін і рускія бальшавікі ня выкарысталі ўсёй сваёй магутнасьці для таго, каб арганізаваць раскол з опортуністамі (Пляханаў, Мартаў, Дан) і выгнаць цэнтрыстаў (Троцкі і іншыя староньнікі жнівеньскага блёку), дык тады можна было-б спрачацца аб бальшавізьме Леніна, аб бальшавізьме бальшавікоў. Але ў тым-жа і справа, што Слуцкія ня сьмеюць нават заікнуцца на карысьць такога дзікага прадпалажэньня. Ня сьмеюць, бо ведаюць, што ўсім вядомыя факты рашучай політыкі разрыву з опортуністамі ўсіх масьцей, праводзіўшайся рускімі бальшавікамі (1904—1912 гг.), з усёй сілы крычаць супроць такога прадпалажэньня. Ня сьмеюць, бо ведаюць, што на другі-ж дзень будуць яны прыгважджоны да ганебнага слупа.

Але вось пытаньне: ці маглі рускія бальшавікі ажыцьцёвіць раскол са сваімі опортуністамі і цэнтрыстамі-прымірэнцамі задоўга да імпэрыялісцкай вайны (1904—1912 гг.), не вядучы разам з тым лінію на разрыў, лінію на раскол з опортуністамі і цэнтрыстамі II Інтэрнацыяналу? Хто можа сумнявацца ў тым, што рускія бальшавікі лічылі сваю політыку ў адносінах опортуністаў і цэнтрыстаў узорам політыкі для левых на Захадзе? Хто можа сумнявацца ў тым, што рускія бальшавікі ўсякімі спосабамі штурхалі левых с.-д. на Захадзе, у часнасьці, левых у Германскай соцыял-дэмократыі на разрыў, на раскол са сваімі опортуністамі і цэнтрыстамі? Ня віна Леніна і рускіх бальшавікоў, калі левыя с.-д. на Захадзе аказаліся недасьпеўшымі к таму, каб ісьці па сьлядох рускіх бальшавікоў.

2) Слуцкі папракае Леніна і бальшавікоў, што яны не падтрымлівалі левых у Германскай с.-д. рашуча і беспаваротна, што яны падтрымлівалі іх толькі з сур'ёзнымі агаворкамі, што фракцыйныя меркаваньні перашкаджалі ім падтрымліваць левых да канца. Вы хочаце дыскусаваць супроць гэтага шарлятанцкага і наскрозь фальшывага папроку. Але-ж што тут уласна дыскусійнага? Хіба ня ясна, што Слуцкі тут манэўруе і стараецца прыкрыць фальшывым папрокам супроць Леніна і бальшавікоў сапраўдныя прарэхі ў позыцыі левых у Германіі? Хіба ня ясна, што бальшавікі не маглі падтрымліваць левых у Германіі, амаль увесь час хістаўшыхся паміж бальшавізмам і меншавізмам, *бяз* сур'ёзных агаворак, *бяз* сур'ёзнай крытыкі іх памылак, *нязрадджваючы* рабочай клясе і яе рэволюцыі? Машэньніцкія манэўры трэба заклеймаваць, а не абарачаць у прадмет дыскусіі.

Так, бальшавікі падтрымлівалі левых с.-д. у Германіі толькі з пэўнымі сур'ёзнымі агаворкамі, крытыкуючы іх паўменшавіцкія памылкі. Але за гэта трэба іх вітаць, а не папракаць.

Ёсьць людзі, якія сумняваюцца ў гэтым?

Зьвернемся да найбольш вядомых фактаў з гісторыі.

а) У 1903 годзе выявіліся сур'ёзныя разгалосьсі паміж бальшавікамі і меншавікамі ў Расіі па пытаньні аб членстве ў партыі. Сваёй формулёўкай аб членстве ў партыі бальшавікі хацелі стварыць арганізацыйную вузду супроць наплыву непролетарскіх элемэнтаў у партыі. Небясьпека такога наплыву была тады больш, чым рэальна, з прычыны буржуазна-дэмократычнага характару рускай рэволюцыі. Рускія меншавікі адстойвалі процілежную позыцыю, адчыняючую шырока дзьверы партыі непролетарскім элемэнтам. З прычыны важнасьці пытаньняў рускай рэволюцыі для сусьветнага рэволюцыйнага руху, заходня-эўропейскія соцыял-дэмократы рашылі ўмяшацца ў справу. Умяшаліся і левыя с.-д. у Германіі, Парвус і Роза Люксэмбург, тагочасныя лідэры левых. І што-ж? Абудва яны выказаліся супроць бальшавікоў. Пры

гэтым было кінута абвінавачаньне па адрасу бальшавікоў у ультрацэнтралізьме і блянкісцкіх тэндэнцыях. Потым гэтыя пошлыя і мяшчанскія эпітэты былі надхоплены меншавікамі і разьнесены па ўсяму сьвету.

б) У 1905 годзе разгарнуліся разгалосьсі паміж бальшавікамі і меншавікамі ў Расіі аб характары рускай рэволюцыі. Бальшавікі адстойвалі ідэю саюзу рабочай клясы з сялянствам пры гегемоніі пролетарыяту. Бальшавікі сьцьвярджалі, што справу трэба весьці да рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства з тым, каб ад рэволюцыі буржуазна-дэмократычнай перайсьці зараз-жа да рэволюцыі соцыялістычнай пры забясьпечаньні падтрыманьня з боку вясковай беднаты. Меншавікі ў Расіі адкідалі ідэю гегемоніі пролетарыяту ў буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, замест політыкі саюзу рабочай клясы з сялянствам яны палічылі лепшай політыку пагадненьня з лібэральнай буржуазіяй, а рэволюцыйна-дэмократычную дыктатуру пролетарыяту і сялянства абʻявілі рэакцыйнай блянкісцкай схэмай, супярэчнай разьвіцьцю буржуазнай рэволюцыі. Як аднесьліся да гэтых спрэчак левыя ў Германскай соцыял-дэмократыі, Парвус і Роза Люксэмбург? Яны выдумалі утопічную і паўменшавіцкую схэму пэрманэнтнай рэволюцыі (вырадковы вобраз Марксавай схэмы рэволюцыі), пранікнутую наскрозь меншавіцкім адмаўленьнем політыкі саюзу рабочай класы і сялянства, і проціпаставілі яе бальшавіцкай схэме рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства. У далейшым гэта паўменшавіцкая схэма пэрманэнтнай рэволюцыі была падхоплена Троцкім (часткова—Мартавым) і зроблена прыладай змаганьня супроць ленінізму.

в) У пэрыод перад вайной у партыі II Інтэрнацыяналу выступіла на сцэну, як адно з актуальнейшых пытаньняў, пытаньне нацыянальна-колёніяльнае, пытаньне аб прыгнечаных нацыях і колёніях, пытаньне аб вызваленьні прыгнечаных нацый і колёній, пытаньне аб шляхох змаганьня з імпэрыялізмам, пытаньне аб шляхох зьвяржэньня імпэрыялізму. У інтарэсах разгортваньня пролетарскай рэволюцыі і акружэньня імпэрыялізму бальшавікі запрапанавалі політыку падтрыманьня вызваленчага руху прыгнечаных нацый і колёній на базе самавызначэньня нацый і разьвілі схэму адзінага фронту паміж пролетарскай рэволюцыяй перадавых краёў і рэволюцыйна-вызваленчым рухам народаў колёній і прыгнечаных краёў. Опортуністы ўсіх краёў, соцыял-шовіністы і соцыял-імпэрыялісты ўсіх краёў зараз-жа паўсталі ў сувязі з гэтым супроць бальшавікоў. Бальшавікоў цкавалі, як шалёных сабак. Якую позыцыю занялі тады левыя с.-д. на Захадзе? Яны разьвілі паўменшавіцкую тэорыю імпэрыялізму, адкінулі прынцып самавызначэньня нацый у яго марксыцкім разуменьні (аж да аддзяленьня і ўтварэньня самастойных дзяржаў), адвялі тэзіс аб сурʻёзным рэволюцыйным значэньні вызваленчага руху колёній і прыгнечаных краёў, адвялі тэзіс аб магчымасьці адзінага фронту паміж пролетарскай рэволюцыяй і нацыянальна-вызваленчым рухам і проціпаставілі ўсю гэту паўменшавіцкую кашу, якая зьяўляецца суцэльнай недаацэнкай нацыянальна-колёніяльнага пытаньня,—марксыцкай схэме бальшавікоў. Вядома, што гэту паўменшавіцкую кашу падхапіў потым Троцкі і выкарыстаў яе, як прыладу змаганьня супроць ленінізму.

Такавы ўсім вядомыя памылкі левых с.-д. у Германіі.

Я ўжо не кажу аб іншых памылках германскіх левых, раскрытыкаваных у адпаведных артыкулах Леніна.

Не кажу таксама пра памылкі, дапушчаныя імі пры ацэнцы палітыкі бальшавікоў у пэрыод Кастрычніцкага перавароту.

Пра што гавораць гэтыя памылкі германскіх левых, узятыя з гісторыі даваеннага пэрыоду, як не пра тое, што левыя с.-д., ня гледзячы на сваю лявізну, ня вызваліліся яшчэ ад меншавіцкага багажу?

Вядома, у левых у Германіі былі ня толькі сур'ёзныя памылкі. Яны маюць за сабой таксама вялікія сур'ёзныя рэволюцыйныя справы. Я маю на ўвазе цэлы рад іх заслуг і рэволюцыйных выступленьняў па пытаньнях унутранай політыкі і, у часнасьці, выбарчага змаганьня, па пытаньнях парляманцкага і па-запарляманцкага змаганьня, аб агульнай забастоўцы, аб вайне, аб рэволюцыі 1905 г. у Рассіі і г. д. Іменна таму і лічыліся з імі бальшавікі, як з левымі, і падтрымлівалі іх, штурхалі іх наперад. Але гэта не зьніштажае і ня можа зьніштожыць таго факту, што левыя с.-д. у Германіі разам з тым мелі за сабой цэлы рад сур'ёзьнейшых політычных і тэорэтычных памылак, што яны ня вызваліліся яшчэ ад меншавіцкага грузу і з прычыны гэтага для іх патрэбна была сур'ёзьнейшая крытыка з боку бальшавікоў.

Судзіце цяпер самі, ці маглі Ленін і бальшавікі падтрымліваць левых с.-д. на Захадзе *бяз сур'ёзных агаворак, бяз сур'ёзнай крытыкі* іх памылак, ня здраджваючы інтарэсам рабочай клясы, ня здраджваючы інтарэсам рэволюцыі, ня здраджваючы комунізму?

Ці ня ясна, што Слуцкі, папракаючы Леніна і бальшавікоў у тым, з поваду чаго ён павінен быў-бы іх вітаць, калі-б ён быў бальшавіком,—выкрывае сябе да канца, як паўменшавіка, як замаскаванага трацкіста?

Слуцкі робіць прадпалажэньне, што Ленін і бальшавікі ў сваёй ацэнцы левых на Захадзе выходзілі з сваіх фракцыйных меркаваньняў, што значыцца, рускія бальшавікі прыносілі ў афяру інтарэсам сваёй фракцыі вялікую справу міжнароднай рэволюцыі. Бадай ці трэба даказваць, што ня можа быць нічога больш пошлага і агіднага за такое прадпалажэньне. Ня можа быць нічога больш пошлага, бо нават адчайныя пашлякі з меншавікоў пачынаюць разумець, што руская рэволюцыя ня ёсьць прыватная справа рускіх, што яна, наадварот, зьяўляецца справай рабочай клясы ўсяго сьвету, справай сусьветнай пролетарскай рэволюцыі. Ня можа быць нічога больш агіднага, бо нават профэсіянальныя паклёпнікі з II Інтэрнацыяналу пачынаюць разумець, што пасьлядоўны і да канца рэволюцыйны інтэрнацыяналізм бальшавікоў зьяўляецца ўзорам пролетарскага інтэрнацыяналізму для рабочых усіх краёў.

Так, рускія бальшавікі высувалі на першы плян карэнныя пытаньні рускай рэволюцыі, накшталт пытаньняў аб партыі, аб адносінах марксыстаў да буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, аб саюзе рабочай клясы і сялянства, аб гегемоніі пролетарыяту, аб парляманцкім і па-запарляманцкім змаганьні, аб агульнай забастоўцы, аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, аб дыктатуры пролетарыяту, аб імпэрыялізьме, аб самавызначэньні нацый, аб вызваленчым руху прыгнечаных нацый і коленій, аб політыцы падтрыманьня гэтага руху і да т. п. Яны высувалі гэтыя пытаньні, як спробны камень, на якім яны правяралі рэволюцыйную вытрыманасьць левых с.-д. на Захадзе. Ці мелі яны на гэта права? Так, мелі. Ня толькі мелі, але павінны былі паступаць такім спосабам. Яны павінны былі паступаць такім спосабам, бо ўсе гэтыя пытаньні былі разам з тым карэннымі пытаньнямі сусьветнай рэволюцыі, задачам

якой падпарадкавалі бальшавікі сваю палітыку, сваю тактыку. Яны павінны былі пастулаць такім спосабам, бо толькі на такіх пытаньнях можна было правяраць па-сапраўднаму рэвалюцыйнасьць тых ці іншых груповак II Інтэрнацыяналу. Паўстае пытаньне, у чым-жа тут „фракцыйнасьць“ рускіх бальшавікоў і прычым тут „фракцыйныя“ меркаваньні?

Ленін яшчэ ў 1902 годзе пісаў у сваёй брошуры „Што рабіць“?, што *„Гісторыя паставіла перад намі бліжэйшую задачу, якая зьяўляецца найбольш рэвалюцыйнай з усіх бліжэйшых задач пролетарыяту, якога-б там ні было краю“*, што *„ажыцьцяўленьне гэтай задачы, зруйнаваньне самай магутнай апоры ня толькі эўропейскай, але таксама і азіяцкай рэакцыі зрабіла-б рускі пролетарыят авангардам міжнароднага рэвалюцыйнага пролетарыяту“*. З часу выхаду ў сьвет брашуры „Што рабіць“? прайшло 30 гадоў. Ніхто ня сьмее адмаўляць, што падзеі за гэты пэрыод дасканала пацьвердзілі словы Леніна. Але ці не вынікае з гэтага, што руская рэвалюцыя была (і застаецца) вузлавым пунктам сусьветнай рэвалюцыі, што карэнныя пытаньні рускай рэвалюцыі зьяўляліся разам з тым (і зьяўляюцца цяпер) карэннымі пытаньнямі сусьветнай рэвалюцыі?

Ці ня ясна, што толькі на такіх карэнных пытаньнях можна было праверыць па-сапраўднаму рэвалюцыйных левых с.-д. на Захадзе?

Ці ня ясна, што людзі, разглядаючыя гэтыя пытаньні, як пытаньні „фракцыйныя“, — выкрываюць сябе да канца, як пашлякоў перараджэнцаў?

3) Слуцкі сьцьцярджае, што ня знойдзена яшчэ выстарчальнай колькасьці афіцыяльных дакумэнтаў, якія сьведчаць аб рашучым і непрымірымым змаганьні Леніна (бальшавікоў) супроць цэнтрызму. Гэтым бюрократычным тэзісам опэруе ён, як пераканальным аргумэнтам на карысьць таго палажэньня, што Ленін (бальшавікі), значыцца, недаацэньваў небясьпекі цэнтрызму ў II Інтэрнацыянале. Вы бярэцеся дыскусаваць супроць гэтай бязглузьдзіцы, супроць гэтага жульніцкага кручкатворства. Але што тут уласна дыскусійнага? Хіба ня ясна і так, што гутаркамі аб дакумэнтах Слуцкі стараецца прыкрыць убоства і фальш сваёй так званай устаноўкі?

Слуцкі лічыць існуючыя партыйныя дакумэнты невыстарчальнымі. Чаму, на якой падставе? Хіба ўсім вядомых дакумэнтаў па лініі II Інтэрнацыяналу, таксама як і па лініі ўнутрыпартыйнага змаганьня ў расійскай соцыял-дэмократыі невыстарчальна для таго, каб з усёй яснасьцю дэмонстраваць рэвалюцыйную непрымірымасьць Леніна і бальшавікоў у іх змаганьні супроць опортуністаў і цэнтрыстаў? Ці знаёмы наогул Слуцкі з гэтымі дакумэнтамі? Якія яму патрэбны яшчэ дакумэнты?

Дапусьцім, што апрача ўжо вядомых дакумэнтаў будзе знойдзена куча другіх дакумэнтаў у відзе, скажам, рэзолюцый бальшавікоў, лішні раз трактуючых аб неабходнасьці зьніштажэньня цэнтрызму. Ці значыць гэта, што наяўнасьці толькі папяровых дакумэнтаў даволі для таго, каб дэмонстраваць сапраўдную рэвалюцыйнасьць і сапраўдную непрымірымасьць бальшавікоў у адносінах да цэнтрызму? Хто-ж, апрача безнадзейных бюрократаў, можа пакладацца на адны толькі папяровыя дакумэнты? Хто-ж, апрача архіўных крыс, не разумее, што партыі і лідэраў трэба правяраць па іх *справах*, перш за ўсё, а ня толькі па іх дэклярацыях? Гісторыя ведае ня мала соцыялістаў, якія з гатоўнасьцю падпісвалі любыя рэвалюцыйныя рэзолюцыі, каб адпісацца ад назольных крытыкаў. Але гэта яшчэ ня значыць, што яны *праводзілі ў жыцьцё* гэтыя рэзолюцыі. Гісторыя ведае, далей, ня мала соцыялістаў, якія з пенай ля роту патрабавалі ад рабочых партый

*іншых* краёў самых якія толькі ёсьць рэволюцыйных дзействаў. Але гэта яшчэ ня значыць, што яны *не пасавалі* ў сваёй уласнай партыі або ў сваім уласным краі перад *сваімі* опортуністамі, перад *сваёй* буржуазіяй. Ці не таму вучыў нас Ленін правяраць рэволюцыйныя партыі, плыні, лідэраў не па іх дэклярацыях і рэзолюцыях, а па іх *справах*.

Ці ня ясна, што, калі Слуцкі сапраўды хацеў праверыць непрымірымасьць Леніна і бальшавікоў у іх адносінах да цэнтрызму, ён павінен быў зрабіць *асновай* свайго артыкулу не паасобныя докумэнты і два-тры асабістых пісьма, а праверку бальшавікоў па іх *справах*, па іх *гісторыі*, па іх *дзействах?* Хіба ў нас, у Расійскай соцыял-дэмократыі, ня было опортуністаў, цэнтрыстаў? Хіба бальшавікі не вялі рашучае непрымірымае змаганьне з усімі гэтымі плынямі? Хіба гэтыя плыні ня былі зьвязаны і ідэйна і організацыйна з опортуністамі і цэнтрыстамі на Захадзе? Хіба бальшавікі не разграмілі опортуністаў і цэнтрыстаў, так як не граміла іх ні адна левая група ў сьвеце? Як можна гаварыць пасьля ўсяго гэтага, што Ленін і бальшавікі недаацэньвалі небясьпекі цэнтрызму? Чаму Слуцкі грэбліва аднёсься да гэтых фактаў, маючых рашаючае значэньне для характарыстыкі бальшавікоў? Чаму ён ня выкарыстаў найбольш надзейны мэтод праверкі Леніна і бальшавікоў па іх справах, па іх дзействах? Чаму ён аддаў перавагу менш надзейнаму мэтоду капаньня ў выпадкова падабраных паперах?

Таму што ўжываньне больш надзейнага мэтоду праверкі бальшавікоў па іх справах адразу перавярнула-б дагары дном усю ўстаноўку Слуцкага.

Таму што праверка бальшавікоў па іх справах паказала-б, што бальшавікі зьяўляюцца *адзінай* у сьвеце рэволюцыйнай організацыяй, якая разграміла да канца опортуністаў і цэнтрыстаў і выгнала іх вон з партыі.

Таму што зьвярненьне да сапраўдных спраў і сапраўднай гісторыі бальшавікоў паказала-б, што настаўнікі Слуцкага — трацкісты — былі *галоўнай і асноўнай* групай, насаджаўшай ў Расіі цэнтрызм і стварыўшай для гэтага спэцыяльную організацыю, як асяродак цэнтрызму, у выглядзе жнівеньскага блёку.

Таму што праверка бальшавікоў па іх справах канчаткова выкрыла-б Слуцкага, як фальсыфікатара гісторыі нашай партыі, прабуючага прыкрыць цэнтрызм трацкізму даваеннага пэрыоду паклёпніцкімі абвінавачаньнямі Леніна і бальшавікоў у недаацэнцы небясьпекі цэнтрызму.

Вось як стаіць справа, таварышы рэдактары, са Слуцкім і яго артыкулам.

Вы бачыце, што рэдакцыя зрабіла памылку, дапусьціўшы дыскусію з фальсыфікатарам гісторыі нашай партыі.

Што магло штурхнуць рэдакцыю на гэты няправільны шлях? Я думаю, што на гэты шлях штурхнуў яе гнілы лібэралізм, які мае цяпер сярод адной часьці бальшавікоў некаторае пашырэньне. Некаторыя бальшавікі думаюць, што трацкізм ёсьць фракцыя комунізму, якая, праўда, памыляецца, робіць ня мала глупстваў, часамі нават антысавецкая, але ўсё-ж фракцыя комунізму. Адгэтуль некаторы лібэралізм у адносінах трацкістаў і трацкісцка-мысьлячых людзей. Бадай ці трэба даказваць, што такі погляд на трацкізм зьяўляецца глыбока памылковым і шкодным. У сапраўднасьці-ж трацкізм даўно ўжо перастаў быць фракцыяй комунізму. У сапраўднасьці трацкізм ёсьць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі, якая вядзе змаганьне

супроць комунізму, супроць савецкай улады, супроць будаўніцтва соцыялізму ў СССР.

Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі духоўную зброю супроць бальшавізму ў відзе тэзісу аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў нашым краі, у відзе тэзісу аб нямінучасьці перараджэньня бальшавікоў і да т. п.? Гэту зброю даў ёй трацкізм. Нельга лічыць выпадковасьцю той факт, што ўсе антысавецкія групоўкі СССР у сваіх спробах абгрунтаваць няўнікнёнасьць змаганьня з савецкай уладай, спасыляліся на вядомы тэзіс трацкізму аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў нашым краі, аб няўнікнёнасьці перараджэньня савецкай улады, аб імавернасьці звароту да капіталізму.

Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі ў СССР тактычную зброю ў відзе спроб адкрытых выступленьняў супроць савецкай улады? Гэту зброю далі ёй трацкісты, прабаваўшыя ўстроіць антысавецкія дэманстрацыі ў Маскве і Ленінградзе 7-га лістапада 1927 году. Гэта факт, што антысавецкія выступленьні трацкістаў паднялі дух у буржуазіі і разьвязалі шкодніцкую работу буржуазных спэцыялістаў.

Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі організацыйную зброю ў відзе спроб устройства падпольных антысавецкіх організацый? Гэту зброю далі ёй трацкісты, організаваўшыя сваю ўласную антыбальшавіцкую нелегальную групу. Гэта факт, што падпольная антысавецкая работа трацкістаў палегчыла організацыйнае афармленьне антысавецкіх груповак у СССР.

Трацкізм ёсьць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі.

Вось чаму лібэралізм у адносінах трацкізму, хоць-бы і разьбітага і замаскаванага, ёсьць галавацяпства, якое мяжуе з праступленьнем, здрадай рабочай клясе.

Вось чаму спробы некаторых „літаратараў“ і „гісторыкаў“ працягнуць контрабандай у нашу літаратуру замаскаваны трацкісцкі хлам павінны сустрэць з боку бальшавікоў рашучы адпор.

Вось чаму нельга дапускаць літаратурную дыскусію з трацкісцкімі контрабандыстамі.

Мне здаецца, што „гісторыкі“ і „літаратары“ з разраду трацкісцкіх контрабандыстаў стараюцца праводзіць сваю контрабандную работу пакуль што па дзьвёх лініях.

Па-першае, яны стараюцца даказаць, што Ленін у пэрыод перад вайной недаацэньваў небясьпекі цэнтрызму, пры гэтым пакідаецца неспрактыкаванаму чытачу дагадвацца, што Ленін, стала быць, ня быў яшчэ тады сапраўдным рэволюцыянэрам, што ён стаў такавым толькі пасьля вайны, пасьля таго, як „пераўзброіўся“ пры дапамозе Троцкага. Тыповым прадстаўніком такога роду контрабандыстаў можна лічыць Слуцкага. Мы бачылі вышэй, што Слуцкі і кампанія ня варты таго, каб доўга вазіцца з імі.

Па-другое, яны стараюцца даказаць, што Ленін не разумеў неабходнасьці перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў рэволюцыю соцыялістычную, пры гэтым пакідаецца неспрактыкаванаму чытачу дагадвацца, што Ленін, значыцца, ня быў яшчэ тады сапраўдным бальшавіком, што ён зразумеў неабходнасьць такога парарастаньня толькі пасьля вайны, пасьля таго, як ён „пераўзброіўся“ пры дапамозе Троцкага. Тыповым прадстаўніком такога роду контрабандыстаў можна лічыць Валасевіча, аўтара „Курса истории ВКП(б)“. Праўда, Ленін яшчэ ў 1905 годзе пісаў, што *„ад рэволюцыі дэмократычнай мы зараз-жа пачнем пераходзіць і якраз у меру нашай сілы, сілы сьвядомага і організаванага пролетарыяту, пачнем пераходзіць*

*да соцыялістычнай рэволюцыі"*, што *„мы стаім за бесьперапынную рэволюцыю"*, што *„мы ня спынімся на паўдарозе"*. Праўда, фактаў і докумэнтаў аналёгічнага парадку можна было-б знайсьці ў творах Леніна безьліч. Але якое дзела Валасевічам да фактаў з жыцьця і дзейнасьці Леніна? Валасевічы пішуць для таго, каб, падфарбаваўшыся пад бальшавіцкі колер, працягнуць сваю антыленінскую контрабанду, узьвесьці паклёп на бальшавікоў і сфальсыфікаваць гісторыю бальшавіцкай партыі.

Вы бачыце, што Валасевічы варты Слуцкіх.

Такавы „шляхі і ростані" трацкісцкіх контрабандыстаў.

Самі разумееце, што ня справа рэдакцыі палягчаць контрабандысцкую дзейнасьць падобных „гісторыкаў" і даваць ім дыскусійную трыбуну.

Задача рэдакцыі заключаецца, па-мойму, у тым, каб падняць пытаньні гісторыі бальшавізму на належную вышыню, паставіць справу вывучэньня гісторыі нашай партыі на навуковыя, бальшавіцкія рэйкі і завастрыць увагу супроць трацкісцкіх і ўсякіх іншых фальсыфікатараў гісторыі нашай партыі, сыстэматычна зрываючы з іх маскі.

Гэта тым больш неабходна, што нават некаторыя нашы гісторыкі,—я кажу аб гісторыках без кавычак, *аб бальшавіцкіх* гісторыках нашай партыі, — не свабодны ад памылак, льючых ваду на млын Слуцкіх і Валасевічаў. Выключэньнем не зьяўлкецца тут, на жаль, і тав. Яраслаўскі, кніжкі якога па гісторыі УсеКП(б), не гледзячы на іх дадатныя бакі, маюць рад памылак прынцыповага і гістарычнага характару.

З ком. прывітаньнем

**І. СТАЛІН.**

---

# XIV год Кастрычніка

I

Чатырнаццаць год таму назад, перад самым Кастрычнікаўскім паўстаньнем, адзін з лідэраў дробна-буржуазнай контррэволюцыі, Гоц, казаў, што ён гатоў упасьці ў ногі бальшавіком, калі-б яны толькі сур'ёзна ўзялі ўладу. „Становішча катастрофічнае — казаў ён — няма хлеба, няма апалу, няма мэталю, спыняецца вайсковая прамысловасьць, няма сілы працягваць вайну і няма магчымасьці заключыць мір. Толькі напружанасьць сіл усіх кляс грамады, толькі „нацыянальны" ўрад можа спасьці краіну. Бальшавікі сваёй тактыкай толькі провокуюць масы, штурхаюць іх на шлях анархіі". Бальшавікі ўзялі ўладу, не паслухаўшы запужваньняў ворага і трусьлівых угавораў унутры сваіх радоў. Гоцы ня падалі ў ногі рабочай клясе, а неадкладна організавалі паўстаньне юнкероў унутры пролетарскага Піцеру і паход на яго казакаў звонку. З таго часу не адзін раз клясавы вораг звонку, трусы і здраднікі знутры прарочылі пагібель савецкае ўлады, пагібель соцыялістычнай рэволюцыі. У першыя дні пасьля Кастрычніка бальшавіцкай уладзе адмервалі ўсяго 2-3 тыдні — саветы павінны былі рухнуць пад ударамі Керанскага з-за няўменьня справіцца з голадам, з анархіяй, пролетарская дыктатура павінна была за тым загінуць праз 2-3 м-цы пад ударамі імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі, яна, нарэшце, павінна была па чарзе гінуць ад голаду, экономічнага хаосу, ад НЭП'у, ад опозыцыі, ад пяцігодкі, ад політыкі суцэльнай колектывізацыі і г. д. і г. д.

Савецкі-ж Саюз ня толькі не загінуў, ён ня толькі разграміў унутраную буржуазную памешчыцкую контррэволюцыю і белагвардзейскія арміі, якія прышлі ім на дапамогу, ня толькі зацьвердзіў уладу рабочае клясы на адной шостай частцы зямной кулі, ня толькі дабіўся адбудовы разбуранай імпэрыялістычнай, грамадзянскай вайной народнай гаспадаркі, але, пад кіраўніцтвам выпрабаванай у вялізарнейшых клясавых бойках партыі, перайшоў у разгорнуты па ўсяму фронту соцыялістычны наступ.

Ломячы адчаянае супраціўленьне варожых кляс, растоптваючы агентуру клясавага ворага ўнутры партыі, сакрушаючы контррэволюцыйны трацкізм і правых ухілістаў, якія цягнулі на шлях рэстаўрацыі капіталізму, партыя, якая кіравалася Ленінскім ЦК на чале з т. Сталіным, дабілася гіганцкіх посьпехаў, увяла краіну ў пэрыод соцыялізму, у паласу нябачанага яшчэ росквіту соцыялістычнай сыстэмы.

Савецкі Саюз яшчэ толькі ў самым пачатку гэтай паласы. Але дасягненьні пролетарыяту СССР маюць ужо сусьветна-гістарычнае

значэньне для клясавай барацьбы рабочых усяго сьвету. Вялізарнейшая ў гісторыі чалавецтва практыка работы ў барацьбе пралетараў СССР зьявілася лепшым абвяржэньнем усіх і ўсялякіх тэорый — буржуазных, соцыял-фашысцкіх, трацкісцкіх — аб немагчымасьці соцыялістычнага будаўніцтва, аб нямінучасьці перараджэньня.

Соцыялістычны ўздым Савецкага Саюзу мае вялізарнае значэньне для лёсу сусьветнай рэволюцыі. Перамога соцыялізму ў аднэй краіне была для бальшавікоў заўсёды толькі зьвяном у барацьбе за сусьветную рэволюцыю. „Рэволюцыя краіны, якая перамагла, павінна разглядаць сябе не як самадаўлеючую велічыню, а як „подспорье“, як сродак для паскарэньня перамогі пралетарыяту ва ўсіх краінах... самае разьвіцьцё сусьветнай рэволюцыі; самы процэс адпадзеньня ад імпэрыялізму раду новых краін будзе адбывацца тым хутчэй і аснавацельней, чым аснавацельней будзе ўзмацняцца соцыялізм у першай перамогшай краіне“ (Сталін). Вось чаму посьпехі і дасягненьні соцыялізму ў Савецкім Саюзе аказваюць і будуць аказваць, чым далей тым больш — большы ўплыў на тэмпы і маршрут пралетарскай барацьбы за ўладу ва ўсім сьвеце. Але гэтыя посьпехі і дасягненьні тым больш вялікія, што яны адбываюцца на фоне вялізарнейшага ў гісторыі капіталістычнага экономічнага крызісу.

Два гады бушуе прамысловы і аграрны крызіс ва ўсім сьвеце, выключаючы толькі савецкія землі. За два гады вытворчасьць чыгуну ў Германіі, Злучаных Штатах, Англіі скарацілася амаль на палову. Спажываньне чыгуну па асобах з 1927 г. да 1930 г. скарацілася ў Германіі з 275,6 *кг* да 166,4 *кг*, у Англіі з 337,5 *кг* да 252,6, у Злучаных Штатах з 442,1 да 377,2 *кг*. Ва ўсіх гэтых краінах спажываньне па асобах жалеза ніжэй як у 1913 г., складаючы ў Германіі ўсяго 2/3 даваеннага спажываньня. Па вылічэньні нямецкага кон'юнктурнага інстытуту індэкс прамысловай продукцыі Злучаных Штатаў 1931 г. складаў менш 3/4 продукцыі сярэдняй месячнай продукцыі 1928 г., і на 1/3 менш чым у 3-м квартале 1929 г. У Германіі прамысловая продукцыя ў жніўні 1931 г. была на 1/3 менш чым у 1928 г. Зараз нямецкі гаспадарчы друк прызнае, што Германія адкінута прыблізна да ўзроўню 1900 г.

З 395 домен у Англіі працуюць толькі 76, у Злучаных Штатах з 316 толькі 91, нават ва Францыі, якая толькі апошнія м-цы сур'ёзна ўцягваецца ў вір крызісу, з 143 домен ужо 31 не працуе. Селска-гаспадарчае машынабудаўніцтва ўпала ў Амэрыцы да 1/4 узроўню 1929 г., а ў Германіі да 1/4 1913 г. Аб'ём сусьветнага гандлю за 1/4 1931 г. скараціўся ў параўнаньні з першай чвэрткай 1930 г. на 30 проц. Вытворчы апарат капіталізму скарыстоўваецца, у лепшым выпадку, на палову. Супярэчнасьці паміж тэхнічнымі магчымасьцямі капіталістычных вытворчых сіл і сапраўдным функцыянаваньнем вырасьлі да нябывалых памераў. Беспрацоўе дасягае вялізарных, нябачаных яшчэ дагэтуль памераў. 40 мільёнаў беспрацоўных ва ўсім сьвеце, з іх палова гэтага ліку падае на 3 вядучыя капіталістычныя краіны — Злучаныя Штаты, Германію і Англію. Францыя, якая пазьней другіх уступіла на нахіленую дарогу крызісу, хутка, аднак, крочыць па ёй — лік беспрацоўных перавышае там мільён. Вытворчасьць жалеза і сталі ў першым паўгодзьдзі 1931 г. параўнаўча з першым паўгодзьдзем 1930 г. скарацілася да 20 проц.

У Польшчы гэтулькі-ж беспрацоўных колькі ва Францыі — 1.100.000, і калі-б не савецкія заказы, зьвязаныя з правядзеньнем пляну вялікіх

работ, лік гэты значна павялічыўся-б. Толькі за першыя 7 месяцаў 1931 г. закрыта 553 прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў.

Вялізарнейшы аграрны крызіс няшчадна душыць і топча мільёны дробных і сярэдніх сялянскіх гаспадарак. Цэны на сельска-гаспадарчыя продукты і коленіяльную сыравіну ўпалі ў многа раз больш чым на прамысловыя тавары. Пшаніца ў Злучаных Штатах расцэньваецца зараз ніжэй адной трэці таго, што каштавала пяць год таму назад, у Індыі-ж пшаніца за гэты час упала да 1/4. Бавоўна каштуе ў тры разы менш таго, што раней каштавала. У такой-жа пропорцыі ўпалі цэны і на другія продукты.

Капіталізм знаходзіць выхад з крызісу толькі ў разбурэньні уласных вытворчых сіл. Капіталізм ужо даўно выканаў сваю гістарычную задачу — разьвіцьця вытворчых сіл. Далейшае іх разьвіцьцё, больш таго, іх нормальнае функцыянаваньне несумяшчальна з існуючым капіталізмам.

Капіталізм напускае скарпіёны голаду на рабочых, зводзіць жыцьцёвы ўзровень пролетарскіх мас да ўзроўню коленіяльных нявольнікаў, прыводзіць да жабрацтва мільёны сялян у Польшчы, у Вэнгрыі, на Балканах. Беспрацоўе ў буйнейшых краінах з цыклічнай даўно ўжо ператварылася ў структурную. Асноўная вытворчая сіла чалавечай грамады — сам чалавек — усё больш разбураецца капіталістычным крызісам. У Злучаных Штатах за апошнія 6 год зарплата ўпала на 40 проц. Толькі за апошнія 8 м-цаў 1931 г. заработная плата ўпала на 1/4 у Злучаных Штатах, Англіі, Германіі, на 1/3 у Італіі. За апошнія два гады ў Германіі пролетарыят страціў на зьніжэньні зарплаты да 14 мільярдаў марак. Зьнішчэньне соцыяльнага страхаваньня, зьнішчэньне дапамогі па беспрацоўі, скарачэньне заработнай платы ніжэй пражытачнага мінімуму — вось програма капіталістычнага выхаду з крызісу.

У Кітаі, Індокітаі, Індыі галадаюць 10 мільёнаў людзей. Сотні мільёнаў коленіяльных нявольнікаў, вясковай беднаты, беспрацоўных маюць хлеба ў колькасьці ледзь дастатковай, каб не памерці, вельмі недастатковым, каб жыць, а ў Злучаных Штатах, Канадзе, Аўстраліі капіталістычныя правадыры прапануюць фэрмэрам зьнішчаць ураджай, спальваць яго ў якасьці апалу, выкідаць у мора. Мільёны людзей на краю галоднай сьмерці, ім-жа няма куды збыць вялізарныя запасы харчовых продуктаў. Мільёны людзей без работы, стаяць мёртвымі бяз руху вялізарныя заводы і фабрыкі. Мёртвыя машыны, мёртвая сыравіна, апал, руда і кінутыя на ўміраньне мільёны рабочых — такі сёнешні дзень капіталізму.

А над заўтрашнім днём капіталізму навісаюць найбольш цёмныя і змрочныя пэрспэктывы. Стыхія крызісу ўжо сакрушыла рад буйнейшых капіталістычных концэрнаў і пад яе ўдарамі гнуцца вялізарнейшыя аб'яднаньні імпэрыялізму. Дзесяткі концэрнаў, трэстаў і банкаў сусьветнага значэньня, дзесяткі, сотні, тысячы больш дробных прадпрыемстваў і банкаў разбураны ўсёзьнішчаючым крызісам. Кожны дзень тэлеграф прыносіць паведамленьне аб крахах усё новых і новых капіталістычных аб'яднаньняў. Усьлед за падзеньнем ангельскага фунта і вымушанага адказу ад залатога парытэту здрыгаецца і доляр. Крызіс грашовай сыстэмы, крызіс капіталістычнага крэдыту, бюджэтны дэфіцыт — амал ва ўсіх капіталістычных краінах, частковае дзяржаўнае банктоцтва ў радзе краін, далейшае абвастрэньне прамысловага, аграрнага, фінансавага крызісу — такія вынікі і пэрспэктывы капіталістычнага сьвету да XIV Кастрычніка.

Да XIV гадавіны Кастрычніка, пад уплывам усё больш абвастраючагася крызісу капіталістычнага сьвету і растучых посьпехаў Савецкага Саюзу, мы наглядаем сур'ёзныя зрухі ў рэволюцыйнай барацьбе мас супроць прыгнятальніцкай дыктатуры фінансавага капіталу. Эканомічны крызіс абумоўлівае і больш хуткі тэмп нарастаньня элемэнтаў рэволюцыйнага крызісу, эканомічны крызіс перарастае ў крызіс усяго політычнага жыцьця капіталістычнага сьвету. Але нарастаньні элемэнтаў рэволюцыйнага крызісу — гэта не процэс, які адбываецца аўтоматычна ўсьлед і роўналежна эканомічнаму крызісу. Рост эканомічнага крызісу зусім не забясьпечвае мэханічнага росту комунізму ў капіталістычных краінах. У залежнасьці ад сілы, уменьня, правільнасьці лініі комуністычных партый, у залежнасьці ад уменьня разьбіць унутраную зьвязанасьць шырокіх рабочых мас, у залежнасьці ад іх уменьня разьбіць соцыял-дэмократыю, як масавую організацыю, заваяваць масы соцыял-дэмократычных рабочых, заваяваць беспартыйныя рабочыя організацыі, устанавіць пад сваім кіраўніцтвам адзінства рабочае клясы, організаваць адпор і перайсьці ў контр-наступ на чале мільёнsucceed мас, у залежнасьці ад актыўнасьці, сьмеласьці, энэргіі брацкіх комуністычных партый, нарастаньне прадпасылак рэволюцыйнага крызісу — можа прывесьці да непасрэднай рэволюцыйнай сытуацыі. Заваяваньне большасьці рабочае класы, саюз з вясковай беднатой, організацыя адпору на чале працоуных мас гораду і вёскі капіталістычнай політыцы і фашысцкаму тэрору — такія задачы комуністычнай партыі, якія выростваюць з усіх абставін да XIV гадавіны.

На колёніяльным Усходзе, раней усяго ў Кітаі і Індыі, рэволюцыйны рух зрабіў за апошнія гады гіганцкі скачок у сваім разьвіцьці. Савецкая рэволюцыя ў Кітаі змагла заваяваць сябе тэрыторыю, дзяржаўна організавацца, пераможна адбіць 3 генэральскія паходы — і зараз — зьяўляецца адзіным цэнтрам нацыянальнага, політычннага і соцыяльнага вызваленьня кітайскага народу. У Індыі рост стачачнага руху, які часта пераходзіць ва ўзброенную сутычку, сур'ёзьнейшыя сялянскія рухі, паўстаньні, якія падаўляюцца і непарыўна ўспыхваюць, паслужылі лепшай глебай для стварэньня комуністычнай партыі і хуткага росту яе ўплыву ў масах.

У гэтых абставінах, ва ўмовах самага вострага крызісу капіталістычнай гаспадаркі, якога ня ведае гісторыя, ва ўмовах растучага супрацiўленьня рабочых мас, ва ўмовах, калі політычна прачынаюцца сялянскія масы, калі аграрны крызіс зьнішчае іх соцыяльны консэрватызм і расхіствае тым самым адзін з мацнейшых устояў буржуазнага сьвету, ва ўмовах непарыўнага вялізарнага ўздыму соцыялістычнае гаспадаркі Савецкага Саюзу — імпэрыялізм лёгка можа папрабаваць пачаць новы тур імпэрыялістычных войн. На Далёкім Усходзе вайна, якая ўжо фактычна пачалася окупацыяй японскімі войскамі Манчжурыі, можа прывесьці да ўзрыву ва ўсім імпэрыялістычным сьвеце. Перамога консэрватараў у Англіі, шлях да якой быў пратаптаны ўсёй буржуазнай політыкай лейборысцкай партыі, робіць яшчэ больш мажлівай як пэрспэктыву войн між імпэрыялістычнымі краінамі за перадзел сьвету, пераразьмеркаваньне тэрыторый, вытокаў сыравіны, рынкаў, тавару і капіталу, так і ў першую чаргу пэрспэктыву вайны ўсіх імпэрыялістычных краін супроць Савецкага Саюзу, за ліквідацыю ўлады пролетарыяту, зьнішчэньне соцыялізму, за перарварэньне аднэй шостай часткі зямной кулі, што занята Саветамі, у колёніі фінансавага капіталу.

Перад працоўнымі Савецкага Саюзу ў гэтых абставінах стаіць сур'ёзьнейшая задача працягваньня, як і раней, сапраўднай палітыкі міру, вядучы барацьбу з усякімі спробамі ўцягнуць у сетку імпэрыялістычнай провокацыі Савецкай Рэспублікі, у той-жа час зорка наглядаць за тым, што робіцца за межамі СССР і ўсяляк узмацняць абароназдольнасьць сваёй краіны.

II

Да XIV гадавіны Кастрычніка працоўныя Савецкага Саюзу могуць падвесьці папярэднія вынікі трэцяга рашаючага году пяцігодкі і разам з тым устанавіць пэрспэктыву выкананьня ўсяго пляну вялікіх работ. Сама думка аб пяцігодцы была спаткана ва ўсім буржуазным капіталістычным сьвеце, як якісьці грэзафарс. Саветам падракалі, што будзе добра, калі яны гэтую програму выканаюць у 50 год, а ня ў 5 год. Гэта вялікая програма прынята партыяй пад непасрэдным кіраўніцтвам свайго правадыра Сталіна, у барацьбе з усякага роду апазыцыямі, сапраўды, ня будзе выканана ў 5 год, а ў 4, у пасобных-жа галінах у 3 і ў $2^1/_2$ гады. Посьпехі яе правядзеньня, творчы энтузіязм шырокіх рабочых мас, вялізарнае разьвіцьцё ўдарніцтва і соцспаборніцтва хутка высунулі програму выкананьня пяцігодкі ў 4 гады. Цяперашні год — год асабліва важны — гэта год, калі павінна быць скончана пабудова фундаманту соцыялістычнае экономікі, пускаюцца буйнейшыя гіганты соцыялістычнай прамысловасьці, калі дасягнута абсолютная перавага соцыялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы, калі на Далёкім Усходзе, дзе раней жалезная пята расійскага царызму таптала дзесяткі народаў, павінны былі запаліцца першыя домны новай буйнейшай вугальна-мэталёвай базы Савецкага Саюзу. Пад кіраўніцтвам партыі Савецкі Саюз пасьпешна выконвае вялізарныя і цяжэйшыя задачы, якія перад ім стаялі. З адсталай аграрнай краіны СССР у асноўным ператварыўся ў індустрыяльна-аграрную краіну.

Дзесяткі, сотні прадпрыемстваў падымаюцца на пустырох, тысячы прадпрыемстваў рэконструіруюцца і пашыраюцца. Там, дзе былі багны і балоты, непраходныя лясы і глухія сьцежкі, створаны новыя гарады, якія налічваюць іншы раз дзесяткі, сотні тысяч жыхароў — Магнітагорск, Кузнецк, Бярэзінкі, Кічкас, Бобрыкі.

Асвойваюцца і ўводзяцца ў эксплёатацыю новыя, раней ніколі невядомыя багацейшыя вытокі апалу, сыравіны, мэталю. У вялізарнай ступені павялічваецца продукцыя асноўных галін прамысловасьці. СССР ужо вышаў на другое месца ў сьвеце па вытворчасьці нафты, вытворчасьці трактараў і с/гаспадарчых машын, СССР выходзіць на першае месца у сьвеце. Па вугалю і мэталю СССР вышаў на 4-е месца. Пералом у Донецкім вугальным басэйне, увядзеньне ў строй дзесяткаў новых шахт, пуск сусьветных гігантаў Магнітагорскага і Кузнецкага заводаў хутка ставіць Савецкі Саюз уперадзе самых індустрыяльных краін сьвету. Новыя вытворчасьці, аб якіх ня марыла царская Расія, атрымліваюць вялізарнае разьвіцьцё. У 1931 г. савецкія заводы выпусьцілі на 800 мільёнаў рубл. сотні новых машын, якія раней ніколі не выраблялíся ў нас. Пяцігодкі на трактарабудаўніцтву, с/г машынабудаўніцтву, агульнаму машынабудаўніцтву, па электратэхнічнай прамысловасьці і па нафтавай ужо перавыкананы. У асноўным выкананы плян Гоэрло — ужо к канцу 1931 г. магутнасьць электрастанцый перавысіць 4 мільёны кілёват — у чатыры разы больш да-

ваеннай Расіі. Зьнішчана яшчэ ў 1930 г. беспрацоўе, значна вырасла заработная плата, прычым, калі фонд індывідуальнай зарплаты з 1927-28 г. па 1931 г. вырас амаль у 2-е, дык фонд абагуленай зарплаты вырас за гэты час амаль у 3 разы. На жыльлёвае будаўніцтва замест 80 мільёнаў рубл. у 1925 г. затрачваецца ў гэтым годзе ў 6 з паловай разы больш — 1.156 мільёнаў руб.

Адбыліся рашаючыя, карэнныя зьмены ўсяго характару савецкай вёскі.

У бязьлітасным клясавым змаганьні, перамагаючы супраціўленьне кулацтва, СССР дабіўся вялікіх посьпехаў у галіне сельскай гаспадаркі. Краіна дробнай распыленай гаспадаркі з нікчэмным ужываньнем машын, нікчэмнай тэхнічнай базай, з вельмі нізкім культурным, матэрыяльным узроўнем жыцьця вялізарнай большасьці сялян ужо абярнулася у краіну самага буйнога земляробства ў сьвеце, дзе нябачныя яшчэ ў гісторыі соцыялістычныя формы буйной сельскай гаспадаркі адчыняюць неабсяжныя пэрспэктывы ў справе мэханізацыі і трактарызацыі вёскі, вялізарнага павышэньня ураджаю ўсіх сельска-гаспадарчых культур, вялізарнага пад'ёму жывёлагадоўлі.

15 мільёнаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак—60 проц. усіх гаспадарак СССР — увайшлі ў колгасы. 1.400 машына-трактарных станцый аказваюць рашаючую дапамогу соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі і звыш 200 трактараў выкідаюць кожны дзень на палі Савецкага Саюзу трактарныя гіганты (Сталінградзкі, Пуцілаўскі, Харкаўскі).

Адны саўгасы, якія засеялі вясной 1928 г. 0,8 мільёнаў *га*, ужо ў 1931 г. засеялі 12,5 мільёнаў *га*.

У асноўных збожжавых і сыравінных раёнах выканана дырэктыва партыі аб суцэльнай колектывізацыі і на гэтай базе завяршаецца ліквідацыя кулацтва, рэшткі якога, аднак, яшчэ энэргічна супраціўляюцца, спрабуюць разлажыць колгасы знутры, іграючы на спажывецкіх настроях адсталай часткі колгасьнікаў, высоўваючы лёзунг аб выкананьні абавязкаў перад рабочай дзяржавай у апошнюю чаргу.

Яшчэ ў 1926 г. на палёх СССР знаходзілася менш 20 тысяч маленькіх імпортных „Фордзонаў". Зараз на палёх СССР працуе каля 150 тысяч трактараў. З 6.000 комбайнаў — звыш $^1/_4$ з іх савецкай вытворчасьці. За чатыры апошнія гады з 1927 г. па 1931 г. пасеўная плошча СССР павялічылася на 23 млн. *га*, гэта ёсьць у паўтара разы больш, чым за 10 перадваенных год у царскай Расіі і ў такім-жа памеры, як у Злучаных Штатах за 25 год з 1900 па 1925 г. Прычым за апошнія чатыры гады ў Злучаных Штатах плошча пасеву ня толькі не павялічылася, але скарацілася на 2,4 млн. *га*. Галоўнае павялічэньне пасеўнай плошчы—18 млн. *га*—падае на апошнія два гады—гады ўзмоцненага разьвіцьця саўгасаў і колгасаў. У асноўным вырашана проблема зернавой гаспадаркі і сыравінных культур. Плошча пад бавоўнай у параўнаньні з даваеннымі памерамі патроена, пасевы ільну павялічыліся ў 2 з паловай разы, цукровых буракоў—у 2 разы, сонечніку— у 5 раз.

Беларусь да Кастрычнікавай рэволюцыі была адной з найбольш прамыслова адсталых акраін з пераважнай большасьцю дробных, распыленых, рамесьніцка-саматужных прадпрыемстваў, з вялізарным зямельным фондам ва ўладаньні зямляўласьнікаў, з жабрацкай асноўнай масай сялянства, з аграрнай перанаселенасьцю ў вёсцы, з чартой яўрэйскай аседласьці, з нацыянальнай, палітычна бяспраўнай асноўнай масай насельніцтва.

Кастрычнікавая рэволюцыя ўжо першымі сваімі дэкрэтамі, якія ліквідавалі ўсе прыгонныя нормы, аддала ў карыстаньне беларускага сялянства амаль усе землі сельска-гаспадарчага значэньня, якія знаходзіліся раней у памешчыкаў, павялічаўшы тым самым амаль на 1/3 сялянскае зямлякарыстаньне, зьнішчыла ўнешнюю запазычанасьць, скінула з сялянскіх мас цяжар іпотэчных даўгоў; Кастрычнікавая рэволюцыя абвясьціла яшчэ другога лістапада 1917 г. роўнапраўе і сувэрэннасьць усіх народаў ранейшай царскай імпэрыі, іх права на нацыянальнае самавызначэньне аж да адлучэньня, іх права на самастойнае дзяржаўнае будаўніцтва і існаваньне.

Адстаяўшы ўладу пролетарыят, адбіўшы ўсе атакі капіталістычнай інтэрвэнцыі цесны саюз пролетараў і ўсіх працоўных СССР сумеў ператварыць права кожнай нацыі на самавызначэньне ў гістарычную рэальнасьць, і з „турмы народаў“, якой зьяўлялася ранейшая царская Расія, змог сгварыць братэрскі Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

У радзе гэтых рэспублік ранейшая колёніяльная Беларусь, самае імя якой выкрэсьлівалася царамі і замянялася назвай „Северо-Западный Край“, пры братэрскай дапамозе другіх савецкіх рэспублік, пад кіраўніцтвам КП(б)Б—аднаго з атрадаў адзінай УсеКП(б)—хутка ліквідуе спадчыну сталецьцяў колёніяльнага прыгнёту, гаспадарча і культурна даганяючы больш перадавыя савецкія раёны.

У гэтых адносінах БССР разам з усім Саюзам мае рад вялізарных дасягненьняў, хутка разьвівае ўласную індустрыю, падводзіць пад яе новую высокую тэхнічную базу. Здабыча электраэнэргіі, якая складала ў 1914 г. 12 млн. кілёват-гадзін, цяпер складае 80 млн. кілёват-гадзін. Увесь асноўны капітал рэспубліканскай прамысловасьці з кастрычніка 1906 г. складаў усяго 30 млн. рубл. К кастрычніку 1928 г.—ужо каля 70 млн., к кастрычніку 1930 г.—звыш 140 млн. рубл. Валавая продукцыя рэспубліканскай прамысловасьці 1926-27 гг. складала ўсяго каля 130 млн. рубл., 1929-30 гг.—395 млн. рубл. У 1931 г. разьмер валавой продукцыі павялічваецца яшчэ больш значна. Па мэталяапрацоўчай прамысловасьці ВСНГБ продукцыя за 9 м-цаў 1931 г. складае 28,6 млн. рубл. тады, як за ўвесь гэты пэрыод 1930 г. яна складала 20,9 млн. рубл. За 9 м-цаў 1931 г. продукцыя па с/г машынабудаўніцтве на прадпрыемствах ВСНГБ роўна ў два разы вышэй, чым продукцыя за 9 м-цаў 1930 г. (8,4 млн. рубл. і 4,2 млн. рубл.).

Лік фабрычна-завадзкіх рабочых да вайны па цяперашняй тэрыторыі БССР складаў усяго 20 тысяч рабочых, к 1-му кастрычніка 1925 г. іх налічвалася 21,5 тысячы, цяпер толькі рабочых цэнзавай прамысловасьці налічваецца каля 70 тысяч, а разам з будаўнікамі і чыгуначнымі рабочымі каля 150 тысяч. Замест дробна-рамесьніцкіх, паўсаматужных прадпрыемстваў вырасьлі новыя буйныя тэхнічна ўзброеныя прадпрыемствы. Створана савецкай уладай мэталя-апрацоўчая, хэмічная, тарфяная прамысловасьць. Да вайны па ўсёй тэрыторыі Беларусі, уключаючы сюды больш у свой час прамыслова разьвітыя Горадзенскую і Віленскую губ., было 12 прадпрыемстваў з лікам рабочых звыш 500. З 1 студзеня 1928 г. такіх прадпрыемстваў толькі ў межах БССР налічвалася 10, а з 1 студзеня 1930 г. ужо 29 (з іх 10 з лікам рабочых звыш 1.000).

У той час, як па той бок мяжы, у Заходняй Беларусі, дзе пад ярмом польскага імпэрыялізму задыхаюцца яшчэ сотні тысяч працоўных беларусаў, гасяцца апошнія дымары, якія яшчэ дымяцца, спыняюцца апошнія яшчэ працуючыя прадпрыемствы, Савецкая Беларусь пры дапамозе працоўных мас усяго Савецкага Саюзу расьце яшчэ

больш хуткімі тэмпамі, чым РСФСР. Сярэдні процант прыросту рэспубліканскай прамысловасьці за 1930 г. складаў па Беларусі 67,5 проц. пры агульна-саюзным росьце 32,1 проц. За пяцігодку асноўныя фонды прамысловасьці па Беларусі павінны ўзрасьці на 442 проц., тады як па СССР уцэлым яны ўзрастаюць на 289 проц., па Закаўкаскаму ССР на 32 проц., па УССР—на 308 проц. У гэтым факце лепш за ўсё відаць уся сутнасьць палітыкі партыі ў адносінах да раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй.

Прамысловасьць усё больш становіцца вядучай галіной усёй народнай гаспадаркі Беларусі і ў 1931 г. упяршыню ў гісторыі Беларусі перавышала па сваёй валавой продукцыі, продукцыі с/гаспадаркі. Яшчэ ў 1926-27 гг. з агульнай сумы валавой продукцыі прамысловасьці (уключаючы дробную прамысловасьць) і сельскай гаспадаркі (уключаючы расьлінаводзтва) у 890 млн. рубл. доля прамысловай продукцыі была менш $^{1}/_{4}$ (24,4 проц.). У 1931 г. з агульнай продукцыі народнай гаспадаркі, якая намечана ў 1.700 млн. рубл. ужо 53,2 проц. прыпадае на долю прамысловай продукцыі.

У галіне сельскай гаспадаркі Беларусі адбыліся такія-ж буйнейшыя зьмены. Год таму назад толькі 12 проц. гаспадарак (16 проц. пасеўнай плошчы), знаходзілася ў колгасах, цяпер палова ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'яднана ў колгасах.

Плошча саўгасаў БССР год таму назад складала 379 тысяч *га*, цяпер пасеўная плошча дасягнула 610 тысяч *га*.

Трактарны парк, які налічваў да 1 студзеня 1930 г. 200 трактараў, цяпер даведзены да 1.740 трактараў; замест 6 машына-трактарных станцый у 1930 г., цяпер ёсьць 33 такіх станцыі.

З тыпова спажывецкай краіны Беларусь ператвараецца ў спэцыялізаваную буйную гаспадарку, у краіну разьвітай соцыялістычнай жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

Агульная пасеўная плошча ў 3,389 тысяч *га* ў 1930 г. павялічылася на 17 проц.—да 3.974 тысяч *га*. Пасеўная плошча ільну і канапель, якая складала ў мінулым годзе каля 150 тысяч *га*, у гэтым годзе даведзена да 280 тысяч *га*. Для апрацоўкі ільну на тэрыторыі БССР будуецца ў гэтым годзе 47 новых ільнозаводаў.

У 1923 г. збожжавыя культуры складалі 82,7 проц. пасеўнай плошчы, у 1931 г. яны складаюць 58,2 проц., культура бульбы павышаецца з 11,4 проц. да 16,4 проц., ільну і канапель з 3,1 проц. да 7,1 проц., а плошча пасеўных траў і іншых культур з 2,8 проц. павышаецца ў 1931 г. да 18,3 проц.

З краіны з выключным панаваньнем зернавой гаспадаркі—яскравага прызнаку адсталасьці ўсёй структуры сельскай гаспадаркі—БССР ператвараецца ў рэспубліку з высокім разьвіцьцём інтэнсыўных тэхнічных культур. З краіны, дзе панавала трохпольле, а на значнай частцы тэрыторыі (Палесьсе) і двухпольле—БССР ператвараецца у краіну з высокім машынаснабжэньнем, у краіну мэханізаванай сельскай гаспадаркі. З краіны, дзе да вайны намецілася скарачэньне жывёлагадоўлі і дзе звыш пятай часткі гаспадарак ня мелі коняй, БССР ператвараецца ў краіну хутка растучых жывёлагадоўчых фэрм— толькі за апошні год колькасьць сьвінаводчаскіх фэрм павялічалася амаль у тры разы, колькасьць сьвінаматак павялічылася з 24 тысяч да 73 тысяч, організавана звыш тысячы малочна-таварных фэрм з статкам дойных кароў у 75 тысяч.

Гэтыя посьпехі маглі быць разьвіты толькі на аснове палітыкі партыі, толькі пры ўмове няшчаднай барацьбы з кулацтвам і яго

агентурай унутры партыі. Дастаткова сказаць, што 12 частка колгасаў у той ці іншай форме мела напады з боку кулацкіх пластоў.

БССР, які і ўвесь Савецкі Саюз, мае вялізарныя дасягненьні і ва ўсіх другіх галінах гаспадарчага будаўніцтва—пабудаваны новыя дарогі, разьвіта шосэйная будаўніцтва. Сур'ёзныя дасягненьні мы маем і ў галіне социялістычнай рэорганізацыі комунальнай гаспадаркі, жыльлёвага будаўніцтва, у галіне разьвіцьця савецкага гандлю, з задавальненьнем матэрыяльна-бытавых патрэб рабочае клясы.

Гэтыя вялізарныя посьпехі, дасягнутыя савецкімі рэспублікамі, якія кіруецца адзінай цэнтралізаванай комуністычнай партыяй, павінны зьявіцца базай для вырашэньня яшчэ больш вялізарных задач, якія перад намі вырысоўваюцца, асновай для разгортваньня сапраўды бальшавіцкіх тэмпаў разьвіцьця індустрыі і социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, для ліквідацыі ў максымальна хуткі тэрмін усіх непаладак, адставаньняў.

Пасьпяховае выкананьне стаячых перад савецкай краінай задач магчыма зараз толькі на аснове програмы, якая сформулявана ў 6-ці ўмовах т. Сталіна, на аснове організацыі плянавага прытоку рабочай сілы з колгасаў у вытворчасьць, хуткага паляпшэньня матэрыяльна-бытавых умоў жыцьця рабочых, зьнішчэньне ўраўнілаўкі у аплаце працы і ліквідацыя абязьлічкі ў організацыі працы, на падставе скарыстоўваньня ўсіх прытокаў накапленьня, організацыі правільнага гаспадарчага разьліку, ствараючы ўласную вытворча-тэхнічную інтэлігенцыю і ўмела скарыстоўваючы паварот да савецкай улады лепшай часткі старой інтэлігенцыі.

Няшчадна вядучы барацьбу з кулацкім уплывам у колгасах, з яго тактыкай раскладаньня колгасаў знутры шляхам раздуваньня дробнаўласьніцкіх і спажывецкіх настрояў, праводзячы сыстэматычнае социялістычнае выхаваньне ўсёй масы колгаснага сялянства, паставіўшы перад усім колгасным рухам у якасьці галоўнейшай задачы організацыйна-гаспадарчае ўзмацненьне колгаснай сыстэмы, посьпехі якой лепш за ўсё забясьпечаць далейшыя тэмпы колектывізацыі, вядучы рашучую барацьбу з права-опортуністычным самацёкам і адмаўленьнем, ігнораваньнем організуючай і кіруючай ролі пролетарыяту ў адносінах да колгаснага сялянства, так і з леваопортуністычнаю пагоняю за лічбамі колектывізацыю, якая недаацэньвае цэнтральную на даным этапе задачу організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў—партыя прывядзе БССР да XV гадавіны Кастрычніка да новых вялізарных посьпехаў у галіне сельскай гаспадаркі, як і ў галіне прамысловасьці.

Да 14-й гадавіны Кастрычніка, падводзячы ітогі найвялікшым дасягненьням гаспадарчага будаўніцтва, трэба памятаць словы тав. Леніна, сказаныя яшчэ 10 год назад: „Цяпер галоўнае сваё ўзьдзейнічаньне за міжнародную рэволюцыю мы робім сваёй гаспадарчай палітыкай. Усе на Савецкую Расійскую рэспубліку глядзяць, усе працоўныя ва ўсіх краёх сьвету без выключэньня і бяз ўсякага праўвялічэньня... Па гэтую арэну змаганьне перанесена ў сусьветным маштабе. Вырашым гэту задачу—і тады мы выйграем у міжнародным маштабе, напэўна і канчаткова. Таму пытаньні гаспадарчага будаўніцтва набываць для нас значэньне зусім выключнае".

Высьмейваючы „марксызм" дробна-буржуазнага контррэволюцыянэра М. Суханава, Ленін пытаў: „Чаму нам нельга пачаць спачатку з заваяваньня рэволюцыйным шляхам прадпасылак для гэтага вызначанага ўзроўню (культуры—М. Ю.), а потым ужо на падставе

рабоча-сялянскай улады і савецкага ўраду рушыцца даганяць другія народы“. „Чаму мы не маглі спачатку стварыць такія прадпасылкі цывілізаванасьці ў сябе, як выгнаньне памешчыкаў і выгнаньне расійскіх капіталістаў, а потым ужо начаць рух да соцыялізму“. Гэтае палажэньне Леніна дробна-буржуазныя кніжнікі і фарысэі ад марксызму сустрэлі як чуць не перакручанае ўверх нагамі ўсё вучэньне марксызму. Практыка вялікай рэволюцыі зьявілася лепшым доказам тэорэтычных палажэньняў Леніна. Побач з завяршэньнем пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі, СССР з вялізарнымі тэмпамі праводзіць культурную рэволюцыю. Яшчэ ў пачатку 1923 г. Ленін падкрэсьліваў, што „прогрэс наш параўнаўча з царскімі часамі аказаўся вельмі паступовым“, што нам наперадзе вельмі шмат работы, „каб на глебе нашых пролетарскіх заваёў дасягнуць сапраўды колькі-небудзь культурнага ўзроўню“. Гэтыя заўвагі Леніна адносіліся прыблізна да таго-ж пэрыоду, калі ён лічыў намнажэньне 20 млн. залатых рублёў для патрэб цяжкой індустрыі вельмі сур'ёзным посьпехам. Менш 9-ці год прайшло з таго часу, але за гэты пэрыод Ленінская партыя змагла прывесьці савецкія рэспублікі да такога гаспадарчага ўзроўню, аб якім наўрад ці сур'ёзна маглі марыць ня толькі нашы ворагі, але і нашы прыхільнікі.

Каля $^1/_3$ насельніцтва Савецкага Саюзу—46 млн. чалавек—навучаюцца ў тых ці іншых навучальных установах. Лік вучняў у вышэйшых навучальных установах у 3 з паловай разы перавышае даваенную лічбу і ў тры разы вышэй чым зараз у Германіі. Звыш паловы з гэтага ліку (51,4 проц.)—рабочыя, тады калі ў Германіі толькі 1 проц. вучняў ВНУ выхадцы з рабочае клясы.

У Беларусі, аднэй з найбольш цёмных вабласьцей старой часткі Расіі, дзе адмоўлялася самае існаваньне самастойнай беларускай мовы, дзе карыстаньне ёю дапускалася толькі ў якасьці „наречия“ „говора простолюдинов“, дзе амаль не існавала літаратуры, мастацтва, тэатру на нацыянальнай мове, дзе няшчадна падаўляліся ўсе праявы культурнага жыцьця нацыянальных меншасьцяй, у краіне, дзе колёніяльны прыгнёт прыдушаў усе праявы духоўнага жыцьця—у гэтай краіне асабліва яскравы посьпехі культурнай рэволюцыі і асабліва паказальны ўсе дасягненьні, зьвязаныя з росквітам культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу.

Найлепшым паказам культурнага ўздыму ранейшай царскай колёніі, а зараз вольнай савецкай краіны зьяўляецца, бязумоўна, раней усяго рост пісьменнасьці насельніцтва. Калі да рэволюцыі процант пісьменных у Беларусі быў значна ніжэй, чым у сярэднім па Расіі, дык зараз у Беларусі сярэдні процант пісьменных падняўся да вялізарнай лічбы (87 проц.) і звыш чым сярэдні процант пісьменных па ўсяму Савецкаму Саюзу. Яшчэ ў 1920 г. процант няпісьменных складаў 68,5 проц., у наступаючым навучальным годзе рэальна ставіцца задача ліквідацыі няпісьменнасьці ўсяго дарослага насельніцтва, БССР першая ў Саюзе ўвяла ўсеагульнае абавязковае навучаньне і дабілася таго, што ў наступным навучальным годзе да 95 проц. дзяцей ад 8 да 11 год ахоплена школамі.

Вышэйшая школа, якой да рэволюцыі наогул не існавала ў межах Беларусі, атрымала вялізарнае разьвіцьцё. 26 ВНУ з 10 тысячамі студэнтаў, 25 рабочых факультэтаў з 25 з паловай тысячамі рабфакаўцаў—такія лічбы разьвіцьця вышэйшай школы.

Культурнае жыцьцё нацыянальных меншасьцяй, таксама як і нацыянальная культура беларуская, паднялася, параўнаўча з дарэволю-

цыйнымі часамі, на недасягаемую вышыню. Яўрэйская, польская, расійская мовы побач з асноўнай дзяржаўнай мовай беларускай зьяўляюцца дзяржаўнымі мовамі. Колькасьць школ на роднай мове для розных нацыянальных груп насельніцтва непарыўна расьце.

Літаратура, мастацтва, тэатр, друк, кіно, кніжная продукцыя атрымалі вялізарнае разьвіцьцё. Пераведзены на мову большасьці насельніцтва і адміністрацыйны апарат. Савецкі, гаспадарчы, профэсійны апараты, дзякуючы палітыцы партыі, у значнай меры беларусізаваны і карэнізаваны. Дзяржаўны апарат, абслугоўваючы нацыянальныя меншасьці, пераведзены на родныя мовы.

Гэтыя вялізарныя дасягненьні нацыянальна-культурнага і савецкага будаўніцтва зьяўляюцца вынікам упартай барацьбы мільённых мас працоўных за правядзеньне генэральнай лініі партыі, вынікам вялізарнага ўздыму творчай актыўнасьці і рэволюцыйнага энтузіязму рабочае клясы і асноўных мас сялянства. Гэтыя дасягненьні былі магчымы толькі пры ўмове поўнага разгрому буржуазна-памешчыцкіх ідэолёгій, разгрому дробна-буржуазных контррэволюцыйных ідэолёгій, толькі ў няшчаднай барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам, з контррэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам і другімі мясцовымі шовінізмамі.

Толькі рашуча адстойваючы чыстату ленінскай ідэолёгіі, вядучы барацьбу з малейшымі спробамі працягваць—проста і контрабандным шляхам—контррэволюцыйную троцкісцкую і правую ідэолёгіі, партыя можа ўзброіць мільёны, якія вядуць барацьбу, непераможнай зброяй ленінізму.

Партыя кіравала змаганьнем рабочых мас усіх народаў Савецкага Саюзу ў змаганьні з царызмам. Наша партыя стварыла ў найцяжэйшых умовах нелегальнага змаганьня вопытныя, дысцыплінаваныя і рэволюцыйныя кадры.

У 1917 годзе, апіраючыся на баявы рух рабочых ва ўсіх мясцох, на сялянства, на нацыянальна-вызваленчыя рухі падняволеных расійскім царызмам і фінансавым капіталам народаў, партыя прарвала фронт сусьветнага імпэрыялізму і прывяла пролетарыят да Кастрычніцкіх перамог. Настаўнік партыі—яе правадыр і організатар Ленін, чыё імя нароўні з імем Маркса заўсёды будзе служыць шляхаводнай зоркай пролетарам усяго сьвету—непасрэдна кіраваў кастрычніцкім паўстаньнем.

Пад кіраўніцтвам Леніна і потым лепшага яго вучня Сталіна партыя справілася з усімі ворагамі пролетарскай дыктатуры, адбіла ўсе атакі, разьбіла трацкістаў, правых і права-„лявацкі“ блёк, замацавала панаваньне рабочай клясы на аднэй шостай частцы земнай кулі, цяпер праводзіць пяцігадовы плян вялікіх работ.

КП(б)Б зьяўляецца часткай гэтай партыі, адным з яе атрадаў. Вядучы сваю лінію ад першых бальшавіцкіх організацый, ад Палескага і Паўночна-Заходняга камітэтаў—перайменаваныя ў сьнежні 1918 г. у КП(б)Б—яна прарабіла на сваім вучастку той-жа вялізарны шлях—ад невялікіх падпольных гурткоў да кіраўніцтва масавымі організацыямі, ад зьвяржэньня самадзяржаўя да зьвяржэньня капіталу, ад стачак і барыкад да вялікай соцыялістычнай будоўлі.

Гэты атрад бесьперапынна папаўняецца ўдарнікамі, батракамі, лепшымі прадстаўнікамі колгасьнікаў—першага ліпеня 1927 г. ён складаўся з 25,8 тысяч членаў, 1-га ліпеня 1931 г.—з 51,9 тыс. членаў.

Колькасьць комсамольцаў на Беларусі павялічылася з 1/І-1927 г. на 1/VII-1931 г. у два разы (з 63 тыс. да 120 тысяч).

На трэць партыйная арганізацыя складаецца з кандыдатаў, з ліку членаў партыі трэць належыць да яе самых маладых пластоў. Яны ня маюць самі таго вялізарнага вопыту ў змаганьні з клясавым ворагам, у змаганьні з опортунізмам унутры партыі, які накоплены ўсёй партыяй. Вось чаму аднэй з галоўнейшых проблем унутрыпартыйнага жыцьця становіцца пытаньне аб максымальным абхваце марксыцка-ленінскім выхаваньнем партыйнай арганізацыі. Але і яе старыя кадры ня маюць права стаяць на месцы. Вучоба партыйнага актыву, тэорэтычнае абагульваньне вопыту партыі таксама становяцца аднэй з асноўных задач.

Разгортваючы выхаваньне і вучобу ў партыйнай організацыі, разьвіваючы самакрытыку, рэгулюючы соцыяльны склад організацыі, уцягваючы тысячы лепшых, найбольш адданых справе соцыялізму перадавікоў рабочай клясы і колгаснага сялянства, уладаючы ўсё больш тэхнікай, кіруючыся выпрабаванай і правільнай генэральнай лініяй, партыйная організацыя Беларусі пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і ЦК УсеКП(б) павядзе працоўныя масы Беларусі да яшчэ большых перамог.

* * *

Культурна-гаспадарчае будаўніцтва ў савецкім краі адбываецца на фоне культурнага і экономічнага загніваньня ў краінах капіталізму. У нас адбываецца ўсё большае збліжэньне — гаспадарчае і культурнае—паміж горадам і вёскай, у ворагаў — усё большы разрыў. У нас рост плянавасьці нашай гаспадаркі, у ворагаў — рост анархіі. У нас вялізарны пад'ём вытворчых сіл, у ворагаў — штучнае задушэньне гэтых сіл. У нас масы праяўляюць вялізарную волю да будаўніцтва новага жыцьця, у краёх капіталізму — факты масавага самазабойства працоўных, якія ня бачаць ніякага прасьвету ў жыцьці. У нас масы вядуць упартае змаганьне за аўладаньне тэхнікай, у ворагаў пануе ідэолёгія тэхнічнага рэгрэсу; у нас вялізарнае імкненьне да ведаў, у ворагаў — зварот да веры, містыцызму; у нас ліквідуецца разрыў паміж разумовай і фізычнай працай, паміж практыкай і тэорыяй, у ворагаў тэорыя бясьсільна апладніць практыку, практыка супярэчыць усім тэорыям.

„Але лепшым спосабам адсьвяткаваць гадавіну вялікай рэволюцыі, — указаў Ленін, — гэта сконцэнтраваць увагу на нявырашаных задачах яе“.

Пры нашых нязьмерных культурных, політычных, організацыйна-гаспадарчых перамогах мы вельмі моцна адсталі тэхнічна, мы адсталі ад перадавых краін на 50-100 год, але мы ня можам вырашыць нашых задач, ня можам выканаць плянаў вялікіх работ, ня можам пабудаваць соцыялізму, не аўладаўшы тэхнікай, „тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё“ (Сталін).

Гэта задача аўладаць перадавой тэхнікай, прабегчы за 10 год адлегласьць, якая аддзяляе нас ад перадавых капіталістычных краёў, пастаўлена цяпер перад партыяй, рабочай клясай, перад народамі ўсяго Савецкага Саюзу. Калі мы гэтых задач ня выканаем, нас самнуць. Але „няма такіх крэпасьцяй, якіх бальшавікі не маглі-б узяць. Мы вырашылі рад цяжкіх задач. Мы скінулі капіталізм. Мы ўзялі ўладу. Мы пабудавалі буйнейшую соцыялістычную індустрыю. Мы павярнулі серадняка на шлях соцыялізму. Самае важнае з пункту гле-

джаньня будаўніцтва мы ўжо зрабілі. Нам засталося ня многае: вывучыць тэхніку, аўладаць навукай. Калі мы зробім гэта, у нас пойдуць такія тэмпы, аб якіх цапер мы ня можам і марыць. І мы гэта зробім, калі захочам гэтага па-сапраўднаму" (Сталін).

Выкананьне гістарычных задач, што стаяць перад партыяй, магчыма толькі пры ўмове далейшай бязьлітаснай барацьбы на два фронты—супроць правага і „левага" опортунізму і прымірэнцтва да іх, барацьбы за генэральную лінію партыі.

К. Гей

# Да ітогаў лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б

Лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б, даўшы дырэктыўныя ўказаньні па пытаньнях транспорту, жывёлатадоўлі, правядзеньня нарыхтовак і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, выходзіў з ранейшай устаноўкі партыі аб барацьбе на два фронты— супроць правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць „левых" загібаў і прымірэнцтва да ўсіх відаў опортунізму. Варта адзначыць, што опортуністы розных масьцей, прыстасоўваючыся да сучасных умоў, як правіла, не адважваюцца зараз выступаць з простай адкрытай атакай на генэральную лінію партыі. Яны дзейнічаюць, калі можна так сказаць, ціхаю сапай. Праваопортуністычныя справы, лева-опортуністычныя загібы часта робяцца і ажыцьцяўляюцца пад прыкрыцьцем слоўнага прызнаньня правільнасьці генэральнай лініі партыі. У сувязі з гэтым набывае асаблівае значэньне зусім своячасова выстаўленае ў апошнім артыкуле тав. Сталіна (ліст у рэдакцыю часопісу „Пролетарская революция") палажэньне аб тым, што ад партыі патрабуецца зараз яшчэ большая чоткасьць і яшчэ большая непрымірымасьць пры пастаноўцы асноўных пытаньняў барацьбы за генэральную лінію партыі. Недапусьціма лібэральна-дабротлівае стаўленьне да розных опортуністычных тэорый, недапусьціма і абывацельскае, опортуністычнае замазваньне і змазваньне палітычнай сутнасьці пытаньняў там, дзе гутарка ідзе аб ажыцьцяўленьні дырэктыў партыі.

Побач з новай тактыкай опортуністаў назіраюцца і некаторыя новыя формы праяўленьня опортунізму. Правы адкрыты опортунізм па-ранейшаму выяўляецца ў стаўцы на кулацкія элемэнты, у супраціўленьні палітыцы колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы, у прымірэнцкіх адносінах да кулака і г. д. Пабач з гэтым правы опортунізм у яго апошніх праўленьнях выражаецца ў адмаўленьні наяўнасьці элемэнтаў клясавай барацьбы ў колгасах (адсюль опортуністычная ідэалізацыя колгасаў), у нежаданьні змагацца з кулацкімі і рвацкімі тэндэнцыямі ў колгасах, з хаваньнем хлеба, у няўменьні і нежаданьні змагацца з буржуазным уплывам на асобныя зьвеньні работнікаў саўгасаў і дзяржаўнага апарату наогул. Тое, што зрабіў Адамовіч у Цукратрэсьце, зьяўляецца яркай ілюстрацыяй новай формы праяўленьня правага опортунізму на сучасным этапе.

У некалькі новых формах выступае і „левы" опортунізм. Побач з тыпічнымі формамі „левых" загібаў—антысераднякцкімі перагібамі,— праяўленьне „левага" опортунізму выражаецца ў ігнараваньні органі-

зацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, у пагоні за дутымі папяровымі процантамі ў колектывізацыі, у падмене масавай працы сярод колгасьнікаў і аднаасобнікаў голым адміністраваньнем, у адмаўленьні гаспразьліку, у абароне дробна-буржуазнай ураўнілаўкі, у падмене гандлю мэханічным разьмеркаваньнем.

Правая небясьпека застаецца галоўнай небясьпекаю на даным этапе. Аднак, у асобных таварышоў мы знаходзім памылковае разуменьне гэтага лёзунгу партыі,—уяўленьне, што калі мы змагаемся супроць правай небясьпекі, як супроць галоўнай на даным этапе, то ня варта рашуча змагацца з „лявацкімі“ загібамі, з „левым“ опортунізмам,—гэтым, моў, можна паслабіць барацьбу партыі супроць правай небясьпекі. Партыя, аднак, ніколі не змагалася супроць правых опортуністаў у саюзе з „левымі“, ніколі не змагалася і ня будзе змагацца з „левымі“ опортуністамі, заключаючы для гэтага саюз з правымі. Сэнс лёзунгу партыі аб барацьбе на два фронты ў тым і заключаецца, што партыя не дазволіць ніякім „леваком“ прымазацца да змаганьня з правым опортунізмам, які зьяўляецца галоўнай небясьпекаю на даным этапе. Значыцца, партыя не адмаўляецца і не адмовіцца з усёй сілаю ўдарыць і па тых скажэньнях лініі партыі, якія, прыкрываючыся „леваю“ фразаю, на справе граюць на руку праваму опортунізму.

У цэнтры барацьбы за генэральную лінію партыі стаіць барацьба за пасьлядоўнае правядзеньне шасьці ўмоў тав. Сталіна. Значэньне 6-ці ўмоў тав. Сталіна не абмяжоўваецца толькі ўказаньнямі аб пастаноўцы нашай гаспадарчай работы, аб перабудове работы прамысловых прадпрыемстаў. Шэсьць умоў, формуляваныя тав. Сталіным, найцесьным чынам зьвязаны з усёй асноўнай палітычнай работай партыі. Барацьба супроць ураўнілаўкі, барацьба з абязьлічкай, авалоданьне навукаю і тэхнікаю і выхаваньне новых кадраў, скарыстаньне спэцыялістаў старой школы, правядзеньне гаспразьліку, паляпшэньне матэрыяльна-бытавога становішча рабочых і выцякаючая аўсюль перабудова ўсёй работы па-новаму, новыя мэтоды кіраўніцтва,—усё гэта адносіцца далёка ня толькі да адных гаспадарнікаў, а ўяўляе сабою *аснову, стрыжань усёй работы партыі на самых рознастайных яе вучастках.*

Пасьлядоўным правядзеньнем у жыцьцё шасьці ўмоў тав. Сталіна былі запоўнены работы апошняга пленуму ЦК КП(б)Б. Пленум ЦК ахарактарызаваў работу транспорту, як нездавальняючую. Ня гледзячы на вялікую работу, праведзеную партыяй, транспорт застаецца адным з самых вузкіх месц нашай гаспадаркі і тэмпы росту яго работы далёка адстаюць ад агульнага тэмпу гаспадарчага разьвіцьця. Праведзеная ЦК УсеКП(б) зьмена кіраўніцтва НКШЗ была аднадушна адобрана ўсімі партыйнымі організацыямі БССР, і на пленуме ЦК КП(б)Б, натуральна, сустрэла такую-ж ацэнку. Прычынай нездавальняючага стану транспорту зьяўляецца недастатковая, слабая барацьба за ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў тав. Сталіна. Абязьлічка і ўраўнілаўка, якія глыбока ўкараніліся ў транспортнай гаспадарцы, усё яшчэ моцна трымаюцца на чыгунках, і гэта ня гледзячы на тое, што барацьба супроць абязьлічкі была пачата іменна на транспорце ў самым пачатку 1931 году, калі ЦК УсеКП(б) паставіў перад транспортнікамі задачу ліквідаваць абязьлічаную язду і перайсьці да спаранай. Гэта ўказаньне ня было праведзена поўнасьцю ў жыцьцё. Да апошняга часу мелі месца шматлікія выпадкі зрываў спаранай язды, прыкрываемыя казённымі справаздачамі і „очковтирательными“ данясеньнямі

аб тым, што зрываў няма, што спараная ажыцьцяўляецца ледзь не на ўсе 100 проц. Прыкладам такая-ж справа і з барацьбой супроць ураўнілаўкі на транспорце. Да сёнешняга часу многія важнейшыя транспортныя прадпрыемствы не перабудавалі яшчэ сыстэмы заработнай платы, не стварылі адпаведных умоў для асноўных, вядучых ґруп рабочых. Такое становішча спраў найцесным чынам зьвязана з тым, што комуністы на транспорце яшчэ не аўладалі тэхнікай чыгункавай справы, не змаглі зламаць коснасьці, руціны і бюрократызму, якія зьвілі асабліва моцнае гняздо на чыгунцы і наадварот, у вядомай частцы самі падпалі пад уплыў бюрократычных і адсталых элемэнтаў апарату чыгункі. Вось чаму пленум ЦК КП(б)Б павінен быў з усёй сілай сконцэнтраваць увагу мясцовых партыйных організацый на змаганьні за правядзеньне асноўных мерапрыемстваў на транспорце (барацьба з абязьлічкай і ўраўнілаўкай). Работа мясцовых партыйных організацый і іх кіраўніцтва транспортам павінна быць карэнным чынам зьменена. Шырока распаўсюджанае формальнае заслухоўваньне дакладаў, прыняцьце многаслоўных рэзолюцый, якія мала альбо амаль нічога ня зьменьваюць у ходзе работы чыгуначных організацый, павінны быць рашуча адкінуты ў бок. На першае месца павінна быць пастаўлена жывая, практычная дапамога транспорту, дапамога людзьмі, дапамога ўмацаваньнем работы нізавога зьвяна транспорту, дапамога шляхам жывой, фактычнай праверкі кожнага агрэгату чыгуначнай гаспадаркі, кожнага дэпо, кожнай станцыі, асобных цэхаў і брыгад. Толькі пры наяўнасьці такой перабудовы работы мясцовыя партыйныя організацыі здолеюць сапраўды кіраваць барацьбой за выкананьне загаду тав. Андрэева аб мобілізацыі мясцовых рэсурсаў, аб падоўжаньні работы паравозу і вагону на адну гадзіну ў суткі.

Тры апошніх пытаньні, якія абмяркоўваліся пленумам ЦК КП(б)Б, былі прысьвечаны соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Натуральна, што ў цэнтры ўвагі стала пытаньне аб організацыйнагаспадарчым умацаваньні колгасаў. Гэта пытаньне, найцесным чынам зьвязанае з барацьбой за якасьць работы саўгасаў і колгасаў, з барацьбой за разьвіцьцё соцыялістычнай жывёлагадоўлі, з барацьбой за правядзеньне нарыхтовак, зьявілася *цэнтральным* у работах Пленуму як у сілу свайго агульна-палітычнага значэньня, так і ў сілу таго, што іменна ў гэтым пытаньні партыйнай організацыяй Беларусі былі дапушчаны сур'ёзныя памылкі. Першая памылка, дапушчаная ЦК КП(б)Б, заключалася ў тым, што ліпеньскі Пленум ЦК прыняў рашэньне аб тэмпах колектывізацыі БССР, паставіўшы, як задачу, к вясьне 1932 г. мець ня менш 75 проц. колектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, з тым, каб да канца 1932 г. дабіцца суцэльнай колектывізацыі БССР. Пры гэтым пад суцэльнай колектывізацыяй разумелася калі не на ўсе 100 процантаў ахопу бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, то ва ўсякім разе лічба блізкая да 100 процантаў. 2-га жніўня, ужо пасьля ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б, ЦК УсеКП(б) апублікаваў сваё вядомае рашэньне аб тэмпах далейшай колектывізацыі, у якім устанаўліваў, што завяршэньне колектывізацыі ў асноўным азначае не абавязкова ахоп 100 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а ахоп прыкладам 68—70 проц. гаспадарак, з удзелам колгаснага сэктару ў агульнай пасеўнай плошчы ў разьмерах парадку 70—75 проц. Далей, устанаўліваючы тэрміны колектывізацыі для асобных раёнаў Саюзу, ЦК УсеКП(б) запрапанаваў партыйным організацыям спажываючых раёнаў весьці сваю работу па колектывізацыі з такім разьлікам, каб закончыць яе

ў асноўным у 1932-33 годзе. Пры гэтым ЦК УсеКП(б) асабліва перасьцярог партыйныя організацыі спажываючых раёнаў аб небясьпецы пагоні за дутымі папяровымі процантамі колектывізацыі і запрапанаваў сконцэнтраваць асноўную ўвагу на рабоце па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў, у першую чаргу гародніных і ільняных. Такім чынам, пастанова ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б разышлася з дырэктываю ЦК УсеКП(б), прынятай некалькі пазьней.

Што трэба было рабіць? Трэба было выправіць дапушчаную памылку і ўзяць установкі ў пытаньні аб тэмпах колектывізацыі і аб задачах у галіне колгаснага руху ў адпаведнасьці з рашэньнем ЦК УсеКП(б) ад 2 жніўня. Аднак, Бюро ЦК, абмяркоўваючы гэта пытаньне, дапусьціла 11 верасьня другую памылку, горшую ў параўнаньні з першай. Гэта другая памылка (рашэньне Бюро ЦК ад 11 верасьня) выразілася ў тым, што ЦК КП(б)Б не пераглядзеў рашэньняў ліпеньскага пленуму, пакінуўшы іх у сіле і дапусьціў няправільны падзел Беларусі на раёны з нізкім процантам колектывізацыі і на раёны з параўнаўча высокім процантам колектывізацыі, падкрэсьліўшы, што задача організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў мае асаблівае значэньне для раёнаў з высокім процантам колектывізацыі. Тым самым пасланлялася ўказаньне ЦК УсеКП(б), якое ставіла гэту задачу, як першачарговую для ўсёй Беларусі ў цэлым. Гэтыя памылкі знайшлі сваё адлюстраваньне і на старонках беларускага друку і падпалі пад заслужаную, суровую крытыку з боку ЦО нашай партыі, „Правды“.

Трэба мець на ўвазе, што задача організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў ні ў якай ступені ня можа быць супроцьпастаўлена задачы далейшага росту колектывізацыі. Барацьба за ўмацаваньне колгасаў ёсьць адначасна барацьба за далейшыя посьпехі колгаснага руху, за далейшае разгортваньне колектывізацыі. Аднак, задача організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў у корані супярэчыць пагоні за дутымі папяровымі процантамі колектывізацыі. Там, дзе ёсьць пагоня за дутымі папяровымі процантамі колектывізацыі, там ня можа быць колькі-небудзь сур'ёзнай работы па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў. Там, дзе разгорнута работа па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў, ня можа быць дутых процантаў, ня можа быць папяровай колектывізацыі. Выходзячы з такога разуменьня, партыйнае кіраўніцтва КП(б)Б павінна было безагаворачна прыняць установкі, цалкам і поўнасьцю супадаючыя з дырэктывамі ЦК УсеКП(б). Усякая спроба скараціць установленыя ЦК УсеКП(б) тэрміны колектывізацыі азначала-б падсьцёгваньне месц, азначала-б адцягненьне іх увагі ад асноўнай цэнтральнай задачы—організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў.

Памылкі Бюро ЦК і вынікаўшыя з іх памылкі „Зьвязды“ „Правда“ крытыкавала ў наступных выражэньнях:

> „У чым складаюцца памылкі як Холмскага кіраўніцтва, так і „Зьвязды“? У тым, што ў абодвых выпадках дырэктыва ЦК УсеКП(б) аб завяршэньні суцэльнай колектывізацыі ў раёнах спажываючай паласы (да якіх адносіцца і Беларусь і Зах. вобласьць) у 1932-33 годзе была ігнаравана. У тым і ў другім выпадку орыентаваліся на пагоню за процантамі, ня гледзячы на тое, што ЦК асабліва перасьцярог партыйныя організацыі гэтых вабласьцей ад захапленьня дутымі лічбамі. Такое забяганьне наперад зьяўляецца „лявацкім“ скокам, і тут найбольш ярка праяўляецца тое палажэньне, што „зойдзеш налева—прыдзеш направа“ („Правда“ 28 верасьня 1931 г.).

Такім чынам, „Правда“ дала ня толькі крытыку памылак ЦК КП(б)Б, але і політычную характарыстыку гэтых памылак, і гэта характарыстыка зусім правільная. Справа ня ў тым, што кіраўніцтва ЦК КП(б)Б, прымаючы рашэньне, су'ектыўна хацела супроцьпаставіць сябе лініі партыі,—гэтага ня было. Але кожная памылка па політычным пытаньні мае сваю пэўную тэндэнцыю і павінна знайсьці сваю політычную кваліфікацыю. Калі-б гэтыя памылкі ня былі выпраўлены, было-б правільна адкрыць па іх больш жорсткі агонь. Аднак, бюро ЦК КП(б)Б прыняло аднадушную пастанову аб пераглядзе сваіх памылковых установак і выступіла на пленуме ЦК з бальшавіцкай самакрытыкай сваіх памылак. Пленум ЦК аднагалосна прыняў пастанову, поўнасьцю супадаючую з дырэктывамі ЦК УсеКП(б) ад 2 жніўня. У прыватнасьці, пленум пацьвердзіў пастанову Бюро, якая кажа: „ЦК падкрэсьлівае, што парторганізацыі яшчэ не пераключыліся на вырашэньне па-баявому асноўнае задачы, якая стаіць перад партыйнымі організацыямі па колгаснаму будаўніцтву, гэта організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў, у іх цяперашняй, арцельнай форме. ЦК прапануе ўсім партыйным організацыям паставіць у цэнтры сваёй работы конкрэтнае опэрацыйнае кіраўніцтва па выкананьні гэтае асноўнае задачы“.

У пытаньнях колгаснага руху варта ўнікаць дзьвюх памылак опортуністычнай уласьціvасьці. Першая з іх—опортуністычнае ганьбаваньне ўсяго таго, што ёсьць у колгасах, гутаркі пра тое, што ўсё, моў, у колгасах дрэнна, нікуды ня варта. Дасягненьні колгаснага руху вялікія і сур'ёзныя посьпехі, якіх мы дасягнулі, ні ў якой ступені нельга змазваць. Другая, таксама опортуністычнага парадку, развага аб колгасным руху, гэта—ідэалізацыя колгасаў, уяўленьне, што ў колгасах ад пачатку да канца ўсё добра, што, уласна кажучы, няма за што ў колгасах змагацца, усё зробіцца само сабой. Гэта адмаўленьне ўказаньня тав. Сталіна аб тым, што ў колгасах захоўваюцца элемэнты класавага змаганьня. Тав. Сталін на зьезьдзе аграрнікаў-марксыстаў казаў:

„Ці ёсьць элемэнты клясавага змаганьня ў колгасах? Так, ёсьць. Ня можа ня быць элемэнтаў клясавага змаганьня ў колгасах, калі там захоўваюцца яшчэ перажыткі індывідуалістычнай альбо нават кулацкай псыхолёгіі, калі там ёсьць яшчэ некаторая няроўнасьць. Ці можна сказаць, што клясавае змаганьне ў колгасах роўназначна клясаваму змаганьню па-за колгасамі? Не, нельга. У гэтым і заключаецца памылка нашых „левых“ фразэраў, што яны ня бачаць гэтай розьніцы. Што значыць клясавае змаганьне па-за колгасамі да стварэньня колгасаў? Гэта значыць змаганьне з кулаком, які ўладае прыладамі і сродкамі вытворчасьці і закабаляе сабе беднату пры дапамозе гэтых прылад і сродкаў вытворчасьці. Гэта змаганьне прадстаўляе змаганьне не на жыцьцё, а на сьмерць. А што значыць клясавае змаганьне на базе колгасаў? Гэта значыць раней за ўсё, што кулак разьбіты і пазбаўлены прылад і сродкаў вытворчасьці. Гэта значыць, па-першае, што бедзякі і серадзякі аб'яднаны ў колгасах на базе абагульненьня асноўных прылад і сродкаў вытворчасьці. Гэта значыць, нарэшце, што справа ідзе аб змаганьні паміж членамі колгасаў, з якіх адны ня вызваліліся яшчэ ад індывідуалістычных і кулацкіх перажыткаў і спрабуюць выкарыстаць некаторую няроўнасьць ў колгасах на сваю карысьць,

а другія хочуць выгнаць з колгасу гэтыя перажыткі і гэту няроўнасьць. Ці ня ясна, што толькі сьляпыя ня могуць бачыць розьніцы паміж клясавым змаганьнем на базе колгасаў і паміж клясавым змаганьнем па-за колгасамі".

З конкрэтных мерапрыемстваў па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў пленум з асаблівым падкрэсьліваньнем вылучыў змаганьне за правядзеньне зьдзельшчыны, за правільнае разьмеркаваньне ураджаю, за якасьць работы (падвышэньне ураджайнасьці, разьвіцьцё таварнай жывёлагадоўлі і тэхнічных культур). Асноўныя скажэньні зьдзельшчыны ідуць па лініі вучоту работы па працаднёх, незалежна ад якасьці і колькасьці прароблена́й работы. Гэтыя скажэньні асабліва часта сустракаюцца пры доглядзе за скацінаю. Неабходна ўстанавіць, каб зьдзельная работа ўлічвалася ня проста па колькасьці галоў сьвінаматак, за якімі даглядае прыбіральніца, але і ў залежнасьці ад колькасьці выхаду парасят, у залежнасьці ад прыросту ў вазе і г. д.

Слаба праводзіцца ў колгасах барацьба за працоўную дысцыпліну. Не выкарыстоўваньне рабочай сілы на глебе прагулаў дасягае значных памераў. На пленуме праводзіўся прыклад колгасу „Ленінскі шлях", у якім за 5 летніх месяцаў гарачых сельска-гаспадарчых работ прагулы склалі 36,9 проц. агульнай колькасьці рабочых дзён. У гэты лік—36,9 проц. — не ўвайшлі 6 дзён адпачынку ў месяц для кожнага колгасьніка. Вельмі часта ў колгасах устанаўліваецца цьвёрды рабочы дзень, абмежаваны пэўнай колькасьцю гадзін, большай часткаю ў 10 гадзін. Такое ўстанаўленьне рабочага дня ня мае нічога агульнага з характарам колгаснай гаспадаркі. Колгас ёсьць аб'яднаньне раду дробных аднаасобных гаспадарак у адну буйную. У гэтым адна з істотных розьніц паміж колгасам і саўгасам, які зьяўляецца дзяржаўнай фабрыкай збожжа, мяса, ільну і г. д. Рабочы дзень ў колгасах вызначаецца характарам і аб'ёмам работы, і яе тэрміновасьцю, і колькасьцю часу, якая можа быць затрачана на выкананьне гэтай работы. Было-б злачынна ўстанаўліваць у колгасах выходныя дні ў момант сяўбы, уборкі, у гарачы час палявых работ. Таксама недапусьціма абмежаваньне рабочага часу колгасьнікаў пэўнай колькасьцю гадзін. На жаль, барацьба за ўнядрэньне працоўнай дысцыпліны ў колгасах, барацьба з прагуламі і іншымі скажэньнямі вядзецца ў колгаснай сыстэме надта адміністрацыйна, не разгорнута неабходная шырокая масавая растлумачальная работа, не мобілізавана лепшае моцнае ядро колгасьнікаў для актыўнай барацьбы за падняцьце працоўнай дысцыпліны.

Разьмеркаваньне ураджаю ў колгасах дужа спазьнілася. Згодна пастановы ЦК, колгасьнікі да 1-га лістапада павінны былі атрымаць авансы ў лік даходу і продукцыі, які на іх долю прылічваецца, у разьмеры двух трацей гэтай долі. Спазьненьне бясспрэчна зьвязана з баязьнью, якая дзе-ні-дзе ёсьць, што вось — выдасі колгасьніку аванс, ён ляжа на печ і нічога з ім болей ня зробіш—ні ў лес ні паедзе, ні ільну ня пойдзе трапаць і г. д. У сапраўднасьці, аднак, справа стаіць якраз наадварот. Зацяжка ў разьмеркаваньні даходаў і ураджаю ў колгасах зьніжае стымулы да працы. Шпаркае разьмеркаваньне даходаў і ураджаю (па працоўнаму, канечне, прынцыпу) упяршыню з усёй яснасьцю дапаможа асазнаць колгасьніку тую ісьціну, што той, хто болей працуе—больш і атрымоўвае. Практыка раду арганізацый, у прыватнасьці, практыка Паўночнага Каўказу паказвае, што правя-

дзеньне разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю і выдача авансаў у значнай ступені падвышае выхад на работу, продукцыйнасьць колгасьнікаў і іншыя паказальнікі работы. Таму пленум падкрэсьліў неабходнасьць хутчэйшнга ажыцьцяўленьня дырэктывы партыі аб разьмеркаваньні ўраджаю.

Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў найцесным чынам зьвязана з лёгунгам барацьбы за якасныя паказальнікі работы колгасаў, у першую чаргу барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці. Партыйныя організацыі БССР яшчэ не параключыліся на тое, каб змагацца за якасьць работы. Сумная практыка зяблевай воркі цяперашняга году паказвае гэта. Зяблевая ворка падвышае ўраджайнасьць і разгружае вясеньні пэрыод палявых работ. Тым самым зяблевая ворка дазваляе правесьці вясеньнюю сяўбу ў больш раньнія тэрміны, што ў сваю чаргу зьвязана з падвышэньнем ураджайнасьці. Між тым, у радзе партыйных організацый КП(б)Б існуе яўная недаацэнка зяблевай воркі. Мы ня здолелі растлумачыць усе выгады і перавагі зябі, мы ня здолелі барацьбу за зяб паставіць як адну з цэнтральных задач, зьвязаўшы гэтую справу з барацьбой за якасьць, з барацьбой за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасу. Аналёгічную недаацэнку мы сустракаем і ў адносінах пытаньняў жывёлагадоўлі. Ня толькі колгасы, але і саўгасы не ўясьнілі сабе, што жывёлагадоўля зьяўляецца цэнтральным, асноўным у іх рабоце. У вініку—масавыя выпадкі нядбайнага догляду, няўважлівых адносін да жывёлы, дрэннае ўтрыманьне і г. д., што вядзе ў сваю чаргу да разьвіцьця эпозоотыі. Чума сьвіней—гэты біч сьвінагадоўлі—магла пракласьці дарогу ў саўгасы і колгасы толькі карыстаючыся няправільным і нядбайным доглядам і ўтрыманьнем статку. Опортуністы разводзяць рукамі і кажуць: чума, нічога не паробіш. Бальшавікі распрацоўваюць мерапрыемствы і мобілізуюць масу рабочых, колгасьнікаў і агротэхнічны пэрсонал саўгасаў на правядзеньне вэтэрынарных і зоотэхнічных мерапрыемстваў, якія забясьпечваюць пасьпяховую перамогу над чумой. У барацьбе з чумою вялізнае значэньне мае захоўваньне элемэнтарных умоў догляду за жывёлай: чыстата, прагулкі, перасьцярога ад занясеньня заразы збоку і г. д. Пагалоўная актыўная прывіўка ўсяго сьвінога статку, пачынаючы з парасят ва ўзросьце 5—7 дзён, канчаткова адхіляе небясьпеку пранікненьня чумы ў сьвінарнікі. Пленум ЦК не дарма згрупаваў сваю ўвагу на пытаньнях разьвіцьця жывёлагадоўлі і, у першую чаргу, сьвінагадоўлі. У той час, як Амэрыка забясьпечвае свае гарады на 50 проц. сьвіным мясам, сьвіное мяса ў мясазабесьпячэньні гарадоў СССР займае якіх-небудзь 2,4 проц. Гэта вядзе да таго, што параўнаўча вялікі процант спажываньня ў мясе пакрываецца за лік рагатай скаціны, на аднаўленьне статку якой патрабуюцца больш доўгія тэрміны (ад 2 да 4 год). Шлях да вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы ў БССР ляжыць, такім чынам, праз разьвіцьцё сьвінагадоўлі.

З пытаньнямі організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў найцесным чынам зьвязаны проблемы нарыхтоўчай работы бягучага году. У ходзе нарыхтовак цяперашняга году выявілася адставаньне соцыялістычнага сэктару—саўгасаў і колгасаў. Гэта адставаньне зьявілася вынікам рвацкіх спажывецкіх тэндэнцый, па клясавай сваёй характарыстыцы кулацкіх тэндэнцый. Яны маглі знайсьці вядомую глебу ў асобных кулацкіх элемэнтах, што пралезьлі ў колгасы, маглі знайсьці гэту глебу і ў настроях адсталай часткі колгасьнікаў. Распаўсюджваньню рвацкіх тэндэнцый спрыяла і тая акалічнасьць, што пар-

тыйныя організацыі ня ўлічылі своечасова неабходнасьці разгарнуць шырокую масавую растлумачальную і выхаваўчую работу ў колгасах. Значная частка колгасаў у БССР упяршыню праводзіць загатоўчую кампанію. У асеньня-зімнія месяцы мінулага году мы мелі каля 15 проц. колектывізаваных гаспадарак. У сучасны момант мы маем 50 проц. колектывізацыі. Больш $^2/_3$ колгасаў зьяўляюцца, такім чынам, новымі колгасамі, якія склаліся ў пэрыод вясны і лета мінулага году. Ня дзіўна, што маладыя, яшчэ не акрэпшыя колгасьнікі, учарашнія аднаасобнікі, прынесьлі часткова адсталыя спажывецкія тэндэнцыі. Гэту акалічнасьць скарыстаў клясавы вораг у барацьбе супроць партыі. Перамагчы гэтыя цяжкасьці партыя можа толькі рашуча абапершыся на здаровыя элемэнты ў колгасным руху. Здаровыя элемэнты ў колгасным руху, якія змагаюцца за дысцыпліну, за падвышэньне вытворчасьці працы, за выкананьне абавязкаў колгасаў перад дзяржаваю, зусім ня так слабыя, як гэта малююць некаторыя опортуністычна альбо панічна настроеныя таварышы. Мы маем рад колгасаў, якія ўзорна выканалі свае заданьні перад дзяржавай. Трэба выкарыстаць гэтыя колгасы для таго, каб узяць на буксір адстаючых, каб прыкладам перадавых колгасаў падагнаць тых, хто затрымлівае здачу продукцыі дзяржаве. У кожным нават слабым колгасе ёсьць ядро людзей, якія, бязумоўна, стаяць за дысцыпліну і пролетарскі парадак. Задачы партыйнай організацыі заключаюцца ў тым, каб організаваць гэтых людзей, актывізаваць іх, падтрымаць іх у барацьбе супроць кулака там, дзе ён пралез у колгас. Буйнейшай політычнай памылкай было-б абмяжоўвацца захадамі адміністрацыйнага парадку. Мерапрыемствы адміністрацыйнага парадку, бязумоўна, неабходны. Мерапрыемствы партыйнага парадку— спагнаньні, выключэньні з партыі опортуністаў і загніўшых—таксама неабходны будуць праводзіцца парторганізацыяй КП(б)Б з усёй цьвёрдасьцю. Але ні ў якім выпадку нельга абмяжоўвацца гэтымі мерапрыемствамі, не разгортваючы масавай політычнай работы. Толькі абапіраючыся на масавую політычную работу, КП(б)Б даб'ецца сапраўдных посьпехаў у барацьбе з кулацкімі тэндэнцыямі і здолее выканаць ва ўстаноўленыя тэрміны важнейшую гаспадарча-політычную задачу—нарыхтоўку хлеба, ільну, мяса і г. д.

Гэткія, коратка, ітогі лістападаўскага пленуму. У цэнтры работы партыйнай організацыі павінна стаяць барацьба за правядзеньне ў жыцьцё шасьці ўмоў тав. Сталіна. Гэта значыць, што да нашай работы па социялістычнаму будаўніцтву мы павінны прад'явіць высокія запатрабаваньні: бальшавіцкіх тэмпаў і высокай якасьці выкананьня. Недастаткова зараз выканаць заданьне — трэба яго выканаць у тэрмін. Недастаткова выканаць заданьне абыяк — трэба выканаць яго з высокімі якаснымі паказальнікамі. Толькі пры гэтай умове нашы партыйныя організацыі будуць на ўзроўні запатрабаваньняў, якія да іх прад'яўляюцца. А для гэтага трэба перабудаваць работу па-новаму. Трэба іначай, па-новаму, кіраваць. Трэба штодзеннае, жывое, опэрацыйнае, конкрэтнае кіраўніцтва. Трэба перабудаваць работу раду нашых організацый, ломячы опортуністычнае супраціўленьне гэтай перабудове. Толькі пры гэтай умове КП(б)Б пераможа ў барацьбе за тэмпы і якасьць социялістычнага будаўніцтва.

---

Шарановіч

# Organізацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў—цэнтральная задача

КП(б)Б мае вялікія дасягненьні ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Гэты год па сутнасьці для Беларусі зьяўляецца рашаючым годам у сэнсе карэннага пералому, які мы маем у справе саўгаснага і колгаснага будаўніцтва. Гэта вызначаецца ў росьце саўгасаў і колгасаў, у росьце МТС, базы, на якой мэханізуецца сельская гаспадарка, гэта вызначаецца і ў значных кроках, якія мы маем у галіне спэцыялізацыі сельскае гаспадаркі Беларусі, па лініі разьвіцьця жывёлагадоўлі і тэхнічных культур: лён і каноплі.

Абапіраючыся на вынікі вясеньняй сяўбы, асеньняй сяўбы і ўборачнай кампаніі, на аснове росту індустрыялізацыі краіны, мы маем ня толькі значныя колькасныя посьпехі ў гэтым напрамку, але і маем зрухі ў справе ўздыму вытворчасьці нашай соцыялістычнай гаспадаркі і ў справе якасьці рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

Мы сьмела зараз кажам, што наш соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі ў вясеньнюю і асеньнюю сяўбу і ва ўборачную кампанію выходзіць пераможцам з яскравымі прыкладамі сапраўднай барацьбы за рэконструкцыю нашай сельскай гаспадаркі на соцыялістычных асновах.

Ня будзем прыводзіць па гэтаму пытаньню якіх-небудзь лічбаў. Тое, што мае кожны раён і нават кожны колгас, — лепш за ўсё сьведчыць аб усіх гэтых конкрэтных дасягненьнях.

У выніку росту колектывізацыі мы маем зьмены ў соцыяльна-экономічных адносінах у вёсцы. Колгаснае сялянства ў нас зьяўляецца сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады на вёсцы, кулаку нанесены рашаючы ўдар, колгаснае сялянства ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства.

Гэтых посьпехаў у галіне колектывізацыі мы ніяк не павінны ўпускаць, забываць і змазваць. Толькі на падставе іх вучоту мы можам будаваць сваю работу і барацьбу за вырашэньне нашых далейшых задач, за далейшыя посьпехі ў рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

У якіх умовах мы дабіліся гэтых посьпехаў? Гэтых посьпехаў мы дабіліся ва ўмовах рашучай барацьбы з кулаком і яго агентурай правым опортунізмам і з самацёкам, які быў распаўсюджаны ў радзе раёнаў і мясцовых організацый. Посьпехі, якія мы маем, зьяўляюцца вынікам рашучай барацьбы з права-опортуністычнай стаўкай на самацёк у колгасным руху, з усімі права-опортуністычнымі праявамі наогул.

Мы вялі таксама рашучую барацьбу з „лявацкімі“ загібамі ў справе падыходу да організацыі бядняцка-серадняцкага прыліву ў колгасы.

Можна прывесьці рад фактаў і конкрэтных пастаноў ЦК, выступленьняў кіруючых таварышоў, якія сьведчаць аб тым, што КП(б)Б і яе кіраўніцтва на падставе рашучай барацьбы з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай, і на падставе рашучай барацьбы з „левым“ опортунізмам дасягнула гэтых посьпехаў. Мы працавалі і дабіваліся гэтых посьпехаў на падставе ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, з вучотам тых конкрэтных абставін, якія мы маем у разьвіцьці сельскай гаспадаркі БССР.

Наўрад ці знойдзецца хто цяпер, які скажа, што мы гэтых дасягненьняў дабіліся бяз вучоту абставін і ўсіх умоў, у якіх мы працуем.

Неабходна з усёй чоткасьцю і выразнасьцю сказаць, што *для нас цяпер асноўнае і рашаючае ў далейшым разьвіцьці соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і далейшым росьце колгаснага будаўніцтва зьяўляецца організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў.* Іменна толькі выконваючы гэтую асноўную зачаду, замацоўваючы дасягнутыя посьпехі ў колгасным руху, можна далей рухацца наперад у справе рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і ў справе колгаснага будаўніцтва. На падставе організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, як рашаючай задачы, на падставе рашучай барацьбы з самацёкам, ідучы па шляху далейшага ўцягваньня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у колгасы, мы можам дабівацца захаваньня тэмпаў колектывізацыі, якія зусім правільна вызначаны ў пастанове ЦК УсеКП(б) ад 2 жніўня.

Выходзячы з гэтага асноўнага пытаньня, трэба спыніцца на тых памылках, якія дапушчаны ЦК КП(б)Б у пытаньнях колгаснага руху і аб выпраўленьні якіх ужо апублікавана ў друку рашэньне ЦК КП(б)Б.

Першая памылка наша заключаецца ў пастанове ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б. У чым сутнасьць гэтай памылкі? Сутнасьць у тым, што мы ўзялі тэмпы колектывізацыі такія, каб да вясеньняга севу 1932 г. мець 75 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у колгасах і скончыць колектывізацыю ў 1932 годзе.

Мы ўзялі тэрмін сканчэньня колектывізацыі бліжэйшы, чым гэта намечана ў пастанове ЦК УсеКП(б), узялі разам з тым зусім няправільны процант колектывізацыі. Да вясны 1932 г. мець 75 проц., гэта значыць няправільна орыентаваць парторганізацыю на пагоню за дутымі процантамі колектывізацыі, у той час, як ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 2 жніўня растлумачвае, што „Мерылам завяршэньня колектывізацыі таго ці іншага раёну ці вобласьці зьяўляецца не абавязковы ахоп усіх 100 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а ўцягненьне ў колгасы ня менш 68—70 проц. сялянскіх гаспадарак, з ахопам ня менш 75—80 проц. пасеўных плошчаў сялянскіх гаспадарак“.

Другая памылка, якая ўсугубляе першую памылку — гэта памылка ў пастанове ЦК ад 11.IX-31 г. Яна ўсугубляецца тым, што мы дастанову прынялі пасьля пастановы ЦК УсеКП(б) ад 2 жніўня і ў гэтай пастанове мы замест прыняцьця непасрэдна кіруючых паказаньняў ЦК УсеКП(б) намецілі тэрмін сканчэньня колектывізацыі ў канцы 1932 г.

Гэтая другая памылка некалькі паглыбіла тую памылку, якую мы дапусьцілі на ліпеньскім пленуме ЦК—паглыбілі тым, што мы ня сталі на шлях поўнага і безагаворачнага правядзеньня рашэньняў ЦК ад 2/VIII, прычым у гэтай пастанове мы ня чотка, ня ясна формулявалі некаторыя пункты адносна організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў. У прыватнасьці, там, дзе ідзе справа адносна разь-

меркаваньня раёнаў, у якіх дасягнуты значныя посьпехі колектывізацыі і якія маюць меншыя посьпехі колектывізацыі, мы не паставілі задачу арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньне колгасаў для ўсіх без выключэньня раёнаў, а правялі разьмежаваньня раёнаў.

Дапушчаныя памылкі вядома не маглі не адбіцца і на становішчы арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і колектывізацыі наогул.

Калі мы дапусьцілі памылку ва ўстанаўленьні процантаў колектывізацыі, рад раёнаў пайшла далей, устанаўляючы яшчэ больш кароткія тэрміны і тэмпы сканчэньня колектывізацыі, не концэнтруючы асноўнай увагі на арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў.

*Неабходна самым рашучым чынам (як гэта зрабіла бюро ЦК) выправіць гэтыя памылкі, безагаворачна іх прызнаць і мобілізаваць увагу ўсёй КП(б)Б на арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, як вузлавой і рашаючай задачы ў колгасным будаўніцтве.*

Ці гаварылі мы раней аб арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні колгасаў? Так, гаварылі. Гаварылі і ў докумэнтах і ў выступленьнях ня раз і ня дрэнна гаварылі. Але ня ў гэтым асноўнае. Асноўнае-ж у тым, што мы крутога павароту да ўмацаваньня колгасаў, концэнтрацыі ўсёй ўвагі пасьля пастановы ЦК УсеКП(б) ад 2/VIII-31 г. не зрабілі і таму зусім правільна нас па гэтаму пытаньню крытыкавала ў сваім артыкуле „Правда“ і зусім правільна робім мы, калі з усёй рашучасьцю выкрываем гэтыя, па сутнасьці „лявацкія“, памылкі.

Бюро ЦК прызнала і выкрыла гэтыя памылкі, пастанова Бюро ЦК апублікавана, пленум ЦК аднадушна прыняў гэтае рашэньне.

Зусім відавочна, што тыя аднадушныя рашэньні па гэтаму пытаньню, якія вынесены ўжо, зьяўляюцца лепшай сьведкай таго, што мы па гэтаму пытаньню ня маем і не павінны мець ніякіх разыходжаньняў. Але прызнаючы гэтыя памылкі, задача зараз заключаецца ў тым, каб не ўпадаць у паніку, а ў тым, каб, прызнаўшы і выкрыўшы памылкі, з усёй рашучасьсю і бальшавіцкай настойлівасьцю ўзяцца не па-алілуйскаму, а па-сапраўднаму, па-бальшавіцку за іх выпраўленьне і дамагацца конкрэтных вынікаў і настойлівай барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў, як асноўнага зьвяна ў далейшым разьвіцьці колгаснага будаўніцтва, як асноўнага зьвяна, якое забясьпечвае далейшыя тэмпы і якасьць усёй нашай работы.

Якія конкрэтныя задачы стаяць перад намі ў галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў? Конкрэтныя задачы заключаюцца ў тым, каб на падставе неаднаразовых паказаньняў ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б па-сапраўднаму, па-бальшавіцку ўзяцца за наладжваньне арганізацыі працы ў колгасах, за ўвядзеньне сапраўднай зьдзельшчыны. Правесьці—на аснове колькасьці і якасьці затрачанай працы разьмеркаваньне даходаў. Ліквідаваць абязьлічку, разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва—вось важнейшыя задачы. У прыватнасьці, мы павінны як-мага лепш і глыбей практычна распрацаваць пытаньне аб тым, што нам даюць і далі тыя нормы, якія былі вызначаны для вясеньніх і асеньніх палявых работ, вывучыць, дзе яны аказаліся правільнымі, дзе гэтыя нормы можна падвысіць на падставе ўжо конкрэтных вынікаў работы, дзе гэтыя нормы аказаліся няправільнымі. Неабходна, скарыстоўваючы зімовы пэрыод, пераглядзець нормы выпрацоўкі ў бок іх павялічэньня ці выпраўленьня і арганізаваць работу на падставе і за вучотам маючыхся вопытаў і дасягненьняў.

Калі мы паставім пытаньне—як абстаіць у нас справа з улікам працы, мы павінны адказаць, што тут справа абстаіць дрэнна.

Але адно павінна быць зусім ясным, што мы ўжо маем хоць невялікі, але вопыт непасрэднай барацьбы мас, вопыт барацьбы лепшых перадавікоў-колгасьнікаў і колгасаў за наладжваньне вучоту працы і правядзеньне зьдзельшчыны.

Цяпер лягчэй разгарнуць далейшую работу па арганізацыі працы ў колгасах, вызначыць і ўстанавіць рад дадатковых мерапрыемстваў. Было-б няправільным калі-б сказаць, што ўсё дрэнна і больш нічога.

Мы павінны паставіць пытаньне аб аўладаньні тымі першымі, каштоўнымі практычнымі дасягненьнямі па асноўных работах, якія мы ўжо маем, гэта дасьць нам больш упэўненасьці і магчымасьці распрацаваць і разгарнуць рад новых мерапрыемстваў па лініі арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў.

Ці маем мы такія колгасы, якія на падставе ўвядзеньня зьдзельшчыны і правільнай арганізацыі працы маюць ужо ў гэтым годзе рад значных дасягненьняў? Маем. Аднак, трэба з усёй рашучасьцю сказаць, што мы маем частку колгасаў, якія, падыходзячы да разьмеркаваньня ўраджаю, з прычыны таго, што зьдзельшчына, праца, працоўная дысцыпліна былі арганізаваны дрэнна, знаходзяцца ня ў зусім добрым становішчы. Такія выпадкі маюць месца там, дзе працавалі дрэнна, дзе дрэнна арганізавана праца, дзе дрэнна пастаўлена ўсё, што зьвязана з арганізацыяй працы.

Пытаньне адносна арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і практычныя пытаньні, якія закрануты, тут зьвязаны ня толькі з пытаньнем палепшаньня колгаснай вытворчасьці, але і з перавыхаваньнем колгасьніка, перавыхаваньнем учарашняга бедняка і серадняка-аднаасобніка з яго індывідуалістычнай псыхолёгіяй у сапраўднага барацьбіта за соцыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі, за ўмацаваньне колгасу.

Гэтае пытаньне трэба падкрэсьліць асабліва таму, што дзе-ні-дзе ёсьць недавучот таго, што мы, атрымаўшы колькасныя дасягненьні ў справе калгаснага будаўніцтва, як-быццам павінны на гэтым супакоіцца, як-быццам на гэтым справа ў асноўным канчаецца. Такое разуменьне зусім няправільнае. Гэта асабліва трэба падкрэсьліць для БССР, бо мы маем значную колькасьць колгасаў і колгасьнікаў, якія толькі нядаўна арганізаваліся і якія толькі нядаўна ўліліся ў колгасы.

Упартая работа над перавыхаваньнем колгасьніка патрабуе і канкрэтных мерапрыемстваў, зьвязаных з больш шырокай пастаноўкай культурна-выхаваўчай работы, работы хат-чытальняў, школ і да т. п.

Гэта трэба больш падкрэсьліць таму, што кулак у сваіх мэтодах барацьбы зьмяніў тактыку (на прыкладах ходу загатовак, на прыкладах разьмеркаваньня ўраджаю гэта можна добра прасачыць),—імкнецца сваёй новай тактыкай, пралязаючы ў колгас, альбо будучы па-за колгасам, распальваць індывідуальныя і спажывецкія настроі сярод колгасьнікаў. Па сутнасьці ў гэтым хаваецца спроба кулака ўзарваць колгас знутры, затармазіць вырашэньне асноўнай задачы, якая пастаўлена цяпер—задачы арганізацыйнага замацаваньня колгасаў і ўцягненьня на падставе гэтага бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы.

Надзвычайна дрэнна тое, што ў радзе раёнаў гэтая новая тактыка кулака ня ўлічаецца і не арганізоўваецца ўдар іменна па гэтай новай тактыцы кулака. Астаткі дробнабуржуазнай стыхіі і кулацкі ўплыў у колгасах выяўляюцца ў першую чаргу ў імкненьні ня выконваць абавязацельстваў колгасаў па здачы хлеба і другіх продуктаў дзяржаве-

Прарывы ў ходзе хлебанарыхтовак у асобных мясцох маюць сваёй галоўнай прычынай няправільную опортуністычную ідэалізацыю колгасаў, забываньне таго, што ў колгасах існуюць яшчэ элемэнты клясавай барацьбы, што перароботка селяніна ў колгасе толькі пачалася і зусім не закончана. Важнейшым элемэнтам барацьбы за організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў, ёсьць барацьба за выкананьне нарыхтоўчых плянаў. Опортуністычная існасьць ідэалізацыі колгасаў, неразуменьне элемэнтаў клясавай барацьбы ў іх, таксама як і опортуністычная сутнасьць ігнараваньня задачы організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў, як цэнтральнай задачы, адна і тая-ж: неразуменьне і адмаўленьне кіруючай ролі рабочае клясы ў адносінах да сялянства на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва.

Калі мы больш шчыльна падыходзім да організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў, мы больш яскрава пачынаем выяўляць засьмечанасьць асобных колгасаў кулацка-заможнымі элемэнтамі. Задача заключаецца ў тым, каб як-мага хутчэй зрабіць ачыстку колгасаў ад кулацкіх і варожых элемэнтаў.

Мы павінны выходзіць у пытаньнях перавыхаваньня колгасьнікаў з пастаноўкі пытаньня, данай т. Сталіным.

У выступленьні т. Сталіна на зьезьдзе аграрнікаў-марксыстаў аб прыродзе колгасаў сказана так:

„Вядома, у колгасах маюцца супярэчнасьці. Вядома, у колгасах і індывідуалістычныя і нават кулацкія перажыткі, якія яшчэ не адпалі, але якія абавязкова павінны адпасьці на працягу часу па меры ўзмацненьня колгасаў, па меры іх машынізацыі. Але ласьне можна адмаўляць, што колгасы ў цэлым узятыя з іх супярэчнасьцямі і недахопамі, колгасы, як гаспадарчы факт, які ўяўляе ў асноўным новы шлях разьвіцьця вёскі, шлях соцыялістычнага разьвіцьця вёскі, супроцьлегласьць кулацкаму капіталістычнаму шляху разьвіцьця. Ласьне можна адмаўляць, што колгасы (я кажу аб колгасах, а не аб ілжэколгасах) прадстаўляюць пры нашых умовах базу і ачаг соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы, якая вырасла ў адчаяных схватках з капіталістычнымі элемэнтамі“.

Падкрэсьліваючы, такім чынам, значэньне колгасаў, як гаспадарак соцыялістычнага тыпу, т. Сталін разам з тым казаў, „ці ёсьць элемэнты клясавай барацьбы ў колгасах? Але, ёсьць. Ня можа ня быць элемэнтаў клясавай барацьбы ў колгасах, калі там захоўваюцца яшчэ перажыткі індывідуалістычнай і нават кулацкай псыхолёгіі, калі там маецца яшчэ некаторае няравенства“.

„Было-б памылкова думаць, што калі даны колгасы, дык дано ўсё неабходнае для пабудовы соцыялізму. Тым больш памылкова было-б думаць, што члены колгасаў ужо ператварыліся ў соцыялістаў. Не, прыдзецца яшчэ многа папрапаваць над тым, каб перарабіць селяніна-колгасьніка, выправіць яго індывідуалістычную псыхолёгію і зрабіць з яго сапраўднага працаўніка соцыялістычнай грамады“.

Гэтая фурмуліроўка т. Сталіна павінна вычарпаць усялякія спрэчкі, якія дзе-ні-дзе існуюць па гэтаму пытаньню, яна поўная і яскравая.

Наступнае пытаньне—гэта пытаньне *аб падвышэньні ўраджайнасьці і вырашэньні проблемы жывёлагадоўлі*. Пытаньне аб падвышэньні ўраджайнасьці зараз больш востра ставіцца партыяй. Ці паставілі мы з усёй рашучасьцю гэтае пытаньне у сябе на Беларусі? Не, не паставілі. Задача сёнешняга дня і задача далейшай падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўнай кампаніі заключаецца ў тым, каб мы ў партыйных організацыях пытаньне падвышэньня ўраджайнасьці і якасьці работы

колгаснай і саўгаснай вытворчасьці паставілі больш востра. У пастановах пленуму ЦК вызначаны рад практычных мерапрыемстваў па гэтых пытаньнях, але гэтым справа не павінна быць скончана. Пытаньне аб падвышэньні ўраджайнасьці складанае і яно зьвязана з радам дадатковых мерапрыемстваў, з непасрэдным аўладаньнем агро-тэхнікай, тэхнікай сельска-гаспадарчай вытворчасьці наогул. Пытаньне аб аўладаньні тэхнікай сельскай гаспадаркі павінна быць пастаўлена ва ўсю шырыню на падставе ўказаньняў т. Сталіна. Тут неабходна распрацаваць рад практычных мерапрыемстваў па гэтаму пытаньню і ўзяцца з усёй упартасьцю за аўладаньне тэхнікай сельскай гаспадаркі. *Падрыхтоўка да веснавой сяўбы павінна заключыць у сабе ў якасьці асноўных мерапрыемстваў—барацьбу за аўладаньне тэхнікай сельскай гаспадркі, за падвышэньне ўраджайнасьці, за больш хутчэйшае вырашэньне проблемы жывёлагадоўлі.*

Выкананьне нарыхтовак з боку таго ці іншага колгасу зьяўляецца адным з паказчыкаў таго, як той ці іншы колгас разумее сваю ролю і свае адносіны да пролетарскай дзяржавы. Выкананьне тым ці іншым колгасам свайго абавязку перад пролетарскай дзяржавай, перад рабочай клясай зьяўляецца адным з паказчыкаў палітычнага росту, асваеньня агульна-палітычных задач, якія стаяць перад колгасьнікамі.

Выкананьне нарыхтовак шчыльна зьвязана з пытаньнем організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў. Ці ўлічылі таварышы ўсюды гэтую непасрэдную сувязь і ў зьвязку з гэтым ці ўсюды правільна пастаўлена пытаньне перад колгасьнікамі, перад асобнымі колгасамі аб іх абавязках перад пролетарскай дзяржавай? Дзе-ні-дзе гэта ня ўлічвалі, дзе-ні-дзе ня зьвязвалі загатоўкі з організацыйна-гаспадарчым умацаваньнем колгасу, у выніку чаго мы маем тое, што колгасны сэктар, паасобныя колгасы адстаюць у нарыхтоўках.

Паасобныя колгасы ў радзе месц супроцьстаўляюць сябе пролетарскай дзяржаве, ставяць пытаньне адносна таго, што перш сабе забясьпечым а потым здамо лішкі дзяржаве. У радзе колгасаў надзвычайна распаўсюджаны спажывецкія і рвацкія настроі. Гэта ёсьць ня што іншае, як непасрэдная работа кулака, імкненьне сарваць выкананьне пляну загатовак і організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў. У радзе месц гэтую тактыку і спробы кулака супроцьпаставіць колгас дзяржаве ня ўлічылі і ня ўдарылі на кулаку як сьлед.

Усе практычныя пытаньні колгаснага будаўніцтва, якія закрануты вышэй, вынікаюць з асноўнага пытаньня, якое зараз наша парторганізацыя вырашае і павінна вырашыць, з пытаньня аб організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў. Ці павярнулася ўся КП(б)Б як сьлед да організацыйна-гападарчага замацаваньня колгасаў?

Мы павінны сказаць проста, што *яшчэ цалкам і поўнасьцю з усёй рашучасьцю, з усёй бальшавіцкай напорыстасьцю за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў нашы партыйныя організацыя не ўзяліся.* Мы павінны бяз усякіх разважаньняў як мага хутчэй і як мага мацней узяцца за ўзмацненьне колгасаў.

Зусім яскрава, што тыя агульныя тэмпы і дасягненьні, якія мы атрымалі, і асабліва тыя задачы, якія перад намі стаяць у організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, патрабуюць карэнным чынам перабудовы кіраўніцтва самой колгаснай сыстэмай. Лепш за ўсё відаць непасрэдна на месцы, як нельга падыходзіць да кіраўніцтва паасобнымі колгасамі. У нас ёсьць колгасы, якія ў сваім разьвіцьці маюць рад дасягненьняў. Яны стварылі моцную экономічную базу і ў сваёй

рабоце патрабуюць, каб у кіраўніцтве імі даваць адказ на рад новых практычных пытаньняў, што ўзьнікаюць у процэсе разьвіцьця колгасаў.

Гэта датычыцца ня толькі асобных колгасаў, але і раёнаў, якія завяршылі ў асноўным суцэльную колектывізацыю, а ў нас такія раёны ёсьць. Зусім яскрава, што ў тым раёне, які завяршыў у асноўным суцэльную колектывізацыю, само жыцьцё будзе высоўваць рад новых практычных пытаньняў, на якія мы як мага хутчэй павінны даваць адказ. Неабходна ўлічваць вопыт замацаваньня колектывізацыі ў гэтых раёнах і конкрэтна кіраваць раёнамі. На вялікі жаль, мы яшчэ ня маем такога конкрэтнага опэратыўнага кіраўніцтва і дыфэрэнцыяванага падыходу ў кіраўніцтве да раёнаў і колгасаў.

Неабходна паставіць з усёй рашучасьцю пытаньне адносна ўмацаваньня спэцыялізаваных сыстэм: сьвінаводцэнтру, малакожывцэнтру і інш. сыстэм, якія мы стварылі. Пры гэтым умацаваньне павінна быць ня толькі ў цэнтральным, але і ў раённым і нізавым зьвяне. Гэта забясьпечыць значна і больш лепей набліжэньне кіраўніцтва да нізавога зьвяна, забясьпечыць выкананьне ўсіх тых запатрабаваньняў, якія высоўваюцца ў процэсе росту колгаснага будаўніцтва.

Зразумела, што мы некаторую колькасьць нашых лепшых таварышоў павінны перасунуць для работы ў колгаснай сыстэме, яшчэ больш умацоўваючы яе ўсе зьвеньні. Зразумела, што мы павінны ўмацоўваць партыйна-масавую работу ў колгасах і галоўна непасрэдна ў нізавых звеньняў колгасу.

Аднак, было-б памылкова і няправільна ставіць пытаньне аб тым, што мы вырашым проблему кадраў для колгаснага сэктару толькі шляхам пасылкі новых людзей. Паўстае самым шырокім чынам пытаньне адносна падрыхтоўкі кадраў непасрэдна з лепшых ударнікаў, брыгадзіраў, колгасьнікаў, ідучы больш сьмела і рашуча на вылучэньне. Гэтым самым будзе вырашацца проблема кадраў.

*Пытаньне аб узбуйненьні колгасаў* зьяўляецца адным з пытаньняў гаспадарча-організацыйнага ўмацаваньня колгасаў. Гэта пытаньне асабліва востра паўстае ў нашых хутарскіх раёнах. Зразумела, што мы маем рад колгасаў карлікавых. Мы павінны пайсьці па лініі ўзбуйненьня колгасаў. Ніякага сумненьня не выклікаюць тыя прапановы, якія ўносяцца па гэтаму пытаньню адносна таго, каб ісьці па лініі ўзбуйненьня колгасаў. Аднак, тут трэба з усёй яскравасьцю, рашуча папярэдзіць усякія магчымасьці адміністраваньня ў гэтай справе. Мы павінны папярэдзіць усякія магчымасьці ажыцьцяўленьня тых тэндэнцый і праяў, якія мелі месца ўвесну мінулага году.

Неабходна, кіруючыся асноўнай устаноўкай у пытаньні ўзбуйненьня колгасаў, ставіць пытаньне перад самімі колгасьнікамі, перад асобнымі колгасамі, асабліва дробнымі, абгаварваць гэтае пытаньне сярод колгасьнікаў, праводзіць гэта на падставе добраахвотнасьці, але ні ў якім разе зьверху не насаджаць узбуйненьня колгасаў. Мы павінны ўдарыць самым рашучым чынам па ўсякіх спробах устанаўліваць разьмер колгасаў „ад“ і „да“. Ніякіх рэглямэнтуючых лічбаў непатрэбна, а між тым такія прыклады ёсьць: напрыклад, прапанова організоўваць колгасы з 500 да 3 тысяч *га*. Прапановы такога гатунку абгрунтоўваюцца немагчымасьцю рэнтабельна скарыстаць трактары. Гэтае абгрунтаваньне няправільнае і практычна і тэорэтычна. Роля МТС ў організацыйна-гаспадарчым замацаваньні колгасаў вялікая. На будучы год мы будзем мець значнае пашырэньне МТС у нашай рэспубліцы. Аднак, нельга рабіць вываду аб нерэнтабельнасьці работы трактара ў колгасах сучасных разьмераў і таму прапанаваць наса-

джэньне колгасаў-гігантаў. Узбуйненьне колгасаў мы будзем праводзіць на аснове шырокай ініцыятывы і ўдзелу мас колгасьнікаў, не дапускаючы перагібаў у гэтай справе.

Пастаноўка пытаньня аб арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні колгасаў і раду пытаньняў, зьвязаных з палепшаньнем якасьці ўсёй нашай работы, ніяк ня зьнімае пытаньня аб падвышэньні тэмпаў работы. Наадварот, далейшае наша прасоўваньне ўперад патрабуе яшчэ больш напружаных тэмпаў работы і сама па сабе задача палепшаньня якасьці работы ўключае неабходнасьць поўнага захаваньня бальшавіцкіх тэмпаў работы.

Ці дастатковыя тэмпы работы па ажыцьцяўленьню асноўных задач у нашых парторганізацыях на даным этапе? Зразумела, мы дабіліся раду дасягненьняў у гэтых адносінах. Аднак, задача падвышэньня тэмпаў і якасьці нашае работы, барацьба з алілуйшчынай, барацьба з фразамі, за якімі прыкрываецца, па сутнасьці, опортунізм, барацьба з фразамі, якія толькі паказваюць дэкляратыўную, а не сапраўдную бальшавіцкую барацьбу за тэмпы, за выкананьне плянаў, за якасьць работы,—павінна быць узмоцнена яшчэ больш рашуча, чым да гэтага часу.

„На розных этапах опортуністычныя плыні выступаюць супроць партыі ў розных формах. Своеасаблівасьць абставін накладае свой адбітак на характар праяўленьня ўхілаў ад генэральнай лініі партыі. Вядомай своеасаблівасьцю адзначаюцца і праявы опортунізму, мэтоды і шляхі яго барацьбы супроць партыі на сучасным этапе соцыялістычнага наступу па ўсяму фронту.

Партыя ў дрэбезгі разьбіла ўсе спробы правых і „левых“ опортуністаў, якія спрабавалі атакаваць яе лінію і нашчадна выкрыла перад тварам мільёнаў пролетараў варожую клясавую існасьць опортунізму. Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва настолькі вялікія і наглядныя (асабліва на фоне жорсткага капіталістычнага крызісу, які зьнішчальным ураганам праносіцца ва ўсіх кутках капіталістычнага сьвету), што нават „Социалистический Вестник“ з скрыгатаньнем зубоў прымушаны іх адзначаць у той ці іншай форме.

Сучасныя опортуністы ў радох УсеКП(б) у большасьці выпадкаў не асьмельваюцца адкрыта выступаць супроць генэральнай лініі партыі. На словах, формальна—яны часта з партыяй, яны горача галасуюць за яе лінію („ад галасаваньня рука не адсохне“). Алілуйшчына зьяўляецца характэрнай рысаю сучаснага опортунізму.

Але на справе гэтыя опортуністы нічога ня робяць для таго, каб праводзіць лінію партыі ў жыцьцё. Наадварот—формальна галасуючы за лінію партыі, яны прыкладаюць усе натугі да зрыву гэтай лініі“ („Бальшавік“ № 19-20. Перадавая).

У барацьбе з опортунізмамі — правым і „левым“—мы дасягнулі вялікіх посьпехаў; разгортваючы бязьлітасную барацьбу з опортунізмам, з усімі скажэньнямі партыйнай лініі—асабліва з боку правага опортунізму, які астаецца галоўнай небясьпекай на сучасным этапе—мы павінны ісьці да далейшых перамог ў будаўніцтве соцыялізму.

Саюзьнікам і найбольш горшым дапаможнікам усіх відаў опортунізму зьяўляецца прымірэнцтва да ўхілаў ад лініі партыі.

Партыя, концэнтруючы ўдар па опортунізмах, павінна ў той-жа час рашуча біць па ўсякіх праявах прымірэнцтва.

Я. Эйдэльман

# За бальшавіцкае правядзеньне перавыбараў парторганаў

Перавыбары партыйных органаў КП(б)Б, зьяўляючыся важнейшай кампаніяй партыі, павінны адбіць усю барацьбу КП(б)Б за генэральную лінію партыі, міжнародную і ўнутраную абстаноўку, у сувязі з ростам соцыялізму ў нашай краіне і ростам крызісу капіталістычных краін, у сувязі з ростам супярэчнасьцяў паміж капіталістычнымі дзяржавамі і ростам супярэчнасьцяў паміж капіталізмам і соцыялізмам. Яны павінны намеціць суму мерапрыемстваў, якія павінны забясьпечыць ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі ў далейшай нашай барацьбе за соцыялізм.

Перавыбары партыйных органаў КП(б)Б будзе праводзіць на пярэдадні завяршэньня 3-га рашаючага году пяцігодкі, напярэдані завяршэньня фундаманту соцыялізму ў нашай краіне, у абстаноўцы шырачэйшага ўздыму і гіганцкіх дасягненьняў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Растуць гіганты савецкай індустрыі—гіганты пяцігодкі (АМО, Харкаўскі трактарны і г. д.). Рыхтуюцца ўступіць у бойку за соцыялізм гіганты сусьветнага значэньня, як Магнітагорск, Кузнецкабуд, Уралмашбуд, Аўтобуд і г. д. Ужо ўступілі ў строй сотні новых фабрык і заводаў.

Па галіне сельскай гаспадаркі партыя атрымала перамогі гістарычнага значэньня, сьмела праводзячы соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі на падставе організацыі саўгасаў і колгасаў, аб'ядпаючы ўжо звыш 60 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і пасьпяхова завяршаючы ліквідацыю кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. Пераўзброеньне сельскай гаспадаркі, на падставе высокай машыннай тэхнікі, стварыла магчымасьці пашырэньня пасеўнай плошчы, плошчы тэхнічных культур і вырашэньня, на вопыце і на прыкладзе зернавой проблемы, проблемы жывёлагадоўлі, цэнтральнай проблемы сельскай гаспадаркі на сучасным этапе, стварае новыя ўмовы для форсаванага разьвіцьця лёгкай прамысловасьці, павышэньня матэрыяльна-культурнага ўзроўню рабочае клясы і колгасных мас і палепшаньня рабочага забесьпячэньня. Створаны ўсе ўмовы для ажыцьцяўленьня лёзунгу партыі „дагнаць і перагнаць у тэхніка-экономічных адносінах на працягу аднаго дзесяцігодзьдзя перадавыя капіталістычныя краіны“.

Нашы посьпехі тым больш бліскучы, што яны адбываюцца на фоне ўсё працягваючагася і ўзрастаючага міравога крызісу, перайшоўшага ў новую фазу свайго разьвіцьця ў крызіс фінансавы і крэ-

дытны, крызіс, які ўскрыў развал і загніваньне ўсёй капіталістычнай сыстэмы, гістарычную абрачонасьць капіталізму і нямінучасьць пролетарскай рэволюцыі, як адзіны выхад з бядноты, голаду, беспрацоўя і эксплёатацыі для сусьветнай рабочай клясы і шырокіх працоўных мас колёніяльных і паўколёніяльных краін.

Абставіны перавыбарчай кампаніі ствараюць магчымасьці для яшчэ большага разгортваньня актыўнасьці рабочае клясы і колгасных мас, яшчэ большага разгортваньня энтузіязму і вытворчай ініцыятывы мас, яшчэ большага разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Партыйныя організацыі павінны аказацца на вышыні тых задач, якія высоўваюць даныя абставіны, і павінны ўмець стаць на чале вышэйшай актыўнасьці мас і організаваць гэтую актыўнасьць на ажыцьцяўленьне задач соцыялістычнага будаўніцтва, на выкананьне і перавыкананьне плянаў 4-га кварталу 3-га рашаючага году пяцігодкі і на падрыхтоўку да 4-га апошняга году пяцігодкі.

Посьпехі выкананьня пяцігадовага пляну зьяўляюцца вынікам організаванага партыяй шырокага соцыялістычнага наступу па ўсяму фронту, вынікам правільнасьці генэральнай лініі партыі, якая пацьвердзілася вопытам барацьбы партыі з правым, „левым“ і права-„лявацкімі“ ўхіламі, пацьвердзілася вопытам барацьбы мільёнаў мас за будаўніцтва соцыялізму, вынікам правядзеньня правільнай лініі партыі ў жыцьцё.

Барацьба за генэральную лінію партыі зьяўляецца закладам новых перамог і далейшага размаху соцыялістычнага будаўніцтва. КП(б)Б праводзіла пасьлядоўную і ўпартую барацьбу за генэральную лінію партыі супроць правага і „левага“ ўхілаў, супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі ў нацыянальным пытаньні, супроць нацдэмократызму і іншых шовінізмаў—ухілаў ад ленінскай нацыянальнай політыкі. На гэтай падставе КП(б)Б дасягнула вялізарных дасягненьняў у справе індустрыялізацыі і рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Перавыбары парторганаў павінны падвесьці вынікі гэтай барацьбе і яшчэ больш навастрыць зброю партыі супроць опортуністычных ухілаў і прымірэнцтва да іх, падняць барацьбу за чыстату партыйнай лініі, за партыйнасьць і за партдысцыпліну, за вышэйшую ступень яе. Неабходна ў перавыбарчай кампаніі накіраваць усю энэргію партыі на барацьбу з опортунізмам у новых абставінах. На справе „Саюзсахару“, кіраўніцтва якога скацілася з бальшавіцкіх рэек у „лона буржуазных тэндэнцый“, якое абманам партыі схоўвала лішкі хлеба ад пролетарскай дзяржавы, супроцьстаўляючы ведамсьцьвеныя, вузкамесьнічаскія інтарэсы інтарэсам усяе дзяржавы, усяе рабочае клясы. Партыйныя організацыі павінны вучыцца барацьбе з правым опортунізмам, з кулацкімі і рвацкімі тэндэнцыямі. І ў БССР гэты опортунізм праявіў сябе ў дастатковай меры. Справа Белсельтрэсту, паасобных саўгасаў і колгасаў, якія праводзілі опортуністычную лінію ў збожжанарыхтоўках, якія фактычна прыводзілі да зрыву хлебанарыхтовачнай кампаніі, якія ігноравалі першачарговую здачу дзяржаве сваіх лішкаў, павінна быць вурокам для ўсёй парторганізацыі. Трэба ў час перавыбараў партыйных органаў выкрыць да канца опортуністаў, абаронцаў кулацкіх і рвацкіх патураньняў. Неабходна мобілізаваць шырачэйшыя масы рабочых саўгасаў, колгасьнікаў супроць гэтага опортунізму і даць яму сакрушальны бальшавіцкі адпор. Трэба таксама павесьці барацьбу з опортуністычнай ідэалізацыяй колгасаў і колгасьнікаў, з тэорыяй і практыкай самацёку ў колгасным будаўніцтве, з неда-

...цэнкай важнасьці захаваньня пролетарскага кіраўніцтва колгасамі, якое выцякае з неразуменьня, што ў „арцелі не завяршаецца, а толькі пачынаецца справа стварэньня новай грамадзкай дысцыпліны, справа навучаньня сялян соцыялістычнаму будаўніцтву (з рэзолюцыі XVI-га партзьезду).

Неабходна таксама завастрыць увагу ў час перавыбараў і супроць „левага“ опортунізму, супроць забяганьня ўперад, у спробах вырашаць важнейшыя гаспадарча-палітычныя задачы ў вёсцы голым адміністраваньнем, у недаацэнцы організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасу і ў пагоні за голымі лічбамі колектывізацыі.

Партыйныя організацыі павінны ператварыць перавыбары партыйных органаў у баявую мобілізацыю мас на ліквідацыю ўсіх прарываў, на выкананьне і перавыкананьне ўсіх плянаў 4-га кварталу, з тым каб уступіць у 4-ты год пяцігодкі без усялякіх даўгоў. Пляны 4-га кварталу рэальны і мажліва іх выканаць. Неабходна няўхільна праводзіць шэсьць умоў тав. Сталіна, неабходна весьці суровую барацьбу з „партыйнымі абывацелямі“, якія разважаюць аб нерэальнасьці нашых плянаў, неабходна яшчэ шырэй разгарнуць сьцяг соцспаборніцтва і ўдарніцтва, падняўшы апошнія на вышэйшую ступень. Прыклад Донбасу, які сыстэматычна з кварталу ў квартал ня выконваў сваю вытворчую програму і які на падставе сыстэматычнага правядзеньня 6 умоў тав. Сталіна наблізіўся ў апошні час да 100-проц. выкананьня пляну, павінен, нарэшце, адчыніць вочы тым гаспадарнікам і тым партыйным і профэсійным організацыям, якія думаюць яшчэ да гэтага часу, што ўся праца па правядзеньні сталінскіх паказаньняў заключаецца ў „прапрацоўцы іх у масах“. Работа партыйных, гаспадарчых і профсаюзных організацый па выкананьні 6 умоў т. Сталіна трэба паставіць пад асобы агонь бальшавіцкай самакрытыкі і трэба пры перавыбарах патрабаваць справаздачу аб праробленай працы, прычым ацэнка гэтай працы павінна давацца не па прынятых рэзолюцыях, па конкрэтных выніках у правядзеньні ўмоў тав. Сталіна, па конкрэтных выніках выкананьня прамфінпляну.

У выніку перавыбараў партыйныя організацыі на прадпрыемствах павінны павярнуцца тварам да пытаньняў організацыі працы, праверыўшы організацыю працы ў кожным цэху, брыгадзе і вытворчым вучастку, высоўваючы тыя формы і мэтоды організацыі працы, якія стымулююць падвышэньне вытворчасьці працы. Асаблівая ўвага павінна быць завострана на выкананьні якасных паказчыкаў прамфінпляну: на зьніжэньні сабекошту, на палепшаньні якасьці продукцыі, на зьмяншэньні браку і г. д.

Перавыбары партыйных органаў павінны праходзіць пад адзнакаю замацаваньня і паглыбленьня перабудовы партыйнай работы. Цэнтральным зьвяном перабудовы партыйнай работы на прадпрыемстве зьяўляецца ўзмацненьне нізавога партыйнага зьвяна, партгрупы і парторга, рашаючага зьвяна ў выкананьні прамфінпляну. Неабходна накіраваць рашучую барацьбу з формальнай перабудовай, з такім становішчам, калі формальна організаваны партыйныя групы, вызначаны парторгі, а на справе праца праводзіцца па-старому. Перавыбары павінны забясьпечыць сапраўднае разгортваньне работы нізавога партыйнага зьвяна, высоўваючы і выхоўваючы новыя тысячы парторгаў, забясьпечваючы сапраўднае бальшавіцкае кіраўніцтва імі. Ня менш важным павінна быць у гэтай кампаніі праверка расстаноўкі партыйных сіл, пад кутом погляду забясьпечаньня партыйным уплывам рашаючых вучасткаў барацьбы за прамфінплыян вядучых цэхаў, прадпрыем-

ствау і г. д. і падняцьця авангарднай ролі комуністаў. На ўсіх партыйных сходах неабходна концэнтраваць увагу на ўдзельнічаньне комуністаў у соцспаборніцтве і ўдарніцтве, дабіваючыся ў час перавыбарчай кампаніі 100-проц. уцягненьня комуністаў і комсамольцаў у соцспаборніцтва і ўдарніцтва і іх прыкладнасьць у гэтым руху і ў выкананьні ўсіх вытворчых заданьняў.

Перад усімі партыйнымі організацыямі і перад партыйнымі організацыямі чыгуначнага транспорту стаіць асоба важная задача па падняцьці працы транспорту, які зьяўляецца ў сучасны момант найбольш вузкім месцам народнай гаспадаркі. Абязьлічка і ўраунілаўка далі сябе асабліва пачуць на транспорце. Перавыбары партыйных органаў павінны мобілізаваць усіх комуністаў, усю рабочую масу і інжынэрна-тэхнічны пэрсонал транспорту на выкананьне пастаноў апошняга пленуму ЦК УсеКП(б), пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б і на выкананьне загаду Наркамшляху тав. Андрэева.

Шляхам замацаваньня спаранай язды, ліквідуючы ўраўнілаўку ў заработнай плаце, падвышаючы барацьбу за здаровы паравоз і ўзмацняючы працоўную дысцыпліну, партыйныя організацыі павінны забясьпечыць выкананьне пляну асеньня-зімовых перавозак. На перавыбарчых сходах неабходна асабліва завастрыць увагу на барацьбу з коснасьцю і бюрократызмам на транспорце, супроць няўменьня комуністаў і кіраўнікоў змагацца з ім, супроць очкаўціратэльства, якое пануе ў радох партыйных, гаспадарчых і профэсійных організацый і якое дэмобілізуе партыйныя організацыі і рабочыя масы транспорту. Перавыбарчая кампанія парторганаў на транспорце павінна стварыць пералом у рабоце парторганізацыі ў сэнсе палепшаньня якасьці партыйнай работы, перабудовы яе і падняцьця ролі комуністаў у барацьбе за ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі па транспорту.

Палепшаньне рабочага забясьпечаньня, палепшаньне работы спажывецкай коопэрацыі і разгортваньне савецкага гандлю зьяўляюцца ў сучасны момант задачамі першачарговай гаспадарча-палітычнай важнасьці.

Апошні (кастрычнікаўскі) пленум ЦК УсеКП(б) адзначыў, што: „унутраны распарадак у большасьці магазынаў і якасьць гандлю ўсё яшчэ знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы і ўсё яшчэ ня зьнішчана замаражваньне таваразвароту“ і што „галоўнай прычынай, якая перашкаджае разгортваньню савецкага гандлю зьяўляецца неразуменьне і няўменьне значнай праслойкі працаўнікоў коопэрацыйна-гандлёвага апарату перайсьці з рэек мэханічнага разьмеркаваньня тавараў на рэйкі разгортваньня савецкага гандлю.

Да гэтага часу ня толькі ня зьнішчаны нэпманскі дух і ня зьнішчаны бюрократычныя элемэнты з гандлёва-коопэрацыйнага апарату, але за апошні час з новай сілай ускрылася праяўленьне нэпманскага духу, які выражаецца ў адсутнічаньні сапраўднага клопату аб спажыўцу, грубым парушэньні палітыкі цэн, захапленьні комэрцыйным гандлем, уздуваньні цэн і пагоні за высокімі прыбыткамі“. (З пастановы Кастрычніцкага Пленуму ЦК УсеКП(б).

Перавыбары парторганаў павінны концэнтраваць увагу парторганізацыі на ажыцьцяўленьне рашэньняў пленуму ЦК УсеКП(б). Яны павінны намеціць рад мерапрыемстваў па далейшаму разгортваньню гандлёвай сеткі, палепшаньне работы крам, палепшаньне работы органаў грамадзкага харчаваньня. У цэнтры ўвагі перавыбарчай кампаніі павінна быць задача палепшаньня рабочага забясьпечаньня, асабліва рабочых II-га і III-га сьпісу за лік унутраных рэсурсаў, шляхам раз-

гортваньня адкормачных опэрацый, шляхам організацыі звышпляна-вых нарыхтовак у колгасах і саўгасах, якія акуратна выканалі пляны здачы дзяржаве сваіх лішкаў.

ГК і РК КП(б)Б павінны асабліва ўдзяліць увагу перавыбарам парторганаў у сыстэме спажывецкай коопэрацыі і дзярж. гандлю, мэтай якой павінна быць палепшаньне якасьці партыйнай работы, падняцце сьвядомасьці і ролі комуністаў у барацьбе за палепшаньне работы спажывецкай коопэрацыі, за ауладаньне тэхнікай коопэрацыі, увага гандлю, за перабудову коопэрацыі і партыйна-масавай работы, у барацьбе супроць бюрократызму, коснасьці і опортунізму ў коопэ-цыйным апараце.

Партыйныя організацыі павінны ў час перавыбарчай кампаніі асабліва падкрэсьліць задачы па ўзмацненьні абароназдольнасьці краіны, якія стаяць перад організацыямі КП(б)Б, як форпостам Савецкага Саюзу. Асаблівая ўвага павінна быць удзелена пытаньням узмацненьня сувязі і шэфства над Чырвонай арміяй, палепшаньне культурна-бытавых умоў начскладу, узмацненьне работы організацыі АСО, ліквідацыя ваеннай няпісьменнасьці сярод шырокіх працоўных мас гораду і вёскі.

Раённыя партыйныя організацыі павінны правесьці перавыбары партыйных органаў пад знакам мобілізацыі мас на выкананьне адказьнейшых гаспадарча-палітычных задач: выкананьне плянаў хлебанарыхтовак, першапачатковай апрацоўкі і здачы пролетарскай дзяржаве высокай якасьці ільну, на пасьпяховае выкананьне важнейшай кампаніі—зяблявай успашкі, на выкананьне рашэньняў партыі па жывёлагадоўлі. Усе гэтыя задачы мажліва выканаць толькі на падставе організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў, на падставе барацьбы з кулацкімі і рвацкімі тэндэнцыямі і шырока-разгорнутай масавай палітычнай працай, растлумачваючы колгасьнікам іх абавязкі перад пролетарскай дзяржавай і значэньне ўзмацненьня змычкі паміж рабочай клясай і колгасны сялянствам, выхоўваючы колгасьнікаў на лёзунгу „паварот сялян-колгасьнікаў тварам да пролетарскага гораду“.

Організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў зьяўляецца цэнтральным зьвяном колгаснага будаўніцтва на даным этапе.

Зусім няправільнымі зьяўляюцца спробы супроцьпаставіць організацыйна-гаспадарчае замацаваньне далейшаму росту колгасаў. Наадварот, організацыйна-гаспадарчае замацаваньне зьявіцца новым моцным стымулам для ўцягненьня ў колгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і стварыць магчымасьць завяршыць у асноўным суцэльную колектывізацыю ў 1932/33 г., у тэрмін, які ўказаны ЦК УсеКП(б) для раёнаў спажывецкай паласы, да якой адносіцца і БССР. Організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў наносіць рашучы ўдар па кулацкім і рвацкім настроям, дапамагае ачысьціць колгасы ад праперажыткам і рвацкім настроям, дапамагае ачысьціць колгасы ад пралезшых кулацкіх элемэнтаў.

Рашэньне Бюро ЦК КП(б)Б ад 10/Х-31 г., выступленьне тав. Гея, Галадзеда і Шаранговіча на апошнім пленуме ЦК КП(б)Б з прызнаньнем, з усёй бальшавіцкай самакрытычнасьцю, памылак, дапушчаных ЦК у пытаньнях організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў, якія ў свой час правільна крытыкаваў цэнтральны орган партыі „Правда“, кладуць канец непаразуменьням па гэтаму пытаньню і мобілізуюць усю КП(б)Б на бальшавіцкія тэмпы па організацыйна-гаспадарчаму замацаваньню колгасаў.

Рашэньні апошняга пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б па гэтаму пытаньню павінны стаць баявой програмай дзеяньня.

Замацаваньне зьдзельшчыны, організацыя вучоту працы; організацыя брыгад і організацыя абслугоўваньня паасобных вучасткаў колгаснай вытворчасьці, падняцьце вытворчасьці колгаснай гаспадаркі, барацьба за ўраджай і правільнае яго разьмеркаваньне, організацыя партыйна-масавай работы, такія практычныя задачы партыйных організацый у справе організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў.

У сьвеце гэтых задач асабліва значэньне набываюць задачы далейшага ўзмацненьня вясковых партыйных організацый, галоўным чынам, пролетарскага іх ядра, за лік перадавой часткі сельскага пролетарыяту, падняцьце ролі і сьвядомасьці вясковых комуністаў у барацьбе за соцыялізм, за організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў, за соцыялістычнае перавыхаваньне колгасьнікаў, за перамаганьне кулацкіх і рвацкіх тэндэнцый.

Перавыбары партыйных органаў у вёсцы павінна праходзіць пад лёзунгам далейшага ўзмацненьня вясковых партыйных організацый і стварэньня моцных бальшавіцкіх організацый з дастатковым пролетарскім ядром, якія-б змаглі перамагчы ціск дробнаўласьніцкай стыхіі, супроцьстаўляючых гэтай стыхіі пасьлядоўную пролетарскую лінію ў кіраўніцтве колгасным будаўніцтвам і вядучы за сабой колгасную масу па шляху соцыялістычнага перавыхаваньня. Перавыбары партыйных органаў у вёсцы павінны праходзіць пад лёзунгам усямернага ўзмацненьня марксыцка-ленінскага выхаваньня вясковых комуністаў—неабходнейшай умовы для стварэньня вытрыманых партыйных організацый.

Гэтыя задачы могуць быць дасягнуты стварэньнем сапраўдных апорных пунктаў партыйнай работы на вёсцы, у саўгасах, МТС і буйнейшых колгасах. Вось чаму апорнымі пунктамі перавыбарчай кампаніі на вёсцы павінны быць селпаркомы, якія павінны даць прыклад бальшавіцкага правядзеньня перавыбараў партыйных органаў на вёсцы. Вось куды неабходна накіраваць усю ўвагу раённых партыйных організацый. Супроць фармальнага падыходу да сельпарткомаў, супроць тэрыторыяльных „валкомаў", за сапраўдныя апорныя пункты партыйнай работы на вёсцы, — такая важнейшая лінія перавыбараў. Неабходна накіраваць максымум увагі, максымум дапамогі ў сэнсе жывога кіраўніцтва і інструктаваньня сельпарткомаў. Неабходна высунуць да кіраўніцтва сельпарткомамі лепшых людзей, лепшых бальшавікоў з вясковых партыйных організацый. Неабходна ў час перавыбарчай кампаніі організаваць шырокі абмен вопытам работы сельпарткомаў, высоўваючы і распаўсюджваючы лепшы іх прыклад і лепшы вопыт. Асаблівая ўвага павінна быць удзелена перанясеньню вопыту работы апорнай ячэйкі сельпарткому астатнім колгасным ячэйкам, якія ўваходзяць у сельпаркомы, а таксама на організацыю партыйна-масавай работы ў брыгадзе і на паасобных вучастках саўгаснай і колгаснай вытворчасьці, на організацыю партыйных груп і на наладжваньне кіраўніцтва імі.

У цэнтры ўвагі перавыбарчай кампаніі павінна быць палепшаньне агітацыйна-масавай работы партыйных організацый, пастаноўка гэтай работы ў адпаведнасьці з узрослай палітычнай актыўнасьцю рабочай клясы, з узрастаючым патрабаваньнем да якасьці зьместу агітацыі і форм і мэтодаў агітацыйна-масавай працы, а таксама з дыфэрэнцыяцыяй у адносінах новых пластоў рабочых, якія ўліваюцца ў прамысловасьць, перад якімі асабліва важна разгарнуць з дастатковай упэўненасьцю і ў даступнай форме ўвесь размах соцыялістычнага будаўніцтва і контраст дзьвёх сыстэм капіталізму і соцыялізму. Падымаючы зьмест

агітацыі на высокі ідэёвы ўзровень, неабходна ўсямерна палепшыць організацыйныя і мэтодычныя бакі гэтай працы, праводзячы мэтоды адначасовага скарыстаньня ўсіх відаў друкаванай і вуснай агітацыі: клюб, кіно, і г. д., організацыйна замацоўваючы, організуючы агітбрыгады, агітгрупы, распрацоўваючы рад мерапрыемстваў па падрыхтоўцы новых кадраў агітатараў, пераносячы цэнтр цяжару ў цэх, брыгаду. Асаблівую ўвагу неабходна ўдзяліць пастаноўцы агітмасавай работы сярод жанчын, дабівацца большага ўцягненьня працоўных жанчын у прамысловасьць і сельскую гаспадарку і ў актыўнае соцыялістычнае будаўніцтва, разгортваючы сярод іх мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Масавая праца сярод жанчын павінна праявіць асаблівую чуласьць да конкрэтных бытавых патрэб і запатрабаваньняў працоўных жанчын (ясьлі, дзіцячыя сады, лазьні, пральні і г. д.). Перавыбарчая кампанія павінна ўзмацніць работу прыводных рамнёў партыі, профсаюзных і комсамольскіх організацый, узмацніць кіраўніцтва імі з боку парторганізацыі і дапамагчы ў перабудове іх работы ў адпаведнасьці з тымі задачамі, якія стаяць перад партыяй.

Перавыбары павінны забясьпечыць далейшае замацаваньне ўнутрыпартыйнай дэмократыі і разгортваньня сьмелай бальшавіцкай самакрытыкі ў адпаведнасьці з новымі задачамі партыйнай работы і партыйнага кіраўніцтва. Зусім ясна, што перавыбары партыйных органаў будуць праходзіць у абставінах павышаных патрабаваньняў партыйнай масы да сваіх кіруючых органаў. Партыйныя організацыі павінны даць рашучы адпор усялякім спробам зажыму самакрытыкі, спробам замазаць недахопы ў рабоце партыйных оргнаў і ў рабоце гаспадарчых і профсаюзных організацый. Неабходна стварыць такія ўмовы ўнутрыпартыйнай дэмократыі, разгортваньне якіх забясьпечыла-б правільнае адбіцьцё ўзросшых патрабаваньняў да партыйнага кіраўніцтва і ўзросшай актыўнасьці комуністаў. У рашэньнях і рэзолюцыях, якія будуць прымацца на справаздачных сходах партыйных органаў, трэба ўзмацніць парторганы і бальшавіцкі вытрыманымі людзьмі, выбіраючы ў кіруючыя органы партыі лепшых комуністаў, рабочых і колгасьнікаў, ударнікаў, якія дастаткова правераны ў барацьбе за генэральную лінію партыі, якія здольны організаваць масы і стаць на чале руху мас на барацьбу за бальшавіцкія тэмпы, за бальшавіцкае перамаганьне цяжкасьцяў, на пабудову соцыялізму. Толькі з гэтым асноўным крытэрыем неабходна падыйсьці да кожнай кандыдатуры і ніякія „прадставіцельскія інтарэсы“ альбо навязваньне кандыдатур ня могуць быць супроцьстаўлены гэтаму крытэрыю.

Вышэйстаячыя партыйныя органы павінны строга сачыць за правядзеньнем унутрыпартыйнай дэмократыі, адмяняючы выбары там, дзе мела месца простае альбо ўскоснае парушэньне ўнутрыпартыйнай дэмократыі альбо зажым самакрытыкі.

Ва ўсю шырыню павінна быць пастаўлена проблема палепшаньня якасьці партыйнай работы і партыйнага кіраўніцтва. Гэта раней за ўсё значыць узмацненьне конкрэтнасьці і опэрацыйнасьці кіраўніцтва, памяншэньне папяровага кіраўніцтва і агульных рэзолюцый, больш штодзеннай работы па правільнай расстаноўцы партыйных сіл, гэта, нарэшце, азначае аўладаньне тэхнікай той галіны гаспадарча-культурнага будаўніцтва, якой павінна кіраваць партыйная організацыя. У сьвеце гэтай задачы набывае вялізарнае значэньне пытаньне росту партыі і марксыцка-ленінскага выхаваньня комуністаў, бо падняцьце якасьці партыйнай працы і партыйнага кіраўніцтва залежыць у значнай ступені ад якасьці радоў партыі, ад ступені ідэёва-тэорэтычнай

падрыхтоўкі іх. Узмацненьне радоў КП(б)Б павінна ісьці, з аднаго боку, па лініі ўцягненьня ў партыю перадавых рабочых, старых рабочых з вытворчасьці ўдарнікаў, а таксама лепшых колгасьнікаў правераных у клясавай барацьбе, галоўным чынам, з батракоў і бяднейшых пластоў, з другоўа боку — па лініі марксыцка-ленінскага выхаваньня новых папаўненьняў радоў партыі. Асаблівую ўвагу ў час перавыбарчай кампаніі неабходна ўдзяліць разгортваньню сеткі масава-партыйнай вучобы, 100-проц. уцягненьня ў вучобу кандыдатаў КП(б)Б і забясьпечаньня высокай якасьці вучобы.

Правядзеньне ленінскай нацыянальнай політыкі зьяўляецца аднэй з умоў правядзеньня генэральнай лініі партыі, а таму перавыбары партыйных органаў павінны быць аглядам барацьбы партыйных організацый за правядзеньне нацыянальнай політыкі партыі, аглядам барацьбы супроць усялякіх ухілаў: супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, супроць нацыянал-дэмократызму, яўрэйскага і інш. шовінізмаў, а таксама аглядам практычнай работы партыйных організацый па нацыянальна-культурнаму будаўніцтву, па ўцягненьню ў гэта будаўніцтва рабочае клясы. Асабліва неабходна падкрэсьліць уменьне партыйных організацый стаць на чале руху рабочых мас за добраахвотнае аўладаньне беларускай мовай і літаратурай. Максымум увагі павінна быць удзелена палепшаньню культурнага абслугоўваньня рабочых сярод нацыянальных меншасьцяй і інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных мас.

Перавыбары партыйных органаў павінны яшчэ больш узмацніць сувязь партыі з шырокімі масамі працоўных гораду і вёскі і павінны праходзіць пры шырокім прыцягненьні беспартыйных рабочых і колгасьнікаў. Вось чаму вялікае значэньне павінны набыць пытаньні організацыі і мэтодаў правядзеньня перавыбарчай кампаніі і мэтоду прыцягненьня да перавыбараў шырокіх працоўных мас. Асноўнымі мэтодамі прыцягненьня беспартыйных павінна быць пастаноўка дакладаў партыйных органаў аб сваёй рабоце на спэцыяльных сходах і конфэрэнцыях рабочых і колгасьнікаў, правядзеньне гутарак і прыцягненьне беспартыйных рабочых і колгасьнікаў на справаздачна-перавыбарчыя партыйныя сходы. Адным з мэтодаў прыцягненьня беспартыйных мас зьяўляецца організацыя шырокага паказу дасягненьняў партыйных організацый у ажыцьцяўленьні генэральнай лініі партыі; у барацьбе за прамфінплян; у выкананьні вытворчых задач саўгасаў і колгасаў; паказ дасягненьняў фабрык і заводаў; іх рост, посьпехі па аўладаньню тэхнікай, па падняцьцю вытворчасьці працы, палепшаньню якасьці продукцыі, паказ герояў працы — лепшых ударнікаў. Паказ неабходна праводзіць шляхам організацыі на прадпрыемствах, у саўгасах і колгасах выставак дыяграм, плякатаў, модэляй, фотографій і г. д Асабліва важнае месца ў перавыбарчай кампаніі і ў організацыі паказу павінен заняць нізавы фабрычна-заводзкі, саўгасны і колгасны друк, які павінен організаваць армію рабкораў і селькораў у справе паказу нашых дасягненьняў, лепшага вопыту і прыкладу, а таксама адсталых вучасткаў і недахопаў у нашай рабоце. Асаблівую ўвагу ўдзяліць афармленьню газэты, зрабіць яе ўпэўненай, каб яна сапраўды паказвала і організоўвала наваколнашых дасягненьняў шырокія працоўныя масы. Партыйныя організацыі павінны максымальна ўзмацніць кіраўніцтва і дапамогу нізавому друку.

Партыйныя організацыі павінны дабівацца 100-проц. уцягненьня комуністаў як на справаздачныя, так і на перавыбарчыя сходы, праводзячы ўсю работу па цэхах і па зьменах. Неабходна організаваць

шырокі абмен вопытам партыйнай работы і партыйнага кіраўніцтва, вопытам гаспадарчага і культурнага будаўніцтва паміж паасобнымі цэхамі, прадпрыемствамі, саўгасамі, колгасамі і МТС, шляхам організацыі супольных сходаў, абменам брыгад, дакладчыкамі, плянамі работ і г. д. Неабходна організаваць соцыялістычнае спаборніцтва паміж паасобнымі партыйнымі організацыямі на лепшае правядзеньне перавыбарчай кампаніі, на лепшую мобілізацыю мас. Гаркомы і Райкомы КП(б)Б павінны паказаць прыклад опэрацыйнага кіраўніцтва перавыбарчай кампаніяй, праяўляючы чуласьць і аказваючы неабходную дапамогу паасобным організацыям, асабліва вядучым цэхам, прадпрыемствам і адсталым прадпрыемствам. Неабходна концэнтраваць увагу на высоўваньне лепшых форм і мэтодаў правядзеньня перавыбарчай кампаніі, якія павінны забясьпечыць сапраўдную мобілізацыю шырокіх працоўных мас на барацьбу за генэральную лінію партыі. Партыйныя організацыі Беларусі павінны па-бальшавіцку правесьці перавыбары сваіх партыйных органаў.

---

Югаў

# Партыя і падрыхтоўка Кастрычніцкай рэволюцыі на Беларусі

Нясумненна Кастрычніцкую рэволюцыю можна зразумець толькі пры вывучэньні яе, як рэволюцыі адзінай на ўсёй тэрыторыі ранейшай Расійскай імпэрыі, меўшай адзіную задачу — задачу заваёвы ўлады пролетарыятам для пабудовы социялістычнай дзяржавы — і перамогі адзінага, або правільней, аднаго аб'яднанага ворага—блёк памешчыцкіх і буржуазных сіл і верхавінкі дробнай буржуазіі. Усякія спробы вывучаць ізолявана процэс Кастрычніцкай рэволюцыі на Украіне, Беларусі, Сярэдняй Азіі, Сібіры і г. д., спробы ствараць асобныя схэмы украінскай, беларускай і інш. рэволюцый няправільны ўжо таму, што прабуюць паказаць справу так, як быццам-бы мы мелі справу з нацыянальна-падзеленым пролетарыятам, у кожнай нацыянальнай рэспубліцы вёўшым нібы сваю самастойную барацьбу і толькі контактаваўшым сваю барацьбу з пролетарыятам суседняй нацыянальнай рэспублікі. Да гэтага не дагаварваюцца, аднак, і самыя заядлыя нацыяналухілісты. Процэс Кастрычніцкай рэволюцыі на ўсёй тэрыторыі ранейшай імпэрыі прыходзіцца разглядаць, як адзіны процэс, хаця-б ужо таму, што задача зьвяржэньня адзінага буржуазна-імпэрыялістычнага ўраду Керанскага, потым задача разгрому буржуазна-памешчыцкай контррэволюцыі і адпору замежнай інтэрвэнцыі патрабавала самага цеснага саюзу пролетараў усіх нацыянальнасьцяй, іх адзінага і організацыйнага аб'яднаньня вакол аднэй партыі.

Уся гісторыя Кастрычніцкай рэволюцыі, увесь вопыт грамадзянскай вайны, уся дзейнасьць дробна-буржуазнай і буржуазна-кулацкай нацыяналістычнай контррэволюцыі неабвержна сьведчыць, што перад прыгнечанымі народамі былі толькі два шляхі — або шлях социялістычнай рэволюцыі, які забясьпечваў ня толькі нацыянальную незалежнасьць, але і магутны культурны і гаспадарчы ўздым адсталых і раней прыгнечаных народаў, — або шлях ператварэньня ў той ці іншай форме ў колёнію міжнароднага імпэрыялізму.

Кастрычніцкую рэволюцыю нельга разглядаць, як простыя злучэньні *паасобных,* хаця-б і пролетарскіх па сваім характары рэволюцый у Расіі, на Украіне, у Беларусі, на Каўказе, Сярэдняй Азіі, нельга разглядаць барацьбу за ўмацаваньне пролетарскай рэволюцыі пад кутом погляду ўзаемнай дапамогі *ізолявана дзейнічаючых* нацыянальных атрадаў пролетарыяту. Асноўны вораг — вялікадзяржаўная буржуазна-памешчыцкая рэакцыя—апіраўся ня толькі на матэрыяльныя сілы і ваенныя атрады чужаземнгга імпэрыялізму, але і на рэакцыйныя

рухі нацыяналістычных контррэволюцыйных сіл. Об'ектыўна адзінанепадзельная расійская контррэволюцыя, ня гледзячы на часамі вострыя конфлікты, знаходзілася ў саюзе з дробна-буржуазнай, нацыяналістычнай контррэволюцыяй у сваім змаганьні з соцыялістычнай рэволюцыяй. Рабочая кляса, якая кіруецца партыяй бальшавікоў, адзінай партыяй рабочых усіх нацыянальнасьцяй, дабілася вызваленьня прыгнечаных раней расійскім ваенна-фэўдальным і капіталістычным імпэрыялізмам народаў, у барацьбе ня толькі супроць Калчака, Дзянікіна, Юдзеніча, Урангеля, ня толькі супроць нямецкіх окупантаў і англафранцуска-япона-амэрыканскай інтэрвэнцыі, але і супроць украінскіх, беларускіх, татарскіх, грузінскіх, узбекскіх і інш. нацыяналістаў, уваходзіўшых у просты саюз і з замежнымі інтэрвэнтамі, з белагвардзейскімі ўрадамі.

Лёс нацыянальнага разьзьняволеньня вырашаўся ня толькі на паасобных нацыянальных вучастках фронту грамадзянскай вайны, а кожны раз ён вырашаўся на тым вучастку фронту грамадзянскай вайны, які быў рашаючым для лёсу ўсёй Кастрычніцкай рэволюцыі.

Лёс нацыянальна-разьняволенай Беларусі ў 1918 годзе вырашаўся ня толькі сутычкамі з нямецкімі атрадамі на граніцах окупаваных раёнаў Беларусі, але і лёсам чэха-славацкага, а потым Калчакоўскага фронту на Урале, пытаньне аб тым, будзе, ці ня будзе існаваць самастойная Беларусь у 1919 годзе вырашалася ня толькі лёсам узброенага змаганьня з белапалякамі, а і ў залежнасьці ад лёсу паходу Дзянікіна на Маскву і Юдзеніча на Петраград.

Увесь вопыт і ўся гісторыя грамадзянскай вайны пацьвярджае палажэньне Леніна, што „пролетарскі інтэрнацыяналізм вымагае падпарадкаваньня інтарэсаў пролетарскай барацьбы ў адной краіне інтарэсам барацьбы ў сусьветным маштабе". Толькі выходзячы з абароны адзінай Кастрычніцкай рэволюцыі на ўсёй ранейшай тэрыторыі імпэрыі, рабочая кляса пад кіраўніцтвам партыі дабілася забесьпячэньня за раней прыгнечанымі народамі самастойнага дзяржаўна-нацыянальнага савецкага будаўніцтва.

Вывучэньне Кастрычніцкай рэволюцыі як адзінай магчыма, аднак, толькі пры дакладным вывучэньні ўсіх істотных асаблівасьцяй Кастрычніцкай рэволюцыі ў розных краёх. „Адзінства інтэрнацыянальнай тактыкі комуністычнага рабочага руху ўсіх краін патрабуе не ўстраненьня рознастайнасьці, не ўстраненьня нацыянальных адрозьненьняў (гэта недарэчная мара для данага моманту), а такога ўжываньня *асноўных* прынцыпаў комунізму... якое-б *правільна відазьмяняла* гэтыя прынцыпы *ў прыватнасьцях*, правільна дастасоўвала, ужывала іх да нацыянальных і нацыянальна-дзяржаўных адрозьненьняў" (Ленін).

Адмаўленьне гэтай сваяасаблівасьці, або зьвядзеньне яго да такіх-жа адрозьненьняў, як паміж ходам рэволюцыі ў Арлоўскай і Уладзімерскай губ., Калускай і Цьвярской, або нават да адрозьненьняў, якія існавалі на Дону і ў Сібіры ёсьць нішто іншае, як адмаўленьне самастойнага існаваньня беларускага народу, ёсьць праява вялікадзяржаўна-колёнізатарскага падыходу да вывучэньня Кастрычніцкай рэволюцыі. Само сабой зразумела, што як адзін, так і другі падыход да гісторыі Кастрычніцкай рэволюцыі, як спроба ізоляваць разглядаць нейкую асобную беларускую Кастрычніцкую рэволюцыю, так і спроба пры вывучэньні Кастрычніка на Беларусі ігнараваць асаблівасьці і адрозьненьні барацьбы ў нацыянальнай рэспубліцы, або зводзіць іх да вузка-месьніцкіх адрозьненьняў маюць простую сувязь з абодвума асноўнымі ўхіламі ў нацыянальнай політыцы і зьяўляюцца адлюстра-

ваньнем і праявай клясавай барацьбы. Падобнага роду скажэньні, ня гледзячы на розную аргумэнтацыю і матывіроўку, незалежна ад розных выходных пунктаў і політычных установак іх аўтараў, часамі пераплятаюцца самым дзіўным чынам. Асабліва наглядна гэта праявілася ў пытаньні аб рухаючых сілах Кастрычніцкай рэволюцыі на Беларусі і ў пытаньні аб ролі партыі.

* * *

Беларусь — сялянская краіна з амаль поўнай адсутнасьцю пролетарыяту і прышлай чужаземнай буржуазіяй — такое адно з асноўных цьверджаньняў і нацыянал-дэмократызму і вялікадзяржаўніцтва. Падобнае палажэньне, на жаль, знайшло сабе месца і ў некаторых з аўтараў-комуністаў. Так, напрыклад, адзін тав. у артыкуле ў „Большой Советской Энциклопедии“ проста піша аб адсутнасьці прамысловага пролетарыяту к часу рэволюцыі і аб тым, што вайна зьнішчыла індустрыю на Беларусі і г. д. Але ясна, што калі ня было рабочай клясы, дык ня было і грунту для Кастрычніцкай рэволюцыі ўнутры краіны, ня было і ґрунту для існаваньня і работы бальшавіцкіх організацый.

Нацыяналісты і вялікадзяржаўнікі сапраўды прабавалі паказаць увесь бальшавізм на Беларусі, як наноснае зьявішча, асноўнае бальшавіцкае ядро, як свайго роду ворагаў і самую Кастрычніцкую рэволюцыю на Беларусі, як выкліканую ўмовамі фронту і зробленую рукамі салдацкай масы, якая прагне міру, але ня меўшай ніякіх адносін да Беларусі і беларускага народу.

Клясава-варожы сэнс гэтых концэпцый ясны бяз доўгіх разважаньняў, але наша задача, задача гісторыкаў-бальшавікоў павінна заключацца ў тым, каб на пільным вывучэньні фактычнага матэрыялу паказаць усю недарэчнасьць і хлусьлівасьць памянёных концэпцый. Ці была бальшавіцкая організацыя наносным зьявішчам у Беларусі? Адказ на гэта пытаньне павінна даць вывучэньне дзейнасьці бальшавіцкіх Паўночна-Заходняга і Палескага Камітэтаў, бальшавіцкіх організацый у гады рэакцыі, праўдзісцкай організацыі і праўдзісцкіх груп у пэрыод уздыму рэволюцыйнай барацьбы. Але ўжо факт наяўнасьці на тэрыторыі Беларусі раду бальшавіцкіх організацый і груп (Вільна, Гомель, Менск, Беласток, Магілеў і інш.) перад вайной паказвае ўсю бяссэнсоўнасьць спробы зьвязаць дзейнасьць бальшавіцкіх організацый выключна з умовамі фронту. Досыць сказаць, што па даных, напрыклад, анкеты дэлегатаў VI партыйнага зьезду з 171 дэлегата (з якіх 158 дэлегатаў працавала ў бальшавіцкіх організацыях з 1915 году і раней) 15 таварышоў указала на гарады Беларусі, як на цэнтры, дзе, галоўным чынам, працякала іх партыйная дзейнасьць. Умовы работы профэсіянала-рэволюцыянэра (а дадаткова і ваенныя ўмовы) спрыялі таму, што бальшавіцкія кадры, якія складаліся на мясцох, хутка разьмяталіся, разганяліся, зьбіраліся ў іншых цэнтрах. Вось прычына, а не таму, што ня было глебы для мясцовых організацый, або ня было іх саміх, на чале бальшавіцкай організацыі ў 1917 годзе сталі таварышы, ня зьвязаныя пераемна з папярэдняй бальшавіцкай работай у краіне.

Але ці не стварылася такое становішча перад рэволюцыяй, калі вайной былі зьнішчаны самыя прадпасылкі партыйнай організацыі і работы? Ці не аказалася прамысловасьць Беларусі зусім разгромленай ваеннымі дзеяньнямі, а тыя пролетарскія масы, якія былі тут да

вайны, ці не аказаліся распыленымі, абяскроўленымі, абясьсіленымі? Падобнага роду думкі праскальзваюць і ў работах некаторых гіторыкаў-комуністаў. Думка гэта, аднак, зусім не адпавядае сапраўднасьці. Правільна, што вайна нанесла жорсткі ўдар па ўсіх галінах прамысловасьці, так ці інакш ня зьвязаных з абслугоўваньнем вайны. Але з другога боку вайна-ж садзейнічала організацыі новых прадпрыемстваў, рэорганізацыі старых і г. д., г. зн. іншымі словамі вайна стварала ваенную прамысловасьць. Вялізарныя армейскія і франтавыя ваенна-тэхнічныя базы (у Гомелі, Бабруйску, Віцебску, Менску, Воршы) па сутнасьці таксама былі ваеннымі заводамі і фабрыкамі. Аўтомобільныя, артылерыйскія майстэрні, усякага роду рамонтныя і пачыначныя фабрыкі, сетка прамысловых прадпрыемстваў, створаных Земскім Саюзам і Саюзам гарадоў—усё гэта ўпітвала значную частку індустрыяльнага і ра-месьніцкага пролетарыяту, што заставаўся без работы, брала вялізныя масы пролетараў з беларускай вёскі, якія звычайна накіроўваліся ў Піцер, Маскву і г. д. Наколькі значную ролю мелі такога роду работы, відаць з таго, што ў організацыях (Земскі Саюз, Саюз гарадоў і інш.) налічвалася ўвесну 1917 году на эксплёатацыі і разьвіцьці чыгунак 140 тысяч чалавек, на грунтавых і водных шляхох 77 тысяч, на лясных загатоўках—45 тысяч чалавек, г. зн. звыш чвэрці мільёна на дарожных і лясных работах. Бязумоўна, павялічыўся ў колькасных адносінах і адзін з асноўных атрадаў індустрыяльнага пролетарыяту ў Беларусі—чыгуначныя рабочыя. Да гэтага трэба дадаць і тое, што концэнтрацыя вялізарнай салдацкай арміі азначала концэнтрацыю таксама і значнай рабочай праслойкі ў ёй (часткова проста занятай ў ваеннай індустрыі—ва ўсякага роду ваенна-тэхнічных прадпрыемствах), а разам з ёй і концэнтрацыю значнай і моцнай групы партработнікаў, якія працягвалі ў часе рэволюцыі лінію разьвіцьця бальшавіцкіх організацый у Беларусі (Мясьнікоў, Фрунзэ, Кнорын, Любімаў, Позэрн, Ландэр і інш.).

Наколькі недарэчнымі зьяўляюцца гутаркі аб адсутнасьці пролетарыяту на Беларусі да часу вайны, паказваюць факты з гісторыі рабочага руху ў 1917 годзе. У першую-ж дэкаду сакавіка 1917 г. у Менску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску, Воршы, Полацку стварыліся Саветы Рабочых Дэпутатаў. На пасяджэньні Менскага Савету 5 сакавіка прысутнічалі прадстаўнікі ад 23 буйных прадпрыемстваў з агульным лікам рабочых звыш 9 тысяч (з іх $1^1/_2$ тыс. рабочых чыгуначных майстэрань і 500 рабочых папяроснай фабрыкі). У Гомелі ўжо 6 сакавіка быў організаваны Савет, на пасяджэньні якога прысутнічала 135 дэлегатаў, якія прадстаўлялі 25 тысяч салдат і рабочых (на жаль, лістоўка Савету, з якой мы бярэм гэтыя даныя, не паказвае асобна ліку рабочых), Віцебскі Савет у першыя-ж тыдні рэволюцыі аб'яднаў да 12 тысяч рабочых (з іх да 4 тыс. чыгуначнікаў). У Бабруйску ўжо 5 сакавіка быў організаваны Часовы камітэт для організацыі Савету рабочых Дэпутатаў, у Воршы Савет быў організаваны 8 сакавіка і да пачатку красавіка аб'яднаў $3^1/_2$ тысячы рабочых, у Полацку Савет у першы-ж час аб'яднаў звыш 3 тысяч рабочых і г. д. К часу Кастрычніцкага перавароту на Беларусі налічвалася звыш 30 рабочых Саветаў. Ня ўсе гэтыя Саветы былі аднолькава жыцьцяздольнымі і баяздольнымі, некаторыя з іх насілі на сабе рэзкі адпячатак перавагі саматужных і рамесьніцкіх груп, але пры ўсім гэтым хіба-ж паданыя намі факты сьведчаць аб адсутнасьці рабочае клясы на Беларусі?

Ня менш цікавыя лічбы можна прывесьці і ў адносінах профэсіянальнай організаванасьці рабочых. Ужо да чэрвеня 1917 году ў Віцеб-

ску налічвалася 7.800 профэсіянальна арганізаваных рабочых, у Менску цэнтральнае бюро профсаюзаў аб'яднала звыш 6.000 рабочых, у Гомелі цэнтральнае бюро яднала да 9.000 чалавек (а ўсяго ў профсаюзах налічвалася да 13 тысяч членаў). Усё гэта даныя бяз чыгуначнікаў і рабочых, занятых на ваенна-будаўнічых і лясных работах. Ужо к канцу мая (паводле даных анкеты арганізацый, прадстаўленых на паўночна-заходняй конфэрэнцыі Бунду) у 26-ці пунктах налічвалася 126 профсаюзаў з лікам членаў у 35 тысяч, да гэтага ліку трэба дадаць да 8 тысяч профэсіянальна-арганізаваных чыгуначнікаў. К канцу-ж 1917 г. толькі тры цэнтры—Гомель, Віцебскі і Менск налічвалі, паводле даных 1 Усерасійскага зьезду профсаюзаў, 36 тысяч членаў профсаюзаў. Да гэтых лічбаў трэба яшчэ дадаць лік членаў саюзу рабочых і служачых „Техностроя“ Заходняга фронту і Камітэту аб'яднаных работнікаў Усерасійскага Земскага Саюзу Заходняга фронту, што налічвалі да кастрычніка 1917 году першы 60 тысяч і другі—45 тысяч. Ці сьведчаць зноў-ткі гэтыя лічбы аб адсутнасьці да часу рэволюцыі рабочае клясы на Беларусі?

Пры разглядзе пытаньня аб унутраных, так сказаць, сілах Кастрычніцкай рэволюцыі на Беларусі нельга, аднак, абмяжоўвацца аналізам становішча ў рабочай клясе, як гэта робяць некаторыя таварышы. Беларуская вёска ні ў якой меры не зьяўлялася „потусторонней“ сілай для лёсаў Кастрычніка. Вялізная перавага буйнога зямляробства (у 1905 г. у 5 беларускіх губэрнях налічвалася больш двух тысяч буйнейшых маёнткаў, звыш тысячы дзесяцін кожны, з агульнай плошчай у $8^1/_2$ млн. дзесяцін, у адной Менскай губ. да 1917 г. было 43 маёнткі памерам звыш 10 тысяч дзесяцін з агульнанай плошчай у 1.131 тыс. дзесяцін), нізкі процант сялянскіх надзельных зямель (у сярэднім па беларускіх губэрнях ніжэй 40 проц., а ў Менскай усяго 24 проц.)—ужо гэтыя факты самі па сабе павінны былі, абвастраючы і форсуючы сялянскую вайну на Беларусі, аблегчыць для пролетарыяту і яго партыі пранікненьне ў вясковыя масы, павінны былі спрыяць росту партыйнага ўплыву ў найбольш блізкіх пролетарыяту пластох сялянскіх мас у пэрыод барацьбы за ўладу. Але і самы тып аграрна-капіталістычнага разьвіцьця руйнаваў вялізарныя масы сялянства. Сялянская гаспадарка да рэволюцыі падлягала даволі шпаркаму процэсу дыфэрэнцыяцыі, вылучала адносна значную капіталістычную верхавіну на адным полюсе і ператварала на другім полюсе ў пролетараў нязьмерна большую па колькасьці частку сялянства.

Павольнае прамысловае разьвіцьцё Беларусі не магло, зразумела, паглынуць вялізарныя масы, якія хутка выпіхаліся з сельска-гаспадарчай вытворчасьці, і тут, як і ўсюды, пры контррэволюйным вырашэньні аграрнага пытаньня процэс капіталізацыі сельскай гаспадаркі ў яшчэ большай меры суправаджаўся процэсам паўпэрызацыі вёскі. Гэта значыць, што побач з прогрэсам і ростам у гаспадарках буржуазнай верхавіны вёскі адбываўся ня толькі і нястолькі процэс ператварэньня селяніна-бедняка ў пастаяннага рабочага, але ў значна большай ступені процэс зьбядненьня сялян. Гэты процэс атрымаў сваё выяўленьне ў вялікай аграрнай перанаселенасьці, у раздробленасьці зямельных вучасткаў (ужо да 1905 г. 10 проц. сялянскіх двароў Магілеўскай губ., і 12 проц. сялянскіх двароў Менскай губ. мелі надзел менш 5 дзес. на двор), у бясконьніцы сялянскіх гаспадарак (па ваенна-конскім перапісу 1912 году ў Віленскай губ. было 25 проц. бясконных двароў, Гродзенскай—22 проц. Менскай—21 проц. Віцебскай—18 проц.), у перасяленьні ў Сібір, эміграцыі ў Амэрыку, у адыходніцтве, якое вылічвалася па

трох губэрнях—Магілеўскаў, Віцебскай і Менскай—да паўмільёна штогод.

Такім чынам, рост буржуазных адносін у беларускай вёсцы да рэволюцыі ня зьнішчаў прыгоньніцкіх перажыткаў, а злучаўся з імі, нават з іх ростам і разьвіцьцём па-першае, і з ростам батрацтва, ростам пролетарскай і паўпролетарскай часткі вёскі, па-другое. Вайна яшчэ больш абвастрала гэты процэс. Такім чынам, у беларускай вёсцы пролетарыят мог знайсьці вельмі сур'ёзнага па колькасьці і даволі трывалага саюзьніка і ў барацьбе за ўладу. Невыпадкова на Беларусі мы мелі больш высокую ступень і палітычнага і організацыйнага ўплыву пролетарыяту і яго партыі на сялянскі рух чым у другіх частках былой Расіі. Умовы фронту тут самі па сабе, без разгледжаньня становішча ўнутры беларускай вёскі, нічога ня тлумачыць. Ніякія франтавыя ўмовы ня могуць вытлумачыць, чаму ўжо ў сакавіку мы маем факты стварэньня батрацкіх камітэтаў у маёнтках, якім чынам бальшавіцкі Менскі савет організуе к лету батракоў некалькіх дзесяткаў маёнткаў. Ясна, што пры разгледжаньні пытаньня аб сілах рэволюцыі на Беларусі нельга ігнораваць пытаньня аб моцы сельска-гаспадарчага пролетарыяту, аб ступені і характары распластаваньня беларускай вёскі.

Наколькі-ж шырока пашырыўся ўплыў бальшавікоў у рабочым і сялянскім руху? Як моцны ён быў у саветах? У якой меры іменна бальшавіцкія організацыі кіравалі падрыхтоўкай і бойкамі за Кастрычнік?

Зразумела, нават самы кароткі адказ на гэтыя пытаньні вымагае папярэдняй і колектыўнай работы, работы тым больш складанай і цяжкой, што мы сутыкаемся з поўнай адсутнасьцю партыйных архіваў за гэты пэрыод і з амаль поўнай адсутнасьцю на Беларусі архіўных і газэтных фондаў па гісторыі рэволюцыі. Наяўныя даныя не дазваляюць устанавіць поўнасьцю нават малюнак географічнага распаўсюджваньня партыйных організацый. Першай організацыйна-аформленай, як бальшавіцкай, організацыяй была *Гомельская*, яе ўплыў быў моцны першы час у вайскова-тэхнічных базах, дзе значны процант салдат складаўся з рабочых. Ужо 1-га мая організацыя выступала са сваімі самастойнымі лёзунгамі, а пасьля ў чэрвені праводзіла самастойна і муніцыпальныя выбары, правёўшы па сваім сьпісе 5 гласных. Уплыў організацыі на Савет быў у першыя часы слабым—хаця на сходзе савету 25-га красавіка і ўдалося, пад бясспрэчным уплывам бальшавікоў, правесьці папраўку да рэзолюцыі Вык. Каміт. Савету, якая настойвала на апублікаваньні тайных дагавораў, але гэты посьпех быў эпізодычным. На пленуме Савету 6-га чэрвеня, напрыклад, дзе бальшавікі супроцьставілі сваю рэзолюцыю аб „пазыцы свабоды" рэзолюцыі Вык. Камітэту Савету, ім удалося сабраць толькі 10 галасоў. Вялізарная стыхія дробна-буржуазных ілюзій захліснула краіну, прасякнула ў значную частку рабочай клясы, зрабіла ўплыў, іншы раз даволі моцны і на асобныя праслойкі ў партыйнай організацыі, іншы раз нават на партыйныя організацыі.

Толькі пасьля ліпеньскай рэакцыі, пасьля наступленьня, пасьля распачатых рэпрэсій у адносінах масавага сялянскага руху, пасьля контр-наступленьня прадпрыемцаў на рабочых, якое выразілася ў частковым лёкаўце, у зьніжэньні рэальнай зарплаты, у барацьбе з рабочымі організацыямі, сьвядомай дэзорганізацыі вытворчасьці і г. д.; толькі пасьля таго, як поўнасьцю для мас высьветлілася сапраўдная сутнасьць асноўных дробна-буржуазных партый, як дапаможнікаў буржуазнага імпэрыялізму, пасьля таго, як мільённыя масы на ўласным вопыце пераканаліся, што дэмократычная фразэолёгія і пара-другая

„соцыялістычных“ міністраў нічога не зьмяняюць у імпэрыялістычным характары ўнешняй, аграрнай, нацыянальнай, экономічнай політыцы ўраду, толькі пасьля гэтага намеціўся круты пералом у настроі мас у карысьць бальшавікоў.

Крах дробна-буржуазных ілюзій, які ў нас разам з тым і адзначаў крах дробна-буржуазных партый наогул, штурхаў самыя шырокія масы працоўных на шлях барацьбы з буржуазным імпэрыялізмам і дазволіў партыі, якая ўбірала ў сябе найбольш перадавыя і энэргічныя элемэнты пролетарыяту і бяднейшага сялянства, стаць на чале гэтай народнай стыхіі. Ліпень і жнівень усюды зьяўляюцца пераломнымі месяцамі *ў настроях* мас, але шырокая організацыя мас, у тым ліку і концэнтрацыя пролетарскіх сіл, шпаркае пашырэньне партыйнай організацыі, заваёва большасьці ў профсаюзах, заваёва большасьці ў саветах—гэты процэс (выключаючы, зразумела, асноўныя індустрыяльныя раёны краіны, дзе гэты процэс адбыўся да ліпня) падае, галоўным чынам, ужо на пасьлякарнілаўскі пэрыод—на верасень і кастрычнік месяцы. Гэта-ж самае адбывалася і ў Гомелі.

Партыйная організацыя з ліпня да сярэдзіны верасьня павялічылася больш чым у два разы (з 400 да 820); абарончая большасьць у Савеце, якая, праўда, вісела на валаску і ў канцы жніўня, да верасьня, зьнікла. У першы час у большасьці знаходзіўся свайго роду блёк паміж левымі эсэрамі, якія імкнуліся перахапіць масы, што ішлі да бальшавікоў, і бальшавікамі, якія не пасьпявалі організацыйна аформіць свой уплыў і організацыйна замацаваць намечаны пералом. Політычна, аднак, бальшавікі становяцца кіруючай сілай у Гомелі. Але калі Гомель і быў першай аформленай бальшавіцкай організацыяй, дык цэнтральнае значэньне ў ходзе ўсёй барацьбы па ўстанаўленьні савецкай улады на Беларусі мела *Менская* організацыя. Менск аказаўся натуральным цэнтрам Беларусі, тут знаходзіўся штаб фронту, усе цэнтральныя ваенныя ўстановы, тут знаходзіліся цэнтры ўсіх франтавых буружазна-політычных установў (Земсаюз, Саюз гарадоў) і нядзіўна, што Менская партыйная організацыя—першапачаткова бальшавіцкая фракцыя Менскага Савету—адыграла ролю політычнага цэнтру для Заходняга фронту і амаль усёй Беларусі. Абласны партыйны цэнтр хоць і быў створаны толькі ў сярэдзіне верасьня, але ўжо з мая можна разглядаць дзейнасьць Менскай організацыі, як цэнтральную для краю.

Самастойная бальшавіцкая організацыя стварылася тут пазьней,—толькі ў сярэдзіне чэрвеня,—хаця фракцыйны бальшавіцкі цэнтр існаваў ужо з сярэдзіны мая. Прычыны ненормальнага сужыцьця ў аднэй організацыі з меншавікамі заключаюцца тут як у агульных прычынах—сіле аб'яднальных ілюзій у многіх партыйных організацыях, у ня зусім ясным уяўленьні аб пэрспэктывах і напрамку разьвіцьця, так і ў асаблівых—апрача ядра пасьлядоўных бальшавікоў, у організацыі аказалася даволі многа бальшавіцтвуючых, інтэрнацыяналісцкіх элемэнтаў (пазьней у вялізарнай большасьці яны ў сапраўднасьці далучыліся да партыйнай організацыі). Рваць з меншавікамі, па думцы гэтых таварышоў, гэта значыла рваць і з гэтымі элемэнтамі, і, вядомым чынам, сябе як-бы ізоляваць, між тым, як застаючыся ў межах аб'яднанай організацыі можна было-б дабіцца вядомай перавагі інтэрнацыяналісцкіх элемэнтаў. Гэтая ўстаноўка была няправільнай. Ядро пэўных бальшавікоў ня толькі ўвайшло спачатку ў аб'яднаную організацыю, але і стушавалася там, не супярэчачы правядзеньню расплывчата-меншавіцкіх політычных рэзолюцый і меншавіцка-лібэраль-

най пропагандзе бязумоўнага аб'яднаньня. Яшчэ ў пачатку красавіка на ўсерасійскую партыйную конфэрэнцыю пасылаліся дэлегаты з наказам—патрабаваць аб'яднаньня разарваных частак некалі адзінай соцыял-дэмократыі. Але іменна з гэтага часу і пачынаюцца першыя самастойныя бальшавіцкія выступленьні. Так, на пленуме Менскага савету 22-га красавіка невялікая група (9 чал.) дэпутатаў парушае ўстаноўленае дагэтуль аднадушша ў політычных пытаньнях і ўстрымліваецца пры абмеркаваньні красавіцкіх падзей. Праз некалькі дзён мы сустракаемся ўжо з іншым фактам—на вялікім мітынгу 2.000 салдат 27-га красавіка прымаецца рэзолюцыя, дзе побач з далучэньнем да пастаноў Усерасійскай савецкай нарады патрабуецца *безадкладнае* апублікаваньне тайных дагавораў і прыступленьне да выпрацоўкі новай програмы міру, патрабаваньне безадкладнага выдаленьня шкодных людзей з ураду і г. д.

Такім чынам, бальшавіцкія прапановы яшчэ не супроцьстаўляюцца згодніцкім пастановам Саветаў, але проста далучаюцца да іх. Хутка, аднак, бальшавікі выступаюць ужо з больш рэзка выражанымі і самастойнымі запатрабаваньнямі, да сярэдзіны мая організацыйна афармляюцца, а да канца мая, пры перавыбарах Менскага Савету, атрымалі адносную большасьць і ўладалі апаратам Савету. Хаця большасьць і ня была зусім устойлівай, але факт гэты меў вялізарнае значэньне. Прычым тут-жа трэба падкрэсьліць, што гэта большасьць ня была салдацкай: хаця Менскі Савет і яднаў да мая-чэрвеня 40 тыс. салдат і толькі 18 тыс. рабочых, тым ня менш салдацкае прадстаўніцтва ў адрозьніваньне ад Петраградзкага Савету ў яго згодніцкі пэрыод зусім не перавышала рабочае прадстаўніцтва.

Паводле статуту Менскага Савету ў Выканаўчым Камітэце павінна было быць забясьпечана роўнае прадстаўніцтва па 18 чал. ад рабочых і салдат. Гэта становішча абаранялася ўвесь час балшавікамі і толькі пасьля ультыматуму эсэраўскай фракцыі Савету і ўходу іх з аднаго пасяджэньня савецкая большасьць пад кіраўніцтвам бальшавікоў пайшла на некаторыя ўступкі, павялічыўшы салдацкае прадстаўніцтва да 20 і адпаведна паменшыўшы рабочае да 16. Ужо адзін гэты невялічкі факт выкрывае цану цьверджаньням, быццам бальшавікі мелі на сваім баку толькі салдат і ня мелі ўплыву сярод рабочых. Абапіраючыся на большасьць у Савеце, бальшавіцкая організацыя змагла прабіць у кароткі час вялізарную работу. Яна паставіла друкаваны орган, адзіную бальшавіцкую газэту на тэрыторыі Беларусі, якую, да рэчы, Керанскі і штаб фронта двойчы спрабавалі забіць. Бальшавіцкая організацыя змагла стварыць з Савету ў пэрыод пасьля ліпеньскай рэакцыі аплот барацьбы за рэволюцыйную справу, змагла праз Савет стварыць адзіны фронт рабочых і салдат і павесьці за сабою нават тую частку рабочых і салдат, якая ішла за дробна-буржуазнымі партыямі.

Гэта была ня лёгкая задача. Яшчэ 8-га ліпня, пры абмеркаваньні ліпеньскіх падзей, Фрунзэ і Мясьнікоў, выступаўшыя ад імя большасьці Выканаўчага Камітэту, сабралі ў карысьць сваёй рэзолюцыі 111 галасоў, а эсэры, якія ўсяляк падчышчалі сваю рэзолюцыю, каб сабраць галасы савецкага балота, сабралі 96 галасоў, г. зн. ледзь-ледзь не правалілі бальшавікоў. Нават ужо 5-га жніўня с.-д. блёк, які абараняў інтэрнацыяналісцкую рэзолюцыю, сабраў 149 галасоў супроць 101 голаса, паданых за эсэраўскую рэзолюцыю, якая абараняла бязумоўнае давер'е Часоваму ўраду. Аднак, эсэры хутка павінны былі адмовіцца ад тактыкі процістаўленьня сябе бальшавікам: рэпрэсіі

ўраду штурхалі ўсё больш салдацкія масы ўлева і іх паводзіны прымушалі эсэраў пайсьці на падтрыманьне, хаця-б формальнае, актыўных крокаў Менскага Савету ў барацьбе з наступаўшай рэакцыяй.

Менскі Савет, г. зн. раней за ўсё яго бальшавіцкае кіраўніцтва, павёў барацьбу і ў франтавой паласе. Пасьля выданьня контррэволюцыйнага загаду камандуючага фронтам Балуева, які адным ударам спрабаваў на тры чвэрці зьнішчыць салдацкія організацыі, Савет назначыў сход вайсковых камітэтаў усіх часьцей, якія знаходзіліся ў 10-ці вёрснай паласе ад Менску—гэты сход пры садзейнасьці ўрадавага камісара меншавіка Жданава—забаронены. Савет павёў рашучую барацьбу з штабам фронту—ён адкрыта абвясьціў, што сход вайсковых камітэтаў усёроўна будзе ім сабраны, прыняў рэзкія рэзолюцыі протэсту, якія пастанавіў распаўсюдзіць сярод салдат, заклікаў рыхтавацца да барацьбы. Ня гледзячы на вельмі рэзкі тон рэзолюцый, які адзначаў простае абвяшчэньне вайны штабу фронту, гэтыя рэзолюцыі былі прыняты аднадушна і сьведчылі аб вялізарным посьпеху бальшавіцкай тактыкі сярод усіх рабочых і салдат.

У гэтай вялізарнай рабоце, умацаваўшай уплыў бальшавікоў у шырокіх масах, забясьпечыўшай за імі ўстойлівую большасьць у буйнейшым політычным цэнтры краіны—Менскім Савеце—былі, зразумела, дапушчаны паасобныя памылкі (накшталт аб'яднайнай муніцыпальнай кампаніі і дакляарацыі) і хістаньні, але трэба разумець, наколькі заблытанымі былі абставіны і наколькі складанай павінна была зьявіцца тактыка бальшавікоў, якія толькі ў процэсе барацьбы і работы маглі стварыць колькі-небудзь устойлівую большасьць у Савеце, і якіх самое становішча кіруючай партыі ў Савеце, ня маючай устойлівай большасьці, прымушалаісьці на рад тактычных компромісаў.

У абстаноўцы ліпеньскай рэакцыі, ізолявана ад Піцера і Масквы, Менскі Савет, нават маючы і абсолютную большасьць, ня мог-бы форсаваць выступленьня і конфлікту са штабам фронту, асабліва калі-б меў супроць сябе і дробна-буржуазныя, згодніцкія цэнтры—франтавы камітэт, муніцыпалітэт і г. д., якія карысталіся яшчэ вядомым уплывам на масы. Таму двухбаковая задача, якая стаяла перад бальшавіцкім Саветам, заключалася ў тым, каб захаваць і павялічыць сваю большасьць у савеце, так і ў тым, каб у барацьбе з урадавай рэакцыяй мобілізаваць пад сваім кіраўніцтвам магчыма больш шырокі фронт. Задача гэта, паўтараем, была наогул вельмі *добра* вырашана бальшавіцкім кіраўніцтвам.

Пасьля карнілаўшчыны перад партыйнай організацыяй Менску была пастаўлена ясная пэрспэктыва. Ужо 13-га верасьня па дакладу Мясьнікова агульнапартыйны сход, на якім прысутнічала да 700 чал., прымае рэзолюцыю, дзе гаворыць, што „насушчнай задачай моманту зьяўляецца *безадкладны* пераход улады ў рукі паўнамоцных органаў пролетарыяту і рэволюцыйнага сялянства“ і што таму „організаваны пролетарыят павінен імкнуцца і ўсяляк садзейнічаць зьнішчэньню існуючай улады і ўстанаўленьню сумесна з рэволюцыйным сялянствам дыктатуры ў краіне“. Гэта ўстаноўка была затым пацьверджана і рэзолюцыяй Паўночна-Заходняй абласной конфэрэнцыі аб тактыцы, прынятай 5-га кастрычніка. „Бліжэйшай жыцьцёвай задачай выратаваньня рэволюцыі і краіны—заяўляла гэта рэзолюцыя—зьяўляецца захоп улады ў свае рукі, шляхам узгодненай паміж Саветамі рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў рэволюцыйнай ініцыятывы, усёй паўнаты ўлады як у цэнтры, так і на мясцох“.

Гэта рэзолюцыя не заставалася пустым гукам. Бальшавіцкі Менскі Савет стаў на той-жа шлях частковага захопу ўлады, на які ўжо сталі буйнейшыя бальшавіцкія Саветы—калі ўрад Керанскага выдаў загад аб сэквэстры друкарні, дзе друкавалася раней бальшавіцкая газэта, Менскі Савет паставіў 9-га кастрычніка свой вайсковы каравул каля друкарні і не дазволіў уладам, якія зьявіліся, яе сэквэстраваць.

Перавыбары Савету, якія якраз у гэты час адбываліся, паказалі, што за балшавікамі ідзе абсолютная большасьць працоўных—з 337 дэлегатаў эсэры атрымалі 60, бундаўцы і меншавікі па 21 месцы, а бальшавікі 184. Эсэры большую частку сваіх дэпутатаў мелі ад салдацкіх частак, якія ішлі да таго часу ўжо толькі за левымі эсэрамі, ці ад мала-організаваных і маласьвядомых пластоў працоўных, найбольш блізка зьвязаных з вёскай, меншавікі карысталіся ўплывам ужо толькі сярод служылых элемэнтаў, а 21 дэпутат ад Бунду—6 проц. усяго складу Савету—адлюстроўваў процэс вялізарнага падзеньня бундаўскага ўплыву ў асяродзішчы яўрэйскага рамесьніцкага пролетарыяту, які раней быў непахісным як-быццам аплотам Бунду. Прычым неабходна дадаць, што большая частка беспартыйных дэлегатаў ішла за бальшавікамі, а пры больш вострых політычных пытаньнях дробна-буржуазныя партыі не маглі ўтрымаць ад галасаваньня за бальшавіцкія прапановы нават членаў сваіх уласных савецкіх фракцый. У гэтых адносінах вельмі паказальным было пасяджэньне пленуму Савету 8-га кастрычніка. На пытаньні аб выбарах чыста бальшавіцкага прэзыдыуму і аб складзе яго дробна-буржуазныя савецкія фракцыі мобілізавалі амаль усе галасы сваіх прыхільнікаў—ілюзіі савецкай коаліцыі яшчэ былі моцнымі нават у некаторых правых бальшавікоў, ня толькі ў рабочых-бундаўцаў, эсэраў і г. д.—бальшавіцкі прэзыдыум быў абраны 181 голасам супроць 77. Але наступным было пытаньне аб абароне ўзброенай вартай савету друкарні, якая, паводле загаду ўраду, павінна была быць сэквэстравана, і гэта прапанова, ня гледзячы на супярэчаньні ўсіх лідэраў дробна-буржуазных савецкіх груп, была прынята толькі пры 6 супроць і 3 устрымаўшыхся. Гэта галасаваньне зьяўляецца паказальнікам бальшавіцкага ўплыву ў масах ня менш сур'ёзным, чым самыя выбары ў Савет.

Вялізарная перавага бальшавізму ў рабочай і салдацкай масе дазволіла партыі легальна праводзіць падрыхтоўку захопу ўлады—у прэзыдыум мясцовага Савету былі абраны толькі бальшавікі. Тым ня менш самы захоп улады ўскладніўся ўсім вядомым інцыдэнтам „згоды“ з Камітэтам выратаваньня бацькаўшчыны і рэволюцыі на Заходнім фронце. Гэты інцыдэнт зьяўляецца добрай ілюстрацыяй да палажэньня Энгельса, якое так узмоцнена пропагандавалася Леніным у верасьні і кастрычніку: да паўстаньня трэба адносіцца як да мастацтва. ЦК запытваў абласны партыйны Камітэт у Менску: ці гатовы? З Менску адказвалі: гатовы. На гэтай падставе Сьвярдлоў на тым самым славутым пасяджэньні пленуму ЦК 10-га кастрычніка, дзе Ленін рабіў свой гістарычны даклад аб бягучым моманце, яшчэ да выступленьня Леніна, паведамляў аб тым, што ў Менску, ня гледзячы на антыбальшавіцкую агітацыю сярод асяцін і асобных часьцей і падазроную концэнтрацыю казацкіх часьцей, магчымы захоп улады. „Могуць з Менску паслаць корпус у Петраград“—так нават запісана ў протоколе ЦК. Канец дакладу Сьвярдлова аб Менску. Што гутарка ішла аб падрыхтоўцы ўзброенага выступленьня на Заходнім фронце, ясна відаць з наступнага месца рэзолюцыі, пісанай тады-ж Леніным і прынятай ЦК: „Прызнаючы, такім чынам, што ўзброенае паўстаньне

нямінуча і зусім насьпела, ЦК прапануе ўсім організацыям партыі кіравацца гэтым і з гэтага пункту гледжаньня абмяркоўваць і вырашаць усе практычныя пытаньні (зьезду Саветаў Паўночнай вобласьці, вываду войск з Піцера, *выступленьне* масквічоў і *мінчан* і г. д.)" [1]).

Ці мела рацыю партыйнае кіраўніцтва абласной організацыі, паставіўшы пытаньне аб узброеным паўстаньні? Ці не паказвае якраз затрымка з узяцьцем улады вымушанасьць тыднёвай згоды са згоднікамі, заўчаснасьць такога рашэньня? Зразумела, не. Зразумела, партыйнае кіраўніцтва мела абсолютна рацыю, паставіўшы задачу безадкладнага пераходу ўлады ў рукі Саветаў яшчэ ў першай палове верасьня, і ў першай-жа палове кастрычніка, відавочна, пачаўшы практычную падрыхтоўку захопу ўлады (ва ўспамінах паасобных таварышоў—докумэнт наогул ня вельмі надзейны, але набываючы вялікую магчымасьць у сьвятле запісу протоколу ЦК бальшавікоў)—ёсьць простыя паказаньні на гэта. Політычна—у сэнсе настрою мас—паўстаньне было падрыхтавана, організацыйная прадпасылка ў тым сэнсе, што ў руках бальшавікоў быў асноўны апарат захопу і організацыі ўлады—Саветы—была таксама ў наяўнасьці, але паўстаньне аказалася непадрыхтаваным організацыйна-тэхнічна—не зрабілі сваячасова перагрупоўкі сіл і частак, ня ўлічылі дакладна сіл супраціўніка, адным словам, паклаліся на пераважнасьць бальшавіцкіх сіл, дапусьцілі свайго роду самацёк. Адсюль і вядомае перамір'е на тыдзень і энэргічная ўзорная работа зьбіраньня сіл на фронце. Як-ніяк памылка Менскага савету, пад сьцягам якога праходзіла як падрыхтоўка бальшавікоў да захопу ўлады, так і самы захоп улады, шмат меншая ды і прынцыпова іншая, чым памылка выдатнай часткі маскоўскіх бальшавікоў, якія, да рэчы, і канчаткова перамаглі адначасова з менскімі бальшавікамі. Да таго-ж ёсьць яшчэ адна акалічнасьць, гэта тое, што *дакладна* як, што і калі адбудзецца ў Менску ня ведалі. Паўночны фронт, як вядома, пасьпелі паведаміць, а на Заходні, з прычыны нейкіх прычын (а ў мітусьні тагочасных дзён такіх прычын магло быць тысяча і адна) паведамленьня не паслалі, ці яго тут не атрымалі. А што тут ня ведалі, гэта бясспрэчна. Наконт гэтага мы маем аўторытэтнае сьведчаньне Мясьнікова: „Звычайна нашы супраціўнікі абвінавачваюць нас у тым, што захоп улады быў даўно падрыхтаваны. Але на самай справе ніхто ў нас ня ведаў, што захоп улады ў Петраградзе павінен быў адбыцца такім чынам. Ніякіх дырэктыў ад ЦК ня мелі. Я гэта пацьвярджаю. Мы нічога напэўна ня ведалі і якім чынам павінна было адбыцца гэта выступленьне... Мы меркавалі аўладаць масамі паступова, як рэкомэндаваў Ленін, але ад ЦК нічога ня мелі. Мы паслалі нават нашага дэлегата ў цэнтр. Мы меркавалі, што прыдуць бальшавікі і атрымаюць большасьць. Але як павядуць політыку, як абвесьцяць новую ўладу для нас ня было ясна. Можа гэтым тлумачыцца тая акалічнасьць, што мы з некаторым спазьненьнем узялі ўладу на Заходнім фронце" (са стэнографічнага запісу ўспамінаў на вечары ў беларускім прадстаўніцтве 30-га сьнежня 1922 г.).

*Гэтым*, зразумела, тое, што ня ўзялі ўладу тлумачыцца толькі часткова, таму што Мясьнікоў, вядома, мае тут на ўвазе незнаёмасьць іменна з тым, калі і як адбудзецца, але тое, што агульная ўстаноўка на ўзброенае паўстаньне была вядома, відаць ня толькі з дакладу Сьвярдлова на пленуме ЦК 10 кастрычніка, але і з рэзолюцыі абласной конфэрэнцыі 5-га кастрычніка. Ва ўсякім выпадку захоп улады

[1]) Падкрэсьлена мною—Ю.

ў Менску адзначаў захоп улады бальшавікамі на ўсім Заходнім фронце. Зразумела, гэты захоп ня быў-бы магчымы, калі-б бальшавіцкі Савет і Абласны камітэт у Менску не абапіраліся на мясцовыя партыйныя організацыі і ў большай частцы на завяяваныя імі ўжо мясцовыя саветы.

Гэтыя мясцовыя партыйныя організацыі, усе за выключэньнем Віцебскай, аформіліся якраз у пэрыод ліпеньска-жніўеньскай рэакцыі.

*Віцебская-ж* організацыя стварылася раней. Там, праўда, яшчэ з пачатку рэволюцыі існавала латыская група, ня чыста, але ў большай сваёй частцы бальшавіцкая; група гэта, аднак, трымалася абасоблена і першы час уплыву на агульныя падзеі ня мела. Ужо, аднак, у канцы мая адбываюцца ў асобных раёнах сходы бальшавікоў, а 20-га чэрвеня склікаецца першы організацыйны сход бальшавікоў і меншавікоў-інтэрнацыяналістаў, а 2-га ліпня ўжо канчаткова разьмяжоўваюцца інтэрнацыяналісцкая і абарончая частка. Праўда, організацыя ўключыла ў сябе і вядомы чужародны элемэнт меншавікоў-інтэрнацыяналістаў, толькі 18-га верасьня яна пераімяноўваецца ў бальшавіцкую організацыю.

У Віцебску партыйнай організацыі прыходзілася дзейнічаць у абстаноўцы якраз процілеглай, чым у Менску. Карыстаючыся вельмі вялікім уплывам на масы, бальшавікі мелі супроць сябе ўсе Саветы. Ужо ў канцы жніўня бальшавікам на выбарах у мясцовае самакіраўніцтва атрымалі амаль палову галасоў, сабраных социялістычным блёкам (соцыял-рэволюцыянэрамі, меншавікамі і бундаўцамі)—37 і 16 мандатаў. Для параўнаньня пакажам, што ў Гомелі, дзе выбары, праўда, праходзілі зараз-жа пасьля ліпеньскіх дзён, бальшавікі атрымалі толькі 5 мандатаў супроць 48 мандатаў соцыялістычнага блёку. Карнілаўшчына, нясумненна, узмацніла ўплыў бальшавікоў, і тым ня менш на Савеце, нават у другой палове кастрычніка, політычная рэзолюцыя бальшавікоў была адкінута 69 галасамі супроць 42. Больш таго, увесь гарнізон Віцебску быў да таго часу заваяваны бальшавікамі, а салдацкі савет знаходзіўся ў руках нейкіх буржуазных прахадзімцаў, у энэсаў. На выбарах ва Ўстаноўчы сход бальшавікі сабралі больш паловы галасоў, больш паловы сялянскіх галасоў былі адданы бальшавіцкаму сьпіску, а Савет сялянскіх дэпутатаў нават да моманту Кастрычніцкага перавароту знаходзіўся ў руках кулакоў і яго старшынёй быў нейкі энэс. Такое становішча, калі бальшавікі, карыстаючыся вельмі сур'ёзным уплывам сярод рабочых (у прыватнасьці, да таго часу ўзмацніліся бальшавіцкія настроі сярод чыгуначнікаў—асноўнай пролетарскай групы ў Віцебску), карыстаючыся вялізарнай популярнасьцю ў сялянскім асяродзішчы і непадзельным аўторытэтам у салдацкіх масах, маюць супроць сябе і рабочы, і салдацкі, і сялянскі саветы, вельмі ўскладніла характар барацьбы за ўладу. Згоднікі шляхам усякага кручкатворства, а іншы раз і проста пры дапамозе фальшывых мер не дапускаўшыя перавыбараў Саветаў, якія даўно перасталі адлюстроўваць настроі сваіх выбаршчыкаў, тым ня менш маглі скарыстаць у барацьбе з бальшавікамі самы факт нязгоды Савету. Бальшавіцкая організацыя ў Віцебску, якая не змагла сваячасова дабіцца перавыбараў у саветы, зусім правільна, аднак, дзейнічала, калі паставіла задачу папярэдняга аўладаньня ўладаю і потым ужо перавыбараў у саветы.

У *Бабруйску* першыя сходы с. д. інтэрнацыяналістаў (пад гэтым псэўдонімам у дні разгулу ліпеньскай рэакцыі звычайна ствараліся ў провінцыі бальшавіцкія організацыі) адбыліся 11 і 17-га ліпня.

На гэтых сходах і аформілася самастойная організацыя. Аб ступені яе ўплыву можна судзіць па тым, што ўжо ў канцы верасьня бальшавіцкі сьпіс на выбарах у павятовае земства прайшоў на трэцім месцы, сабраўшы больш 15 проц. усёй колькасьці галасоў. Бальшавікі атрымалі затым перамогу і ў найбольш буйных прадпрыемствах, але стварыць большасьць у Савеце не змагі. Дробна-прамысловы і саматужніцкі характар гораду дазволіў стракатаму антыбальшавіцкаму блёку захаваць перавагу ў Савеце на некалькі галасоў яшчэ ледзь не на месяц пасьля Кастрычніцкага перавароту.

*У Воршы* ўжо на пленуме савету 16 ліпня бальшавікі выступаюць са сваёй рэзолюцыяй, дзе патрабуюць перадачы ўсёй улады ЦВК Саветаў і вельмі рэзка характарызуюць політыку савецкай большасьці. Ужо ў пачатку верасьня бальшавікі вылучыліся з мясцовых аб'яднаньняў організацый і аформіліся ў самастойную бальшавіцкую організацыю. Ня гледзячы на малакoлькаснасьць організацыі (першы час усяго да 40 чал.), бальшавікі карысталіся вельмі вялікім уплывам. Так, на адным з пасяджэньняў Савету ў верасьні, дзе бальшавікі супроцьставілі сябе рэзолюцыі аб уладзе саветаў антыкоаліцыянісцкай рэзолюцыі большасьці, яны атрымалі 24 галасы. Цікава адзначыць, што адным з першых крокаў маладой організацыі было прыступіць да стварэньня самастойнай організацыі сельска-гаспадарчых рабочых (аб гэтым паведамляецца ў лісьце з Воршы ў ЦК ужо ў першай палове верасьня).

Да часу Кастрычніцкага перавароту бальшавікі ўжо аўладалі Саветам і, абапіраючыся на мясцовыя вайсковыя часткі, адыгралі буйнейшую ролю ў недапушчэньні вайсковых эшалёнаў, якія спрабавалі выступіць на дапамогу белым у Піцер і Маскву. Стаўка спэцыяльна накіравала яшчэ перад кастрычнікам у Воршу буйныя кавалерыйскія і казачыя часткі, а ў дні Кастрычніка адтуль бесьперапынна ляцелі шыфраваныя загады камандзіраў забясьпечыць за сабою чыгуначны вузел і дабіцца прасоўваньня эшалёнаў на дапамогу Керанскаму. Усе гэтыя спробы былі паралiжаваны работай бальшавіцкай організацыі.

*У Полацку* ўжо 2-га чэрвеня на пасяджэньні Савету з разгорнутымі бальшавіцкімі патрабаваньнямі выступіў адзін з таварышоў. Паасобныя бальшавікі, якія ўваходзілі ў мясцовую аб'яднаную організацыю, выступалі з абаронай бальшавіцкіх поглядаў і ў іншых выпадках. Так, 20-га чэрвеня пасьля гарачых спрэчак была прынята рэзолюцыя аб наступленьні супроць 9 пры 10 устрымаўшыхся. Нясумненна, што супроць, у той абстаноўцы, маглі галасаваць большаю часткаю ўжо сапраўдныя бальшавікі. З лісту Полацкага камітэту ў Віцебск ад 17-га верасьня 1917 г. відаць, што самастойная організацыя тут узьнікла яшчэ за некалькі дзён да падзей 3-5-га ліпня, аднак, пасьля ліпня ў сувязі з рэпрэсіямі, адсылкаю значнай часткі салдат на фронт, разьездам часткі таварышоў работа організацыі моцна аслабела і фактычна аднавілася, відаць, толькі ў другой палове жніўня.

*У Магілеве* самастойная бальшавіцкая організацыя аформілася вельмі позна, фракцыйнае-ж аформленьне бальшавікоў унутры аб'яднанай організацыі адбылося ў ліпні. Група бальшавікоў, па колькасьці нязначная, складалася большай часткай з рабочых-друкароў, але кіравалі ёю, відаць, невыстарчальна бальшавіцкі вытрыманыя таварышы. Спроба прыехаўшага сюды тав. Кагановіча ў жніўні дабіцца расколу і вылучэньня бальшавікоў у самастойную організацыю не закончылася посьпехам—бальшавіцкая група пастанавіла дзейнічаць унутры аб'яднаньняў. Дакладна ўстанавіць, калі там ўсе-ж вылучылася самастойная бальшавіцкая група цяжка, але наўрад ці мае рацыю Лелевіч,

які думае, быццам стварэньне самастойнай організацыі адбылося ўжо толькі пасьля ліквідавацыі духонінскай стаўкі, г. зн. пасьля 20-га лістапада, бо ў нашым распараджэньні ёсьць адозва перад выборамі ва Ўстаноўчы сход за подпісам „Магілеўскі Камітэт РСДРП (інтэрнацыяналістаў і бальшавікоў)“ якая выпушчана, бясспрэчна, не пазьней пачатку лістапада.

*У Дзьвінску* бальшавікі вельмі доўга дзейнічалі ўнутры аб'яднанай організацыі. Да карнілаўшчыны „аб партыі бальшавікоў тут небясьпечна было нават гаварыць у сэнсе ўхваленьня і падзяленьня яе поглядаў“ (з корэспондэнцыі ў „Рабочем пути“). Але пасьля карнілаўшчыны становішча рэзка зьмянілася, і на сходзе 17-га верасьня бальшавікі сабралі вялізарную большасьць. На гэтым сходзе, як паведамляе ліст дзьвінскага камітэту ў Віцебскі, „быў абраны новы камітэт і організацыя з абаронччай стала бальшавіцкі-інтэрнацыяналісцкай. Зараз у камітэце знаходзіцца 12 бальшавікоў і 3 меншавікі-інтэрнацыяналісты. Уся работа наша вядзецца ў чыста-бальшавіцкім духу—і кіруючым органам нашай організацыі на агульным сходзе аднадушна прызнаны ЦК РСДРП (бальшавікоў)“. Зразумела, чыста бальшавіцкая работа організацыі ня можа быць прызнана ўжо таму, што ў склад камітэту ўваходзілі і меншавікі-інтэрнацыяналісты. Але трэба паказаць, што дзьвінская організацыя, ня гледзячы на свае памеры (яна налічвала 900 членаў і мела разгалінаваную сувязь з ваеннымі часьцямі, ячэйкі якіх уваходзілі ў ваенную організацыю), з-за ўмоў франтавой паласы ня мела ніякай сувязі з бліжэйшымі організацыямі.

*У Рэчыцы* першая бальшавіцкая ячэйка зьвязана з перакідкай сюды з Бранску бальшавіцкі-настроенага аднаго з запасных палкоў. Група бальшавікоў, якая існавала тут у палку, большай часткай з салдат-рабочых, зьвязалася з мясцовымі рабочымі-бальшавікамі. Новая організацыя зьвязалася з Менскім камітэтам і ўжо 6 жніўня атрымала адтуль першы ліст. Бальшавікі, відаць, карысталіся значным уплывам у Савеце, па крайняй меры, Савет яшчэ ў сярэдзіне жніўня прапаноўваў „Звезде“ сваю дапамогу; ва ўсякім выпадку, да кастрычніка бальшавікі мелі ў Савеце пераважны ўплыў і 30 кастрычніка ўзялі ў свае рукі ўладу.

*У Мазыры* паасобныя бальшавікі-салдаты і мясцовыя рабочыя вялі актыўную агітатарскую работу яшчэ і да ліпня. Асабліва моцна праявіліся бальшавіцкія настроі на сялянскім зьезьдзе ў маі. Пры дапамозе матросаў флётыліі ўлада была захоплена мясцовымі бальшавікамі зараз-жа пасьля атрыманьня вестак аб пераварoце ў Петраградзе.

*У Слуцку* бальшавікі яшчэ ў ліпні выступалі з патрабаваньнем стварэньня ўлады, адказнай перад Саветамі. Гэта патрабаваньне, адхіленае Саветам, падтрымлівалася, аднак, большай часткай гарнізону. Ужо 15 жніўня політычная рэзолюцыя бальшавікоў і левых эсэраў была адхілена на пленуме Савету вельмі спрэчнай большасьцю (за рэзолюцыю было падана 19 галасоў, супроць 24 і ўстрымалася 6). Карнілаўшчына прынесла бальшавікам новыя посьпехі — самастойная бальшавіцкая організацыя, якая налічвала да 250 чалавек, заваявала мясцовы Савет і на чале яго стаў стары бальшавік, салдат-рабочы І. К. Ксенафонтаў.

*У Лунінцы* аж да кастрычніка захоўвалася формальна аб'яднаная організацыя, але ў ёй пераважалі і кіравалі ўсёй работай бальшавікі. Бальшавіцкая організацыя карысталася вялікім уплывам на сялянскія масы, да верасьня на чале аб'яднанага Савету рабочых, сал-

дацкіх і сялянскіх дэпутатаў стаяў бальшавік. Сама арганізацыя, ня гледзячы на аб'яднаны характар, увесь час была зьвязана з Менскім абласным камітэтам бальшавікоў.

*У Рагачове* бальшавікі дзейнічалі ўнутры аб'яднанай арганізацыі і іншы раз дабіваліся сур'ёзных посьпехаў. Так, напрыклад, зараз-жа пасьля карнілаўшчыны на пленуме Савету 5 верасьня ўдалося правесьці рэзолюцыю аб пераходзе ўлады да саветаў. Праўда, гэта рэзолюцыя ўжо праз два дні была анулявана другой рэзолюцыяй—26 супроць 16 была прынята рэзолюцыя, якая прызнавала неабходнасьць коаліцыі. 3-га кастрычніка ўся бальшавіцкая група ў ліку 35 чалавек вышла з аб'яднаньня і ўтварыла самастойную бальшавіцкую арганізацыю.

*У Невелі* ўплыў бальшавікоў быў даволі моцным на Савэт салдацкіх дэпутатаў. У пачатку жніўня нават Выканаўчы камітэт савету прапанаваў кіраўніку мясцовых бальшавікоў, прапаршчыку Саркасьянцу, адправіцца ў другую ваенную частку. Цікава, што рэзолюцыя протэсту супроць дзеяньняў Выканкому была адхілена 57 галасамі супроць 12 пры 19 ўстрымаўшыхся.

Акрамя гэтых арганізацый існавалі да кастрычніка самастойныя бальшавіцкія арганізацыі яшчэ ў Веліжы, Гарадку, мяст. Калышку, Барысаве, Замір'і, Несьвіжы, Івінцы—гэтыя арганізацыі, за выключэньнем Барысаўскай, амаль цалкам складаліся з салдат і былі зьвязаны ваеннай работай.

Такім чынам, на тэрыторыі Беларусі існавала ня менш 15 самастойных бальшавіцкіх арганізацый, якія вялі значную работу сярод мясцовага насельніцтва.

Бальшавіцкія арганізацыі, вядома, аддавалі фронту вельмі вялікую ўвагу, іншы раз нават работа сярод салдат адцягвала значную долю сіл і энэргіі партыйных арганізацый, але ўсё-ж і пры гэтай ўмове нельга ня прызнаць, што бальшавікі разгарнулі вельмі вялікую работу сярод рабочых і сялян Беларусі.

Гэта работа, у прыватнасьці, напрыклад, сярод сялянства рабіла вынікі вельмі вялікія. Як і ў Прыбалтыцы, у Беларусі бальшавікі карысталіся вялізным уплывам на сялянства. Бальшавікі, у прыватнасьці Фрунзэ, зьявіліся аднымі з галоўных арганізатараў сялянскага савету і потым аказвалі кіруючае ўзьдзейнічаньне на ход сялянскай барацьбы. На цэлым радзе павятовых сялянскіх зьездаў пад уплывам бальшавікоў выносіліся рэзкія, амаль што бальшавіцкія, а іншы раз нават проста бальшавіцкія, пастановы—так было на зьезьдзе сялянскіх саветаў незанятай часткі Віленскай губэрні ў Дзісьне, так было на Мазырскім павятовым зьезьдзе, Пінскім (у Лунінцы) і інш. Бальшавікі, у прыватнасьці Менскі Савет, як мы ўжо ўпаміналі, разгарнулі работу і сярод сельска-гаспадарчых рабочых.

Вядома, нельга адмаўляць таго, што фронт форсаваў бальшавізацыю мас, узмацняў бальшавіцкі ўплыў, і спрабаваць разглядаць Кастрычніцкую рэволюцыю дзе-б та ні было, у тым ліку і ў Беларусі, зусім ізолюючыся ад фронту, гэта ўсёроўна, што спрабаваць разглядаць проблему соцыялістычнай рэволюцыі па-за пытаньнем аб супярэчнасьцях імпэрыялізму.

Вядома, вайна дапамагла бальшавікам павесьці за сабою вялізную частку беларускага сялянства, але дапамаглі і тыя абставіны, што за сялянскія масы тут не маглі весьці барацьбы з бальшавікамі дробна-буржуазныя нацыяналістычныя партыі, як гэта было на Украіне. Асноўная з гэтых партый—БСГ—у пачатку рэволюцыі ака-

залася скомпромэтаванай перад масамі фактам блёку (у якім яна яшчэ, да рэчы, грала падначаленую ролю) з памешчыцкімі элемэнтамі (Скірмунт і інш.), а пазьней тым, што ніяк не магла асьмеліцца выставіць колькі-небудзь радыкальную соцыяльную програму. Правадыры „БСГ“ ня толькі правыя, але і левыя (Дыла, Жылуновіч) лічылі магчымым ісьці на выбары па сьпісах такой партыі, па сутнасьці справы буржуазнай, а ня дробна-буржуазнай, як энэсы. Уплыў гэтай партыі, ад абломкаў якой ня ў меру старанныя нацыяналісты (на жаль, падтрыманыя і Малай Савецкай Энцыклёпэдыяй) спрабавалі вывесьці радаслоўную КП(б)Б, у 1917 годзе ў асноўным ня выходзіў за межы кулацка-шляхецкай інтэлігенцыі, і гэты факт параліжаваў магчымы ўплыў тых прыватных памылак, якія допушчаны былі партыяй ў нацыянальнай політыцы. Самыя гэтыя памылкі, якія ўсяляк раздуваюцца ўсякага роду нацыянал-ухілістамі, нельга разглядаць абстрактна; у сьвеце поўнай адсутнасьці масавага ўплыву дробна-буржуазнага беларускага нацыяналізму гэтыя памылкі выглядаюць, вядома, некалькі інакш, чым, напрыклад, на Украіне.

Гэтыя памылкі люксэмбургіянска-бухарынскага парадку, як і некаторыя іншыя, не перашкодзілі партыйным організацыям на Беларусі зрабіцца правадыром народнай стыхіі, стаць як на чале салдацкіх мас фронту, так і на чале рабочых мас і асноўнай гушчы сялянства ў краі, зьвергнуць органы буржуазнай ўлады і ўстанавіць уладу пролетарскую.

Барацьба за ўмацаваньне гэтай ўлады аказалася шмат больш зацяжным і складаным процэсам, чым самы захоп улады. Але гэта ўжо другая глава гісторыі.

---

Р. Выдра

# За партыйнае змаганьне з шовінізмам

У жніўні месяцы бягучага году выйшла асобнай брошурай праца т. Вольфсона ў выданьні Інстытуту філёзофіі БАН „Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму“. У верасьні гэта праца была ўключана ў якасьці кіруючага рэдактарскага артыкулу ў зборнік: „Навука на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі“. Самы зборнік служыць як-бы завяршэньнем таго разгрому нацдэмократызму, які партыя прарабіла ў непрымірым змаганьні на два фронты—у змаганьні з вялікадзяржаўным шовінізмам і беларускім нацдэмократызмам, як і шовінізмам другіх масьцей—яўрэйскім, польскім і інш.

Гэта, зразумела, ня значыць, што змаганьне на два фронты ў нацыянальным пытаньні скончана. Наадварот, выданьне зборніку, служачы завяршэньнем вядомага этапу, павінна адначасова стаць пачаткам больш разгорнутай, больш шырокай і глыбокай барацьбы з вялікадзяржаўным і мясцовым шовінізмам.

Зьбіваемы з сваіх позыцый посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва, што ажыццяўляецца пад кіраўніцтвам партыі, клясавы вораг ужывае ўсё новыя і рознастайныя формы змаганьня. Разгорнуты соцыялістычны наступ па ўсім фронце выклікае *адпаведнае* абвастрэньне клясавага змаганьня, узмацненьне супраціўленьня з боку кулацтва, якое ліквідуецца на аснове суцэльнай колектывізацыі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак,—з боку рэштак гарадзкой буржуазіі.

Ва ўмовах шпаркага *насьпяваньня рэволюцыйнага* крызісу ў краінах капіталізму і пераможнага завяршэньня пяцігодкі ў чатыры, а па некаторых важнейшых об'ектах у 3, $2^1/_2$ гады ў СССР,—наша змаганьне з клясавым ворагам патрабуе найбольшай партыйнай вытрыманасьці, найбольшай бальшавіцкай непрымірымасьці ў змаганьні на два фронты.

Зусім ясна, што гэтыя запатрабаваньні бяз усякай *урэзкі* павінны быць прад'яўлены да ўсякай работы, якая прэтэндуе прадстаўляць сабою абарону генэральнай лініі партыі і напад з яе пункту гледжаньня на ўсе варожыя нам позыцыі.

Зусім ясна, што гэтыя запатрабаваньні павінны быць прад'яўлены і да работы тав. Вольфсона, як да кіруючага рэдактарскага артыкулу зборніка—„Навука на службе нацдэмократызму.

Зусім ясна, што ад такога артыкулу мы маем права патрабаваць *разьвіцьця і падкрэсьліваньня партыйнага пункту погляду* на ўсе пастаўленыя ў процэсе змаганьня пытаньні, непрымірымага бальшавіцкага змаганьня на два фронты.

Што-ж уяўляе сабою разглядваемая праца Вольфсона?

Трэба падкрэсьліць, што ў ёй *сабраны* надзвычай вялікі і каштоўны матар'ял, які характарызуе контррэволюцыйную дзейнасьць і погляды нацдэмаў. Тав. Вольфсон падабраў амаль усё, што было напісана і сказана нацдэмамі як у эміграцыі, так і ў БССР, як за час грамадзянскай вайны, так і за час няспыннага, шпаркага соцыялістычнага будаўніцтва БССР. Тав. Вольфсон дужа старанна *папрацаваў* над тым, каб усё, што так пільна хавалі нацдэмы ад шырокіх працоўных мас, стала вядомым, прадстала перад усім сьветам ва ўсёй сваёй шовіністычнай контррэволюцыйнай аголенасьці.

Бясспрэчна, што ў *адносінах багацьця самога* па сабе пераканаўчага матар'ялу, у адносінах паказу яго практычна-актуальнага, контррэволюцыйнага значэньня ў змаганьні нацдэмаў супроць савецкай улады—праца тав. Вольфсона мае для партыі пэўную цікавасьць.

Для партыі, аднак, мае ня меншую, а яшчэ большую цікавасьць тое, як увесь паданы ў артыкуле матар'ял *выкарыстаны* тав. Вольфсонам, з *якога пункту погляду ён крытыкуе* нацдэмаў, як, з *якога пункту погляду ён змагаецца з імі, які пункт погляду ён высоўвае і разьвівае ў супроцьвагу ім у конкрэтным змаганьні.*

І вось, калі зьвярнуцца да зброі, якую ўжывае т. Вольфсон у змаганьні з нацдэмамі, мы змушаны будзем прызнаць, *што ўсё яго змаганьне ў асноўным вядзецца з пункту погляду вялікадзяржаўнага шовінізму, што ў процэсе змаганьня тав. Вольфсон пераходзіць на позыцыі нацдэмократызму, перабіраючыся адтуль зноў-ткі на позыцыі вялікадзяржаўнага шовінізму.* Дзякуючы гэтаму тая „*сувязь*", якая ў артыкуле ўстанаўліваецца паміж *яго* ўстаноўкамі і ўстаноўкамі партыі, *зьяўляецца па* *існасьці рэвізіяй партыйнага пункту гледжаньня.*

Сапраўды, як сам т. Вольфсон формулюе *свой* пункт гледжаньня, *як ён абагульвае ўвесь прароблены ім самім вопыт барацьбы з нацдэмамі,* як ён *сам* характарызуе *усю* справу нацдэмаў?

„Нацдэмы,—піша тав. Вольфсон,—ставілі сваю стаўку на тое, каб *гіпэртрофуючы нацыянальную форму, ператвараючы яе ў фэтыш, тым самым нэўтралізаваць соцыялістычны зьмест нашай культуры, вылушчваць з яе клясавае, ператвараць яе ў буржуазную* (стар. 30—курсіў мой).

„Нацдэмы ўсяляк імкнуліся стварыць з *нацыянальных асаблівасьцяй беларускага народу* фэтыш, *пераўвялічыць гэтыя асаблівасьці да такой ступені,* каб яны маглі, з аднага боку, зрабіцца мостам паміж эксплёататарамі і эксплёатаванымі ўнутры беларускай нацыі, з другога боку—каб пры іх дапамозе можна было вырыць прадоньне паміж працоўнымі масамі беларускай нацыянальнасьці і такімі-ж масамі іншых нацыянальнасьцяй" (стар. 29—курсіў мой).

Такім чынам, маем ясна выражаны пункт гледжаньня тав. Вольфсона на справу нацдэмаў, у якім аднačасова выражаны і той пункт гледжаньня, выходзячы з якога ён вёў і вядзе змаганьне з нацдэмамі.

Чый гэта пункт гледжаньня—нашай партыі ці вялікадзяржаўнага шовінізму? Адказ ясны: гэты пункт гледжаньня вялікадзяржаўнага шовінізму.

Сапраўды, што значаць усе гэтыя характарыстыкі? Што значыць „стварыць з нацыянальных асаблівасьцяй беларускага народу фэтыш" *гіпэртрофія нацыянальнай формы?* Гэта значыць па вялікадзяржаўнаму сказіць сапраўднае становішча рэчаў.

З нашага пункту погляду нацдэмы *не з-за нацыянальных асаблівасьцяй беларускага* народу стварылі фэтыш, *а з усяго буржуазна-*

*рэакцыйнага зьместу, што меўся і ёсьць у беларускай нацыі,* імкнучыся гэты рэакцыйны зьмест зьвесьці ў тое агульнае, што быццам яднае беларускі народ. *Не нацыянальную форму яны гіпэртрофавалі,* а ўсё рэакцыйнае, што калі-небудзь узьнікла, існавала і існуе ў нацыянальнай форме, яны падбіралі і абсолютызоўвалі, увекавечвалі. Мост, які хацелі перакінуць нацдэмы паміж эксплёататарамі і эксплёатуемымі, складаўся не з „пераўвялічаных" нацыянальных асаблівасьцяй беларускай нацыі, а з таго *рэакцыйнага* зьместу, які нацдэмы і хацелі ўявіць, як мост, што нібы-та злучае клясы беларускага народу. Прадоньне паміж працоўнымі масамі Беларусі і працоўнымі масамі другіх нацыянальнасьцяй нацдэмы вырывалі не пры дапамозе „пераўвялічаных нацыянальных асаблівасьцяй беларускага народу", а пры дапамозе абсолютызаваньня, ператварэньня ў нацыянальнае багацьце ўсяго *рэакцыйнага, што мелася* ў мінулым і *захавалася ў сучасным у Беларусі.*

Што значаць усе гэтыя „нэўтралізацыя", вылушчваньне"?

З нашага пункту погляду нацдэмы не *„нэўтралізавалі" соцыялістычны зьмест нашай культуры,* а *змагаліся* з імі як мага. Ня вылушчвалі з нацыянальнай формы клясавае, а *разьвівалі* ў ёй клясавы, буржуазны зьмест.

Нарэшце, што значыць „ператварэньне *нацыянальнай формы ў буржуазную"?* Гэта падсумоўка, да якой прышоў тав. Вольфсон, расшыфроўвае ўсё, увесь ягоны пункт погляду. *Нацдэмы ператваралі самую нацыянальную форму ў баржуазную.* Не сваю буржуазную прыроду яны імкнуліся прадставіць як нацыянальную форму, як сукупнасьць асаблівасьцяй беларускай нацыі, а сапраўдныя *рэальныя асаблівасьці беларускай нацыі* ператваралі,—ня ў двукосьсях, не гіронічна, не ў адваротным адносным сэнсе,—а сур'ёзна ператваралі ў буржуазныя...

Пункт погляду тав. Вольфсона паданы ім дужа яскрава. Гэта пункт погляду вялікадзяржаўнага шовінізму.

І з гэтага пункту погляду тав. Вольфсон вядзе барацьбу з нацдэмамі. І з гэтага пункту погляду ён кідае ім увесь час абвінавачаньні ў „гіпэрболах", „гіпэртрофіях", „пераўвялічэньнях", *„фэтышызаваньні нацыянальнай* формы" (стар. 30, курсіў т. Вольфсона). З *гэтага* пункту погляду тав. Вольфсон змагаецца з „самабытнасьцю" нацдэмаў, з іх гістарычнымі концэпцыямі,—словам з усімі „тэорыямі", якія яны калі-небудзь высоўвалі.

Ня прыходзіцца даводзіць, што ўся *абагуленая* характарыстыка справы нацдэмаў, усё *абагуленае* дачыненьне нацыянальнай формы і клясавага зьместу, данае ў артыкуле т. Вольфсона, поўнасьцю разыходзіцца з партыйнай лініяй. *Тэзіс пра гіпэртрофію* формы, ператварэньне яе ў буржуазную ёсьць тэзіс нацыяналістычны. Калі ставіць пытаньне так, што дзякуючы „ператварэньню формы" сама нацыянальная форма ператвараецца ў буржуазную, то гэта прыводзіць да таго, што тая ці іншая нацыянальная форма сама па сабе альбо буржуазная (калі яе ў гэткую „ператвораць" буржуазныя нацыяналісты), альбо „пролетарская" (калі яе „ператвораць" у гэткую „пролетарскія" творцы). На гэтым пункце гледжаньня стаяць нацыяналісты, калі яны запэўняюць, што іхная „нацыя" дапасавана толькі да буржуазнага зьместу, якраз таксама і тады, калі ў мэтах маскаваньня цьвердзяць аб спэцыфічным „пролетарскім", „працоўным" характары „іхнай" нацыі. На гэтым-жа пункце гледжаньня стаяць і вялікадзяржаўныя шовіністы, калі кажуць, што ў нашых умовах расійская форма—сама

па сабе пролетарская. Гэта—пункт гледжаньня агульны ўсякаму шовінізму. І зразумела, што такі пункт пагляду вымушае *адхіліць* партыйны прынцып—культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу. *Тут трэба выбіраць. Прымірыць гэтыя два пункты погляду немагчыма.* Таму нічога ня варты далейшыя разважаньні тав. Вольфсона аб культуры нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу. *Па існасьці* ўвесь артыкул, *усё змаганьне*, якое ў ім вядзецца, пабудавана на прынцыпе гіпэрбол, гіпэртрофій, пераўвялічэньняў, ператварэньняў і іншых прыгод, якія прарабляюцца *нацыянальнай формай. Гэты* прынцып ляжыць у *аснове* усёй аргумэнтацыі, усёй барацьбы, якую артыкул вядзе супроць нацдэмократызму. І з гэтага пункту погляду падходзіць артыкул да ўсіх пытаньняў, зьвязаных з нацдэмократызмам.

Сапраўды, як тав. Вольфсон падыходзіць да *асноўнага* пытаньня, да пытаньня высьвятленьня клясавых карэньняў нацдэмократызму. У той час, як партыйны пункт гледжаньня вызначае нацдэмократызм як агентуру кулацтва, абавязваючы *ва ўсіх* іхных тэорыях выкрываць тэорэтычнае выражэньне клясавых інтарэсаў кулацтва, т. Вольфсон адводзіць нас у другі бок. У які, мы зараз ўбачым.

„Цьвікевіч сяброўскі паціскае рукі і чэскім, і украінскім, і рускім, і іншым *славянафілам*“ (стар. 14, курсіў мой).

„З асаблівай сымпатыяй гаворыць Цьвікевіч аб аксакаўскай *плыні* рускага *славянафільства*“ (стар. 14, курсіў мой).

Прывёўшы словы Цьвікевіча аб лёзунгу вядомага „аматара славянафільскіх старажытнасьцяў, Шышкова“—т. Вольфсон заяўляе:

„Нацдэмы цалкам і поўнасьцю солідарызавался з гэтым „політычным дэвізам“, уносячы ў яго „паправачны коэфіцыент“ на стагодзьдзе, прайшоўшае ад Шышкова“ (стар. 32, курсіў мой).

Да чаго гэта аналёгія і нават атоесамліваньне („цалкам і поўнасьцю солідарызаваліся...“) нацдэмократызму з славянафільствам? Гэта гістарычна няправільна і таму гэта нас разбройвае ў барацьбе з нацдэмократызмам. Бясспрэчна, можна знайсьці што-ні-што агульнага паміж шышкоўшчынай і нацдэмізмам, але знаходжаньне гэтага агульнага ўяляе сабою пусты занятак, часта формальнае мэханічнае збліжэньне дзьвюх зусім рознародных плыняў. З політычнага-ж пункту погляду, гэта значыць адзіна правільнага і тэорэтычна-мэханічнае збліжэньне нацдэмократызму з славянафільствам уяўляе сабою вялікую небясьпеку: кожная з гэтых плыняў губляе свой спэцыфічны гістарычны і клясавы зьмест, кожная з іх выступае тады не як самастойная плынь, абумоўленая сваімі *ўласнымі* клясавымі карэньнямі, а як модыфікацыя другога, як яго некаторая відазьмена дзякуючы чаму кожная і губляе свае ўласныя клясавыя карэньні.

— Нацдэмократызм—гэта шышкоўшчына спусьціўшы 100 год,—' выходзіць па т. Вольфсону, і ён змушаны зьвярнуцца, каб запоўніць 100 год, *да паправачнага* коэфіцыенту“, моў, калі Шышкоў гаварыў „пра Эўропу, як пра прасякнутую праклятым духам рэволюцыі — якобінствам“ (стар. 32), то нацдэмы гавораць так пра... Расію з яе праклятым духам „бальшавізму“ (стар. 33).

Такая пастаноўка пытаньня дапамагае толькі затушоўваньню рэальнага клясавага зьместу конкрэтнага гістарычнага пэрыоду, выхалашчваньню, падмене клясавага зьместу нацдэмократызму (як і шышкоўшчыны) некаторымі формальна тоежсамымі ідэолёгічнымі элемэнтамі шышкоўшчыны.

„Дзіва, што!—піша т. Вольфсон—і нацдэмы-ж змагаліся за „чыстату мовы“ супроць панаваньня ненавіснай „чужаземшчыны“. І нацдэмы-ж заклікалі да „ўласнай“ нацыянальнай стыхіі. І яны-ж культывавалі „народны“ стыль. І яны-ж патрабавалі „адмовы ад малпавых запазычаньняў“, праўда, ўжо не з Эўропы, а з Расіі з яе праклятым духам — бальшавізмам“... (стар. 32, курсіў мой).

Такім чынам, і шышкоўшчына і нацдэмократызм прадстаўлены, як формальна-атоесамленая сукупнасьць ідэй, яны ператвораны ў самадаўлеючыя тэорыі, прызнаваць і падзяляць якія — справа густу, а ня клясавых інтарэсаў. Адарваўшы нацдэмократызм ад яго рэальных клясавых карэньняў — ад кулацтва, т. Вольфсон закрывае сабе шлях, пры дапамозе якога ён мог-бы зьвязаць сучасныя контррэволюцыйныя лёзунгі нацдэмократызму з яго быццам-бы славянафільскай асновай. Нічога дзіўнага няма ў тым, што ён змушаны гэта зрабіць у парадку „папраўкі“.

„Выкідаючы лёзунг „Прэч ад Масквы“ нацдэмы імкнуліся, зразумела (...—гэта характэрнае „зразумела“) да пэўнай клясавай мэты — ізоляваццa ад цэнтру пролетарскай дыктатуры і г. д.“ (стар. 33).

Тав. Вольфсон не дарэмна кажа пра „паправачны коэфіцыент“, ён змушаны ў *парадку папраўкі прышпіліць* да „шышкоўскай“ асновы сучасныя клясавыя інтарэсы нацдэмізму. Іначай ён, канечне, зрабіць ня мог: з формальнага атоесамленьня нічога ня высмакчаш, *зьвязаць* „ашышкаваны“ нацдэмізм з рэальным нацдэмізмам досыць цяжка, паказаць, як лёзунг „Прэч ад Масквы“ выступае ў якасьці натуральнага, нязьбежнага, выніку з сучаснай клясавай, буржуазнай прыроды нацдэмізму, т. Вольфсон ня можа...

„Ашышкаваўшы“ нацдэмізм, т. Вольфсон аднaчасова зьняў з сябе клопат аб ускрыцьці сапраўдных клясавых карэньняў нацдэмізму. Што справа ў сапраўднасьці абстаіць так, відаць з дачыненьня артыкулу да тэорыі Цьвікевіча. Аб ёй т. Вольфсон піша: „Цьвікевіч *зусім адкрыта расшыфроўвае*, чаму нацдэмаўскія „незалежнікі“... палалі сымпатыямі да славянафільства“...

„... *На гэтым грунце* нацдэмаўскі „дасьледчык“ Цьвікевіч пабратаўся з чорнасоценнымі абрусіцелямі тыпу Гавароўскага і г. д.“ (стар. 14, курсіў мой).

Што ўсё гэта значыць? Няўжо тав. Вольфсон сур'ёзна думае, што „Цьвікевіч зусім *адкрыта расшыфроўвае*“, чаму нацдэм і інш...? Хіба няясна, што Цьвікевіч *не расшыфроўвае*, а наадварот, *зашыфроўвае* свае сапраўдныя клясавыя карэньні? Партыя кажа: ня вер яму, гэтаму клясаваму ворагу, ён замятае сьляды. А артыкул кажа: ён *адкрыта расшыфроўвае.* Партыя кажа: *на сваёй клясавай буржуазнай аснове, на глебе* атоежсамленых клясавых інтарэсаў зыходзяцца нацдэмы і вялікадзяржаўны шовініст. Артыкул кажа: *на „гэтым грунце“*, гэта значыць на глебе абстрактнай шышкоўскай асновы, пабраталіся нацдэмы з вялікадзяржаўнікамі, з абрусіцелямі.

Чаму гэта? Таму што выходным пунктам зьяўляецца вялікадзяржаўная нігілістычная ацэнка тэй барацьбы, якую партыі даводзіцца весьці з усёй сур'ёзнасьцю супроць *усіх* праяўленьняў нацдэмізму, супроць усіх іхных хітрыкаў схаваць свае карэньні ў беларускім кулацтве, хоць-бы цаной стварэньня легенды аб сваёй нібы-та шышкоўскай аснове. Створаная нацдэмамі містыфікацыя ня толькі ў артыкуле не выкрываецца, а замацоўваецца і нават — бярэцца ў якасьці зброі змаганьня і імі.

Вялікадзяржаўнае стаўленьне да барацьбы партыі з нацдэмізмам вызначае даную т. Вольфсонам характарыстыку контррэволюцыйнай дзейнасьці нацдэмаў.

Хараракрарызуючы „рэальную політыку“ нацдэмаў, з вычарпальнай яскравасьцю паказваючы, што яна была ў „пералётах ад Дзянікіна да Аўстрыі ад Адстрыі да Прыбалтыкі, да Ўсходня-галіцыйскага дыктатара, да САЗШ і г. д. і г. д.—тав. Вольфсон піша:

„Трэба аддаць справядлівасьць нацдэмам, што ва ўсёй іх дзейнасьці ня было „ані прынцыпіяльнасьці, ані пачуцьця“ (стар. 67, апошнія словы належаць нацдэмам, якіх т. Вольфсон цытуе, курсіў мой).

У другім месцы: „у сапраўднасьці гэта было *бяспрынцыпна-дзяляцкім політыканствам,* „рэалізм“ якога быў „рэалізмам“ усякага простытуяваньня“ (стар. 68, курсіў мой). На той-жа старонцы зноў: „У іх орыентацыях сапраўды ня было *„ані прынцыпіяльнасьці, ані пачуцьця“.*

Ці трэба ўскрываць прадажнасьць нацдэмаў, простытуяваньне імі ідэй „нацыянальнага адраджэньня“, іх гандаль оптам і ў розьніцу інтарэсамі працоўных мас Беларусі? Абавязкова трэба, з усяе сілы і падкрэсьленасьцю, як гэта зрабіў т. Вольфсон.

Але ці можна на гэтай падставе сказаць, што яны—нашы *бяспрынцыпныя* ворагі, што „ва ўсёй іх дзейнасьці ня было ані прынцыпіяльнасьці, ані пачуцьця“?

Хіба ва ўсёй іхнай дзейнасьці няма пэўнай *пасьлядоўнасьці, прынцыпіяльнай непрымірымасьці* клясавага ворага, які ідзе на ўсё, абы захаваць свае клясавыя позыцыі? Хіба мы можам адмовіць у зьвярынай нянавісьці нацдэмаў, што змагаліся да апошняй магчымасьці і здаліся толькі тады, калі другога выхаду ў іх, як здача, ня было.

Сказаць-жа, што ва ўсёй хлусьлівай, прадажнай, здрадніцкай дзейнасьці нацдэмаў ня было „ані прынцыпіяльнасьці, ані пачуцьця“, гэта значыць—сказаць, што яны ўсё гэта рабілі ня ў імя і *не для* буржуазна-кулацкай рэстаўрацыі, *а для* сваіх вузка-эгоістычных імкненьняў. Гэта значыць, і нашу барацьбу з імі пазбавіць прынцыпіяльнага, гэта значыць політычнага сэнсу. Гэта значыць, хварэць на вялікадзяржаўны нагілізм у адносінах да змаганьня, якое партыя вядзе супроць нацдэмократызму.

Той-жа вялікадзяржаўны шовінізм сказваецца, калі т. Вольфсон сам блізка падыходзіць да пытаньня аб адносінах нацдэмаў да кулацтва.

На стар. 52 ён піша: „Нацдэмы стараліся *праз* кулацкую верхавіну вёскі падпарадкаваць беларускае сялянства свайму ўплыву“.

Далей на стар. 53: „Усё гэта, зразумела, былі толькі шляхі для дасягненьня асноўнай клясавай мэты нацдэмаў падпарадкаваць свайму ўплыву беларускае сялянства“.

Тут усе адносіны перакручаны і пастаўлены на галаву. Не нацдэмы выступаюць у якасьці агентаў кулацтва, а наадварот, кулацтва выступае ў якасьці агентуры нацдэмаў, праз якую яны стараліся падпарадкаваць *свайму ўплыву* беларускае сялянства. „Аказваецца, яны імкнуліся *падпарадкаваць...* беларускае сялянства“, у тым ліку, зразумела, і кулацтва... буржуазнай ідэолёгіі.

Замест таго, каб вылучыць серадняцкае і бядняцкае сялянства, замест таго, каа паказаць іх як об'ект эксплёатацыі кулацтва, а нац-

дэмаў, як агентаў, якія ажыцьцяўляюць гэтую эксплёатацыю,—т. Вольфсон прымушае кулацтва падначальвацца... буржуазнаму ўплыву, а пасьля атрыманьня адпаведнага выхаваньня паўплываць на астатняе сялянства ў нацдэмаўскім духу.

Вось да чаго дагаварваецца артыкул.

Але гэта пасьлядоўна: раз нацдэмы—гаспадары, кулацтва іхная агентура, то апошняму трэба яшчэ прышчэпліваць буржуазную ідэолёгію, раз нацдэмы—самі сабе гаспадары (бо яны-ж „шышкоўцы“), яны ня маюць клясавых прынцыпаў: іх дзейнасьць, згодна артыкулу, „ані прынцыпіяльная, ані пачуцьцёвая“. У перакладзе на мову агульных формул т. Вольфсона, з якіх ён выходзіць, апошняя акалічнасьць выглядзіць так: буржуазны зьмест выпарыўся („ані прынцыпіяльнасьці, ані пачуцьця“), ён абярнуўся ў чыстую нацыянальную форму („орыентацыі на ўсе нацыянальнасьці—англічан, немцаў, амэрыканцаў, палякаў і г. д. і г. д.) Тав. Вольфсон правільна падсумаваў вопыт сваёй конкрэтнай барацьбы з нацдэмамі...

Нацдэмы ў свой час высунулі „тэорыю“ аб асобнай „гістарычнай місіі“ беларускага народу.

Як-жа артыкул падыходзяць да гэтай тэорыі?

Раней, чым адказаць на гэта пытаньне, установім як партыя падыходзіць да ўсякага роду „місій“.

Па-першае—зусім ясна, што ўсе гэтыя „місіі“, якія разьвіваюць нацыяналісты розных краін, да дзіўнага падобны адна на адну, ня выходзячы за межы агульнапрынятых „вялікіх“ буржуазных добрадзеяў. Па-другое—усе яны прадстаўляюць сабою толькі форму ваяўнічага, нацыяналістычнага спаборніцтва, форму „выключнасьці“ (Ленін), якую прапаведуюць буржуазныя нацыяналісты ўсіх краін. У супроцьвагу ўсім гэтым *місіянэрскім* абаснаваньням свайго права на „месца пад сонцам „марксызм-ленінізм выстаўляе бязумоўнае роўнапраўе нацый, права нацый на самавызначэньне, *незалежна ад усіх існуючых у іх ілюзій і фікцый наконт сваіх „гістарычных місій“, выкрываючы іх антыдэмократычнасьць, рэакцыйнасьць, часам імпэрыялістычную існасьць.* Разам з тым марксызм-ленінізм адразу-ж высоўвае інтэрнацыянальную солідарнасьць пролетараў і працоўных усіх краін, адзінства іх інтарэсаў і іх непрымірымую супроцьлегласьць інтарэсам эксплёататарскіх кляс кожнай краіны.

Падкрэсьліваючы гэтае інтэрнацыяльнае адзінства пролетарыяту, марксызм-ленінізм ня здымае, аднак, пытаньня аб „нацыянальнай гордасьці“, аб гістарычным значэньні нацыі. Само сабою зразумела, што ўсякага роду „місіі“, абраныя мэты і інш. адкідаюцца ў бок, як ідэалістычная гніль. Аднак, пытаньне „аб нацыянальнай гордасьці“ застаецца і адмахнуцца ад яго нельга.

Калі Ластоўскі і іжэ з ім ставіць пытаньне аб „нацыянальнай гордасьці“ беларусаў, то нельга з ленінскага пункту гледжаньня зрабіць так, як зрабіў т. Вольфсон.

Што ён зрабіў? Ён прывёў разважаньні Ластоўскага аб Ноўгарадзе Пскоўскім, аб Беларускім краі, іх значэньні ў былой Расіі. Ён прыводзіць цытату з Ластоўскага: „...Нашае заданьне ў гісторыі—дэцэнтралізм і народніцтва, якія дадуць новыя цэннасьці, нясучы вызваленьне чалавецтву, якое задыхаецца ў путах стадна-цэнтралістычнага абсолютызму, таксама ў дэмократычных і соцыялістычных дзяржавах“.

Ясна, што ўсе гэтыя „ідэі“ Ластоўскага нішто іншае як зброя, накіраваная супроць дыктатуры пролетарыяту, прычым зброя ўстарэлая, заіржавелая і страціўшая ў значнай меры сваю сапраўднасьць.

Што-ж піша тав. Вольфсон?

„Вось „гістарычная місія“, якая па думцы нацдэмаў ляжыць на беларускім народзе. Прынцып, што толькі народ-носьбіт тэй, альбо іншай „місіянскай“ ідэі можа заняць пачэснае месца ў лоне сваіх славянскіх пабрацімаў, такім чынам, цалкам апраўданы“ (стар. 16).

І ўсё... Чаму апраўданы? Як апраўданы? Чаму ўхіляецца ад пастаўленага пытаньня? Чаму не выкрываць нацдэмаў і не разьвіць нашага партыйнага пункту погляду?

Мала таго, што артыкул *конкрэтна* не выкрывае сапраўднага значэньня нацдэмаўскай „місіі“. У ім даецца па існасьці нігілістычны падыход да важнейшага пытаньня нашай нацыянальнай політыкі.

Ці павінны мы ставіць пытаньне аб „нацыянальнай гордасьці“ беларусаў? Павінны. Выступаючы як адзіны носьбіт культуры народаў БССР, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу, мы *павінны* ставіць гэта пытаньне і *па свойму* вырашыць яго, ні ў якім выпадку не абмяжоўваючыся голым адкідваньнем нацдэмаўскіх „місій“.

З нашага пункту погляду нацыянальнай гордасьцю працоўных беларусаў зьяўляецца КП(б)Б, высунутыя з асяродзьдзя беларускага народу рэволюцыйныя правадыры, героічная КПЗБ(б), рэволюцыянэры-беларусы, якія прымалі ўдзел у падрыхтоўцы Кастрычніка, у самой Кастрычнікаўскай рэволюцыі, у соцыялістычным будаўніцтве, у грамадзянскай вайне. Гэту *нашу* нацыянальную гордасьць мы павінны супроцьпаставіць той ложнай, аснованай на хлусьні ў мэтах нацыяналістычнага спаборніцтва, рэакцыйнай, нацыянальнай гордасьці, якую высоўваюць нацдэмы. Адным нігілістычным адмаўленьнем тут не адмахнешся. Пустое месца, якім па даным пытаньні зьяе артыкул, вядзе просьценька да вялікадзяржаўнага шовінізму [1]).

Разам з тым застаецца нявыкрытай тая „нацыянальная гордасьць“, якую хацелі прышчапіць масам беларускага народу нацдэмы. У сапраўднасьці, у *кім* бачаць нацыянальную гордасьць нацдэмы?

У Скарыне, у літоўска-беларускіх князёх, у „князёўне Рагнедзе“ і г. д. У чым бачаць нацыянальную гордасьць нацдэмы?

— „Наш народ ціхі і гуманны“, нашэптвае Ластоўскі. „Эксцэсы рабілі іншыя“, нагаварвае ён.

Гэта паклёп на працоўных беларускага народу. І гэты паклёп нельга абыйсьці моўчкі. Клясавае змаганьне кіпела і кіпіць у беларускім народзе як і ўсюды. А тое, што нацдэму ў яго ханжанскай манэры хочацца абазначаць, як „эксцэсы“, зьяўляецца па існасьці найбольш вольным выражэньнем дзейнасьці, актыўнасьці мас, іх рэволюцыйным выступленьнем. А ў рэволюцыйным руху на Беларусі працоўныя масы беларускага народу прымалі і прымаюць самы чынны ўдзел. Таму трэба выкрыць салодка-прытарную пропаведзь хрысьціянскага непраціўленьня і лагоднасьці ў вуснах мацёрага нацдэмаўскага ваўка. Трэба выкрыць гэта прыфарбоўваньне беларускага народу пад бараняе стада, якое тым зручней стрыгчы, чым больш лагоднасьці

[1]) Паўз тыя выказваньні Ластоўската, якія прыводзяцца ў артыкуле, выказваньні пра Рыскую змову і яе значэньне для Беларусі.., гэта датыча ня толькі сьвежа крывавай раны, дачыненай расійска-польскай урадай у Рызе...“ нельга прайсьці маўчком. Тым больш. што Рыская змова занадта часта мільгае ў артыкуле то ў вуснах Ластоўскага, то ў вуснах Баліцкага і інш. Тут неабходна было разьвіць партыйны пункт гледжаньня, які абаснаваны ў артыкулах і прамовах Леніна.

яму надасі, чым больш нявольніцтва яму прышчэпіш. Дух нявольніцтва, — вось нацыянальная гордасьць нацдэма. Таму ён падбірае ў гісторыі ўсё нявольніцкае і імкнецца ўвекавечыць яго. Таму ён і ў сучаснасьці хоча бачыць толькі „цішыню“ і „гуманнасьць“. І гэту „нацыянальную гордасьць“ трэба выкрыць. Ад нацдэмократызму нельга пакідаць камня на камні. Трэба накіраваць на яго ўсю сілу бязьлітаснай, непрымірымай партыйнасьці.

А што-ж робіць тав. Вольфсон? А ён з гэтага поваду ўспамінае... Карамзіна.

Як-быццам гэта найвялікшае злачынства: „...лётаць на шпаркіх крыльлях выбражэньня ў аддалёную пахмурнасьць сівых часоў“... Як-быццам справа ня ў тым, *што* там знаходзіць: рэволюцыйны, альбо рэакцыйны зьмест. Як-быццам справа ня ў тым, што нацдэмы шукаюць у гісторыі ўсё рэакцыйны зьмест, падбіраюць яго на крысе і імкнуцца ўвечніць накшталт вядомага „гістарычнага бізуна“. Як-быццам *мы* не павінны ўскрыць *рэволюцыйны* зьмест гісторыі Беларусі і паказаць сваіх рэволюцыйных папярэднікаў.

Альбо можа быць, сапраўды, нацдэмам ўдалося ператварыць нацыянальную форму, гэта значыць тое, што адрозьнівае гісторыю Беларусі ад гісторыі іншых народаў у... буржуазную? Тады, канечне, пасьлядоўна лепш не чакаць і замоўкнуць. Нават лепей перапусьціць яе нацдэмам.

І тав. Вольфсон гэтак і робіць.

Ён прыводзіць рад цытат, якія надзвычай ярка паказваюць клерыкалізм нацдэмаў. Ён дужа наглядна паказвае, як рэлігійныя мотывы, чорнасоценны цемрашал пранізвае ўсе ўстаноўкі, усе тэорыі нацдэмаў. Ён падкрэсьлівае непарушны саюз, у які нацдэмы ўступаюць з царквою. Усё гэта дужа добра і прыгожа ілюструе эволюцыю буржуазнага нацыяналізму, з якога вывятраўся ўсякі намёк на дэмократызм, і які на нашых вачох ператварыўся ў нацыянал-фашызм. Усё гэта між іншым сьцьвярджае партыйны пункт погляду, які патрабуе вылучыць у нацыянальным руху яго два струмені: абмежаваны, рэакцыйны, буржуазны нацыяналізм і сапраўды рэволюцыйна-вызваленчы рух шырокіх працоўных мас. Мы ні ў якім выпадку не зацікаўлены ў аднародным афарбоўваньні нацыянальнага руху. Таму ўсе імкненьні нацдэмаў прадставіць *увесь* беларускі нацыянальны рух з іманэнтна рэлігійнымі элемэнтамі павінны быць намі выкрыты. Таму, калі Трамповіч піша: „У той час калі ва ўсіх нашых суседзяў нацыянальны грунт быў адзіным грунтам яднаньняў, у нас да гэтага далучалася яшчэ рэлігійнае пытаньне“,—мы павінны выкрыць яго і паказаць, што і ў нас, у беларусаў, нацыянальна-вызваленчы рух абходзіўся і абходзіцца без „далучэньня яшчэ рэлігійнага пытаньня“.

А які-ж падыход артыкулу да тэзісу Трамповіча? Замест таго, каб выкрыць нацдэма, т. Вольфсон піша: *„Гэтая акалічнасьць давала* нацдэмам повад няізьменна падкрэсьліваць асобную ролю рэлігіі ў нацыянальных лёсах беларускага народу“ (стар. 38, курсіў мой).

Як-жа гэта выходзіць? Якая такая *„гэта акалічнасьць* давала нацдэмам повад і г. д.“? Няўжо мы можам згадзіцца з нацдэмамі з тым, што да *ўсяго* нацыянальнага руху ў Беларусі „далучалася яшчэ рэлігійнае пытаньне“? Не, ня можам згадзіцца, бо гэта-б адзначала ставіць *увесь* нацыянальны рух, *у тым ліку рэволюцыйна-вызваленчы на ўгледжаньне і апрацоўку нацдэмаў*. Ня можам абыйсьці гэта моўчкі, бо яно было-б выражэньнем *нігілізму* ў дачыненьні да нацыянальна-вызваленчага руху. Ня можам абмежавацца тым, чым абмяжоўваецца

артыкул: „На іх адчуваўся прыкметны ўплыў цютчаўскай формулы аб зямлі, якую „благословляя, царь небесный исходил“... Таксама мала дапамагае нічога ня кажучая заява: „Гэта быў адзін з штампаў нацдэмократызму“ (стар. 10).

Надта вялікай уступчывасьцю, уступчывасьцю, якая сьведчыць аб вялікадзяржаўным стаўленьні да беларускай рэволюцыйнай інтэлігенцыі, адзначаецца артыкул у крытыцы нацдэмаўскай тэорыі аб беларускай інтэлігенцыі. Змагаючыся з нацдэмаўскай тэорыяй аб беларускай інтэлігенцыі, мы павінны падкрэсьліць *распластваньне* ў беларускай інтэлігенцыі. І калі ў сувязі з крытыкай нацдэмаў, як між іншым *і ва ўсім артыкуле ані словам* не ўспамінаецца аб беларускай, *рэволюцыйнай, пролетарскай* інтэлігенцыі, то гэта ёсьць вялікадзяржаўны шовінізм. І толькі з пункту погляду вялікадзяржаўнага шовінізму можна прарабіць такую рэч—перапусьціць *усю* беларускую інтэлігенцыю нацдэмам.

Таксама абстаіць справа ў артыкуле з „крытыкай“ нацдэмаўскай тэорыі „дзьвёх культур“. У аснове гэтай „тэорыі“ ляжыць звычайнае выяўнічае, буржуазна-нацыяналістычнае супроцьстаўленьне *сваёй* нацыянальнай культуры ў *цэлым, чужой* нацыянальнай культуры *ў цэлым*. Як мы крытыкуем падобныя тэорыі? Мы помнім словы Леніна аб дзьвёх нацыях у кожнай нацыі, дзьвёх культурах у кожнай нацыянальнай культуры. Мы помнім словы Леніна аб адзінстве інтарэсаў пролетараў і працоўных усіх краін і аб непрымірымай супроцьлеглясьці гэтых інтарэсаў інтарэсам эксплёататараў усіх краін. Выходзячы з гэтага, мы і выкрываем усялякія *буржуазныя* тэорыі „дзьвёх культур“. Змагаючыся з нянавісьцю, якая культывуецца нацыяналістамі ў адносінах да „чужаземшчыны“, мы не выступаем *за* „чужаземшчыну“ ў *цэлым*, мы і ў ёй ускрываем соцыялістычную рэволюцыйную аснову, з якою мы абвяшчаем сябе солідарнымі. Мы адводзім ад сябе пастаноўку пытаньня аб *суцэльнай* „чужаземшчыне“, таксама як і аб адзінстве *сваёй* нацыі—сваіх нацыяналістаў.

Між тым, артыкул, змагаючыся з зоолёгічным шовінізмам нацдэмаў, супроцьстаўляе яму „любасьць“ да „чужаземшчыны“ *наогул*.

„Нацдэм усялякімі спосабамі імкнецца агарадзіць сябе ад „чужых уплываў“, ад усяго „наноснага“, „чужога“, „не свайго“, замкнуцца ў „сваім“, „родным“, „нацыянальным“ (стар. 10).

„Нацдэмы вядуць барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць з усякай „чужаземшчынай“. Асабліва адкрыта вялася гэта барацьба ў галіне лінгвістыкі“ (стар. 11). І далей ідзе размова пра тое, як рускія словы „перарабляліся“ ў... беларускія: „Яны (нацдэмы) дабіваліся... што пераваралі „аэродром“ у „лётнішча“, „параллелограмм“—у „роўналежнабочнік“, „зоолёгію“—у „жывёлазнаўства“, „термометр“—у цепламер“, „апетит“—у „жадаедзь“ і г. д.“ (стар. 11).

Варта, між іншым, адзначыць, што прыклады „нянавісьці“ беларускіх нацдэмаў да „чужаземшчыны“, якія прыводзяцца т. Вольфсонам, сьведчаць адначасова і аб „любасьці“ іх да „чужаземшчыны“, толькі да другой „чужаземшчыны“. Тав. Вольфсон не заўважае, што калі ў прыкладах адчуваецца нянавісьць да „рускай чужаземшчыны“, то тамака-ж можна адчуць любасьць да польскай „чужаземшчыны“. Гэту акалічнасьць трэба было заўважыць і зьвярнуць на яе адпаведную ўвагу. У той час, як самі нацдэмы, як „людзі справы“, а не красамоўцы, як сапраўдныя рэакцыянэры, дужа празрыста робяць намёкі, што іх нянавісьць да „чужаземшчыны“ *дужа адносная*, што ненавідзяць яны Расію Савецкую, а любяць Польшчу *фашысцкую* (нена-

відзячы, канечне, Польшчу *пролетарскую* і любячы Расію № 2, Расію бела-эмігранцкую),—т. Вольфсон па вялікадзяржаўнаму *абсолютызуе* нацдэмаўскую нянавісьць да чужаземшчыны ў яе аднабокасьці—у адносінах да ўсяго *рускага*. Ён сам не заўважае, у якую супярэчнасьць ён трапляе з выкладзенымі ім фактамі прадажнасьці нацдэмаў, іх зьвяртаньня за дапамогаю да буржуазных урадаў амаль *усіх* краін, прадажнасьці, у якой ён ня мае нахілу бачыць „ані прынцыпіяльнасьці, ані пачуцьця“. Але ва ўсёй гэтай „няўважлівасьці“ лішні раз выкрываецца, што т. Вольфсон забыўся аб клясавых карэньнях беларускага нацдэмократызму.

Вернемся, аднак, да барацьбы, якую т. Вольфсон вядзе з нацдэмаўскім шовінізмам. Такім чынам, у тав. Вольфсона нацдэмы выключалі ўсё „чужое“, аберагаючы ўсё „сваё“, выкідалі рускія словы і прыдумвалі свае беларускія. Ці правільная гэта абмалёўка справы нацдэмаў, іх барацьбы на фронце лінгвістыкі? Не, няправільная. Гэта абмалёўка ў сьвятле вялікадзяржаўнага шовінізму.

Сапраўды, як трэба з партыйнага пункту погляду падыйсьці да справы нацдэмаў у галіне беларускай лінгвістыкі? Зусім зразумела, што справа нацдэмаў заключалася ў тым, што яны змагаліся супроць ўсяго *прогрэсыўнага, рэволюцыйнага*, што ёсьць у беларускай мове, у расійскай і ў цэлым радзе іншых моў, што выражае сабою паказаную Леніным сусьветна-гістарычную тэндэнцыю да адзінства, сувязі, інтэрнацыяналізму. У супроцьвагу гэтаму нацдэмы высоўвалі ўсё *консэрватыўнае, рэакцыйнае* як у беларускай мове, так і ў іншых. Імена віта, як *рэакцыйна*-буржуазны струмень у беларускай лінгвістыцы ў супроцьвагу *рэволюцыйнаму, пролетарскаму* павінна быць выкрыта работа нацдэмаў, а не як проста нянавісьць да „чужаземшчыны“. Між тым тав. Вольфсон апошняе і робіць. Ён змагаецца з дужа аднаснай нянавісьцю беларускіх нацдэмаў да „чужаземшчыны“—з пункту погляду досыць абсолютнай любасьці да расійскай „чужаземшчыны“. У нацдэмаў „нянавісьць“ адносная, бо абсолютным для іх зьяўляецца клясавы інтарэс кулацтва. У тав. Вольфсона яна абсолютна, бо ня мае клясавых карэньняў і таму цалкам накіравана супроць расійскай „чужаземшчыны“. Але гэта і ёсьць вялікадзяржаўны шовінізм.

Нічога дзіўнага затым няма, што мы ў артыкуле сустракаемся з такім палажэньнем: „*Вярхоўны* крытэрый у іх—гэта захаваньне нацыянальнага стылю“... *Ня клясавы інтарэс*, а нацыянальны стыль выступае ў нацдэмаў *вярхоўным крытэрыем?*

Артыкул ідзе яшчэ далей. Кажучы пра стыль, як нацыянальны стыль, а ня стыль эпохі, т. Вольфсон заяўляе: „За барацьбою стыляў хаваецца барацьба клясаў“ (стар. 29). Само сабою зразумела, што т. Вольфсон тут-жа тлумачыць, што гутарка ідзе пра *клясавы* стыль.

„Праз стыль кляса надае быту і мастацтву тое афармленьне, якое данай клясе прадстаўляецца найбольш мэтазгодным, г. зн. найбольш адпавядаючым яго інтарэсам. У стылі адбіваецца клясавы сьветапогляд, у ім выражаецца клясавая ідэолёгія“.

Такім чынам, тав. Вольфсон „выратоўваецца“ ад нацыянальнага стылю на „клясавы пункт погляду“. Аднак, паглядзім, *куды* ён сапраўды выратоўваецца. Падсумоўваючы, ён піша:

„У тым разуменьні нацыянальнага стылю, *якое культывавалі нацдэмы*, натуральна, адбівалася ўсё клясавае імкненьне гэтых ідэолёгаў буржуазіі і кулацтва“ (стар. 29, курсіў мой).

Такім чынам, клясавае імкненьне нацдэмаў, як *ідэолёгаў буржуазіі і кулацтва* адбілася ў іх разуменьні *нацыянальнага стылю.*

Што-ж гэта за разуменьне нацыянальнага стылю, якое культывавалі нацдэмы?

Як вядома і як піша тав. Вольфсон, нацдэмаўскае „разуменьне *нацыянальнага стылю*“ заключаецца ў самабытнасьці яго, самадаўлеючым характары яго, у выключнасьці, якая не дапускае чаго-небудзь „чужога“ і г. д. Словам, у яго ваяўніча-конкурэтным характары ў адносінах да другіх нацыянальных стыляў, як гэта належыць буржуазным прапаведнікам нацыянальнай грызьні. Каб стварыць *гэткі* „стыль“, нацдэмы зьбіраюць у адно ўвесь *рэакцыйны зьмест* гісторыі Беларусі і імкнуцца прадставіць гэты *рэакцыйны зьмест* як *нацыянальную асаблівасьць*, як нешта, што мае дачыненьне да нацыянальнай *формы*, як тое агульнае, што быццам яднае ўсе клясы беларускай нацыі і адрозьнівае яе ад усіх астатніх.

Калі нацдэмы кажуць: гэткае наша разуменьне *нацыянальнага стылю*, і гэта разуменьне мы культывуем,—то мы павінны выкрыць іх і паказаць, што яны займаюцца *ня пытаньнямі стылю*, гэта значыць формы, а пытаньнямі разьвіцьця ў гэтым стылі рэакцыйнага буржуазнага *зьместу*. Мы ня можам і не павінны прымаць тую фікцыю, якую пропагандуюць нацдэмы, быццам гутарка ідзе пра разуменьне імі *нацыянальнага стылю*. І калі тав. Вольфсон з усёй сур'ёзнасьцю піша, што ў нацдэмаўскім разуменьні *нацыянальнага стылю* адбілася іх буржуазна-кулацкая прырода, то гэта і ёсьць вялікадзяржаўны шовінізм, альбо, кажучы словамі т. Вольфсона,—нацыянальная форма ператворана нацдэмамі ў... буржуазную.

Вось куды выратаваўся т. Вольфсон ад свайго тэзісу:

— „За барацьбой стыляў хаваецца барацьба клясаў“.

Да дзіўнай выразнасьці выступае вялікадзяржаўны шовінізм у тым, як т. Вольфсон „крытыкуе“ нацдэмаўскую тэорыю аб „дзьвёх окупацыях“. Выкладаючы гэту тэорыю, т. Вольфсон піcаў: „Контррэволюцыйны поэтык Дудар пісаў аб тым, што Бэльвэдэр і Крэмль разарвалі Беларусь—„пасеклі наш край папалам“ (стар. 38). Ясна, што гэтай „тэорыяй“ нацдэмы імкнуліся прадставіць знаходжаньне БССР у Савецкім Саюзе, як гэткую-ж окупацыю, як знаходжаньне Заходняй Беларусі ў складзе польскай дзяржавы.

Як-жа трэба адказаць на гэту „тэорыю“? Сьмешна, канечне, гаварыць пра такія рэчы, аднак, калі змагаемся з клясавым ворагам, трэба гаварыць да канца. Лічым-жа мы патрэбным выкрываць белагвардзейскія байкі аб „прымусовай працы“, хоць у нас яны выклікаюць толькі сьмех. Гэтак і з „тэорыяй“ нацдэмаў. Трэба паказаць на тую героічную барацьбу, якую вялі і вядуць пролетары і працоўныя масы Савецкай Беларусі ў саюзе з пролетарамі і працоўнымі масамі іншых рэспублік нашага Саюзу менавіта для таго, каб адстаяць сваю дактатуру пролетарыяту, сваю рабочую дзяржаву і яе ўваходжаньне ў Савецкі Саюз,—барацьбу, у якой выразілася нязломная воля працоўных мас Беларусі да саюзу з працоўнымі астатніх пролетарскіх рэспублік.

А як-жа тав. Вольфсон адказвае? Прывёўшы словы Дудара: „Бэльвэдэр і Крэмль... пасеклі наш край папалам“,—тав. Вольфсон *няпасрэдна* кажа далей:

„А пра Беларусь нацдэмы гаварылі ў сваіх звычайных „урапатрыятычных“ маштабах. Вось як, напрыклад, адзначаў тэрыторыю Беларусі Доўнар-Запольскі: „Беларусь—гэта вялізарны край, каторы складаецца з губэрняў: Менскае, Магілеўскае і Смаленскае (цалкам), блізу ўсяе Віцебскае губэрні..., блізу ўсяе Віленскае, Горадзенскае

губэрні, трох паўночных паветаў Чарнігаўскае губэрні, да 3-х сумежных валасьцей губэрняў: на захадзе — Пскоўскае, Цьвярское і Арлоўскае" (стар. 38).

Такім чынам, у адказ нацдэмам на тое, што Беларусь окупавана „Масквою", тав. Вольфсон кідае—„вы самі окупанты". Вы, моў, захапляеце Смаленшчыну, Арлоўшчыну і інш. тэрыторыі, што ўваходзяць у склад РСФСР. Моў, ты мне ў лён, я табе ў капусту...

Комэнтарыі, як кажуць, лішнія.

Комэнтарыі лішнія, калі т. Вольфсон, змагаючыся з нацдэмамі ўсякімі выдумкамі аб Дастаеўскім, Глінку, Рэпіне і інш., піша: „...Ластоўскі..., Шчакаціхін ня ўпускалі выпадку казыраць гэтымі *„ісьціна-беларускімі"* імёнамі" (стар. 12, курсіў мой).

Як гэтыя „ісьціна-беларускія" напамінаюць сабою нейкую газэту, якая, разьбіраючы новы склад Прэзыдыуму БАН, пісала: „Вось падабралі „беларускі" Прэзыдыум: Хацкевіч, Рыўлін і г. д.

Комэнтарыі лішнія, калі т. Вольфсон, крытыкуючы нацдэмаўскія гутаркі пра Глінку, Дастаеўскага і іншых, заяўляе: „... *агульна-прынятым было сярод нацдэмаў* абвінавачаньне „Масковіі" ў тым, што яна пакрала ў беларусоў тыя альбо іншыя культурныя каштоўнасьці" (стар. 12, курсіў мой).

Як гэта выходзіць? Тав. Вольфсон ясна пакідае ў руках нацдэмаў як іх *неад'емлемы інвэнтар* палажэньне аб тым, што „Масковія" абакрала беларускі народ. А мы, значыцца, *адмаўляем*, што старая царская Расія абакрала, аграбіла беларускі народ? Што-ж, мы значыць адмаўляем, што, напрыклад, у 70 проц. няпісьменнасьці дарэволюцыйнай Беларусі і ў значнай меры вінаваты памешчыкі і капіталісты старой царскай Расіі, што добрая частка агульнай адсталасьці Беларусі павінна быць аднесена за лік нацыянальнага прыгнёту, які рабіла над ёю поліцэйская монархія? Што-ж усё гэта аказваецца было—„агульна-прынятым" толькі ў нацдэмаў?

Наша партыя зацікаўлена ў поўным разгроме нацдэмізму. Наша партыя ня можа пакінуць у руках нацдэмаў зброю — абрабаваньня Беларусі расійскімі памешчыкамі і капіталістымі. Наша партыя ня можа адмаўляць, а тым самым пакрываць рабунак, які яны рабілі.

Калі Ластоўскі проста і адкрыта абвінавачвае марксызм у „фэўдальным атавізьме", які заключаецца па яго словах у барацьбе асновапаложнікаў марксызму за супроцьнародны цэнтралізм і супроць адраджэньня недзяржаўных народаў,—нельга нігілістычна адмахнуцца фразаю аб няпрыемлемасьці для нацдэмаў „атавістычнай" тэорыі аб класавых інтарэсах, аб клясавай барацьбе і іншых малапрыемных рэчах" (стар. 43).

Мала паказаць пры гэтым, што „нацдэмы" вялі змаганьне з „фэўдальным атавізмам" марксыстаў таму, што яны „былі жыцьцёва зацікаўлены ў тым, каб скалаціць „адзіны нацыянальны фронт", на чале якога яны—соль зямлі беларускай—сталі-б" (стар. 43).

Само сабой зразумела, што гэта так і што гэта павінна быць з ўсёй сілай падкрэсьлена. Але як-жа гэта ўсё-ткі быць з абвінавачаньнем, кінутым Марксу, Энгельсу, Леніну? *Артыкул абыходзіць* гэта абвінавачаньне маўчаньнем. І агіднейшы паклёп на найвялікшых правадыроў міжнароднага пролетарыяту, якія лічылі права нацый на самавызначэньне *бязумоўным* запатрабаваньнем для кожнага сьвядомага рабочага, якія вялі самую бязьлітасную і непрымірымую барацьбу супроць усякага нацыянальнага прыгнечаньня, якія закляймілі затхлы

бюрократычны цэнтралізм і супроцьпаставілі яму вольны саюз вольных народаў,—гэты паклёп пакідаецца ў артыкуле без адказу.

І ўсё гэта на тэй падставе, што: марксызм загаварвае аб унутрынацыянальных клясавых супярэчнасьцях, што ён ёсьць „тэорыя аб клясах, аб клясавых інтарэсах, аб клясавай барацьбе і іншых малапрыемных рэчах“...

Падлік: найбагатшы матар'ял, які ёсьць у артыкуле, выкарыстаны для барацьбы з нацдэмократызмам з пункту погляду вялікадзяржаўнага шовінізму, з уступкамі на карысьць нацдэмократызму, з крытыкай яго не з партыйнага пункту погляду, а з пункту погляду вялікадзяржаўнага шовінізму. Зусім натуральна, што сам вялікадзяржаўны шовінізм аказваецца закранутым ў найменшай ступені, выходзячы з лёгкімі царапінамі там, дзе яго павінен быў-бы сустрэць бязьлітасны разгром.

* * *

Гэты артыкул быў у асноўным ужо напісаны (27/IX), калі ў „Зьвязьдзе“ ад 10/X зьявіўся артыкул т. т. М. Поташа і Е. Рыўліна, В. Сэрбэнты і М. Югава—„Аб кнізе тав. Вольфсона“. Артыкул імкнецца выкласьці станоўчыя і адмоўныя бакі працы т. Вольфсона і апошнія раскрытыкаваць.

Аднак, „крытыка“ гэта па кнізе т. Вольфсона зьяўляецца па існасьці ня крытыкай, а спробаю абараніць вялікадзяржаўны шовінізм, які ёсьць у працы тав. Вольфсона.

У чым асноўны зьмест артыкулу „чатырох“? Дамо ім самім слова:

„Цяпер можна падвесьці некаторыя вынікі. Тав. Вольфсон зрабіў сур'ёзную спробу ў першы раз сыстэматычна выкладаць зьмест ідэолёгіі нацдэмізму. *Ён выходным палажэньнем узяў агульныя партыйныя пастановы і докумэнты* па нацыянальным пытаньні, якія ён *у агуле правільна выкладае.* Але пры конкрэтызацыі і застасаваньні *іх* да аналізу асноўных палажэньняў нацдэмізму, у яго атрымалася рад *памылак і недакладнасьцяй,* якія *граюць на руку* вялікадзяржаўнаму шовінізму, а таксама нацдэмізму“ (курсіў мой).

Справа ясная: кніга ў асноўным правільная, але мае некаторыя „памылкі“ і недакладнасьці, якія граюць... і г. д.

У чым-жа „чацьвёрка“ бачыць „памылкі і недакладнасьці“?

Ня больш ня менш, як у тым, што тав. Вольфсон ня ўскрыў... *клясавых карэньняў* нацдэмізму, што толькі (!) разглядзеў ідэолёгію нацдэмаў самую па сабе, што ён „адмовіўся ад... гістарычнага падыходу“, што ён „*у агульным (!) правільна выкладае ў радзе* месц агульнапартыйныя погляды на тыя ці іншыя бакі нацыянальнага пытаньня... не заўсёды ўмеў правільна іх застасаваць і органічна зьвязаць з конкрэтным выкладаньнем і аналізам нацдэмізму“, у тым, што „оргумэнтацыя (т. Вольфсона) у даным выпадку ня з нашага арсэналу“ (гутарка ідзе аб празьмерным падкрэсьліваньні адсталасьці Беларусі), што яна „падмацоўвае некаторыя палажэньні вялікадзяржаўнікаў і тыхжа нацдэмаў“,—у тым, што „падыход т. Вольфсона да пытаньня аб інтэлігенцыі можа прывесьці да політычна-няправільных вывадаў“, у тым, што „аб мэтодолёгіі нацдэмізму там амаль нічога няма“.

Вось кароткі „пералік памылак“ і „недакладнасьцяй“, што сустракаюцца ў працы тав. Вольфсона.

Праўду сказаць, невядома чаму дзівіцца: „сваясабліваму“ разуменьню асноўных прынцыпаў марксызму-ленінізму альбо дужа бесцырамоннаму абыходжаньню з імі.

*Абвясьціць адсутнасьць клясавага аналізу „памылкай і недакладнасьцю“, агаласіць адмаўленьне ад гістарычнага падыходу „памылкай і недакладнасьцю“*, ператварыць *варожую* нам („... ня з нашага арсэналу“) аргумэнтацыю ў „не заўсёды правільнае ўжываньне партыйных прынцыпаў“, прадставіць адсутнасьць *партыйнай* крытыкі мэтодолёгіі нацдэмізму, як адсутнасьць усякай мэтодолёгіі і прыраўняць гэту акалічнасьць да „памылак і недакладнасьцяй“ і абвясьціць, урэшце, што толькі „нацдэмы і нацыянал-опортуністы сустрэнуць кнігу т. Вольфсона вельмі варожа...“!!!—не, да гэтага ў нас, здаеецца, не даходзіла.

Гэта-ж значыць—выхаласьціць марксызм. Калі ўсё гэта—„памылкі і недакладнасьці“, тады-ж што ёсьць *аснова* марксызму? Калі таварышы прад'яўляюць т. Вольфсону цяжкія абвінавачаньні, якія зводзяцца па існасьці да таго, што тав. Вольфсон стаіць на позыцыях буржуазнага, ідэалістычнага, мэтафізычнага, вялікадзяржаўнага сьветапогляду, *і самі тут-жа* кваліфікуюць свае абвінавачаньні як выпраўленьне памылак („вось чаму так важна сваячасова выкрыць *памылкі* т. Вольфсона і асабліва найхутчэйшым чынам іх выправіць“),—то грош цана *сур'ёзнасьці* абвінавачаньня. Гэта значыць—аснову марксызму-ленінізму ператварыць у відзімасьць адну, а замест яе ў якасьці асновы ўзяць сабе нешта другое.

Таму няма ўжо сэнсу паказваць на ўстанаўліваемы „чацьвёркай“ *разрыў* паміж ідэолёгіяй і мэтодолёгіяй, між лёгічным і гісторычным, між „ідэолёгічнай крытыкай ідэолёгіі нацдэмізму“ і „выкрыцьцё клясавых карэньняў ідэолёгій“.

Няма патрэбы паказваць на тое, што т. т. прыпісваюць часам т. Вольфсону рэчы, якія яму і ня сьнілісл. Так, напрыклад, яны прыпісваюць т. Вольфсону сьцьвярджэньне, што лёзунг дзяржаўнай незалежнасьці *заўсёды* высоўваўся нацдэмамі. Між тым у тав. Вольфсона чорным па беламу напісана, што тэты лёзунг „выкрышталізаваўся“ ў іх толькі ў змаганьні з савецкай уладай.

Няма патрэбы паказваць, што адсутнасьць *партыйнай* крытыкі мэтодолёгіі нацдэмізму не азначае абсолютнай адсутнасьці якой-бы та ні было крытыкі. І калі „чацьвёрка“ ўяўляе справу гэтак, яна па існасьці замазвае самае гарачае пытаньне.

Тое замазваньне сквазіць ў адбіцьці „станоўчых бакоў“ работы т. Вольфсона. Згодна гэтаму адбіцьцю ўся работа—нейкі склад матар'ялу. Тав. Вольфсон „сабраў цікавы матар'ял“, тав. Вольфсон „дасканала падабраў цытаты“, „тав. Вольфсон дае цікавы матар'ял“, „паданыя ў рабоце т. Вольфсона матар'ялы“ і г. д.

Т. т. маюць на ўвазе, калі ў гэтым матар'яле няма партыйнага жыцьця, дык т. Вольфсон у гэты матар'ял ніякага жыцьця ня ўдыхнуў. Чысты склад самога за сябе гаворачага („прымушае саміх нацдэмаў“) матар'ялу.

Абсолютная пустата, якую сабраліся зацьвердзіць т. т., ёсьць нішто іншае як манэўр, які мае сваёй мэтаю схаваць вельмі рэальны зьмест. І ясна, што яны самі прымушаны адмовіцца ад пункту погляду абсолютнай пустаты. Патроху яны напаўняюць яе зьместам: адмаўленьне

ад клясавага аналізу, адмаўленьне ад гістарычнага падыходу. Але паколькі гэта „напаўненьне" само адбываецца ў парадку манэўру, усе гэтыя сур'ёзьнейшыя самі па сабе абвінавачваньні на справе перастаюць быць сур'ёзнымі.

Так бальшавіцкая партыйнасьць не ствараецца, так бальшавіцкая партыйнасьць ня куецца, так яна не разьвіваецца.

А між тым партыя рашуча патрабуе—весьці сур'ёзную барацьбу на два фронты, яна гэтую барацьбу будзе весьці.

15/X 1931 г.

---

Рыўлін, Поташ

# Пра два памылковыя і адзін блытаны артыкул

*(Аб артыкулах т. т. Вольфсона і Выдры)*

Веревка—что такое?
Веревка—вервие пустое.

Артыкул тав. Вольфсона мы падверглі крытыцы ў свой час у „Зьвязьдзе“ і—яшчэ да выхаду кніжкі з друку—на дыскусіі ТВМДБ вясною гэтага году і на наступных нарадах. Наш артыкул,—на гэта зусім правільна паказвае тав. Выдра,—меў сваёй задачай паказаць на *вялікадзяржаўныя памылкі*, дапушчаныя тав. Вольфсонам у крытыцы нацыянал-дэмакратаў, якія засталіся ў яго і пасьля той крытыкі, якая была разгорнута пры папярэднім абгаварэньні.

Тав. Выдра рашуча ня згодзен з нашым артыкулам, ён рашуча супярэчыць супроць усёй яго ўстаноўкі. Тав. Выдра лічыць, што *ўся* кніжка Вольфсона напісана *з пункту погляду вялікадзяржаўнага шовінізму*. Мы з гэтаю думкаю тав. Выдры ня згодны. Глеба для спрэчкі зусім як-быццам ясная: пытаньне аб характары памылак, іх колькасьці і якасьці, аб ацэнцы іх палітычнага значэньня і г. д. Тым ня менш у гэтым артыкуле нам даводзіцца займацца ня столькі артыкулам тав. Вольфсона і высьвятленьнем яго памылак, колькі разборам артыкулу т. Выдры, бо т. Выдра ў сваёй аргумэнтацыі разьвіў столькі зусім недарэчных палажэньняў, перакуліў на галаву рад, здавалася-б, азбучных ісьцін бальшавізму, унёс такія „арыгінальныя“ дапаўненьні ў тэорыю марксызму, што разбор яго памылак зьяўляецца пэўнай, хоць і сумнай, неабходнасьцю.

### Аб памылках тав. Вольфсона

Тав. Выдра лічыць, што ўвесь артыкул т. Вольфсона напісаны з пункту погляду вялікадзяржаўнага шовінізму і што „ў процэсе змаганьня тав. Вольфсон пераходзіць на позыцыі вялікадзяржаўнага шовінізму“. Абвінавачаньне гэта, бязумоўна, адно з найцяжэйшых.

Чым аргумэнтуе тав. Выдра гэта абвінавачаньне? Раней за ўсё тым, што т. Вольфсон няправільна зразумеў адносіны паміж нацыянальнай формай культуры і яе клясавым зьместам. Гэта абвінавачаньне правільнае. У гэтым т. Вольфсона абвінавачваем і мы.

Ці ёсьць памылкі ў т. Вольфсона ў галіне разуменьня нацыянальнай формы і нацыянальнай політыкі, якія трэба характарызаваць як вялікадзяржаўныя памылкі? На нашу думку, бязумоўна, ёсьць.

На гэтыя памылкі, як і на іншыя, нам ужо даводзілася паказваць. Асноўная памылка аўтара—гэта неразуменьне нацыянальнай формы. У вядомай сваёй прамове на сходзе КУТВ т. Сталін даў зусім яснае тлумачэньне адносінаў паміж формай і зьместам культуры: „пролетарская культура, соцыялістычная па сваім зьместу, прымае розныя формы і спосабы выражэньня ў розных народаў, уцягнутых у соцыялістычнае будаўніцтва, у залежнасьці ад розьніцы мовы, быту і г. д... Пролетарская культура не адмяняе нацыянальнай культуры, а дае ёй зьмест. І наадварот, нацыянальная культура не адмяняе пролетарскай культуры, а дае ёй форму. Лёзунг нацыянальнай культуры стаў лёзунгам пролетарскім, калі ля ўлады стаў пролетарыят, а консолідацыя нацый стала адбывацца пад эгідай савецкай улады". Між тым, як т. Вольфсон падыходзіць да гэтай-жа проблемы? Ён фактычна *супроцьстаўляе* форму зьместу. Ён піша: „Нацдэмы ставілі сваю стаўку на тое, каб гіпэртрофуючы нацыянальную форму, пратвараючы яе ў фэтыш, тым самым нэўтралізаваць соцыялістычны зьмест нашай культуры, вылушчваць з яе клясавае, ператвараць яе ў буржуазную" (30). Выходзіць, што нацыянальная форма толькі ў пэўнай дозе сумяшчальна з пролетарскім зьместам, што гіпэртрофія гэтай формы альбо яе фэтышызаваньне здольна нэўтралізаваць (?!) соцыялістычны зьмест, перарабіць зьмест з соцыялістычнага ў буржуазны. Тав. Сталін зусім яскрава даводзіць і гэта зьяўляецца важнейшым тэорэтычным абагульненьнем усёй вялізарнай партыйнай практыкі ў вырашэньні нацыянальнага пытаньньня,—што асноўнай, рашаючай умовай зьяўляецца пытаньне аб дыктатуры пролетарыяту. Пры тэй умове, што пролетарыят стаіць ля ўлады, усякае пашырэньне і рост культуры шырокіх працоўных мас, якая няўхільна зьяўляецца па форме нацыянальнай, азначае і рост соцыялізму. Чым хутчэй адбываецца, ва ўмовах пролетарскай дыктатуры, культурная рэволюцыя, чым глыбей захоплівае яна масы, чым шырэй яе разгортваньне, тым больш хутка адбываецца і рост нацыянальнай культуры, тым больш поўна, больш усебакова будзе разьвівацца і нацыянальная форма: „Пэрыод дыктатуры пролетарыяту і будаўніцтва соцыялізму ў СССР—казаў Сталін на XVI зьезьдзе партыі—ёсьць пэрыод *росквіту* нацыянальных культур, соцыялістычных па зьместу і нацыянальных па форме". Ясна, што росквіт нацыянальнай культуры зусім не мяркуе загніваньне альбо застойнасьць нацыянальнай формы культуры, а наадварот, яе разьвіцьцё і ўзбагачэньне разам з ростам і разьвіцьцём нацыянальнай культуры наогул. Толькі іх рост і разьвіцьцё можа падрыхтаваць умовы адміраньня нацыянальных культур і іх злучэньне ў адну агульную соцыялістычную культуру ўжо пасьля перамогі соцыялізму ва ўсім сьвеце.

Няправільнае стаўленьне да *формы* нацыянальнай культуры, недастатковае разуменьне наяўнасьці дзьвёх культур у кожнай нацыянальнай культуры, няправільнае стаўленьне да беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, няправільнае атоесамленьне дарэволюцыйнага і пасьля-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму і інш.—вось галоўныя з памылак т. Вольфсона.

Напомнім, як характарызаваў „існасьць ухілу да вялікадзяржаўнага шовінізму" т. Сталін у сваім дакладзе на XVI зьезьдзе партыі: існасьць гэта складаецца „ў імкненьні абыйсьці нацыянальную розьніцу мовы, культуры, быту; у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і вабласьцей, у імкненьні падарваць прынцып нацыянальнага роўнапраўя і разьвянчаць політыку партыі па нацыяналізацыі друку, школы і іншых дзяржаўных і грамадзкіх організацый"

і г. д. Канечне, *усіх* гэтых прызнакаў у тав. Вольфсона знайсьці нельга, але яго памылкі, на нашу думку, фактычна вядуць да імкненьня „абыйсьці нацыянальную розьніцу мовы, культуры і быту“, і таму яны могуць быць характарызаваны як ухіл у бок вялікадзяржаўнага шовінізму.

На гэтыя памылкі як і на рад другіх мы ў асноўным паказвалі ўжо ў артыкуле ў „Зьвязьдзе“.

Але тав. Выдра, правільна падмеціўшы асноўную сутнасьць памылак тав. Вольфсона, сам няправільна разумее гэтыя адносіны і зусім ня дзіўна, што ён дапушчае рад грубых памылак у гэтай галіне[1]).

Тав. Выдра разумее, што, асноўваючыся на адным абвінавачаньні ў неразуменьні стаўленьня нацыянальнай формы і зьместу, нельга яшчэ кваліфікаваць артыкул т. Вольфсона, як наскрозь вялікадзяржаўны. Тав. Выдра зьвяртаецца да абвінавачаньняў дадатковых, якія, па меншай меры, патрэбна характарызаваць як найвялікшую нацяжку. Вось, напрыклад, якім чынам у тав. Выдры вырастае абвінавачаньне ў вялікадзяржаўным шовінізьме. Ён абвінавачвае Вольфсона ў тым, што ў яго артыкуле заўважаецца нігілістычны падыход „да важнейшага пытаньня нашай нацыянальнай політыкі“. Што-ж гэта за „важнейшае пытаньне нашай нацыянальнай політыкі“? Аказваецца, што гэта пытаньне аб нацыянальнай гордасьці беларусаў. З таго, што ў тав. Вольфсона пра гэта нічога няма, т. Выдра прыходзіць да вываду: „Адным нігілістычным адмаўленьнем тут нічога ня зробіш. Пустое месца, якім па даным пытаньні зьяе артыкул, вядзе просьценка да вялікадзяржаўнага шовінізму“.

Тав. Вольфсон далей абвінавачваецца ў нігілізьме ў адносінах да нацыянальна-вызваленчага руху, таму што ён не разабраў пытаньня аб ролі рэлігіі, таму што ён не адказвае падрабязна на контррэволюцыйныя „излияния“ Дудара аб тым, што „пасеклі наш край папалам“, што ён не адзначае „тую героічную барацьбу, якую вялі і вядуць пролетары і працоўныя масы Савецкай Беларусі ў саюзе з пролетарамі і працоўнымі масамі іншых рэспублік“, таму, што Вольфсон „замест таго, каб выкрыць нацдэмаўскую пастаноўку пытаньня аб сувязі з „Масквой“, замест таго, каб паказаць інтэрнацыянальны пролетарскі характар гэтай сувязі“, паказвае: нацдэмы заклікаюдь да мужнасьці і сьмеласьці „перад Салаўкамі“, таму што тав. Вольфсон ня спыняецца падрабязна на тым, каб выкрыць, накшталт таго, як мы выкрываем байкі аб прымусовай працы, тую акалічнасьць, што Салаўкі—гэта ня спосаб „чужацкага прымусу“, а спосаб пролетарскай дыктатуры, і г. д. і г. д.

Такога роду прэтэнзіі, якія прад'яўляюцца т. Вольфсону, ідучы мэтодам Выдры, можна было-б рабіць без канца. У артыкуле т. Вольфсона няма крытычнага разбору беларускай літаратуры, што, напэўна,

---

[1]) Мы наўмысьля не закранаем тут працы тав. Выдры „Беларускі нацдэмократызм у краязнаўчым руху“ ў тым-жа зборніку „Навука“ на службе нацдэмократызму“, дзе ім дапушчаны памылкі таго-ж парадку, што і тав. Вольфсонам, памылкі характарызаваныя ў артыкуле трох таварышоў у газ. „Зьвязда“ ад 1/XII-31 г., „як памылкі ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму“. Аднак, нельга не адзначыць таго факту, што тав. Выдра ў артыкуле, прысьвечаным барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам, палічыў магчымым ні слова не сказаць аб дапушчаных ім самім буйных вялікадзяржаўных памылках. Наўрад ці магчыма гэта назваць „партыйным змаганьнем з шовінізмам“.

Мы павінны таксама ўказаць, што ўхіл у бок вялікадзяржаўнага шовінізму маецца таксама і ў артыкуле аб мовазнаўстве гэтага-ж зборніку, артыкуле, які да таго часу не падвергнуты крытыцы.

тлумачыцца тым, што т. Вольфсон адмоўна ставіцца да ўсяе літаратуры цалкам. У т. Вольфсона нічога няма наконт вялізных гаспадарчых дасягненьняў Савецкай Беларусі, што, напэўна, тлумачыцца тым, што ён іх не заўважае і г. д., і г. д., і г. д.

Можна спрачацца аб тым, ці патрэбна ці не патрэбна было ў артыкуле т. Вольфсона, меўшага перад сабой зусім ясныя абмежаваныя задачы, больш падрабязна спыняцца на разборы тых ці іншых палажэньняў. Але сьмешна прад'яўляць абвінавачаньні ў вялікадзяржаўным шовінізьме толькі таму, што дэтальны разбор гэтых палажэньняў, большаю часткаю ня маючых простага дачыненьня да задач, пастаўленых т. Вольфсонам, ім не даны.

Да якіх кур'ёзаў даходзіць спроба Выдры ў што-б ні стала знайсьці вялікадзяржаўны шовінізм, альбо ў тым, што напісана Вольфсонам, альбо яшчэ больш у тым, што не напісана ім, відаць лепш за ўсё з наступнага прыкладу. Тав. Выдра з усёй сур'ёзнасьцю піша, што ў нацдэмаўскім разуменьні *нацыянальнага стылю* адбілася іх буржуазна-кулацкая прырода, то гэта і ёсьць „вялікадзяржаўны шовінізм". Чаму, дзе, адкуль тут вялікадзяржаўны шовінізм? Няўжо т. Выдра сур'ёзна думае, што ў *нацдэмаўскім* разуменьні нацыянальнага стылю магла адбіцца якая-небудзь іншая прырода, акрамя буржуазна-кулацкай? Альбо тав. Выдра думае, што *нацдэмаўскае* разуменьне нацыянальнага стылю пазбаўлена якіх-бы там ні было клясавых прызнакаў і клясавага характару наогул?

## Аб памылках тав. Выдры

Асноўная памылка т. Выдры, таксама як і т. Вольфсона, якая праявілася толькі ў тав. Выдры ў менш утончанай і больш схолястычнай форме, заключаецца ў анты-гістарызьме. Таксама, як і т. Вольфсон, тав. Выдра разважае аб складанейшых проблемах выключна ў роўніцы іх лёгічнага разгляданьня. Для яго існуюць толькі філёзофскія катэгорыі, у яго вялікая колькасьць усякіх разважаньняў „па поваду" гэтых катэгорый, у яго вялізная колькасьць сумненьняў і супярэчаньняў,—але ў т. Выдры абсолютна няма разуменьня таго, як стаялі гэтыя проблемы ў розныя гістарычныя пэрыоды, як няма знаёмства з гэтымі проблемамі па існасьці.

Лепшымі прыкладамі выдрынскага анты-гістарызму зьяўляюцца яго разважаньні, напрыклад, наконт нацыянал-дэмократызму. У цэлым радзе месц тав. Выдра даводзіць, што нацдэмы імкнуліся ўвесь *рэакцыйны* зьмест беларускай гісторыі „зьвесьці ў тое агульнае, што быццам яднае беларускі народ". „Нацдэмы шукаюць у гісторыі ўсё рэакцыйны зьмест, падбіраюць яго па крысе і імкнуцца увенчыць". „Нацдэмы высоўвалі ўсё консэрватыўнае, рэакцыйнае як у беларускай мове, так і ў іншых". Але што-ж уласна зьяўляецца *рэакцыйным*, напрыклад, у беларускай гісторыі, мове і г. д.? Даволі ўзяць толькі адзін прыклад, каб ускрыць усю фальш, антыдыялектычнасьць усіх гэтых разважаньня ў т. Выдры. Нацдэмы высоўвалі ў якасьці гістарычнага героя фігуру Францішка Скарыны, яны імкнуліся ствараць з яго культ. Чым-жа зьяўляецца, на думку т. Выдры, Францішка Скарына? Адносіцца ён да рэакцыйнага зьместу беларускай гісторыі ці да прогрэсыўнага? Даволі паставіць адно гэта пытаньне, каб убачыць, наколькі недарэчна само гэта ўнегістарычнае дзяленьне ўсяго зьместу гісторыі Беларусі на рэакцыйную і прогрэсыўную часткі. Францішак Скарына ў свой час мог быць зьяваю прогрэсыўнай, але калі гэта

зьява высоўваецца праз 4 стагодзьдзі і *супроцьстаўляецца* сучаснай палітычнай і культурнай рачаісьнасьці Савецкай Беларусі, то яна становіцца глыбока рэакдыйнай. Яшчэ ясьней уся схолястычнасьць разважаньняў Выдры праявіцца, калі, напрыклад, заместа Скарыны паставіць фігуру Кастуся Каліноўскага. Францішка Скарыну, як і Кастуся Каліноўскага, нельга разглядаць саміх па сабе, а выключна толькі ў межах пэўнай гістарычнай абстаноўкі. Дужа лёгка было-б паказаць, як тав. Выдра,—калі-б ён паспрабаваў конкрэтна ўзнаць свой мэтод дзяленьня ўсяго зьместу беларускай гісторыі на рэакцыйную і рэвалюцыйную часткі,—апыніўся-б у лягеры самых крайніх вялікадзяржаўнікаў, якія адмаўляюць прогрэсыўнасьць, напрыклад, буржуазнавызваленчага руху Беларусі.

Гэты анты-гістарызм дужа добра відаць і на расцягнутых на 7 старонках разважаньнях т. Выдры пра шышкоўшчыну, славянафільства, Вольфсона і клясавыя карэньні нацыянал-дэмократызму.

У чым памылкі т. Вольфсона? Па-першае, у тым, што ён Цьвікевіча бярэ, як тыповага прадстаўніка беларускага нацыянал-дэмократызму, тады, як Цьвікевіч у сваёй кнізе „Западно-руссизм“ выступае, як западна-рус, толькі перафарбаваўшыся ў нацыянал-дэмократа і пытаючыся тэорэтычна растлумачыць правамернасьць гэтай перафарбоўкі. Па-другое, у тым, што тое бязумоўнае падабенства асобных рыс і ідэйных карэньняў, якое ёсьць у западна-русаў і чорнасоценнага славянафільства, Вольфсон ня крытычна пераносіць на беларускі нацыяналізм. Па-трэцяе, у тым, што захапіўшыся формальнай аналёгіяй ідэолёгічных конструкцый, штучна выпячваючы падобныя ідэолёгічныя моманты, Вольфсон атоесамляе ў радзе месц клясавую базу нацыянал-дэмоктратызму з славянафільствам і шышкоўшчынай і г. д. Усе гэтыя памылкі карэняцца ў тым, што ў т. Вольфсона, як гэта было адзначана ў нашым артыкуле, у асноўным „ідыолёгічная крытыка ідэолёгіі“.

Памылкі Выдры, па-першае, у тым, што ён паверыў тав. Вольфсону, быццам Цьвікевіч гэта і ёсьць прадстаўнік беларускага нацыянал-дэмократызму; па-другое, у тым, што ўсьлед за Вольфсонам ён анты-гістарычна падыходзіць да ўсёй проблемы высьвятленьня клясавых карэньняў; па-трэцяе, што ён ня бачыць розьніцы ў клясавай базе нацыянал-дэмократызму і вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, сьцьвярджаючы, быццам у іх адна клясавая аснова, атоесамленыя клясавыя інтарэсы (тады, як дзьвюма старонкамі вышэй Выдра прад'явіў Вольфсону абвінавачаньне ў тым, што ён нацыянал-дэмократызм і славянафілства разглядае ўне іх спэцыфічнага гістарычнага і *клясавага* зьместу).

Тав. Выдра ня бачыць выходнага пункту памылковасьці ўсіх разважаньняў Вольфсона, ён таксама, як і Вольфсон, займаецца „ідэолёгічнай крытыкай ідэолёгіі“, ён яшчэ ў большай меры, чым Вольфсон, анты-гістарычны ў сваіх разважаньнях.

Але т. Выдра ня толькі разьбівае вялікадзяржаўны шовінізм Вольфсона, ён яшчэ наважыў узбагаціць ленінізм цэлым скопам новых адкравеньняў. Папутна ў барацьбе з вялікадзяржаўнасьцю тав. Выдра робіць цэлы пераварот ў пытаньнях, здавалася-б, да гэтага часу быўшых азбукаю марксызму-ленінізму. Вось, напрыклад, т. Выдра вышуквае ў Вольфсона фразу: „нацдэмы імкнуліся праз кулацкую верхавіну вёскі падпарадкаваць беларускае сялянства свайму ўплыву“. Гэтага даволі для тав. Выдры, каб пусьціцца ў бязьмежнае мора цмёных філёзофскіх дасьледваньняў і прыйсьці да зусім анэкдотыч-

нага вываду, які ён прыпісвае Вольфсону, быццам нацдэмы—гаспадары кулацтва—іх агентура, і апошняму трэба яшчэ прывіваць буржуазную ідэолёгію і што, такім чынам, нацдэмы ня маюць клясавых прынцыпаў. Зразумець адкуль і чаму ідуць такія вывады зусім немагчыма. Уявім на адну хвіліну, што тав. Выдру трапляецца вядомая фраза Маркса аб тым, што ідэі, авалодваючы масай, робяцца сілаю. Тав. Выдра, напэўна, вакол гэтай фразы наладзіў-бы сапраўдную канібалаву пляску: як, ідэі авалодваюць масай! Гэта значыць, што ідэі—гаспадары, гэта значыць чысьцейшы ідэалізм, чысьцейшы арыстократызм, грэбаваньне да мас і г. д. і г. д. Здавалася-б, для марксыста зьяўляецца азбучнай ісьцінай, што нават у рабочай клясе „толькі сьвядомая меншасьць можа кіраваць шырокімі рабочымі масамі і весьці іх за сабою“ ў эпоху капіталізму. Здаецца, увесь сэнс вучэньня Леніна аб партыі заключаецца ў тым, што авангард клясы вядзе за сабою ўсю астатнюю клясу і кіруе ёю. Ці рабіў хто-небудзь акрамя рэвізыяністаў і клясавых ворагаў пролетарыяту адсюль такога роду вывад, што партыя зьяўляецца гаспадаром клясы, а кляса зьяўляецца толькі яе падпарадкаваным? А між тым тав. Выдра ў адносінах да кулацтва разважае іменна такім чынам. На падставе фразы, сэнс якой зводзіцца да таго, што ідэолёгічная верхавіна беларускага кулацтва—нацдэмы стараюцца аформіць палітычныя інтарэсы і настроі кулацтва, тав. Выдра адсюль выводзіць усякія сьмерцеубійсьцьвеныя абвінавачваньні.

Тав. Выдра падхоплівае выразы тав. Вольфсона аб бяспрынцыпнасьці нацдэмаў і на падставе гэтага спрабуе прыпісаць тав. Вольфсону тую думку, што ён быццам пазбаўляе нашу барацьбу з нацдэмамі палітычнага і клясавага сэнсу. А адсюль, канечне, і вывад, быццам тав. Вольфсон „хварэе на вялікадзяржаўны шовінізм у адносінах да змаганьня, якое партыя вядзе супроць нацыянал-дэмократызму“. Як шмат тав. Выдра разумее ў тым, што ён піша, відаць хоць-бы з таго яго палажэньня, што сказаць, што ва ўсёй хлусьлівай прадажнай здрадніцкай дзейнасьці нацдэмаў ня было „ані прынцыповасьці, ані пачуцьця“, гэта значыць сказаць, што яны ўсё гэта рабілі *не* ў імя і не для буржуазна-кулацкай рэстаўрацыі, *а* для сваіх вузкіх эгоістычных імкненьняў“. Але дзе, хто, калі, акрамя тав. Выдры, ва ўсёй бальшавіцкай палітычнай літаратуры супроцьстаўляў вузка эгоістычныя імкненьні ўсіх эксплёататарскіх кляс інтарэсам буржуазна-кулацкай рэстаўрацыі? Дзе, хто і калі мог дадумацца да таго, каб прыйсьці да такога вываду, быццам ня вузка-эгоістычныя імкненьні штурхаюць да буржуазна-кулацкай рэстаўрацыі, а быццам вузка эгоістычныя імкненьні—гэта адно, а буржуазна-кулацкая рэстаўрацыя—гэта другое, гэта—высока прынцыповая барацьба за пэўныя ідэалы...

Клясавыя ідэалы буржуазіі тым і адрозьніваюцца, што ў эпоху закату капіталізму ў іх няма ні грона ідэальнасьці, што яны наскрозь прапітаны вузка-эгоістычнымі імкненьнямі, наскрозь прапітаны толькі адным жаданьнем, жаданьнем адстаяць для сябе прывілегійнае становішча ў грамадзе, хаця-б шляхам тармажэньня гістарычнага разьвіцьця, хоць-бы асуджваючы на загніваньне ўсю грамаду.

Ці ведае гэта тав. Выдра? Тав. Выдра ўхапіўся за фразу Вольфсона аб бяспрытульнасьці і адсюль робіць зусім акробатычныя вывады. Але-ж літаратурная полеміка ў асяродзьдзі бальшавікоў гэта—ня цырк. Ці чытаў калі-небудзь тав. Выдра сьцьверджаньне т. Сталіна аб *бяспрынцыпным* характары опозыцыйнага блёку? Ці ня думае тав. Выдра, што бяспрынцыпны характар гэтага блёку зусім ня вы-

клікаў ні таго, што опозыцыйны блёк меў упаўне пэўныя клясавыя карэньні, ні таго, што барацьба партыі з опозыцыйным блёкам мела політычны і прынцыповы сэнс?

Такім чынам, першыя-ж адкрыцьці тав. Выдры ўносяць зусім новае ўяўленьне аб адносінах паміж партыяй і клясай, зусім новае разуменьне аб прынцыповым і бяспрынцыповым характары барацьбы, новае разуменьне ролі і ўплыву ідэолёгіі. Але гэтага мала.

Тав. Выдра палічыў магчымым выступіць з адкрытай рэвізіяй асноўных палажэньняў марксыцка-ленінскай тэорыі. Ён сьцьвярджае, што марксызм і ленінізм выстаўляюць патрабаваньні *бязумоўнага* самавызначэньня нацыі і пры тым „незалежна ад усіх існуючых у іх ілюзій і фікцый наконт сваіх гістарычных місій“, уне ўсякай сувязі з пэўнаю конкрэтна-гістарычнаю абстаноўкаю, уне ўсякай сувязі з асноўнымі рашаючымі задачамі пролетарыяту на тым або іншым этапе рэволюцыі, нідзе не агаварваючы падначаленасьці гэтага патрабаваньня агульным інтарэсам пролетарыяту. Толькі абсолютны антыгістарызм і абсолютная схолястыка могуць прывесьці тав. Выдру да такога роду сьцьверджаньня, якое ня мае нічога агульнага ні з духам вучэньня марксызму і лені- нізму, ні з яго элемэнтарнымі азбучнымі палажэньнямі.

Марксызм-ленінізм ніколі ня браў ні пытаньня аб нацыях, ні пытаньня аб іх роўнапраўі і самавызначэньні ўне гістарычнай абстаноўкі. „Бязумоўным патрабаваньнем марксыцкай тэорыі—казаў Ленін—пры разборы якога-б ні было соцыяльнага пытаньня зьяўляецца пастаноўка яго ў пэўныя гістарычныя рамкі“. Даволі паказаць на тую пастаноўку пытаньня, якая была ў Маркса, хоць-бы ў 1848 г. ў адносінах да „рэакцыйных“ і рэволюцыйна-дэмократычных нацый. Як вядома з гэтым падзелам Маркса Ленін салідарызаваўся і проста пісаў, што „Маркс меў рацыю, асуджаючы першыя (рэакцыйныя нацыі) і стоячы за другія (рэволюцыйныя нацыі)“. „Права на самавызначэньне ёсьць *адно* з патрабаваньняў дэмократыі, якое, натуральна, павінна быць падначалена *агульным* інтарэсам дэмократыі“. Так пісаў Ленін. А тав. Выдра палічыў умесным абурацца Вольфсонам, быццам пакінуўшым без адказу „агіднейшы паклёп на вялікіх правадыроў міжнароднага пролетарыяту, *якія лічылі права нацый на самавызначэньне бязумоўным патрабаваньнем для кожнага сьвядомага рабочага*“. Каб ня траціць лішніх слоў, гэтаму палажэньню мы можам супроцьставіць другое палажэньне: „трэба помніць, што акрамя правоў народаў на самавызначэньне ёсьць яшчэ права рабочай клясы на ўмацаваньне сваёй улады, і гэтаму апошняму праву падначалена права на самавызначэньне. Бываюць выпадкі, калі права на самавызначэньне ўваходзіць у супярэчнасьць з другім вышэйшым правам—правам рабочай клясы, што прыйшла да ўлады, на ўмацаваньне сваёй улады. У такіх выпадках,—гэта трэба проста сказаць,—права на самавызначэньне ня можа і не павінна служыць перашкодай справе ажыцьцяўленьня правоў клясы на сваю дыктатуру. Першае павінна адступіць перад другім“ (Сталін).

На гэтай-жа думцы падрабязна спыняецца т. Сталін у „Вопросах ленінізма“.

„Адсюль неабходнасьць падтрымкі, рашучай і актыўнай падтрымкі, з боку пролетарыяту нацыянальна-вызваленчага руху прыгнечаных і залежных народаў.

Гэта ня значыць, вядома, што пролетарыят павінен падтрымліваць *усялякі* нацыянальны рух усюды і заўсёды ва ўсіх асобных кон-

крэтных выпадках. Справа ідзе аб падтрымцы такіх нацыянальных рухаў, якія накіраваны на аслабленьне, на зьвяржэньне імпэрыялізму, а не на яго ўзмацненьне і захаваньне. Бываюць выпадкі, калі нацыянальныя рухі асобных прыгнечаных краін прыходзяць ў сутычку з інтарэсамі разьвіцьця пролетарскага руху. Само па сабе зразумела, што ў такіх выпадках ня можа быць і рэчы аб падтрымцы. Пытаньне аб правох нацыі ёсьць не ізоляванае і самадаўлеючае пытаньне, а частка агульнага пытаньня аб пролетарскай рэволюцыі, падпарадкаванае цэламу, і якое патрабуе свайго разгляду пад кутом погляду цэлага. Маркс у 40-х гадох мінулага веку стаяў за нацыянальны рух палякаў і вэнграў, супроць нацыянальнага руху чэхаў і паўднёвых славян. Чаму? Таму, што чэхі і паўднёвыя славяне зьяўляліся тады „рэакцыйнымі народамі", „рускімі форпостамі" ў Эўропе, форпостамі абсолютызму, тады як палякі і вэнгры зьяўляліся „рэволюцыйнымі народамі", якія вялі барацьбу супроць абсолютызму. Таму, што падтрымка нацыянальнага руху чэхаў і паўднёвых славян азначала тады ўскосную падтрымку царызму, самага небясьпечнага ворага рэволюцыйнага руху ў Эўропе.

„Асобныя патрабаваньні дэмократыі,—казаў Ленін,—у тым ліку самавызначэньне, не абсолют, а частачка агульна-дэмократычнага (зараз агульна-соцыялістычнага) сусьветнага руху. Магчыма, што ў асобных конкрэтных выпадках частачка супярэчыць агульнаму, тады трэба адвергнуць яе (гл. том XIX, стар. 119—200)" Сталін „Пытаньні ленінізму" 1931 г., стар. 65-66.

Хіба ня ясна, што палажэньні т. Выдры зьяўляюцца простым скажэньнем марксызму, простай рэвізіяй палажэньняў Маркса, Леніна і Сталіна аб самавызначэньні нацый?

У тав. Выдры ёсьць яшчэ адно адкрыцьце, перад якім цьмянеюць бадай усе астатнія яго дасягненьні ў галіне марксыцкай тэорыі. Вось што піша тав. Выдра тут-жа: „і агіднейшы паклёп на найвялікшых правадыроў пролетарыяту, якія лічылі права нацый на самавызначэньне бязумоўным запатрабаваньнем для кожнага сьвядомага рабочага, які вёў самую бязьлітасную і непрымірымую барацьбу супроць усякага нацыянальнага прыгнечаньня, *якія закляймілі затхла бюрократычны цэнтралізм і супроцьпаставілі яму вольны саюз свабодных народаў*,—гэты паклёп пакідаецца ў артыкуле без адказу". Падкрэсьленая намі фраза зьяўляецца поўным разрывам з марксызмам-ленінізмам. Ніколі яшчэ ў нашай бальшавіцкай літаратуры нам не давялося сустракаць такія супроцьстаўленьні цэнтралізму свабоднаму саюзу. Ніколі не даводзілася нам яшчэ стыкнуцца ў партыйнай літаратуры з тым, што цэнтралізм характарызуецца выключна, як бюрократычны і яму супроцьстаўляецца вольны саюз народаў. Гэта супроцьстаўленьне цалкам узятае з арсэналу дробна-буржуазных анархістаў, і ніколі ня мела яно нічога агульнага з марксызмам. Ленін казаў—і гэта для тав. Выдры зьяўлялася агульна-прызнаным у асяродзьдзі марксыстаў,—што „*пры іншых роўных умовах* сьвядомы пролетарыят заўсёды будзе стаяць за больш буйную дзяржаву", што „цэнтралізаваная буйная дзяржава ёсьць вялізны гістарычны крок наперад ад сярэднявковай раздробленасьці—да будучага соцыялістычнага адзінства ўсяго сьвету". Ленін падкрэсьлівае, што мы патрабуем „свабоды аддзяленьня не для раздрабленьня і абасобленасьці, а для больш моцнай і больш дэмократычнай сувязі", што мы лічым за лепшае „фэдэрацыю... як адзіны шлях да поўнага дэмократычнага цэнтралізму", што „прызнаючы фэдэрацыю пераходнай формай да поўнага адзінства, неабходна імкнуцца

да больш і больш цеснага фэдэрацыйнага саюзу", што „чалавецтва можа прысьці да нязьбежнага злучэньня нацый толькі праз пераходны пэрыод поўнага вызваленьня ўсіх прыгнечаных нацый, гэта значыць іх свабоду аддзяленьня". Мы ня кажам ужо пра тое, што „вольны саюз свабодных народаў" толькі таму і можа існаваць, што побач з дзяржаўнай фэдэрацыяй у нас існуе найстражайшы пролетарскі рэволюцыйны цэнтралізм у партыі. Што ў тав. Выдры гэта стаўленьне да цэнталізму і вольнага саюзу ня зусім выпадковае, відаць з таго, што ён лічыць ідэі дэцэнтралізму, якія разьвівае Ластоўскі, „зброяй устарэлай, заіржавелай і страціўшай сваю рачаіснасьць". Тав. Выдра нават і не падазрае, што дэцэнтралізм цесна зьвязаны з дробна-буржуазнай стыхіяй, з спробамі ўсякага роду дробна-буржуазных палітычных груп, дробна-буржуазных па сваіх клясавых карэньнях партыйных ухілаў расхістаць, раздрабіць, дэцэнтралізаваць партыйную цэнтралізацыю і партыйнае кіраўніцтва.

Некалькі слоў патрэбна сказаць яшчэ толькі наконт „крытыкі" тав. Выдрам артыкулу чацьвёркі. Ці супярэчыць Выдра па існасьці той крытыцы, якая разгорнута ў даным артыкуле? Не. У двух радкох ён туманна спасылаецца на нейкі разрыў паміж рознымі філёзофскімі катэгорыямі, якія ён ня то выкрыў, ня то якія ім падазраюцца ў нашым артыкуле[1]). Але тав. Выдра супярэчыць ня супроць крытыкі. Па сутнасьці, ён супярэчыць, з аднаго боку, супроць тэй як-быццам лішняй хвальбы, якую шлюць па адрасу Вольфсона аўтары артыкулу і супроць тых вывадаў, якія як-быццам занадта мякка сформуляваны ў параўнаньні з зьместам крытыкі. Таварыш Выдра на гэтай падставе спрабуе абвінаваціць аўтараў артыкулу ў замазваньні памылак тав. Вольфсона. Ці правільна гэта? Адкажам словамі тав. Выдры:

„Трэба падкрэсьліць, што ў ёй (працы Вольфсона) сабраны надзвычай вялікі і каштоўны матэрыял, які характарызуе контррэволюцыйную дзейнасьць і погляды нацдэмаў. Тав. Вольфсон падабраў амаль усё, што было напісана і сказана нацдэмамі як у эміграцыі, так і ў БССР... Тав. Вольфсон дужа старанна папрацаваў над тым, каб усё, што так пільна хавалі нацдэмы ад шырокіх мас, стала вядомым, прадстала перад усім сьветам ва ўсёй сваёй шовіністычнай контррэволюцыйнай аголенасьці.

Бясспрэчна, што ў адносінах багацьця самога па сабе перакаваўчага матэрыялу, у адносінах паказу яго практычна актуальнага, контррэволюцыйнага значэньня нацдэмаў у змаганьні супроць савецкай ўлады,—праца тав. Вольфсона мае для партыі пэўную цікавасьць.

---

[1]) У адным месцы т. Выдра спрабуе ўзяць пад абарону тав. Вольфсона ад нашай крытыкі. Абарона яго гэткая-ж нязграбная і гэткая-ж няправільная, як большасьць абвінавачаньняў. Выдра піша „яны (аўтары артыкулу ў „Зьвязьдзе") прыпісваюць тав. Вольфсону сьцьвярджэньне, што лёзунг дзяржаўнай незалежнасьці заўсёды высоўваўся нацдэмамі". Выдра аспрэчвае гэту нашу заўвагу, якая ілюстравала антыгістарызм т. Вольфсона. Але вось, што „чорным па белым", як піша Выдра, напісана ў артыкуле Вольфсона: „Пачынаючы з першых момантаў формаваньня нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі, аж да 1930 году, нацдэмы не пераставалі заклікаць: „Нам трэба злучна, без партыйных межаў, весьці творчую працу над адбудаваньнем Незалежнай Беларусі". Спроба абараніць т. Вольфсона ад нашай крытыкі ў т. Выдры не выпадковая—гэта толькі форма абароны ўласных памылак, якія ідуць у яго па тэй-жа лініі, што і памылкі т. Вольфсона.

„Нацдэмы—пісаў т. Выдра—прадаўжалі тую-ж лінію „Нашай нівы" ў савецкіх умовах, *ні на ёту не зьмяніўшы яе*". Гэта палажэньне толькі больш аляпаватае выражэньне таго самага анты-гістарызму, у якім мы абвінавачвалі і тав. Вольфсона. Ня можам, да рэчы, не адзначыць абсолютна нядобрасумленнасьць прыёму т. Выдры, калі ён, сьвядома і няўмысьля сказіўшы адно месца ў нашым артыкуле, піша быццам мы абвясьцілі, што *толькі* нацдэмы і нацыянал-опортуністы сустрэнуць кніжку варожа.

„Характарызуючы рэальную палітыку нацдэмаў, з вычарпальнай яснасьцю паказваючы, што яна была ў пераплётах ад Дзянікіна да Аўстрыі“ і г. д. Гэта піша Выдра аб працы Вольфсона. Мы ня можам ня прызнаць, што тав. Выдра крыху пераацэньвае станоўчыя бакі працы т. Вольфсона. Але на гэтай падставе мы зусім ня зьбіраемся абвінавачваць тав. Выдру ў замазваньні памылак тав. Вольфсона. А між тым, тав. Выдра толькі на гэтай падставе,—а мы больш мякка сказалі тое-ж самае, што і тав. Выдра (акрамя хіба таго, што яшчэ адзначылі, што тав. Вольфсон пісьменна і зразумела піша),—абвінавачвае нас у замазваньні. Сутнасьць, канечне, не ў замазваньні, а ў карэным разыходжаньні. Тав. Выдра ў што-б там ні стала хоча давесьці, што Вольфсон зьяўляецца вялікадзяржаўным шовіністам, тады як наша задача заключаецца ў тым, каб паказаць вялікадзяржаўныя памылкі Вольфсона.

Чаму-ж памылкі характарызуюцца намі гэтак па-рознаму? Чаму не задаволіўшыся хоць-бы і больш рэзкай і жорсткай крытыкай сапраўдных памылак т. Вольфсона тав. Выдра заняўся яшчэ „канструяваньнем“ мнімых памылак у яго? Чаму тав. Выдра ў гэтай канструктарскай рабоце дайшоў да такой ступені захапленьня, што рушыў рад антымарксыцкіх палажэньняў? Напэўна таму, што сапраўдныя памылкі Вольфсона, як-бы іх рэзка не крытыкаваць, не даюць падстаў для абвінавачваньня ў сыстэме поглядаў вялікадзяржаўнага шовінізму, а т. Выдра загадзя паставіў перад сабою іменна гэту задачу. Не барацьба з вялікадзяржаўніцтвам, а барацьба з Вольфсонам—вось у чым, відавочна, цэнтр цяжару работы т. Выдры. Мы зусім ня зьбіраемся адстойваць кожную фразу ці нават форму нашай крытыкі т. Вальфсона.

Той факт, што Вольфсон формальна паставіўся да нашай крытыкі, што ён да гэтага часу не спрабуе сам даць разгорнутую крытыку сваіх памылак, не спрабуе паказаць клясавыя і ідэёвыя карэньні тых памылковых палажэньняў, якія ў яго ёсьць,—гэты факт лепш за ўсё сьведчыць, што неабходна была больш рашучая і энэргічная, больш рэзкая і палітычна больш завостраная крытыка і, галоўным чынам, палітычная кваліфікацыя работы тав. Вольфсона. Але гэта пытаньне ні ў якім разе нельга блытаць з пытаньнем аб характары крытыкі Выдры. Тое правільнае, што ёсьць у яго артыкуле, ня нова. Тое новае, што ёсьць у яго, на жаль, няправільна. Артыкул Вольфсона, дапускаючы вялікадзяржаўныя перагібы ў крытыцы нацыянал-дэмократызму, значна зьніжае каштоўнасьць гэтай крытыкі. Артыкул тав. Выдры, прыраўноўваючы пункт погляду Вольфсона да пункту погляду Мілюкова, стараючыся „грамчэй за ўсіх крыкуноў“ крыкнуць што-небудзь, што здалося яму асабліва модным, нападаючы на *правільнае* ў крытыцы нацдэмократызму, адначасна з нападам на няправільнае, абцяжарвае як барацьбу з нацыянал-дэмократызмам, так і барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам і льле ваду зусім не на той млын, на які меў на ўвазе т. Выдра.

Але ў ацэнцы абодвух гэтых артыкулаў мы павінны мець на ўвазе і палітычнае значэньне тых ці іншых памылак на даным этапе клясавага змаганьня, павінны мець на ўвазе палітычны рэзонанс гэтых памылак і ў гэтых адносінах артыкул тав. Вольфсона, бязумоўна, шмат небясьпечнейшы за артыкул тав. Выдры.

Работа тав. Вольфсона, у якой ён упяршыню спрабуе даць абагульваючае асьвятленьне поглядаў нацдэмаў, да якой будзе зьвяртацца шырокая чытацкая маса, дзякуючы яе даступнасьці, зьмяшчаючы

элемэнты вялікадзяржаўнага шовінізму, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай ў галіне нацыянальнай політыкі на даным этапе, памылкі, якія льлюць ваду на млын нацыяналістычных ухілаў і перашкаджаюць ажыцьцяўленьню ленінскай нацыянальнай політыкі нашай партыі, бязумоўна, небясьпечней блытанага артыкулу т. Выдры.

Змаганьне з усякімі праяўленьнямі вялікадзяржаўнага шовінізму зьяўляецца зараз важнейшай задачай, якая стаіць у цяперашні перыод перад тэорэтычным фронтам БССР і ў першую чаргу перад навуковымі работнікамі - комуністамі.

Трэба проста сказаць, што ў гэтых адносінах марксыцкія навуковыя таварыствы (якія ў значнай сваёй частцы наогул надзвычайна слаба працуюць) праяўляць недапусьцімую пасыўнасьць. Тая барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам, якая праведзена за апошні год (даклад аб „западно-руссизме“ ў таварыстве гісторыкаў - марксыстаў, барацьба супроць памылак Агурскага, распрацоўка пытаньня вялікадзяржаўніцтва ў гістарычнай літаратуры і г. д.) зьяўляецца зусім не дастатковай для нашага тэорэтычнага фронту. Артыкулы т. т. Вольфсона і Выдры зьяўляюцца лепшым сьведчаньнем небясьпекі на гэтым важнейшым вучастку нашай тэорэтычнай работы. Асабліва недастатковай зьяўляецца масавая работа марксыцкіх таварыстваў і наогул навуковых працаўнікоў-комуністаў па барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам. Нават тыя проблемы, якія былі таварыствамі распрацаваны, засталіся здабыткам вузкага кола членаў даных таварыстваў, і засталіся невядомымі ня толькі шырокім рабочым масам, але нават партыйнаму актыву. Мы павінны ў бліжэйшы-ж час дабіцца тут рашучага пералому. Увага ўсяго тэорэтычнага фронту БССР, усіх марксыцкіх таварыстваў у першую чаргу павінна быць мобілізавана на распрацоўку тэорэтычных проблем, зьвязаных з барацьбой з вялікадзяржаўным шовінізмам, павінна быць мобілізавана на бязьлітасную барацьбу з усялякімі праяўленьнямі вялікадзяржаўнага шовінізму без паслабленьня барацьбы з нацдэмократызмам і іншымі шовінізмамі. Нашы навуковыя працаўнікі-комуністы павінны ўжо ў бліжэйшы час даць рад навуковых прац, артыкулаў, дакладаў, якія зробяць сапраўдную дапамогу партыі ў барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, і ўсякім прымірэнцтвам да яго.

Пасыўнасьць у гэтай важнейшай справе нецярпіма і ёй павінен быць пакладзены канец.

---

**Ад рэдакцыі:** У сувязі са зьмешчанымі ў гэтым нумары часопісу артыкуламі тав. Выдры, Рыўліна, Поташа Рэдакцыя „Бальшавіка Беларусі“ лічыць неабходным адзначыць наступнае:

1. Работа тав. Вольфсона — „Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму“ — зьмяшчае ў сабе істотныя політычныя памылкі. У аналізе ідэолёгіі нацдэмократызму ў тав. Вольфсона адсутнічае гістарычны падыход, што прыводзіць аўтара да няправільнага, не марксыцкага сьціраньня адзнак у гістарычнай ролі нацыянал-дэмократызму на розных этапах яго разьвіцьця і асабліва адзнак паміж пэрыодам барацьбы з памешчыцка-капіталістычнай турмой народаў — царскай імпэрыяй і пэрыодам пролетарскай дыктатуры, якая вызваліла прыгнечаныя царызмам нацыянальнасьці і аб'яднала працоўных розных нацыянальнасьцяй у вольны Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Гэта прыводзіць тав. Вольфсона да зусім няправільнага вываду аб тым, што, ня гледзячы на перамену ў тактыцы, у лёзунгах нацдэмократызму

яго ідэолёгічны зьмест аставаўся ў сваёй аснове амаль што нязьменным.

Другой буйнейшай памылкай работы тав. Вольфсона зьяўляецца адказ ад пасьлядоўнага правядзеньня на ўсіх стадыях дасьледваньня аналізу клясавых вытокаў і каранёў нацдэмаўскай ідэолёгіі. Правільна адзначаючы буржуазна-кулацкі характар ідэолёгіі нацдэмократызму, тав. Вольфсон абмежаваўся паказаньнямі агульнага характару, не пакатаўшы гэтага клясавага сэнсу і характару нацыянал-дэмократызму пры дапамозе конкрэтнага аналізу пад гэтым кутом погляду яго ідэолёгіі і практыкі і ўстанаўленьня сувязі ідэолёгіі нацдэмаў з барацьбой прадстаўляемых імі кляс.

Выкладаючы і крытыкуючы нацыяналістычную форму ідэолёгіі нацдэмократызму і ігноруючы ленінскі тэзіс аб 2-х нацыянальных культурах у кожнай нацыі, тав. Вольфсон замест раскрыцьця і крытыкі буржуазна-кулацкага контррэволюцыйнага інтэрвэнцыянісцкага зьместу ўстановак нацдэмаў, якая хавалася за абалонкай нацыянальнай формы іх ідэолёгіі, бачыць асноўны грэх нацыянал-дэмократаў у „гіпэртофіі нацыянальнай формы“, „пераўвялічэньні асаблівасьцяй беларускай нацыі“ і г. д., паказваючы іх месцамі як рэакцыйных романтыкаў-утопістаў. Не правёўшы ў крытыцы нацдэмаўскай ідэолёгіі чоткага разьмежаваньня паміж культурай нацдэмаў — нацыянальнай па форме, буржуазна-кулацкай па зьместу — і нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зьместу культурай працоўных мас Беларусі т. Вольфсон дапусьціў буйную палітычную памылку, якая скажае партыйную пастаноўку пытаньня аб нацыянальнай культуры. Усе гэтыя памылкі ў працы т. Вольфсона прадстаўляюць сабой ухіл у бок вялікадзяржаўнага шовінізму. Памылкі гэтыя тым больш небясьпечны, што яны зроблены ў пэрыод напружанага будаўніцтва ў БССР нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зьместу культуры, будаўніцтва якое сустракае шалёнае супраціўленьне як з боку астаткаў эксплёатарскіх кляс беларускай нацыянальнасьці і іх ідэолёгаў, так і з боку вялікадзяржаўнага шовінізму, агентуры рэштак эксплёататарскіх кляс вялікарускай нацыі, прадстаўляючага таму галоўную небясьпеку.

2. Рэдакцыя адзначае правільнасьць крытыкі раду месц і установак вядікадзяржаўнага парадку ў рабоце т. Вольфсона, данай у артыкуле т. Выдры.

Аднак, рэдакцыя лічыць няправільнай тую агульную характарыстыку позыцый гэтай работы, якая даецца т. Выдрай. Прыпісваючы т. Вольфсону пасьлядоўна вялікадзяржаўны пункт погляду, т. Выдра робіць недапушчальны перагіб, падмяняючы пытаньне аб ухілах у бок вялікадзяржаўнага шовінізму ў рабоце т. Вольфсона абвінавачаньнем яго ў пасьлядоўна-вялікадзяржаўнай, г. зн. па сутнасьці справы мілюкоўскай позыцыі. Такая ацэнка работы т. Вольфсона няправільна па сутнасьці і не даказваецца сколькі-небудзь сур'ёзнай аргумэнтацыяй і абгрунтавана на неразуменьні розьніцы між ухілам да клясава-варожага пункту погляду і поўным пераходам на позыцыі клясавага ворага. Рэдакцыя констатуе разам з тым, што т. Выдра не падвёрг крытыцы свае памылкі ў зборніку „Навука“ на службе нацдэмократызму“, якія носяць у асноўным той-жа характар, што і памылкі т. Вольфсона.

Рэдакцыя константуе разам з тым, што ў сваім артыкуле тав. Выдра дапускае рад грубых палітычных памылак (няправільны тэзіс аб бязумоўным характары патрабаваньня аб праве нацый на самавызначэньне аж да аддзяленьня па-за залежнасьцю ад конкрэтна гістарычных абставін барацьбы пролетарыяту, палітычна шкоднае палажэньне

аб тым, што нацдэмы „здаліся“ і што іх лёзунгі згубілі сваю дзейнасьць, блытаная, палітычна-памылковая пастаноўка пытаньня аб цэнтралізьме і свабодным саюзе і г. д.), і карыстаецца часта прыёмамі дробязнай, нядобрасумленнай і прыдзірчывай крытыкі дзеля крытыкі.

3. Рэдакцыя лічыць, што ў артыкуле тав. Поташа, Югава, Рыўліна і Сэрбэнты („Зьвязда“ ад 10/Х-31 г.) у асноўным правільна паказана на памылкі работы тав. Вольфсона. Разам з тым рэдакцыя адзначае, што паказаныя т. т., крытыкуючы гэтыя памылкі, якія ідуць па лініі вялікадзяржаўнага шовінізму, далі недастаткова палітычна-завостраную і рэзкую іх кваліфікацыю. Рэдакцыя констатуе, што т. т. Рыўлін, Поташ выправілі ў друкуемым у гэтым нумары „Бальшавіка Беларусі“ артыкуле гэты недахоп свайго выступленьня з прычыны памылак работы т. Вольфсона.

4. Рэдакцыя лічыць адной з важнейшых чарговых задач тэарэтычных кадраў БССР узмацненьне распрацоўкі проблем нацыянальнай палітыкі партыі ва ўсіх галінах тэорыі і гаспадарча-палітычнага і культурнага будаўніцтва, узмацненьне барацьбы за правядзеньне ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Рэдакцыя зварачае ўвагу ўсіх навуковых тэарэтычных кадраў БССР на абсолютную недастатковасьць барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам ва ўсіх яго праявах у тэроыі і на практыцы, якая вядзецца як асобнымі комуністамі-навуковымі работнікамі, так і навуковымі ўстановамі і таварыствамі.

Узмацняючы рашучы адпор усякім контрабандысцкім спробам працягнуць права-і „лева“-опортуністычныя, трацкісцкія, шовіністычныя „ідэйкі“, падвергнуць у схаванай ці адкрытай форме рэвізіі завяванае і запісанае бальшавізмам у нацыянальным пытаньні, неабходна рашуча пасіліць барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам і ўхілам да яго на ўсіх франтох тэорыі і практыкі, не паслабляючы аднačасова барацьбы з нацыянальнымі мясцовымі шовінізмамі і выкрываючы ўсялякі гнілы лібэралізм у адносінах да наскокаў на ленінскую нацыянальную палітыку нашай партыі.

---

## Ліст у рэдакцыю час. „Бальшавік Беларусі“

У № 184 газэты „Зьвязда“ ад 18-га кастрычніка ў аддзеле „агляду друку“ дана крытыка на мой артыкул, зьмешчаны ў часопісу „Бальшавік Беларусі“ (№ 8-9), які быў мною напісаны і здадзены да пастановы ЦК УсеКП(б) „Аб організацыйна-гаспадарчым замацаваньні колгасаў і далейшых тэмпах колектывізацыі“.

Лічу ўстаноўкі на колектывізацыю да вясны 1932 году ня менш 75 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і завяршэньня суцэльнай колектывізацыі ў БССР да канца 1932 году—даваемыя ў маім артыкуле, глыбока памылковымі і супярэчнымі пастанове ЦК УсеКП(б) ад 2-га жніўня, якая вызначае для спажываючай паласы ў тым ліку і для БССР тэрмін завяршэньня суцэльнай колектывізацыі 1932-1933 гг., прычым указвае, што 68-70 проц. колектывізацыі з ахопам ня менш 75—80 проц. пасеўнай плошчы сялянскіх гаспадарак ужо зьяўляецца мерылам завяршэньня ў асноўным суцэльнай колектывізацыі.

Такім чынам, мае ўстаноўкі зьяўляюцца памылковымі па наступных прычынах: па-першае, што яны лічаць магчымым адкінуць адзін год і колектывізацыю закончыць у 1932 годзе, што ня можа ня прывесьці да пагоні за процантамі колектывізацыі і ігнараваньня організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў; па-другое, што ў іх праяўлена неразуменьне таго, што на сучасным этапе колгаснага будаўніцтва організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў зьяўляецца найлепшым сродкам барацьбы з кулацкімі дробна-буржуазнымі імкненьнямі (ураўнілаўкай, паядоцкім разьмеркаваньнем даходаў і авансаў, падворным разьмеркаваньнем кармоў, мінімалісцкімі нормамі вапрацоўкі, нежаданьнем здаваць дзяржаве таварных лішкаў, абагульваць маемасьць згодна статуту і г. д.), якія накіраваны да падрыву колгасаў знутры, найлепшым сродкам барацьбы за падвышэньне ураджайнасьці, таварнасьці і завяршэньня суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы на гэтай падставе; па-трэцяе, у іх праяўлена неразуменьне таго, што вызначаныя лічбы ЦК УсеКП(б) для мерыла завяршэньня суцэльнай колектывізацыі ў асноўным зьяўляюцца ня проста лічбамі, а гэта лічбы, за якімі разумеюцца значныя эканомічныя і клясавыя зрухі, якія вымушаюць по-новаму ставіць цэлы рад пытаньняў. А мая ўстаноўка на 75 проц. колектывізацыі да вясны 1932 году і завяршэньня суцэльнай колектывізацыі ў асноўным да канца 1932 году ёсьць поўнае неразуменьне гэтага.

Аднак, лічу неабходным дадаць, што пасьля рашэньня ЦК УсеКП(б) я ў сваёй практычнай працы і ў сваіх артыкулах прытрымліваўся рашэньняў ЦК УсеКП(б) ад 2 жніўня.

Што датычыцца другой формуліроўкі майго артыкулу, гэта што „правільная расстаноўка сіл і забясьпечаньне кожнага вучастку пар-

тыйцамі ўпіраецца ў такі факт, што нашы вясковыя партыйныя арганізацыі якасна і колькасна слабыя“,—лічу сваім абавязкам зрабіць наступную заяву:

Памылковасьць гэтай формуліроўкі ня ў тым, што я ацэньваю вясковую арганізацыю слабай, бо гэта бясспрэчны факт і такая ацэнка маецца ў партыйных докумэнтах і докумэнтах нядаўніх, як пастанова ЦК па пляну Оргбюро, хаця, бязумоўна, за апошні час, дзякуючы праведзенай партчыстцы, у сувязі з ліквідацыяй акруг, ростам соцыялістычнага сэктару вёскі і пасылкі 25-тысячнікаў на вёску, яна значна ўзмацнілася, вырасла колькасна і якасна за кошт рабочых саўгасаў, МТС, батракоў і колгасьнікаў-ударнікаў.

Таксама памылковасьць яе ня ў тым, што расстаноўка партыйных сіл і забясьпечаньне кожнага вучастку нашага будаўніцтва партыйцамі ўпіраецца ў слабасьць вясковай парторганізацыі, бо таксама зьяўляецца бясспрэчным, што мы яшчэ ня можам кожны с/с, колгас, тавар. колг. фэрму, брыгаду забясьпечыць партыйцамі з-за колькаснай слабасьці.

А памылковасьць яе зьяўляецца ў тым, што я пішу, што правільная расстаноўка сіл упіраецца ў слабасьць вясковай організацыі, у той час калі і слабыя сілы могуць быць правільна расстаўлены і гэтым самым узмоцнены і, наадварот, вялікія сілы могуць быць няправільна расстаўлены і гэтым самым значна аслаблены. Прычым лічу гэтую памылку політычна-шкоднай об'ектыўна, бо яна дэмобілізуе партыйныя організацыі ў працы па правільнай расстаноўцы сіл, хоця зьмест майго артыкулу знаходзіцца ў поўнай супярэчнасьці з гэтай формуліроўкай, яна зьяўляецца чыста выпадковай. Тым больш, што я ў сваім артыкуле паказваю на конкрэтныя факты Койданаўшчыны і Барысаўшчыны, дзе правільна і няправільна расстаўлены сілы і як патрэбна расстаўляць, каб і пры сучасных сілах забясьпечыць пасьпяховае выкананьне генэральнай лініі партыі.

*Галодка.*

---

## У рэдакцыю часопісу „Бальшавік Беларусі“.

Азнаёміўшыся з заўвагай рэдакцыі да майго артыкулу, лічу неабходны заявіць наступнае:

1) Маю характарыстыку пункту погляду, з якога ў кнізе т. Вольфсона вядзецца барацьба з беларускім нацдэмократызмам, як пункту погляду вялікадзяржаўнага шовінізму,—лічу няправільнай.

2) Лічу правільнай характарыстыку буйных політычных памылак кнігі т. Вольфсона, як ухілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму.

3) Лічу правільнай заўвагу рэдакцыі аб адсутнасьці з майго боку крытыкі маіх уласных памылак у маёй кнізе „Беларускі нацдэмократызм у краязнаўчым руху БССР“. У бліжэйшы час абавязуюся даць разгорнутую крытыку маіх уласных памылак.

4) Лічу правільнымі заўвагі рэдакцыі аб паасобных памылках у маім артыкуле, іменна аб тым, што нацдэмы здаліся і аб цэнтралізьме.

З комуністычным прывітаньнем

*Р. Выдра.*

# БІБЛІОГРАФІЯ

## Аб аднэй нацыянал-опортуністычнай спробе

Доцэнт С. Р. Дзіхцяр—„Дэклясаваныя яўрэі г. Менску“. Працы БДУ, № 24—Менск, 1930 г.
С. Р. Дзіхцяр—„Дэклясаваныя яўрэі г. Менску“. Пытаньні біолёгіі і патолёгіі яўрэяў“ Зборн. III, вып. II, Ленінград, 1930 г.

Гэта работа д-ра Дзіхцяра была ўжо асьветлена ў друку т. т. Аляксандравым і Гершэльбаўмам. Улічваючы, што гэта крытыка закранула пераважна пытаньні мэтодолёгіі і недастаткова аналізавала нацыянал-опортуністычныя вывады Дзіхцяра па пытаньнях социяльна-экономічнага парадку, мэтазгодна яшчэ раз вярнуцца да пытаньня аб нац.-опортуністычных памылках, дапушчаных аўтарам памянёнага твору.

Т. т. Аляксандраў і Гершэльбаўм, даводзячы праяўленьне ў рабоце Дзіхцяра тэндэнцый нацыянальнай самабытнасьці, упусьцілі з віду, што ідэолёгія нацыянальнай самабытнасьці служыла нацдэмократызму і нацопортунізму, *галоўным чынам*, як сродак, пры дапамозе якога яны дамагаліся ажыцьцяўленьня сваёй *антыпролетарскай паліты ка-экономічнай програмы*. У рабоце д-ра Дзіхцяра нас пагэтаму больш усяго павінен цікавіць імена адбітак ідэолёгіі буржуазнага нацыянал-дэмократызму ў пытаньнях гэтак званай экономічнай работы сярод яўрэйскіх працоўных мас.

Якую-ж мэту паставіў сабе аўтар твору „Дэклясаваныя яўрэі г. Менску“?

Мэта работы, са слоў самога аўтара: „Высьвятленьне суадпаведнасьці становішча масавага здароўя дэклясаванага яўрэйства задачам вытворчасьці і складае асноўны сэнс данай работы“. Улічваючы, што аўтар социял-гігіеніст і што яго работа—социял-гігіенічнае дасьледваньне, неабходна дапоўніць яго наступнымі яго-ж словамі: „Социял-гігіеніст, значыць, па самой сваёй прыродзе ня толькі вывучае, але і дзейнічае ў мэтах налепшаньня ўмоў социяльнага жыцьця“.

Значыць, асноўны сэнс работы Дзіхцяра, з яго-ж слоў, у:

а) аналізе, наколькі яго „дэклясаваныя яўрэі“ змогуць выконваць станоўчыя функцыі ў грамадзе;

б) калі гэта будзе даказана, то яму, як социял-гігіеністу, трэба дзейнічаць у гэтым напрамку, г. зн. указаць асноўныя шляхі для дасягненьня гэтай мэты.

Ня можа быць ніякіх супярэчаньняў супроць спробы савецкага грамадзкага працаўніка—социял-гігіеніста—вышукваць шляхі для ўцягненьня ў социялістычнае будаўніцтва шляхам розных социяльна-гігіенічных мерапрыемстваў элемэнты, якія ў мінулым, з прычыны капіталістычных умоў гаспадаркі, апынуліся ў катэгорыі беднякоў, жабрацтва, бяспрытульных і г. д., г. зн. такіх элемэнтаў, якіх звычайна падводзілі пад разуменьне „дэклясаваных“ (наогул—такога роду карыстаньне тэрмінам „дэклясаваны“ няправільна, у асаблівасьці ў такім нерас-

шыфраваным выглядзе,—не аднесьлі-б мы, відавочна, да дэклясаваных элемэнтаў у звычайным разуменьні раскулачанага савецкай уладай вялікарасійскага кулака, хаця-б жабрачнічаючага і разоранага той-жа уладай, яе эканомічнай політыкай, яўрэйскага нэпмана ці папа і равіна, пазбаўленага пролетарыятам заработку).

Можна, урэшце, таксама мірыцца з тым, што т. Дзіхцяр выбраў для сваёй работы такога роду „дэклясаваныя“ элемэнты адной якойнебудзь нацыянальнасьці—у даным выпадку яўрэйскай.

*У сапраўднасьці справа атрымалася некалькі іншая.* Аўтар выбраў об'ектам свайго дасьледваньня групу яўрэйскага насельніцтва, неаднастайную па свайму клясаваму складу, зьмешваючы землеробаў (якія землеробы—беднякі, серадзнякі, кулакі—гэтага нам не расказвае т. Дзіхцяр) са стар'ёўшчыкамі, гандляроў—з саматужнікамі, рэлігійных служачых—з насільшчыкамі і савецкімі служачымі, а чорнарабочых з латошнікамі. У выніку ў катэгорыю „дэклясававанага яўрэйства“ папала наступная рознаклясавая сьмесь: землеробаў—2,2 проц., саматужнікаў—35,5 проц., латошнікаў—15 проц., стар'ёўшчыкаў—9,1 проц. гандляроў—12,8 проц., чорнарабочых і насільшчыкаў—10,2 проц., служачых—8 проц., рэлігійных служачых—6,6 проц., жабракоў—1,8 проц., інш.—4,8 проц. (з табліцы № 2).

Якім чынам саматужнікі, насільшчыкі, гандляры папалі ў катэгорыю „дэклясаваных“, адкуль пачэрпнута гэта мэтодолёгія? Д-р Дзіхцяр дае на гэта адказ. Аказваецца, што гэта мэтодолёгія пачэрпнута з арсэналу вядомага сыоніцка-фашысцкага эканоміста Рупіна. Рупін у сваіх творах (гл. стар. 8 артыкулу Дзіхцяра) дае табліцу аб „чатырох групах у сучасным яўрэйстве“, прычым у першую групу пападае 50 проц. усіх яўрэяў: „няімушчыя рабочыя і рамесьнікі, крамнік з незабясьпечаным існаваньнем—6 міл.“.

Дзеля чаго Рупін зьмяшаў рабочых рамесьнікаў з гандлярам у адну групу? Дзеля таго, каб даказаць „адзінства інтарэсаў усяго яўрэйства“, выхад у якога толькі адзін, канечне, Палястына.

Дзеля чаго Дзіхцяр зьмешвае саматужнікаў, чорнарабочых з гандлярамі? На гэта пытаньне адкажам ніжэй—абмяжуемся толькі ўстанаўленьнем наступных двух фактаў:

1) Дзіхцяр цытуе буржуазнага эканоміста-сыоніста, ніводным гукам не абгаварыўшыся аб клясавай прыродзе і політычным тва[р]гэтага „вучонага“.

2) Дзіхцяр солідарызуецца з яго (Рупіна) вывадамі і пасьл[я] таварыскага пахлопваньня па плячу Рупіна, чаму-ж вы не падлічы[лі] асобна рабочых (Дзіхцяр, напрыклад, асобна падлічыў, але ці адз[ін] толькі мэтод падліку рашае) сьпяшыць заявіць: „але важна адзначыц[ь] што палова яўрэяў усяго сьвету знаходзілася ў так званым дэкляса[]ваным стане“,—такім чынам, Дзіхцяр па сутнасьці не спрачаецц[а] з Рупіным і па міласьці яго, Дзіхцяра, рабочыя, папаўшыя па клясы[]фікацыі Рупіна, у гэту палову яўрэяў, прызнаюцца Дзіхцяром, я[к] „дэклясаваны“ элемэнт. Значыць, ня толькі саматужнікі, але і яўрэ[й]скія рабочыя па Дзяхцяру—„дэклясаваны“ элемэнт. Упаўне прав[ы] т. т. Аляксандраў і Гершэльбаум, якія паказваюць на тое, што раб[о]чыя яўрэі не папалі ў групу, дасьледваную Дзіхцяром толькі таму што яны ня лечацца ў ЕМСО (яўрэйскае мэдыка-санітарнае т-ва),- дасьледваньне Дзіхцяра распаўсюджылася на тых яўрэяў, „хто кар[ы]стаецца мэдыцынскай дапамогаю ў ЕМСО“.

Значыць, Дзіхцяр у сваім „марксысцкім“ (па яго ацэнцы) дас[ь]ледваньні ўпусьціў адну „дробязь“—ён у якасьці об'екта выбра[ў]

групу соцыяльна неаднастайную, ахрысьціў яе назвай „дэклясаванае яўрэйства“, ператварыў яе ў якуюсьці соцыяльна-монолітную велічыню, вывучае яе (без якой-бы та ні было дыфэрэнцыяцыі) па розных паказчыках, пачынаючы з разьмеру бюджэту, заняткаў і канчаючы колерам валасоў.

Гэтага аднаго дастаткова, каб прызнаць усю работу і яе вывады нягоднымі, зусім няпрыемлемымі для марксыста-ленінца.

Але справа тут ня ў тым, што Дзяхцяр заблытаўся ў разуменьні „дэклясаваны“ элемэнт і павольна ўстанавіў рамкі гэтай катэгорыі. Справа тут больш глыбокая. Падбор такой клясавай рознастайнай групы выцякае з нацопортуністычных установак аўтара. *Дзіхцяр, судзячы па яго гэтай працы, ня бачыць клясавай дыфэрэнцыяцыі яўрэйства, лічыць, што ў сілу пэўных палітычных прычын, яўрэйства ў асноўнай сваёй масе прадстаўляе сабою адзіную соцыяльную катэгорыю—названую ім „дэклясаванай“.*

Гэта лепш усяго відаць з другога разьдзелу яго кнігі. Аналізуючы вынікі анкеты, праведзенай у Польшчы, з якой выцякае, што па варшаўскаму ваяводзтву 93 проц. яўрэйскіх рабочых сконцэнтраваны ў прадпрыемствах з лікам менш 10 рабочых і што 95 проц. прадпрыемстваў яўрэйскіх капіталістаў маюць менш 10 рабочых, Дзіхцяр заключае: „гэтыя даныя сьведчаць, што як яўрэйскі пролетарыят, так і яўрэйскі капітал у Польшчы па пераважнасьці згрупаваны ў больш дробных прадпрыемствах, г. зн. такіх, якія знаходзяцца пад пастаяннай пагрозай экономічнага выдаўленьня і выцясьненьня. Такім чынам, мы маем, праўда, косьвенны, *але нясумненны паказчык няпрочнасьці соцыяльна-экономічнага стану польскага яўрэйства, г. зн. стан „дэклясаваньня“* (падкрэсьлена намі—І. В.).

Няўжо т. Дзяхцяр няпрыкметна для сябе працягнуў сыоністкую тэорыю, што яўрэйская буржуазія — не буржуазія і яўрэйскі пролетарыят—не пролетарыят? Такія заключэньні ня робяцца няпрыкметна для сябе!

Дзіхцяр прыходзіць да выніку, што дасьледуемае ім „дэклясаванае“ яўрэйства знаходзіцца ў вельмі цяжкім экономічным стане (стар. 50). Даказвае ён гэты стан аналізам бюджэту, заработкаў, разьмераў дапамогі родзічаў. Якім-жа шляхам Дзіхцяр сабраў гэтыя даныя? Аказваецца, што шляхам апросу дасьледуемых. „Дэклясаваныя“ яўрэі пры апросе ўказвалі ступень матэрыяльнай забясьпечанасьці, дастатковасьці харчу, тлушчаў, цукру, бялізны, вопраткі, абутку і г. д., указвалі крыніцы даходу. Калі ўлічыць, што сярод групы, дасьледуемай Дзіхцяром, маецца значная частка гандляроў і асоб, маючых разьлікі з фінаддзелам, дык стане зусім зразумелым, што Дзіхцяру і яго памочнікам не ўдалося даведацца сапраўдных разьмераў „сярэдняга“ даходу—ясна, што об‘екты абсьледваньня схавалі солідную долю гэтых даходаў і ахвотна прадставілі сябе ў ролі беднякоў. Нават па гэтых суб‘ектыўных даных больш паловы абсьледваных сямействаў маюць бюджэт у 30-40-50-60 р. і больш. Дзіхцяру няма справы да гэтага, бо яму трэба рабіць адзін з яго асноўных вывадаў:

„Агульны тып структуры яўрэйскай беднаты мала зьмяніўся за некалькі дзесяцігодзьдзяў, ня гледзячы на адбыўшыяся гістарычныя здарэньні“ (Кастрычнікавая рэволюцыя)... *нельга меркаваць, што Кастрычнікавая рэволюцыя рэзка зьмяніла склад беднаты* (курсіў Дзіхцяра — І. В.).

Не зьмяніўся ён, склад беднаты, па думцы Дзіхцяра таму, што экономічны стан яўрэйскай беднаты застаўся пасьля Кастрычнікавай

рэволюцыі аднолькава цяжкім, як і да. І як-бы Дзіхцяр не вярцеўся, вывад з гэтай часткі яго твору адзін—яўрэйства (саматужнікі і гандляры) і ў капіталістычных краінах і пры дыктатуры пролетарыяту знаходзіцца ў аднолькава „цяжкім экономічным стане“.

Гэты вывад Дзяхцяром запазычаны ў „вучонага“ экономіста а-ля Рупіна, махровага белагвардзейца меншавіцкага толку — Якава Ляшчынскага.

З тэй-жа бесцырамоннасьцю, як Дзіхцяр цытаваў Рупіна, цытуе ён і Ляшчынскага: „Я. Ляшчынскі лічыць, што соцыяльна-экономічныя тэндэнцыі *ва ўсёй* усходняй Эўропе *аднолькавы, незалежна ад палітычных ўмоў*, а іменна: 1) паніжэньне пакупной здольнасьці сялян; 2) памяншэньне рынку спажываньня ў гарадох... 5) культурны рост сялянства пагаршае матэрыяльнае становішча яўрэйства“ (падкрэсьлена намі—І. В.).

Дзіхцяр зноў-ткі ніводным словам не абмовіўся аб тым, хто такі Ляшчынскі і без якога-б то ні было намёку на протэст супроць гнуснага і ня менш сьмехатворнага паклёпу Ляшчынскага на Савецкі Саюз (як „памяншэньня рынку спажываньня ў гарадох“) ва унісон з ім аплаквае „беднае яўрэйства“ Савецкага Саюзу.

Прааналізаваўшы свае статыстычныя матэрыялы (аб якасьці якіх дастаткова поўна пісалася т. т. А і Г.), па пытаньнях, пачынаючы з бюджэту і канчаючы ўзростам пачатку мэнструацыі „дэклясаваных“ яўрэек, пачаткам палавога жыцьця, афарбоўкай скуры і валасоў, Дзіхцяр прыходзіць да вываду, што агульны стан масавага здароўя захворваемасьці абсьледванай групы, індывідуальныя яе ўласьцівасьці не адрозьніваюцца асабліва спэцыфічнымі нацыянальнымі ўласьцівасьцямі. Дзіхцяром гэта месца з яго артыкулу скарыстоўваецца для доказу таго, што ён, Дзіхцяр, супроць ідэолёгіі нацыянальнай самабытнасьці, што ён прызнаў „дэклясаванага“ яўрэя „нормальным гаражанінам“, жывучым „у соцыяльна-экономічных умовах, якія характарызуюць паўпэрызм“.

Па-першае, было-б найвялікшай спрошчанасьцю, калі-б мы меркавалі, што ідэолёгія нацыянальнай самабытнасьці сучаснага яўрэйскага нацыянал-дэмократызму зьмяшчаецца ў доказе таго, што спэцыфічныя нацыянальныя асаблівасьці яўрэяў заключаюцца ў тым, што яны слабыя, хілыя, нягодныя для вытворчай працы і г. д. Па-другое, гэтыя заключэньні Дзіхцяра, самі па сабе можа і правільныя, мелі-б у тым выпадку цану, калі-б яны не знаходзіліся ў абураючай супярэчнасьці з асноўнымі соцыяльна-экономічнымі вывадамі яго работы.

Гэтым соцыяльна-экономічным вывадам д-р Дзіхцяр прысьвячае толькі дзьве старонкі з 59-ці. Але па „якасьці“, па насычанасьці нацыянал-опортуністычнай белібердой гэтыя дзьве старонкі значна перавышаюць усе астатнія 57.

З гэтых 2-х старонак становіцца яснай сапраўдная мэта кнігі Дзіхцяра. Абвяргаючы размовы аб тым, што „яўрэйства“ не прыстасавана да працы, „даказваючы“ вельмі цяжкі экономічны стан яўрэйства „наогул“, *Дзіхцяр тэорэтычна абгрунтоўвае асноўны тэзіс яўрэйскага нацыянал-опортунізму ў пытаньнях экономічнай работы сярод яўрэйскіх мас. Гэты крызіс зводзіўся да ігнараваньня прынцыпу клясавай дыфэрэнцыяцыі, да доказу мэтазгоднасьці і неабходнасьці ўцягваньня ў арцелі саматужнай коопэрацыі і колгасы гандляроў, што па сутнасьці зьяўлялася адбіткам права-опортуністычнай тэорыі аб урастаньні кулака ў соцыялізм.*

*Дзіхцяр прысьвяціў свой артыкул доказу, што яўрэйскі гандляр бедны, што ён фізычна „годны“, што яго трэба „ўцягнуць“...*

Запамятаўшы свой вывад аб тым, што „няма ніякіх падстаў меркаваць, што дэклясаваныя яўрэі асабліва схільны да адной профэсіі ці няздольны да іншых па свайму фізычнаму і духоўнаму разьвіцьцю“, Дзіхцяр працягвае заставацца верным сваёй нацыянал-опортуністычнай ідэолёгіі і пачынае вышукваць асобныя аблягчоныя шляхі прыцягненьня „дэклясаваных“ яўрэяў да вытворчай працы.

Ён заяўляе: „мы можам зараз дадаць, на падставе нашых матэрыялаў, што *перасяленьне з гораду для заняткаў сельскай гаспадаркай нясумненна зьвязана і з социялна-гігіенічнымі ўскладненьнямі,* паколькі асноўныя кадры перасяляючыхся зьяўляюцца ўжо прыстасаванымі да ўмоў гарадзкога жыцьця, і перамена іх зьвязана з глыбокімі зьмяненьнямі ва ўсёй сыстэме прыстасоўчых мэханізмаў“ (падкрэсьлена намі — І. В.).

Чаму Дзіхцяр супроць пераводу яўрэйскай беднаты на сельскую гаспадарку і чаму, быццам, сама бедната супроць гэтага пераходу? Дзіхцяр упэўнены, што „ў сьвядомай супроцьнатуральнасьці ў эканамічным сэнсе і ў сьвядомых небясьпеках у соцыяльна-гігіенічных адносінах ляжыць галоўная прычына, чаму дэсклясаванае яўрэйства так неахвотна пераходзіць на зямлю“.

Разумеючы, што гэтыя яго сьцьверджаньні будуць высьмеяны тысячамі яўрэйскіх колгасьнікаў, добра прыстасаваўшыхся да сельскагаспадарчай вытворчасьці, Дзіхцяр ідзе на некаторыя ўступкі і згодзен „дазволіць“ пераход на сельскую гаспадарку, але з вучотам наступнай умовы: „ва ўсялякім выпадку немэтазгодна і неэкономна перасяляць дэклясаваных яўрэяў на зямлю ва ўмовах экстэнсыўнай эксплёатацыі яе, а сельская гаспадарка толькі індустрыялізаваная можа быць магчымай санітарна-бытавой умовай, больш ці менш блізкай урбанізаванаму дэклясаванаму яўрэйству“. *Значыць, пакуль ня бдзе поўнасьцю індустрыялізавана сельская гаспадарка, — аб пераводзе беднаты на зямлю і думаць няма чаго!*

Цяжка верыць, што чалавек, выдаючы сябе за друга савецкай улады, уступаючы ў партыю, ведаючы аб ўсёй шалёнай агітацыі, якая вядзецца сыоністымі-меншавікамі супроць зямляўпарадкаваньня яўрэйскай беднаты, ня толькі не выступае супроць гэтай погані, але прапануе свае паслугі ў якасьці тэорэтыка, „даказваючага“ правільнасьць контррэволюцыйнай агітацыі і бязглузьдзіцы мерапрыемстваў савецкай улады.

Што-ж прапануе Дзіхцяр? Дзіхцяр за індустрыялізацыю дэклясаванага яўрэйства. „Нам здаецца“, гаворыць ён, „што адказ можа быць адзін: дэклясаванае яўрэйства павінна быць індустрыялізавана, таму што гэта суадпавядае эконамічным пэрспэктывам краіны і соцыяльна-гігіенічным інтарэсам гэтай групы насельніцтва“.

Дзіхцяр і ў адносінах прамысловасьці ставіць пэўныя ўмовы, праўда, у менш ультыматыўнай форме. У лёгкай дыскусіі-флірце з меншавіком Вігдорчыкам ён супакойвае яго, што яўрэй прыстасуецца да прамысловай працы, бо тэндэнцыя разьвіцьця прамысловасьці вядзе да „замены кваліфікаванага рабочага старога рамесьнага тыпу новым тыпам амаль унівэрсальнага рабочага пры машыне“.

*Ітак, Дзіхцяр марыць аб „дэклясаваным“ яўрэі ў ролі рабочага „пры* машыне“ і „*пры* трактары“. *Што датычыцца сельскай гаспадаркі, відавочна і торфараспрацовак, лесараспрацовак, мэханізацыя якіх пасьпяхова праводзіцца, але яшчэ ня ў такой ступені, як гэта*

*патрабуецца ў суадпаведнасьці з „санітарна-бытавымі ўмовамі, больш ці менш блізкай урбанізаванаму дэклясаванаму яўрэйству“*, то гэтыя *галіны вытворчасьці не рэкомэндуюцца Дзіхцярам, бо ўцягненьне яўрэйскай бедняты ў такога роду працу „некалькі зьвязана з соцыяльна-гігіенічнымі ўскладненьнямі“*.

Цікавей ўсяго тое, што ў пэрспэктывы індустрыялізацыі „дэклясаванага“ яўрэйства (нават па яго рэцэпту) Дзіхцяр па сутнасьці ня верыць. Яго пэсымізм у гэтай галіне асабліва вылучаны ў разьдзеле IV-м яго артыкулу, пры аназізе паказчыкаў сямейнага становішча абсьледуемай ім групы. Констатуючы значны лік састаячых у шлюбе сярод „дэклясаваных“ яўрэяў, ён тлумачыць гэта тым, што „крайнія патрэбы *безнадзейнае* (падкрэсьлена Дзіхцяром) жабрацтва зьяўляецца гэтымі прычынамі і прымушае дэклясаваных яўрэяў шукаць спасеньня ў сям'і, бо па сутнасьці—дапускае ён лірычнае адступленьне—гэта *адзінае мерапрыемства, знаходзячаяся ў іх уладзе і магучае так ці інакш што-небудзь зьмяніць*“ (падкрэсьлена мною—І. В.).

*Значыць, т. Дзіхцяр, выбірайце ці шлюб—адзінае мерапрыемства „магучае так ці інакш што-небудзь зьмяніць“, ці гэтым мерапрыемствам зьяўляецца індустрыялізацыя „дэклясаванага“ яўрэйства?*

Наогул, у лірычных адступленьнях часам вельмі рэльефна выяўляецца сапраўдны настрой аўтара. Чаго, напрыклад, варта наступнае наскрозь нацыяналістычнае месца з артыкулу Дзіхцяра: „дзяржава соцыяльнай рэволюцыі ня можа не займацца аздараўленьнем усіх „соцыяльных акраін“, у тым ліку і гэтай (яўрэйскай), быць можа, *самай трагічнай і*, мабыць, *самай ганебнай*, дастаўшайся нам у спадчыну ад мінулага рэжыму“ (падкрэсьлена мною—І. В.).

Супярэчаньняў, продуктаў эклектызму ў працы Дзіхцяра нямала. Яны нямінучы, бо Дзіхцяр ігнорує элемэнтарныя прынцыпы марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі.

Дзіхцяр надумаў выдаць навуковую працу аб соцыяльна-гігіенічным дасьледваньні з політыка-экономічнымі вывадамі, не прысьвячаючы ў ім ніводнага гуку конкрэтным умовам соцыялістычнага будаўніцтва, без якой-бы та ні было спробы ўвязаць свае вывады аб задачах экономічнай работы сярод яўрэяў з задачамі індустрыялізацыі і колектывізацыі краіны, з гістарычнай пэрспэктывай, хаваючы, нарэшце, і ўсялякім чынам ігноруючы ўсё тое, што ўжо зроблена ў Савецкім Саюзе па ўцягненьні працоўных яўрэяў у вытворчую працу, пры ўсё больш абвастраючымся процэсе экономічнага разбурэньня яўрэйскіх працоўных мас у Польшчы, Літве і г. д.

Звычайна ў такіх выпадках рэцэнзіі канчаюцца пытаньнем—„як гэта магло здарыцца, што вось такое пролетарскае выдавецтва прапусьціла такую кнігу?..“ У нас гэтага пытаньня ня будзе. Тлумачыцца гэта тым, што праца Дзіхцяра друкавалася ў яўрэйскім *буржуазным* часопісе „Пытаньні біолёгіі і патолёгіі яўрэяў“ і ў так званых „Працах БДУ“ ў часы Пічэты, вельмі паважаўшага наццэмократычную творчасьць любой афарбоўкі.

*Наш агульны вывад: мы маем справу з нацыянал-опортуністычнай спробай даць буржуазна-сыоністкую трактоўку задач экономічнай работы сярод працоўных яўрэяў Савецкага Саюзу. Гэтая спроба павінна сустрэць бязьлітасны адпор з боку ўсёй пролетарскай грамадзкасьці.*

І. Верба.

# МАТЭРЫЯЛЫ і ДОКУМЭНТЫ

## Аб організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў

### Пастанова аб'яднанага Пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б

Аб'яднаны Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б констатуе вялізарныя посьпехі дасягнутыя ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі БССР.

На 1-XI-31 г. колектывізавана 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак па Рэспубліцы, 57,4 проц. па раёнах дзейнасьці МТС і 57,2 проц. па ільнаводных раёнах. 9 раёнаў ужо завяршылі ў асноўным суцэльную колектывізацыю. Колектывізацыя паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Рэспублікі зьяўляецца вялізарнай перамогай партыі, лепшым доказам правільнасьці яе генэральнай лініі.

Перавод сельскае гаспадаркі на рэйкі буйнога соцыялістычнага земляробства ўжо забясьпечыў значныя посьпехі ў сельска-гаспадарчай вытворчасьці (пашырэньне пасеўных плошчаў, пашырэньне плошчаў пад тэхнічнымі культурамі (лён з 140.000 да 230.000), надвышэньне ўраджайнасьці, таварнасьці сельскае гаспадаркі і г. д.).

Колгасы ў правядзеньні веснавой сяўбы, уборачнай кампаніі і асеньняй сяўбы паказалі рад далейшых пераваг буйное колектыўнае гаспадаркі над дробнай аднаасобнай (прыпадае абагуленага пасеву яравых на адну колгасную сям'ю 4,04 га супроць 2,43 га на сям'ю аднаасобнай гаспадаркі і на 1 цягавую адзінку ў колгасах 4,5 га, у аднаасобнікаў 2,3 га, пасеў тэхкультур 0,4 га на адну колгасную сям'ю супроць 0,2 га на сям'ю аднаасобнае гаспадаркі).

Разгорнута значная работа па спэцыялізацыі колгасаў (на 1-XI-31 г. організавана 1.064 МТКФ з пагалоўем буйной рагатай жывёлы 126.248, з якіх 74.138 дойных; організавана 889 фэрм па вырошчваньню цялят; 1.600 ТСФ, у якіх пастаўлена 71.000 дарослых сьвінаматак; 131 ПТКФ і 43 конегадоўчыя фэрмы).

КП(б)Б здолела дасягнуць такіх посьпехаў толькі на аснове пасьпяховага вырашэньня задачы індустрыялізацыі краіны, як асновы ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва і ў выніку барацьбы супроць правага ўхілу, „лявацкіх“ загібаў, вялікядзяржаўнага шовінізму і контр-рэволюцыйнага нацдэмократызму.

Аднак, Пленум ЦК і ЦКК з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што дасягнутыя посьпехі ў організацыі колгаснай вытворчасьці зьяўляюцца толькі яшчэ першапачатковымі, не выкарыстоўваюцца яшчэ тыя магчымасьці разьвіцьця высока-таварнай гаспадаркі, якія забясьпечваюцца буйной колектыўнай гаспадаркай, умовамі савецкага ладу і той вялізарнай вытворчай дапамогай, якая аказваецца колгасам з боку пролетарскай дзяржавы.

Усё яшчэ нізкі выхад таварнай продукцыі, нізкая ўраджайнасьць, нізкая ўдойлівасьць, зусім нізкі процант выхаду таварных сьвіней, вялікае асяданьне таварнай продукцыі ўнутры самых колгасаў, шырока распаўсюджаны спажывецкія настроі і вынікаючыя адсюль выпадкі рвацтва і г. д.

У пытаньнях аб тэмпах колектывізацыі і далейшых задачах у колгасным руху, кіравацца ўказаньнямі ЦК УсеКП(б), устанаўліваючымі, што „меркай завяршэньня колектывізацыі таго ці іншага раёну ці вобласьці зьяўляецца не абавязковы ахоп усіх 100 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а ўцягненьне ў колгасы ня менш 68—70 проц. сялянскіх гаспадарак з ахопам ня менш 75—80 проц. пасеўных плошчаў сялянскіх гаспадарак“.

БССР, якая адносіцца па характару сельскае гаспадаркі да раёнаў спажываючай паласы, павінна вызначыць сваю работу ў галіне колгаснага руху, кіруючыся наступнымі паказаньнямі ЦК УсеКП(б): „У астатніх раёнах СССР, у тым ліку і ў раёнах спажываючай паласы, ЦК прапануе весьці работу па колектывізацыі з такім разьлікам, каб у асноўным скончыць колектывізацыю ў 1932-33 гг.

ЦК асабліва перасьцерагае арганізацыі гэтых раёнаў і абласьцей ад пагоні за раздутымі процантамі колектывізацыі.

ЦК прапануе гэтым арганізацыям сконцэнтраваць увагу работнікаў на задачу паляпшаньня арганізацыйна-будаўнічай работы колгасаў і ўзмацненьню раней за ўсё ільнаводных і гародных колгасаў".

У сувязі з гэтым, на падставе пастановы ЦК УсеКП(б) ад 2-VIII-31 г. аб тэмпах далейшай колектывізацыі і задачах умацаваньня колгасаў, пленум пераглядзеў пастанову ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б у той частцы, якая ставіць перад парторганізацыяй задачу дабіцца вясной 1932 году ахопу 75 проц. сялянскіх гаспадарак і суцэльнай колектывізацыі да канца 1932 г.", зацьвердзіць пастанову Бюро ЦК ад 10 лістапада аб артыкуле ў „Праўде" ад 28 верасьня.

Толькі на аснове шырока разгорнутай работы па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, у барацьбе з самацёкам у колгасным будаўніцтве будзе вырашана задача завяршэньня суцэльнай колектывізацыі. Хто падмяняе гэтую асноўную задачу пагоняй за дутымі процантамі колектывізацыі, той ня толькі не разумее асноўных задач соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі на даным этапе, але ідзе супроць лініі партыі.

1. Асноўнымі рашаючымі мерапрыемствамі па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў зьяўляецца ўпартая барацьба за перавыхаваньне мас, за выкарчоўваньне дробна-буржуазных тэндэнцый, за правільную арганізацыю працы, аснованую на цьвёрдых нормах выпрацоўкі ацэненых у працаднёх, сапраўднае ўкараненьне зьдзельшчыны, разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва правільную арганізацыю ўліку працы і разьмеркаваньне даходаў выключна па колькасьці і якасьці працы, максымальнае разгортваньне таварных галін гаспадаркі, узьняцьце ўраджайнасьці, максымальны выхад таварнасьці, падбор лепшага кіруючага складу колгаснаега спадаркі (старшыні, загадчыкі фэрм, брыгадзіры) і выхаваньне сярод колгасных мас уразуменьня неабходнасьці ставіць задачу соцыялістычнага будаўніцтва, свае абавязкі перад пролетарскай дзяржавай на першы плян, як першачарговыя. Па гэтай лініі будзе нанесены зьнішчальны ўдар класаваму ворагу—кулаку і яго агентуры ў партыі — опортуністам розных адценьняў.

Вопыт работы значнай часткі колгасаў паказаў, што там, дзе добра і правільна была арганізавана праца, там вышэй продукцыйнасьць працы; своечасова выконваліся вытворчыя заданьні, менш было страт, большая атрымана даходнасьць.

Між тым, задача правільнай арганізацыі працы, укараненьне сапраўднай зьдзельшчыны далёка ня ўсімі арганізацыямі пастаўлена ў цэнтр увагі. Па значнай частцы колгасаў зьдзельшчына існуе формальна, на справе пануе падзёншчына. Ня рэдкія выпадкі, калі нават кіруючыя работнікі колгассаюзу самі не разумеюць прынцыпаў зьдзельшчыны і тэхнікі яе правядзеньня. Зусім слабы раённы інструктаж па пытаньнях арганізацыі і практычнага правядзеньня зьдзельшчыны ў колгасах. Зусім недастаткова асьвятляецца лепшы вопыт зьдзельшчыны ў друку.

Пленум прапануе Колгасцэнтру, на аснове выяўленага вопыту правядзеньня зьдзельшчыны ў колгасах, у месячны тэрмін распрацаваць конкрэтныя паказаньні па ўдасканаленьні яе і па ўзьняцьці працоўнай дысцыпліны і барацьбе з прагуламі, у прыватнасьці:

а) пераглядзець прыкладныя нормы выпрацаўкі, орыентуючыся на фактычную выпрацоўку лепшых перадавых колгасьнікаў і прыняць меры, каб на аснове прыкладных норм у кожным колгасе былі распрацаваны свае нормы выпрацоўкі на 1932 г.;

б) правесьці рад курсаў і конфэрэнцый на працягу зімовага пэрыоду па азнаямленьні з прынцыпамі і тэхнікай зьдзельшчыны, арганізацыяй работы, паклаўшы ў аснову пры практычным ажыцьцяўленьні зьдзельшчыны наступныя прынцыпы: устанаўленьне сталага складу асноўнага ядра брыгад з даручэньнем утварэньня раду зьвязаных паміж сабой процэсаў с.-г. работы (напр.: даручэньне адной брыгадзе ўсіх процэсаў працы, пачынаючы ад пасеву і канчаючы ўборкай і абмалотам); правядзеньне работ на аснове брыгаднай і групавой зьдзельшчыны з індывідуальным улікам працы кожнага колгасьніка ўнутры брыгады і групы і пераходу па індывідуальнае заданьне ўнутры брыгады на тых работах, дзе гэта магчыма ажыцьцявіць;

в) распрацаваць конкрэтныя паказаньні аб паступовым пераводзе ўсіх відаў работ на прогрэсыўна-прэміяльную зьдзельную працу, аднак, формы арганізацыі зьдзельнай прэміяльнай працы павінны быць такімі, якія-б былі добра зразумелымі колгасным масам.

Адным з найбольш распаўсюджаных скажэньняў зьдзельшчыны зьяўляецца абмежаваньне працягласьці рабочага дня ў гадзінах і ўлік ня колькасьці і якасьці выкананай работы, а часу праведзенага на рабоце;

г) пленум указвае на няправільнасьць маючайся ў радзе месц практыкі ўстанаўленьня працягласьці рабочага дня ў цьвёрдай колькасьці гадзін. Працягласьць рабочага дня колгасьніка выцякае і вызначаецца аб'ёмам работы і тэрмінам выкананьня гэтага заданьня;

д) РК КП(б)Б забясьпечыць сыстэматычны контроль і праверку работы колгасных зямельных органаў па організацыі працы ў колгасах, пераход на зьдзельшчыну, правільны ўлік працы, правільнае разьмеркаваньне даходаў і выдачу авансаў. Выдача ўсіх авансаў павінна праводзіцца выключна па працаднёх.

РК КП(б)Б павінны правесьці 3—4-дзённыя курсы-конфэрэнцыі вясковых комуністаў і раёнага актыву па вывучэньні прынцыпаў і тэхнікі правядзеньня зьдзельшчыны ў колгасах;

е) Колгасцэнтру і раённым саюзам забясьпечыць такі контроль за сваячасовым запісам працадзён, каб дырэктывы ЦК аб запісах працадзён у працоўныя кніжкі не радзей аднаго разу ў пяць дзён—абавязкова выконваліся. Устанавіць такі парадак, пры якім тым брыгадзірам, якія несваячасова запісваюць выпрацаваныя колгасьнікамі працадні ў іх працоўныя кніжкі, зьніжалася колькасьць працадзён;

ж) разглядаючы організацыю адыходніцтва, як адно з важнейшых мерапрыемстваў па організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, колгасныя органы справу організацыі працы ў колгасах, выкарыстаньне машын і організацыю гаспадаркі павінны паставіць так, каб забясьпечыць адыходніцтва ў максымальнай меры.

2. Пленум прызнае нездавальняючай работу па папярэднім разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў колгасах. Рад партыйных і колгасных організацый не надалі гэтай кампаніі палітычнага значэньня, як важнейшаму зьвяну ў організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў. Кампанія разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю разглядаецца як тэхнічная бухгальтарская справа, няма конкрэтнага кіраўніцтва, працягваецца ў радзе раёнаў (Касьцюковіцкі і інш.) выдача авансаў па едаках, сем'ях і г. д., ня ўвязваецца правядзеньне разьмеркаваньня з задачай першачарговага выкананьня колгасамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай (авансы выдаюцца незалежна ад выкананьня плянаў загатовак), што зьяўляецца простым парушэньнем устаноўленага парадку разьмеркаваньня даходаў ураджаю.

Пленум катэгорычна патрабуе ад РК КП(б)Б і колгаснай сыстэмы неадкладнага ўзмацненьня работы па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю, поўнасьцю забясьпечыўшы разьмеркаваньне даходаў па прынцыпу—хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае. Не павінна быць ніводнага выпадку разьмеркаваньня даходаў па ядоцкім, альбо сямейным прызнаку, рашуча выкрываючы перад колгаснымі масамі кулацкую сутнасьць ядоцкага прынцыпу, які вядзе да разбурэньня колгасу.

Павінна быць поўнасьцю выканана паказаньне, што ў першую чаргу выконваюцца колгасамі свае абавязкі перад дзяржавай па здачы (продажу) таварнай продукцыі, а потым толькі ствараюцца фонды і выдаюцца авансы.

Пленум лічыць зусім недапушчальным спазьненьні ў разьмеркаваньні ўраджаю і зварочвае ўвагу ўсіх РК на палітычную важнасьць сваячасовага выкананьня ўказаньня бюро ЦК аб тым, каб кожны колгасьнік у парадку авансавай выдачы атрымліваў-бы ў бліжэйшыя дні ня менш паловы належачай яму долі з тым, каб канчатковае разьмеркаваньне ўраджаю ў колгасах было закончана да 15 студзеня 1932 г.

Ня было таксама скарыстана выкананьне колгасамі плянаў загатовак як адно з мерапрыемстваў організацыйна-гаспадачага замацаваньня колгасаў таму, што масавая работа навокал загатовак была ў значнай ступені заменена адміністраваньнем, камандаваньнем, прадпісаньнямі замест шырокага прыцягненьня колгасных мас на выкананьне колгасамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай і выхаваньня сярод колгасвых мас разуменьня таго, што колгасы як соцыялістычны сэктар гаспадаркі павінны быць прыкладнымі ў выкананьні сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай, з правядзеньнем адначасовай барацьбы з рвацкімі, спажывецкімі тэндэнцыямі, з кулацкай агітацыяй і работай за зьмяншэньне плянаў, за зрыў загатовак і г. д., адставаньне колгасаў ад аднаасобнага сэктару сьведчыць аб організацыйна-гаспадарчай слабасьці колгасаў. Абагуленьне праводзіцца формальна без аформленьня па належных фондах колгасу; у радзе раёнаў не абагулены яшчэ каровы, коні. Пленум указвае, што сапраўдны пераход да буйной аграмаджанай гаспадаркі пачынаецца з моманту абагуленьня прадугледжаных статутам сродкаў вытворчасьці. Сапраўдную колектывізацыю, сапраўдны пераход да форм буйной аграмаджанай сельскай гаспадаркі трэба ацэньваць перш за ўсё па ступені аграмаджаньня сродкаў вытворчасьці, росту непадзельных капіталаў і выхаду таварнай продукцыі.

У сувязі з тым, што рашэньне партыі аб застаўленьні сядзібнай зямлі ў індывідуальным карыстаньні колгасьнікаў у радзе выпадкаў выкарыстана для захаваньня пад відам сядзібнай зямлі сваіх індывідуальных гаспадарак, лічыць неабходным там, дзе маюць месца падобныя злоўжываньні падтрымаць ініцыятыву перадавых колгасаў, накіраваную на перагляд разьмеркаваньня сядзібных вучасткаў у бок іх скарачэньня, грунтуючы гэтую працу на шырокай растлумачальнай працы сярод колгасьнікаў.

3. Выходзячы з таго, што колектыўная гаспадарка забясьпечвае вялізарныя магчымасьці разьвіцьця высокатаварнай жывёлагадоўлі і самай высокай ураджайнасьці, Пленум ЦК і ЦКК абавязвае ўсе парторганізацыі, савецкія зямельныя і колгасныя органы задачу разьвіцьця жывёлагадоўлі, уздыму ўраджайнасьці, разьвіцьцё такіх галін гэтай

гаспадаркі, як гародніцтва, садоўніцтва, пчалярства, рыбная гаспадарка і г. д.,—паставіць цэнтральнай у гаспадарчым умацаваньні колгасаў, для чаго:

а) забясьпечыць выкананьне пастановы ЦК аб вызначэньні напрамку разьвіцьця (спэцыялізацыі) колгасаў да 1/II-32 г. Пры спэцыялізацыі колгасаў у жывёлагадоўчым напрамку выходзіць з таго, што фэрмай павінен зьяўляцца ў асноўным колгас-фэрма;

б) партыйным організацыям, савецкім, зямельным і колгасным органам па-бальшавіцку разгарнуць работу па мобілізацыі энэргіі партыйных і комсамольскіх сіл колгасных мас, спэцыялістаў і ўсіх работнікаў соцыялістычнага земляробства на практычнае вырашэньне задачы рашучага ўздыму ўраджайнасьці для чаго: шырока ўкараняць правільныя севазвароты, палепшыць апрацоўку глебы, організаваць правільны догляд за пасевамі, забясьпечыць абавязкова поўную праполку тэхнічных і прапашных культур, раньнюю сяўбу і своечасовую ўборку, барацьба са шкоднікамі і са стратамі, абавязковае выкананьне задачы пад'ёму на зяб усёй плошчы, вызначанай для пасеву яравых, рашучае пашырэньне засеву гатунковым насеньнем, шырока разгарнуць сэлекцыйную работу, поўнае скарыстаньне штучных і мясцовых угнаеньняў, асабліва торфу.

Пленум патрабуе ад РК КП(б)Б, НКЗ і Колгасцэнтру, каб у кожным раёне, у разрэзе кожнага колгасу былі распрацаваны конкрэтныя мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці;

в) абавязаць Інстытут Соцыялістычнай Рэконструкцыі распрацаваць не пазьней 1 студзеня тыпы севазваротаў спэцыялізаваных колгасаў (малочна-ільняныя, жывёлагадоўча-бульбяныя, малочна-насенаводныя, малочна-садова-гародныя);

г) Пленум абавязвае спэцыяльныя жывёлагадоўчыя колгасныя цэнтры, Колгасцэнтр і РК КП(б)Б забясьпечыць безадкладнае і рашучае ўзмацненьне работы па разьвіцьці колгаснай жывёлагадоўлі. Для таго, каб забясьпечыць больш таварны выхад ад жывёлагадоўлі, неабходна правесьці практычныя мерапрыемствы па ўмацаваньні фэрм, большай концэнтрацыі ў іх таварнага стада і рашучага павялічэньня ўдойлівасьці малочнага стада і выхаду таварных сьвіней. Абязьлічка, якая пануе ў доглядзе за жывёлай у большасьці фэрм, павінна быць безадкладна зьліквідавана і на справе ўведзена сапраўдная зьдзельшчына;

д) Пленум ЦК і ЦКК з усёй рашучасьцю ўказвае, што задача вытворчага ўмацаваньня колгасаў, падняцьце ўраджайнасьці, падвышэньне таварнасьці жывёлагадоўлі і інш. галін гаспадаркі з усёй сілай патрабуе ад колгасных і зямельных работнікаў аўладаньня ў найбольш кароткі тэрмін тэхнікай вядзеньня буйной соцыялістычнай гаспадаркі, агрономічнымі ведамі, тэхнікай поўнага скарыстаньня с.-г. машын і самага шырокага ўжываньня дасягненьняў агрономічнай навукі, выходзячы з чаго Пленум ЦК і ЦКК абавязвае парторганізацыі, НКЗ і Колгасцэнтр распрацаваць практычныя мерапрыемствы, якія-б забясьпечылі выкананьне гэтай задачы і пры падрыхтоўцы масавых кадраў, максымум увагі зьвярнуць на вывучэньне агрономічных ведаў, апрача гэтага шырока паставіць распаўсюджаньне спэцыяльнай навуковай сельска-гаспадарчай літаратуры, організацыю гурткоў завочнага навучаньня, правядзеньне спэцыяльных курсаў і г. д.;

е) прызнаючы слабай работу навуковых і дасьледчых установаў у галіне барацьбы за лепшую організацыю колектыўнай вытворчасьці, за ўзьняцьце ўраджайнасьці, падвышэньне таварнасьці жывёлагадоўлі і г. д. (адрыў навуковых і дасьледчых установаў ад колгасных мас і колгаснай вытворчасьці, адсутнасьць шырока і правільна пастаўленых вопытаў, адсутнасьць гібкасьці ў перанясеньні лепшых, якія ўжо апраўдаліся, вопытаў для шырокага практычнага іх ажыцьцяўленьня), Пленум даручае Бюро ЦК на працягу двух месяцаў прыняць практычныя прапановы, якія-б забясьпечылі рашучае палепшаньне работы навуковых і дасьледчых установаў, у прыватнасьці—абгаварыць пытаньне аб організацыі спэцыяльнага навукова-дасьледчага колгаснага інстытуту, які-б зьяўляўся філіялам Усесаюзнага НІКІ.

У мэтах шырокай пастаноўкі вопытаў найлепшай організацыі колектыўнай вытворчасьці, лічыць мэтазгодным організацыю ня менш 100 апорных колгасаў, па 1-2 у кожным раёне, з якімі павінна быць устаноўлена непасрэдная сувязь як з боку Колгасцэнтру, так і Інстытуту Соцыялістычнай Рэконструкцыі сельскае гаспадаркі;

ж) Пленум ЦК і ЦКК адзначае, што завезеная ў бягучым годзе вялікая колькасьць складаных с.-г. машын у значнай ступені выкарыстана была нездавальняюча з тэй прычыны, што ня была ліквідавана абязьлічка, прыстаўленыя да машын людзі не аўладалі ў належнай ступені тэхнікай карыстаньня с.-г. машынамі (ільноцерабілкі, бульбакапалкі і інш.).

Абавязаць колгасныя і зямельныя органы правесьці на працягу зімовага пэрыяду спэцыяльную работу па аўладаньні колгаснікамі тэхнікай карыстаньня с.-г. машынамі, за ліквідацыю абязьлічкі і г. д., забясьпечыўшы ў будучым годзе бязумоўна поўнае і рацыянальнае скарыстаньне с.-г. машын;

з) Пленум абавязвае Колгасцэнтр, НКЗ і раённыя партыйныя організацыі безадкладна разгарнуць мобілізацыю колгасных мас на падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

Забясьпечыць сваячасовае давядзеньне заданьняў да колгасаў, складаньне вытворча-фінансавых плянаў, рамонт с.-г. інвэнтару, транспорту, сваячасовы завоз угнаеньня, с.-г. машын і г. д.

Пленум абавязвае ўсе організацыі прыняць меры, забясьпечваючыя поўнае выкананьне плянаў нарыхтовак насеньня, засыпкі насенных фондаў і ачысткі насеньня.

4. З ростам колектывізацыі адбываецца паступовы процэс узбуйненьня дробных колгасаў, колькасьць якіх значная ў сувязі з надзвычайнай дробнасьцю вёсак, як вынік сталыпінскай і прышчэпаўскай спадчыны.

Процэс узбуйненьня колгасаў зьяўляецца простым вынікам росту колектывізацыі, організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, укараненьня складаных і паўскладаных машын, будаўніцтва і разгортваньня дзейнасьці МТС і па меры перакананьня колгасных мас у мэтазгоднасьці аб'яднаньня, каб забясьпечыць найбольш рацыянальнае скарыстаньне сродкаў вытворчасьці і рабочае сілы. Вырашэньне задачы ўзбуйненьня дробных колгасаў будзе і павінна вырашацца ў залежнасьці ад вырашэньня паказаных вышэй мерапрыемстваў (організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, падвядзеньне тэхнічнай базы, рост сьвядомасьці колгасных мас). Аднак, у радзе раёнаў гэтыя палажэньні парушаюцца. Ужо дапушчаны ў асобных раёнах памылкі пры правядзеньні ўзбуйненьня колгасаў (адміністраваньне, парушэньне дабраахвотнасьці, штучнае вызначэньне разьмераў колгасаў і г. д.). Ігноруецца паказаньне т. Сталіна—„Цяпер увага работнікаў павінна быць завострана на організацыйна-гаспадарчай рабоце колгасаў і вёсак і сёлах. Калі гэта работа пакажа належныя посьпехі, „гіганты“ зьявяцца сямі сабой“.

На даным этапе колгаснага будаўніцтва пры сучасным становішчы колгасаў і ўзроўні мэханізацыі асноўным разьмерам колгасу павінна зьяўляцца вёска-колгас. Узбуйненьне колгасаў можа адбывацца на аснове строгага захаваньня поўнай дабраахвотнасьці і на аснове зацікаўленасьці саміх колгасных мас, на аснове організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня існуючых колгасаў, па лініі ўцягненьня ў існуючыя колгасы ваколічных, яшчэ неколектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак; аб'яднаньне колгасаў у адзін там, дзе існуе іх 2-3 у аднэй вёсцы.

У раёнах з высокім пропантам хутарызацыі пры захаваньні паказаных вышэй прынцыпаў узбуйненьне можа праводзіцца ў сувязі з правядзеньнем спэцыялізацыі колгасаў у напрамку разьвіцьця жывёлагадоўлі, гародніцтва, садоўніцтва, пчалярства, па лініі організацыі міжколгасных фэрм (МТКФ, СТКФ, прамысловы сад, пасека, прадпрыемствы па перапрацоўцы малочнай продукцыі), ці дробныя колгасы аб'яднаюцца, каб забясьпечыць магчымасьць організацыі той ці іншай таварнай фэрмы і па рашэньні сходу колгасьнікаў вызначаецца месца гаспадарчага цэнтру колгасу, выходзячы пры гэтым з гаспадарчай мэтазгоднасьці.

Улічваючы неабходнасьць стварэньня гаспадарчых цэнтраў у тых колгасах, дзе організуюцца жывёлагадоўчыя фэрмы ў хутарскіх раёнах, прапанаваць Колгасцэнтру пры распрацоўцы пляну капітальных укладаньняў прадугледзець прыстасаваньне ў гэтых пунктах такой колькасьці жыльлёвых памяшканьняў, якія-б забясьпечылі разьмяшчэньне асноўнага ядра колгасьнікаў, даглядаючых за жывёлай.

5. Колгасныя кадры набываюць вельмі важнае значэньне ў справе організацыйнага ўмацаваньня колгасаў і правільнай організацыі колектыўнай вытворчасьці. Між тым, ні большасьць РК КП(б)Б, ні КГС не зварочвалі да гэтага часу належнай ўвагі падбору, вывучэньню складу кіраўнікоў колгасаў, загадчыкаў фэрм, брыгадзіраў, мае месца засьмечанасьць складу старшынь колгасаў, загадчыкаў фэрм і брыгадзіраў кулацкімі і іншымі антысавецкімі элемэнтамі і людзьмі яўна няздольнымі кіраваць колектыўнай вытворчасьцю. Амаль па ўсіх раёнах мае месца частая зьмена, адсутнічае сталы вучот колгасных кадраў і практычная дапамога ў іх працы.

Пленум прапануе: а) Колгасцэнтру організаваць дасканалы вучот колгасных кадраў (старшыні колгасаў, загадчыкі фэрм, брыгадзіры), забясьпечыўшы падвышэньне кваліфікацыі як шляхам склiканьня спэцыяльных курсаў, так і шляхам сыстэматычнага правядзеньня спэцыялізаваных па асобных відах работ інструкцыйных вытворчых нарад у межах с.-саветаў, куставых і раённых; б) РК КП(б)Б недапушчаць частай зьмены кіруючага колгаснага актыву, а забясьпечыць лепшы падбор і замацаваньне іх на рабоце на больш працяглы пэрыод. Лічыць неабходным, каб загадчыкі колгасных таварных фэрм былі ўключаны ў раённую номэнклятуру работнікаў. РК забясьпечыць падвышэньне якасьці падрыхтоўкі кадраў; в) Пленум пацьвярджае пастанову ЦК ад 11-IX аб падрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі ня менш 100.000 ч., аб пашырэньні цэнтральнай колгаснай школы да 400, школы рахунковых работнікаў да 600 чал. і г. д. Падрыхтоўку масавых колгасных кадраў трэба організаваць на аснове вытворчасьці, організуючы курсы ў лепшых саўгасах і колгасах.

6. Задача організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў патрабуе рашучага палепшаньня опэрацыйнага конкрэтнага кіраўніцтва колгасамі з боку колгаснай сыстэмы і зямельных органаў. Гэта задача можа быць выканана пры рашучым узмацненьні раённага зьвяна колгассаюзаў, МТС, спэцупаўнаважаных і ператварэньня іх у сапраўд-

ныя штабы кіраўніцтва колгаснай вытворчасьцю. Пленум абавязвае РК КП(б)Б пераглядзець і ўзмацніць раённыя колгасныя апараты лепшымі работнікамі і на справе забясьпечыць у іх рабоце практычную дапамогу і кіраўніцтва.

Пленум з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што як цэнтральныя органы (Колгасцэнтр, НКЗ, спэцыяльныя колгасныя цэнтры), так і раённыя партыйныя і колгасна-зямельныя органы не перабудавалі яшчэ мэтодаў і форм кіраўніцтва непасрэдна колгасамі (няма конкрэтнасьці, няма дыфэрэнцыяванага падыходу да асобных колгасаў. Нярэдкі выпадкі камандваньня, адміністраваньня замест організацыі мас і опэрацыйнага кіраўніцтва).

Пры ажыцьцяўленьні кіраўніцтва колгасамі трэба выходзіць з таго, што колгасы зьяўляюцца дабраахвотнымі аб'яднаньнямі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Таму, ажыцьцяўленьне кіраўніцтва колгасамі патрабуе самай шырокай масавай работы сярод самых колгасных мас, работы па ўздыме іх самадзейнасьці і творчай ініцыятывы і ні ў якім разе не падменай масавай работы, работы па організацыі мас і кіраўніцтва імі, голым адміністраваньнем і камандваньнем. Такія мэтоды кіраўніцтва праносяць вялізарную шкоду колгаснаму будаўніцтву. Патрэбна безадкладна ліквідаваць абязьлічку ў кіраўніцтве колгасамі і ўстанавіць такі парадак, каб спэцыялісты, інструктары і інш. работнікі колгассаюзаў і МТС былі замацаваны за пэўнай колькасьцю колгасаў, за становішча якіх прымацаваныя работнікі нясуць поўную адказнасьць.

Колгасны інструктаж у сваёй рабоце павінен абапірацца на па-за штатны інструктаж і колгасны актыў.

Толькі ўпартай штодзеннай масавай пастаноўкай політыка-выхаваўчай, вытворчай і агрономічнай пропаганды можна ў найбольш кароткі тэрмін перавыхаваць учарашняга дробна-ўласьніка ў сьвядомага, актыўнага барацьбіта за соцыялізм. Меры адміністрацыйнага і іншага ўзьдзейнічаньня трэба прымаць у адносінах злачынцаў, растратчыкаў, рвачоў, ворагаў колгаснае гаспадаркі, аднак, ва ўсіх выпадках трэба, каб у абгаварэньнях тых ці іншых мер узьдзейнічаньня прымала ўдзел колгасная маса. У мэтах організацыі шырокай політ-выхаваўчай пропаганды сярод колгасьнікаў, Пленум даручае Бюро ЦК распрацаваць мерапрыемствы па політвыхаваньню колгасных мас (вячэрнія школы, гурткі, радыё, лекцыі, даклады, спэцыяльнае правядзеньне дзён колгасьнікаў і г. д.). Даручыць Колгасцэнтру правесьці практычныя мерапрыемствы па зьмяншэньні колькасьці аслабанёных работнікаў у колгасах, зьвёўшы да мінімуму колькасьць пацадзён, затрачаных на аслабанёных работнікаў.

У мэтах узмацненьня і палепшаньня кіраўніцтва колгасамі з боку колгасных органаў, Пленум даручае Бюро ЦК і РК узмацніць кіруючы склад спэцыяльных колгасных цэнтраў, раённых упаўнаважаных, надаць ім большую самастойнасьць у іх рабоце, патрабуючы аднячасова большай конкрэтнасьці і адказнасьці за становішча спэцыялізаваных колгасаў.

У мэтах узмацненьня кіруючага складу колгасаў і ачысткі іх ад кулацкіх элемэнтаў, Пленум даручае Колгасцэнтру і РК КП(б)Б, праводзячы сыстэматычную работу па ачыстцы колгасаў ад кулакоў, правесьці перавыбары кіруючых органаў колгасаў па сканчэньні гаспадарчага году.

У вырашэньні задачы організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў вялізарную ролю і адказнае месца павінны займаць спэцыялісты сельскае гаспадаркі.

Пленум ЦК і ЦКК абавязвае НКЗ, Колгасцэнтр і РК КП(б)Б прыняць меры да максымальнага скарыстаньня маючыхся спэцыялістаў, а таксама для паскарэньня падрыхтоўкі спэцыялістаў, палепшаньня якасьці падрыхтоўкі, лепшы падбор студэнтаў і стварэньня для спэцыялістаў лепшых умоў працы.

Наркамзему і Колгасцэнтру прыняць практычныя захады да больш правільнага разьмеркаваньня спэцыялістаў паміж раёнамі, выходзячы з спэцыялізацыі раёнаў.

7. Надаючы вялізарную рашаючую ролю МТС у організацыі высока-таварнай колектыўнай вытворчасьці і ўзмацненьня колгасаў, Пленум патрабуе ад усіх партыйных, колгасных і зямельных органаў і Трактарацэнтру прыняцьця рашучых мерапрыемстваў па палепшаньні работы МТС, па сапраўдным разгортваньні іх дзейнасьці, як асноўных вагароў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

НКЗему, Колгасцэнтру і Трактарацэнтру распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы па перабудове дзейнасьці МТС такім чынам, каб яны абслугоўвалі ня толькі паляводзтва але адыгрывалі-б вядучую ролю ў дачыненьні да спэцыялізаванага напрамку колгасаў ільнаводнага, жывёлагадоўчага, садова-гароднага з тым, каб дабіцца максымальнага скарыстаньня трактарнай сілы, таксама і на ўсіх работах, зьвязаных з вырашэньнем кармавой проблемы, уборкі гародніны, пераапрацоўкі лёну і г. д.

8. Задача організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў патрабуе ад колгасных, зямельных і савецкіх органаў больш энэргічнай работы па мобілізацыі сродкаў як колгасаў, так і асабліва колгасьнікаў на капітальныя ўкладаньні, машынізацыю, будаўніцтва МТС, падрыхтоўку колгасных кадраў і г. д. Пленум з усёй катэгорычнасьцю патрабуе значна большага скарыстаньня мясцовых будаўнічых матэрыялаў пры правядзеньні будаўніцтва ў колгасах, палепшаньня самага будаўніцтва, спрашчэньня

і патаненьня кошту яго. У прыватнасьці, Пленум высоўвае перад усімі колгасамі задачу неадкладна скончыць пачатыя будаўніцтвы, не дапушчаючы да амяртвеньня капіталаў.

9. Пасьпяховае вырашэньне задачы арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў немагчыма без належнага ўздыму культурнасьці колгасных мас. Пленум абавязвае НК Асьветы, НКАховы Здароўя і Колгасцэнтр больш шырока разгарнуць практычную работу па ліквідацыі няпісьменнасьці, пашырэньні і палепшаньні работы пачатковых школ, школ колгаснай моладзі, школ дарослых, хутчэйшым правядзеньні ўсеагульнага навучаньня, арганізацыі хат-чытален, клюбаў, чырвоных куткоў, распаўсюджаньні друку, выданьні насьценных газэт, пляцоўкі, ясьлі, радыё і г. д. На працягу месячнага тэрміну ўнесьці сумесна з належнымі аддзеламі ЦК практычныя прапановы на разгляд ЦК па выкананьні гэтай дырэктывы.

10. Зрухі, якія адбыліся ў суадносінах клясавых сіл на вёсцы і паміж асноўнымі вытворцамі сельска-гаспадарчае продукцыі, патрабуюць рашучай перабудовы ў палепшаньні кіраўніцтва колгаснай вытворчасьцю з боку партыйных і савецкіх органаў, патрабуе таго, каб комуністы і комсамольцы былі заўсёды прыкладнымі ў рабоце колгасаў і ініцыятарамі і сапраўднымі бальшавікамі ў барацьбе за колькасныя і якасныя паказчыкі працы. Кіраўніцтва колгасамі з боку РК КП(б)Б, партыйных ячэек, РВК і сельсаветаў павінна быць сугуба практычным і конкрэтным. РК КП(б) павінны забясьпечыць правільную расстаноўку партыйных і комсамольскіх сіл унутры колгасаў. Растаноўка партыйных сіл павінна быць такой, каб забясьпечыць партыйным кіраўніцтвам асноўную галіну гаспадаркі.

Сельскія саветы, як правіла, павінны мець у сябе вытворчыя заданьні па кожнаму ў паасобку колгасу і правяраць ступень выкананьня колгасамі вытворчых плянаў і сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

11. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадакі, якая выкарчоўвае і ліквідуе на сваім шляху кулацтва, праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Кулацтва і яго агентура ўсімі сіламі імкнуцца зрываць і шкодзіць правільнай арганізацыі колектыўнай вытворчасьці ўнутры колгасаў. Парторганізацыі павінны пільна сачыць за дзейнасьцю клясавага ворага, вывучыць формы яго барацьбы супроць нас і стаяць на чале колгасных і бядняцка-сэрадняцкіх мас, мобілізуючы іх на самую рашучую барацьбу з кулаком і яго абаронцамі. Ня толькі не павінны кулакі прымацца ў колгас, а наадварот, трэба сыстэматычна і рашуча ачышчаць колгасы ад пралезшых туды кулакоў.

Задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, як цэнтральная на даным этапе колгаснага будаўніцтва, будзе пасьпяхова вырашана ў барацьбе на два фронты: у барацьбе з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, так і „лявацкімі" заскокамі.

Па-бальшавіцку вядучы барацьбу за генэральную лінію партыі, КП(б)Б пасьпяхова вырашыць задачу арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, разьвіцьця высока-таварнай колектыўнай вытворчасьці і завяршыць суцэльную колектывізацыю ва ўстаноўленыя ЦК УсеКП(б) тэрміны і канчаткова ліквідуе кулацтва, як клясу.

---

# Аб разьвіцьці соцыялістычнай жывёлагадоўлі ў БССР

## Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б

1. „1931 і 1932 гг. павінны быць гадамі такога-ж рашучага пералому ў разьвіцьці соцыялістычнай жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 гг. у справе організацыі соцыялістычнай збожжавай гаспадаркі". (З звароту ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

Проблема разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі і асабліва сьвінагадоўлі зьяўляецца актуальнай для БССР, як аднаго з важнейшых жывёлагадоўчых раёнаў Савецкага Саюзу. За апошні год у БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, дасягнуты значныя посьпехі ў справе разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Па БССР організавана 184 жывёлагадоўчых саўгасаў, у тым ліку 85 сьвінагадоўчых з агульным пагалоўем буйной рагатай жывёлы ў 49.129 шт.; з іх 26.000 кароў і 74.000 сьвіней, з якіх 28.300 сьвінаматак па саўгасах „Сьвінавод". Організавана 1.018 малочна-таварных фэрм з агульным пагалоўем у 120.000, з якіх 72.000 кароў; 1.600 сьвінагадоўчых колгасных таварных фэрм, з агульным пагалоўем у 120.000, з якіх 71.200 сьвінаматак.

Соцсэктарам у 1931 г. здана таварнай продукцыі малака 670.660 цэнтнэраў і сьвіного мяса 21.000 цэнтнэраў, што ў параўнаньні з мінулым годам дае значнае павышэньне.

Разгорнута шырокае будаўніцтва абораў, сьвінарнікаў, птушнікаў, трусоўняў. Дасягнуты значныя посьпехі ў галіне стварэньня кармавой базы для жывёлагадоўлі.

2. Пленум ЦК і ЦКК падкрэсьлівае, што дасягнутыя посьпехі зьяўляюцца толькі пачаткам у справе вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы. Задачы форсаванага разгортваньня жывёлагадоўлі яшчэ ня сталі ў цэнтры штодзеннай увагі партыйных, савецкіх, зямельных і колгасных коопэрацыйных організацый. Існуе няўменьне па-новаму конкрэтна і опэрацыйна кіраваць і працаваць на гэтым важнейшым і адказнейшым вучастку работы. Яшчэ не разгорнута сапраўдная бальшавіцкая барацьба за поўнае і сваячасовае выкананьне плянаў па жывёлагадоўлі, адсутнічае сыстэматычная барацьба за паляпшэньне якасных паказальнікаў і са стратамі ў жывёлагадоўлі, ня створана сталая кармовая база, мае месца неэкономнае выдаткаваньне і разбазарваньне кармоў. Комплектаваньне саўгасных і колгасных фэрм, будаўніцтва абораў і сьвінарнікаў праходзіць нездавальняюча. Комплектаваньне птушкагадоўчых і трусагадоўчых саўгасных і колгасных фэрм зусім не разгорнута.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК пастанаўляе:

1. Лічачы абавязковым поўнае выкананьне намечаных плянаў 1931 г. па разьвіцьці соцыялістычнай жывёлагадоўлі, і неабходным мобілізаваць увагу на ліквідацыю прорываў па выкананьні плянаў гэтага году, зацьвердзіць аб'ём мерапрыемстваў па разьвіцьці жывёлагадоўлі, намечаных ЦК і СНК ад 22 жніўня г. г., даручыўшы Бюро ЦК іх удакладніць пры складаньні контрольных лічбаў на 1932 г.

2. Выкананьне намечаных партыяй мерапрыемстваў па разьвіцьці жывёлагадоўлі патрабуе мобілізацыі шырокіх мас рабочых саўгасаў, МТС, колгасьнікаў, колгасьніц, беднякоў і сераднякоў - аднаасобнікаў, мобілізацыі ўсёй КП(б)Б на барацьбу за выкананьне плянаў разьвіцьця жывёлагадоўлі ў кожным саўгасе, колгасе, коопэрацыйнай фэрме і організацыі выразнага опэрацыйнага кіраўніцтва гэтай справай. Неабходна дабіцца такога становішча, каб кожная партячэйка, кожны комуніст у паасобку змагаліся за выкананьне плянаў жывёлагадоўлі так, як парторганізацыі перадавых прадпрыемстваў змагаюцца за выкананьне прамфінпляну.

3. Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б патрабуе ад усіх парторганізацый заморганаў, саўгастрэстаў і колгаснай сыстэмы паставіць у цэнтры сваёй практычнай работы задачу формаваньня стада жывёлагадоўчых саўгасаў, МТФ, СТФ, птушкагадоўчых і трусагадоўчых гаспадарак як за лік выкананьня плянаў жывёлазагатовак, разгортваньня сама-

загатовак унутры колгасаў і сярод колгасьнікаў, так і асабліва за лік поўнага захаваньня і гадоўлі ўласнага прыплоду, што павінна зьявіцца асноўнай крыніцай комплектаваньня. Парторганізацыі, НКЗ, саўгастрэсты і колгасныя сыстэмы павінны паставіць у цэнтры сваёй работы па разьвіцьці жывёлагадоўлі справу гадоўлі маладняка, праводзячы рашучую барацьбу з забоем маладняка, рагатай жывёлы і падзяжом парасят, з забоем сьвіней пад прыкрыцьцём эпізоотыі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на выкананьне плянаў організацыі і комплектаваньня цялячых фэрм.

4. Адзначаючы надзвычай высокі процант ялавасьці кароў (10—15 проц.) і сьвіней (25—30 проц.), што тармозіць пашырэньне стада і прыносіць вялікія страты, пленум абавязвае:

а) Наркамзем, саўгастрэсты, Колгасцэнтр разгарнуць шырокую работу па зьнішчэньні ялавасьці. У двухдэкадны тэрмін устанавіць цьвёрдую сетку злучных пунктаў па БССР, да 1/IV-32 г. закончыць організацыю іх. Правядзеньне злучной кампаніі павінна быць такой-жа важнейшай і ўдарнай кампаніяй як пасеўная і ўборачная;

б) правесьці на працягу 1932 г. мэтызацыю ўсяго пагалоўя сьвіней у саўгасах, сьвінаводтрэстах і ня менш 50 проц. сьвінога пагалоўя — у сьвінагадоўчых таварных колгасных фэрмах; па буйной рагатай жывёле — 50 проц. ва ўсіх саўгасах і ня менш 30 проц.—у малочна-таварных фэрмах;

в) улічваючы недастатковасьць высока-якасных вытворнікаў, організаваць не пазьней 1/IV-32 г. па ўсіх без выключэньня раёнах пункты штучнага апладненьня і зараз-жа разгарнуць масавую работу як па папулярызацыі гэтага мерапрыемства, так і па непасрэдным правядзеньні злучной кампаніі. Абавязаць Наркамзем забясьпечыць гэтыя пункты адпаведнымі кадрамі, прэпаратурай і абсталяваньнем.

5. Пленум абавязвае Наркамзем, дырэктароў саўгастрэстаў і Колгасцэнтр забясьпечыць выкананьне пастановы ЦК і СНК аб пародным раёнаваньні па жывёле, праводзячы рашучую барацьбу з недаацэнкай гэтай справы і месьніцкімі тэндэнцыямі ў концэнтрацыі высока-якаснага племяннога матэрыялу. Даручыць СНК у месячны тэрмін намеціць сетку племянных баз і гадавальнікаў па БССР у адпаведнасьці з пародным раёнаваньнем.

6. Прымаючы пад увагу тое, што конская цягавая сіла ў народнай гаспадарцы мае вялізарнае значэньне і што ў радзе месц існуе яўная недаацэнка каня, у сувязі з чым ёсьць выпадкі разбазарваньня коняй, прапанаваць НКЗ і РВК выканаць поўнасьцю пастанову ЦК і СНК аб разьвіцьці ў БССР конягадоўлі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на якаснае яе паляпшэньне, шляхам шырокай мэтызацыі праз пункты штучнага апладненьня, і пашырыць колькасьць конязаводаў і племянных пунктаў. Адначасова з гэтым весьці рашучую барацьбу з разбазарваньнем конскага пагалоўя.

7. Пленум абавязвае Наркамзем, саўгастрэсты, дырэктароў саўгасаў і Белколгасцэнтр правесьці ў 1932 г. наступныя конкрэтныя мерапрыемствы па барацьбе са стратамі ў жывёлагадоўлі; пагалоўную імунізацыю супроць чумы ўсяго сьвінога стада ў соц. сэктары і дабіцца бязумоўнага выкананьня ва ўсіх гаспадарках шырокіх профіляктычных мерапрыемстваў, давесьці да мінімуму ялавасьць кароў і сьвіней, поўнае захаваньне маладняка, асабліва парасят, шырока ўжываючы прэміяваньне лепшых рабочых саўгасаў і колгасьнікаў за актыўную барацьбу са стратамі па жывёлагадоўлі. Даручыць НКЗ распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы барацьбы са стратамі ў жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах. ВЭТ забясьпечыць у намечаны тэрмін сканчэньне пабудовы Віцебскай біофабрыкі, пашырыўшы вытворчасьць біопрэпаратаў і патаніўшы іх кошт.

8. У значнай частцы саўгасаў і ў пераважнай большасьці МТС і СТФ яшчэ не замацаваны сталыя кадры работнікаў на скотных дварох і сьвінарніках, не ліквідавана абязьлічка ў рабоце па доглядзе жывёлы. Пленум патрабуе ад земорганаў, саўгастрэстаў, Колгасцэнтру, райкомаў і ячэек КП(б)Б укомплектаваць скотныя двары, сьвінарнікі саўгасаў, МТФ, СТФ, птушніцкія і трусагадоўчыя сталымі кадрамі працаўнікоў, вылучаючы іх з ліку лепшых адданых справе рабочых і работніц саўгасаў, колгасьнікаў і колгасьніц. Рашуча ліквідаваць абязьлічку ў рабоце па доглядзе жывёлы. Забясьпечыць лепшыя ўмовы для работы сьвінароў, сьвінарак, даярак, скотнікаў і пастухоў, ад якіх у значнай ступені залежыць выкананьне плянаў выхаду і якасьці таварнай продукцыі, перавесьці работу па доглядзе жывёлы на зьдзельна-прэміяльную сыстэму.

Даручыць НКЗ, саўгастрэстам, Колгасцэнтру ў месячны тэрмін распрацаваць конкрэтныя меры па ўкараненьні гаспадарчага разрахунку ў жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах.

9. Даручыць бюро ЦК намеціць спэцыяльныя мерапрыемствы па стымуляваньні разьвіцьця жывёлагадоўлі, асабліва сьвіней, праз устанаўленьне раду дадатковых ільгот для жывёлагадоўчых і асабліва сьвінагадоўчых колгасаў, у прыватнасьці прыраўняць гэтыя колгасы ў прадастаўленьні ільгот да ільнаводчых колгасаў.

Даручыць СНК распрацаваць у месячны тэрмін сыстэму прэміяваньня жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў, стварыўшы для гэтай мэты прэміяльны фонд у суме 500 тыс. руб.

10. Пленум з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае неабходнасьць стварэньня моцнай кармовай базы для жывёлагадоўлі і прапануе НКЗ распрацаваць спэцыяльны плян мерапрыемстваў, накіраваных на павышэньне ўраджайнасьці палявых культур, мерапрыемстваў па арганізацыі штучных выпасаў і паляпшэньні лугавых ужыткоўнасьцяй, пашырэньні пасеву кармавых траў і караньплодаў. Партарганізацыі павінны паставіць у цэнтры ўвагі работу па павышэньні ўраджайнасьці, што зьяўляецца рашаючым у стварэньні моцнай кармовай базы.

Абавязаць Наркамснаб пабудаваць у 1932 г. буйны мэханізаваны завод па вырабе комбікармоў ня менш 50.000 тон, Наркамзем—пабудаваць у саўгасах і колгасах комбікормачныя заводы ў колькасьці 30 з вырабам да 180.000 тон. комбікармоў.

Устанавіць жорсткую экономію ў выдаткаваньні кармоў па саўгасах і колгасах праз устанаўленьне кармавых рацыёнаў, мобілізацыю ўсіх унутраных рэсурсаў. Гэта мерапрыемства ні ў якім выпадку не павінна праводзіцца за лік здачы (продажу) продукцыі дзяржаве.

11. У зьвязку са шпаркім разьвіцьцём жывёлагадоўлі проблема вырабу падсьцілачнага матар'ялу ў БССР набывае важнае значэньне. Ад вырашэньня гэтай проблемы ў значнай ступені будзе залежаць узмацненьне кармавых рэсурсаў і ўзьняцьце ўраджайнасьці. Пленум даручае ЭКАНА разглядзець і вырашыць у бліжэйшы тэрмін пытаньне аб вырабе торфападсьцілачнага матэрыялу і інш.

12. Ухваліць пастанову ЦК і СНК ад 22 жніўня г. г. аб арганізацыі ў колгасах, якія ня маюць сьвінагадоўчых, малочных і птушніцкіх таварных фэрм, колектыўнай гадоўлі і продажу дзяржаве ў плянавым парадку ад 10 да 50 сьвіней, ад 100—500 штук птушак, а таксама здачы малочнай продукцыі—ад 30 да 50 проц. выхаду малака з абагуленага і не абагуленага стада. Зацьвердзіць плян гадоўлі маладняка сельскімі і спажывецкімі таварыствамі ў разьмеры 42.000 шт., уключаючы выгадаваную продукцыю ў плян загатовак.

13. Абавязаць ЭКАНА распрацаваць конкрэтны плян мерапрыемстваў па мэханізацыі саўгасаў і колгасаў з тым, каб ужо ў 1932 г. мэханізаваць поўную выдачу добраякаснай вады і ня менш як на 50 проц. падрыхтоўку і падачу кармоў, максымальна скарыстоўваючы для гэтае мэты сродкі і рэсурсы саміх саўгасаў і колгасаў. Устанавіць конкрэтнае заданьне прамысловасьці па вырабе машын і абсталяваньня.

14. Пленум прапануе Наркамзему, саўгастрэстам, Колгасцэнтру і Белсельбуду ўжыць энэргічныя меры для поўнага выкананьня не пазьней 1/XII-32 г. плянаў будаўніцтва сьвінарнікаў, абораў, цялятнікаў, птушнікаў і трусоўняў. Правесьці ўцяпленьне ўсіх памяшканьняў на зімовы час. Лічыць неабходным устанавіць стандартны тып найбольш танных сьвінарнікаў і абораў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на якасьць будаўніцтва і зьніжэньне кошту. Зараз-жа прыступіць да складаньня плянаў будаўніцтва жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў на 1932 год, безадкладна прыступіўшы да практычнага разгортваньня гэтага будаўніцтва, ні ў якім разе не прыпыняючы яго ў зімовы час. Белсельбуду пашырыць сетку будвучасткаў з мэтаю больш шырокага ахопу будвучасткамі жывёлагадоўчых саўгасаў. Райкомам узяць пад свой непасрэдны нагляд будаўніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах.

15. Бюро ЦК і СНК у бліжэйшы тэрмін вырашыць пытаньне аб арганізацыі адзінай дзяржаўнай сыстэмы, устанавіўшы парадак здачы непасрэдна па малочна-перапрацоўчай прамысловасьці, арганізацыі шырокай сеткі зьліўна-аддзяліцельных пунктаў пераапрацоўкі малочнай продукцыі, скасаваўшы ўсе прамежныя зьвеньні, якія ўдаражаюць кошт гэтай продукцыі для спажыўца.

16. Пленум катэгорычна патрабуе ад усіх кіраўнікоў саўгастрэстаў, дырэктароў саўгасаў, Белколгасцэнтру, раённых партыйных організацый і партячэек саўгасаў і колгасаў разгарнуць рашучую барацьбу за поўнае і своечасовае выкананьне плянаў па здачы (продажу) дзяржаве таварнай продукцыі, выкрываючы перад шырокімі масамі рабочых саўгасаў, МТС і колгасьнікаў шкоднасьць існуючых кулацка-капіталістычных тэндэнцый, не пазьней, як праз месяц увесьці ва ўсіх без выключэньня гаспадарках соцсэктару строгі вучот выхаду і контроль за здачай таварнай продукцыі, асабліва па сьвінагадоўчых фэрмах.

17. Абавязаць Наркамзем, саўгастрэсты і Колгасцэнтр забясьпечыць падрыхтоўку кадраў вышэйшай, сярэдняй, ніжэйшай і масавай кваліфікацыі у адпаведнасьці з пастановамі ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 22 жніўня 1931 г., адкрыўшы не пазьней 1 сьнежня г.г. усе намечаныя ў гэтай пастанове навучальныя ўстановы. СНК БССР забясьпечыць фінансаваньне гэтых навучальных установ да канца 1931 г.

Наркампрацы і Наркамзему да 15/XII правесьці поўны вучот агро і зоовэт-спэцыялістаў, працуючых у апаратах савецкіх і гаспадарчых організацый, з мэтаю максымальнай перасоўкі іх з апаратаў непасрэдна на вытворчасьць — у жывёлагадоўчыя саўгасы колгасы і МТС. Адначасова распрацаваць сыстэму мерапрыемстваў, павышаючых адказнасьць спэцыялістаў за іх працу, а таксама палепшыць матэрыяльна-бытавыя ўмовы гэтых спэцыялістаў, у прыватнасьці разглядзець пытаньне аб павышэньні зарплаты спэцыялістам, працуючым непасрэдна на вытворчасьці.

РК КП(б)Б да 1/XII пераглядзець і палепшыць склад раённых упаўнаважаных Малако і Белплодколгасцэнтру, зьмяніўшы непрацаздольных і не апраўдаўшых сябе на рабоце работнікаў, а таксама пераглядзець і палепшыць склад загадчыкаў фэрм у колгасах, павялічыўшы сярод іх партыйна-комсамольскае ядро.

Пленум даручае бюро ЦК распрацаваць дадатковыя мерапрыемствы па падрыхтоўцы і ўзмацненьні жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў партыйнымі кадрамі.

18. Пленум адзначае нездавальняючае становішча партыйна-масавай работы ў жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах, зусім недастатковую барацьбу парторганізацый за аўладаньне тэхнікай жывёлагадоўчай справы і разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Пленум прапануе райкомам КП(б)Б і сельпарткомам рашуча перабудаваць партработу ў жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах, на аснове практычнага ажыцьцяўленьня шасьці ўмоў т. Сталіна, перанясеньня цэнтру партработы непасрэдна ў нізавое вытворчае зьвяно (цэх, брыгада, фэрма, аддзяленьне) на аснове шырокага разгортваньня вытворча-масавай работы, організацыі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, вылучэньня парторгаў і організацыі партгруп у цэхах і фэрмах.

Важнейшай і рашаючай задачай усіх комуністаў, працуючых у галіне жывелагадоўлі, зьяўляецца сапраўднае аўладаньне тэхнікай жывёлагадоўчай справы. Гэта пленум ЦК і ЦКК лічыць абавязковым для кожнага комуніста жывёлагадоўчых саўгасаў, колгасаў і працуючых у зямельна-колгаснай сыстэме.

19. Даручыць рэдакцыям цэнтральных і мясцовых газэт сыстэматычна і шырока асьвятляць пытаньні разьвіцьця жывёлагадоўлі, выяўляючы лепшыя прыклады організацыі жывёлагадоўлі ў саўгасах і колгасах, робячы іх шырокім здабыткам рабочых і колгасьнікаў.

Адначасова з гэтым абавязаць Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі і Інстытут Соцыялістычнай Рэконструкцыі Сельскай Гаспадаркі імя Леніна забясьпечыць выпуск масавай навукова-популярнай літаратуры па організацыі і тэхніцы ўсіх відаў жывёлагадоўлі.

20. Абавязаць ЦСПСБ распрацаваць рад спэцыяльных мерапрыемстваў профмасавай работы ў жывёлагадоўчых саўгасах, у прыватнасьці намеціць плян шырокай організацыі шэфства рабочых заводаў.

---

# Аб ходзе загатовак

## Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б

1. Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК канстатуе, што загатоўкі асноўных відаў сельска-гаспадарчай продукцыі ва ўстаноўленыя тэрміны ня выкананы, што тармозіць пасьпяховую барацьбу за выкананьне плянаў соцыялістычнага будаўніцтва. Гадавы плян загатовак збожжа выкананы на 10/XI-1931 г. на 40,2 проц. (з памольным зборам), бульбы—на 43,9 проц., ільнянога семя—на 38,9 проц., ільну—на 4,7 проц., жывёлазагатовак—на 32,5 проц. квартальнага пляну.

Адставаньне ў загатоўках тлумачыцца і тым, што цэлы рад парторганізацый, савецкіх загат. органаў, саўгасная і колгасная сыстэмы не арганізавалі па-бальшавіцку справы загатовак, прадаставілі яе самацёку, не далі руйнуючага адпору гутаркам аб нерэальнасьці загатоўчых плянаў, ня выкарысталі ў поўнай меры больш спрыяючых умоў, у якіх праходзіць загатоўчая кампанія гэтага году (вопыт клясавай барацьбы за загатоўкі, узмацненьне і рост аўторытэту партыі і савецкай улады, рост вясковых парторганізацый і інш.). Загатоўчай кампаніі гэтага году спрыяюць тыя абставіны, што соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі зьяўляецца пераважным, і асноўная маса сельска-гаспадарчай продукцыі знаходзіцца ў саўгасах і колгасах.

2. Некаторыя парторганізацыі і загатоўчыя органы замест руйнуючага ўдару па кулаку і яго агентуры ў партыі—правых і „левых" опортуністах,—замест рашучай барацьбы са стаўкай кулака на зрыў загатовак, замест выкрыцьця яго новай тактыкі ў барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту (імкненьне ўвайсьці ў колгасы і разбурыць іх з сярэдзіны, распальваньне спажывецкіх і рвацкіх тэндэнцый сярод адсталых груп колгасьнікаў, выкарыстоўваньне гэтых колгасьнікаў у якасьці сваёй агентуры і г. д.), дапусьцілі проціпастаўленьне з боку асобных работнікаў і колгасаў мясцовых інтарэсаў інтарэсам пролетарскай дзяржавы, што адбівае антыпартыйную кулацкую ідэолёгію і практыку.

Вынікам праваопортуністычнай практыкі ў радзе раёнаў зьявілася зусім нездавальняючае, ня ў тэрмін, спагнаньне продукцыі ў парадку цьвёрдых заданьняў кулацка-заможным гаспадаркам і недаабкладаньне кулака пры наяўнасьці фактаў перагібаў у адносінах да серадняка (дача цьвёрдых заданьняў).

3. Разгорнутая масава-палітычная работа, без правядзеньня якой ня можа з посьпехам весьціся барацьба за загатоўкі, у некаторых раёнах ігнаравалася і была падменена шырокай практыкай адміністраваньня. У гэтых раёнах не вялося шырокай растлумачальнай работы ў колгасах аб першачарговым выкананьні сваіх абавязкаў перад дзяржавай, не даваўся рашучы адпор антыпролетарскім імкненьням процістаўпаставіць свае мясцовыя патрэбы інтарэсам дзяржавы (што выявілася ў зьмяншэньні валавой продукцыі, непамерным павялічэньні кармовых фондаў, у разважаньнях аб нерэальнасьці плянаў, рвацкіх настроях, у затрыманьні здачы (продажу) дзяржаве сельска-гаспадарчай продукцыі і г. д.). У радзе раёнаў існуе яўная недаацэнка ролі індывідуальнага сэктару ў загатоўках, у выніку індывідуальны сэктар слаба арганізаваны на выкананьне плянаў загатовак, а таксама яўна нездавальняюча праводзіцца работа па выкананьні аднаасобнікамі контрактацыйных умоў.

Пленум лічыць, што асобныя работнікі страцілі клясавую пільнасьць, не зразумелі таго, што ў колгасах толькі пачынаецца перавыхаваньне селяніна на данай стадыі колгаснага руху ў яго арцельнай форме, а не завяршаецца, ня ўлічылі наяўнасьці элемэнтаў клясавай барацьбы ў колгасах і не мобілізацыі мас колгаснікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства для бязьлітаснага адпору кулацкім і рвацкім элементам.

Выходзячы з гэтага, аб'яднаны пленум пастанаўляе:

1. Цалкам і поўнасьцю ўхваліць пастанову бюро ЦК КП(б)Б ад 23/X-1931 г. аб загатоўках, якая (пастанова) з бальшавіцкай непрымірымасьцю ўдарыла па тых партыйных і савецкіх кіраўніках, якія, адбіваючы дробна-буржуазныя сялянскія настроі, дайшлі да

права-опортуністычнага проціластаваньня спажывецкіх настрояў раду колгасаў інтарэсам пролетарскай дзяржавы, якія ня здолелі організаваць масы на няўхільную барацьбу супроць буржуазных тэндэнцый у некаторых зьвеньнях дзяржаўных апаратаў (Белсельтрэст) і тым самым ня здолелі забясьпечыць поўнасьцю і ў тэрмін выкананьне дырэктыў партыі і ўраду аб загатоўках. У прыватнасьці, пленум цалкам ухваляе пастанову бюра ЦК аб зьняцьці з працы праваопортуністычнага кіраўніцтва Белсельтрэсту, раду сакратароў райкомаў КП(б)Б, старшынь РВК і райколгассаюзаў.

Пленум лічыць, што кіраўніцтва Колгасцэнтру дапусьціла правядзеньне няправільнай лініі, якая не забясьпечвала выкананьня бальшавіцкімі тэмпамі загатовак па колгаснай сыстэме.

2. Цяпер у разгар загатоўчай кампаніі неабходна ўсямерна ўзмацніць рашучую барацьбу за сваячасовае і поўнае выкананьне плянаў загатовак, мобілізуючы для гэтай мэты ўсе сілы. Перад усімі партыйнымі, загатоўшчымі, колгаснымі, саўгаснымі і іншымі грамадзкімі організацыямі стаіць задача баявога павышэньня тэмпаў загатовак, асабліва ў галіне барацьбы за збожжа, бульбу, мяса, лён, каноплі і экспортную продукцыю.

Пленум ставіць як абавязак перад усімі організацыямі—неабходнасьць разгортваньня самай рашучай і пасьлядоўнай барацьбы са спажывецкімі, рвацкімі тэндэнцыямі ў колгасах, з буржуазнымі скажэньнямі лініі партыі ў некаторых зьвеньнях дзяржаўных апаратаў, патрабуе, каб кожны член партыі вёў шырокую растлумачальную масавую работу сярод колгасьнікаў і аднаасобнікаў аб іх абавязках у здачы (продажы) пролетарскай дзяржаве сельска-гаспадарчай продукцыі. Рабочая кляса, ажыцьцяўляючы кіраўніцтва соцыялістычнай перабудовай вёскі, аказваючы вялізарную тэхнічную, фінансавую і інш. матэрыяльную і організацыйную дапамогу сялянству і асабліва колгасам, мае права патрабаваць выкананьня колгасамі іх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай.

3. Пленум патрабуе, каб у бліжэйшыя дні быў створан карэнны пералом у ходзе загатовак шляхам абавязковай здачы саўгасамі вызначанай плянам загатовак продукцыі не пазьней 10 сьнежня, шляхам рашучага ўзмацненьня работы па здачы (продажу) продукцыі колгасамі і сыстэматычнай барацьбы супроць недаацэнкі індывідуальнага сэктару ў загатоўках, праводзячы гэту работу з такім разьлікам, каб ва ўстаноўленыя тэрміны былі скончаны загатоўкі. Неабходна работу па ўзмацненьні тэмпаў загатовак правесьці такім чынам, каб саўгасы, колгасы і МТС зьяўляліся прыкладам для аднаасобнікаў сваёй датэрміновай здачай продукцыі дзяржаве і былі сапраўднымі організатарамі ўсіх, памятаючы, што барацьба супроць спажывецкіх настрояў у колгасах за сваячасовае і поўнае выкананьне імі сваіх абавязкаў перад дзяржавай ёсьць барацьба за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгаснага будаўніцтва.

4. Пленум даручае Наркамснабу і ўсім райпарторганізацыям неадкладна прыняць захады да поўнага выкананьня плянаў загатовак і асабліва:

а) **Па збожжы**—разгарнуць рашучую барацьбу з ігнораваньнем таварнасьці збожжавых культур БССР, організаваць грамадзкі контроль супроць разбазарваньня збожжа ў саўгасах і колгасах, вядучы бязьлітаснае змаганьне супроць памяншэньня валавога збору, за поўнае выяўленьне лішкаў збожжавых культур і першачарговую здачу дзяржаве па ўсіх абавязацельствах, у прыватнасьці па контрактацыі, прыняўшы тэрміновыя захады да вывазкі і забясьпечаньня хаваньня збожжавых культур, якія знаходзяцца ў глыбінных пунктах.

Пленум даручае ЦКК-РСІ і Наркамснабу ўзмацніць барацьбу супроць разбазарваньня памольнага збору, прыняўшы рашучыя меры аж да прыцягненьня да партыйнай і судовай адказнасьці асоб вінаватых у гэтым;

б) **Па бульбе**—у бліжэйшыя дні цалкам скончыць адгрузку бульбы для пролетарскіх цэнтраў Саюзу і пераключыцца па-баявому на выкананьне плянаў загатовак для патрэб гарадоў БССР і прамысловасьці, раўняючыся ў гэтай рабоце па перадавых раёнах, якія здолелі правесьці бальшавіцкімі тэмпамі адгрузку бульбы пролетарскім цэнтрам СССР (Полацак, Пухавічы, Плешчаніцы, Касьцюковічы, Клімавічы, Мсьціслаў, Сянно, Талачын, Бабруйск);

в) **Па ільне-каноплях**—організаваць першапачатковую апрацоўку ільну згодна даных плянаў у колгасах і сярод аднаасобнікаў, прывесьці ў поўную гатоўнасьць загатоўчы апарат, праверыць выкананьне пляну завозу прамтавараў, праінструктаваць сельупаўнаважаных па загатоўках, дабіўшыся актыўнай работы загатоўтых апаратаў ня толькі ў організацыі загатовак, але і ў апрацоўцы ільну і канапель, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на якасьць здаванай продукцыі;

г) **Па мясе**—патрабаваць ад загатоўчых органаў і парторганізацый разгортваньня барацьбы з недапушчальнай тэндэнцыяй выкананьня мясазагатовак выключна за лік буйной рагатай жывёлы пры зусім недастатковай загатоўцы сьвіней, аднячасова карэнным чынам павысіўшы тэмпы мясазагатовак. Разам з тым неабходна ўзмацніць барацьбу супроць разбазарваньня жывёлы, асабліва сярод аднаасобнікаў;

д) **Па экспортнай продукцыі**—правесьці рашучае змаганьне з ігнораваньнем загатовак экспортнай продукцыі, організаваўшы работу такім чынам, каб аднячасова з асноўнымі відамі загатовак выконваліся пляны загатовак па экспортнай продукцыі.

Пленум зварачае ўвагу парторганізацый на неабходнасьць дабіцца абавязковага палепшэньня якасьці здаваемай продукцыі, разгортваючы ў гэтым напрамку рашучую барацьбу і разглядаючы здачу нядобраякаснай продукцыі, як вынік кулацкага ўплыву. Таксама неабходна безадкладна і самым рашучым чынам палепшыць тэхніку прыёмкі, дабіваючыся ўважлівых адносін да здатчыка.

5. Пленум лічыць, што посьпехі ў выкананьні загатоўчых плянаў залежаць у значнай ступені ад разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва мас (пры адначасовым прэміяваньні лепшых здатчыкаў—колгасаў, саўгасаў і аднаасобнікаў), ад рашучай барацьбы супроць вядомай „тэорыі“ чарговасьці кампаній, ад своечасовага і ў тэрмін выкананьня ўсіх відаў загатовак асабліва з боку загатоўчых органаў. Пленум даручае ЦКК-РСІ праверыць сыстэму кіраўніцтва і ўліку загатовак з боку адпаведных органаў, прыняўшы рашучыя меры ўзьдзеяньня ў адносінах элемэнтаў, няздольных па-новаму кіраваць справай загатовак.

6. Пленум абавязвае ўсе парторганізацыі па-бальшавіцку ўзяцца за выкананьне пастаноў кастрычніцкага пленуму ЦК УсеКП(б) „аб разгортваньні савецкага гандлю і палепшаньні снабжэньня рабочых“ і даручае Наркамснабу, Белкоопсаюзу і ўсім райпарторганізацыям выканаць дырэктыву партыі аб разгортваньні загатовак ЗРК, ЦРК, ЗВК і ТПО, аб адкрыцьці крам саўгагамі і колгасамі „пры абавязковай умове першачарговай здачы (продажы) продукцыі дзяржаве па цэнтралізаваных плянах“ і аб распаўсюджваньні савецкіх базараў.

Пленум падкрэсьлівае, што ад своечасовага і поўнага выкананьня плянаў загатовак і ад максымальнай мобілізацыі ўнутраных харчовых рэсурсаў залежыць далейшае паляпшэньне рабочага снабжэньня.

7. Пленум лічыць недапушчальным, што ў радзе раёнаў няма належнага зруху ў выкананьні цьвёрдых заданьняў кулацка-заможнымі гаспадаркамі, і патрабуе неадкладнага ўзмацненьня гэтай работы, вядучы рашучую барацьбу з усімі кулацка-заможнымі элемэнтамі, якія ня выконваюць гэтых заданьняў. Адначасова даручыць РК і РВК зараз-жа выправіць перагібы, якія мелі месца ў радзе раёнаў пры правядзеньні практыкі цьвёрдых заданьняў (закрананьне серадняка), а таксама няпоўнае выяўленьне і недаабкладаньне кулака.

8. Пленум даручае парторганізацыям выкарыстаць кампанію перавыбараў парторганаў для ўзмацненьня справы загатовак, актывізаваць у барацьбе за загатоўчы плян комсамол, працоўных жанчын, сельскія саветы і інш. грамадзкія організацыі з такім разьлікам, каб гадавы плян загатовак выканаць поўнасьцю і ў тэрмін.

---

# Аб рабоце МББ, Заходніх чыгунак і воднага транспорту і рэалізацыі дырэктыў ЦК УсеКП(б).

## Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б

Заслухаўшы даклады дырэкцыі МББ і Заходніх чыгунак і судаклад ЦКК-РСІ аб рабоце чыгунак і правядзеньні дырэктыў ЦК УсеКП(б) (адозва ЦК УсеКП(б) ад 10 студзеня 1931 г., пастанова чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б), аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б констатуе, што пры наяўнасьці некаторых нязначных паляпшэньняў у рабоце чыгунак важнейшыя пастановы ЦК УсеКП(б) яшчэ ня выкананы і работа чыгунак застаецца нездавальняючай.

Партыя ня можа дапусьціць у якой-небудзь меры паўтарэньня зімовых перабояў у рабоце чыгунак. ЦК будзе лічыць мясцовыя парторганізацыі адказнымі за прарывы ў рабоце транспорту на тым ці іншым вучастку. Увага ўсёй партыі і мясцовых парторганізацый павінна быць яшчэ ў большай меры сконцэнтравана на далейшай мобілізацыі мас чыгуначнікаў для паляпшэньня работы цягніка, вагона, для павышэньня якасьці рамонту, для паляпшэньня работы станцыі, для ўзмацненьня працдысцыпліны, для рашучага паляпшэньня работы апарату кіраўніцтва, для барацьбы з коснасьцю і бюрократызмам. Павінна быць забясьпечана рашучая барацьба за беражлівае скарыстаньне транспортных сродкаў, вагонаў і цягнікоў, скарачэньня ўсякіх прастояў пад пагрузкай і выгрузкай. Неабходна штодзенная праверка і ўзмацненьне выкананьня заказаў транспорту прамысловымі прадпрыемствамі і паляпшэньне якасьці іх продукцыі.

(З рэзолюцыі кастрычніцкага пленуму ЦК УсеКП(б).

1. Спараная язда на паравозах праводзіцца яшчэ ў значнай меры фармальна, адсутнічае сапраўды бальшавіцкая барацьба са зрывамі спаранай язды і прычынамі, якія іх выклікаюць, імення дрэнная арганізацыя выкліку брыгад, адсутнасьць графікаў работы паравозных брыгад, адсутнасьць пастаяннага прымацаваньня і здачы паравозаў на актах, а таксама частыя масавыя перакідкі паравозаў (па дэпо Віцебск за 2-ю палову кастрычніка—213 зрываў, або 11,61 проц. зрываў, па Жлобіне ў верасьні хадзіла 7 абязьлічаных паравозаў).

У мэтах сапраўднага замацаваньня спаранай язды і безагаворачнага выкананьня дырэктывы партыі аб наявлічэньні сутачнай работы паравозаў ня менш чым на 1 гадзіну, пленум ЦК і ЦКК абавязвае дырэкцыі чыгунак, гаспадарчыя, партыйныя і профсаюзныя арганізацыі раёнаў у найкарацейшы тэрмін зьнішчыць усе адзначаныя недахопы ў правядзеньні спаранай язды, цьвёрда і рашуча правесьці ў жыцьцё загад т. Андрэева.

2. Ліквідацыя абязьлічкі ў вагонным парку—прымацаваньне пэўных паркаў да чыгунак і арганізацыя абменных і рамонтных пунктаў праводзіцца недапушчальна слабым тэмпам. Замест энэргічнага ажыцьцяўленьня гэтай важнейшай дырэктывы ў радзе выпадкаў існуе самацёк і ствараецца простая пагроза невыкананьня загаду т. Андрэева аб ліквідацыі абязьлічкі вагонаў у вызначаны тэрмін.

Аб'яднаны пленум прапануе дырэкцыям чыгунак не пазьней 20 лістапада закончыць арганізацыю абменных і рамонтных пунктаў, забясьпечыць іх мэханічным абсталяваньнем, запаснымі часткамі, а таксама неабходнымі кваліфікаванымі кадрамі, службовымі і жыльлёвымі памяшканьнямі.

3. У выніку нездавальняючага правядзеньня спаранай язды, невыстарчальнай адказнасьці паравозных брыгад, а асабліва дрэннай якасьці рамонту паравозаў і вагонаў, процант хворых паравозаў і вагонаў застаецца яшчэ высокім (асабліва ў дэпо Віцебску). У мэтах рашучага зьніжэньня проценту хворых паравозаў і вагонаў пленум ЦК і ЦКК прапануе дырэкцыям чыгунак і начальнікам раёнаў безадкладна наладзіць правільнае плянаваньне ўсіх вытворчых процэсаў, правільна расставіць рабочую сілу па рамонце паравозаў і вагонаў, забясьпечыць снабжэньне дэпо неабходнымі запаснымі часткамі, разгарнуўшы сапраўды бальшавіцкую работу па мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў. Дырэкцыі Заходніх чыгунак загрузіць завод Ланцуцкага для вырабу запасных частак, забясьпечыўшы яго адпаведнымі матэрыяламі.

4. У эксплёатацыйнай рабоце транспорту не вядзецца рашучай барацьбы з коснасьцю і непаваротлівасьцю, з опортуністычным самацёкам, няма даволі выразнага камандаваньня, у выніку эксплёатацыйная работа па ўсіх раёнах БССР зьяўляецца яўна нездавальняючай: няма выразнай работы дыспэтчарскага апарату і станцыйных агентаў, асабліва на разьмеркавальных і вузлавых станцыях, дрэнна пастаўлена плянаваньне як пэрыодычнае, так і опэрацыйнае па грузавых перавозках, нізкі процант і дрэнная якасьць маршрутызацыі і спэцыялізацыі цягнікоў, нізкі процант сьледваньня таварных цягнікоў па раскладзе і што асабліва недапушчальна—вялікі процант спазьненьняў пасажырскіх цягнікоў.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК абавязвае дырэкцыі чыгунак і раёны забясьпечыць поўнае правядзеньне загаду т. Андрэева аб маршрутызацыі і спэцыялізацыі цягнікоў, палепшыць плянаваньне, укомплектаваць адпаведныя групы ў дырэкцыях і раёнах, безадкладна ўстанавіць стандартныя нормы прастою і дасканалыя расклады падачы і ўборкі вагонаў. Дырэкцыям чыгунак у дэкадны тэрмін узмацніць аддзелы эксплёатацыі раёнаў і дыспэтчарскі апарат, рэзка павялічыўшы партыйную праслойку сярод работнікаў эксплёатацыі. Пленум даручае бюро дадаткова мобілізаваць партыйна-комсамольскую групу работнікаў для ўзмацненьня эксплёатацыйнай работы чыгункі.

5. Асабліва недапушчальнай аб'яднаны пленум лічыць зацяжку і нерашучасьць у правядзеньні пастановы партыі аб арганізацыі працы і ліквідацыі „лявацкай" ураўнілаўкі ў заработнай плаце. З боку гаспадарнікаў і профсаюзных арганізацый на транспорце праяўляецца яўная недаацэнка рашаючай важнасьці правядзеньня прогрэсыўна-зьдзельнай і прэміяльнай аплаты працы ва ўсіх зьвеньнях.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК катэгорычна абавязвае гаспадарчыя, профсаюзныя і партыйныя арганізацыі на транспорце безадкладна ажыцьцявіць дырэктыву аб арганізацыі працы, ліквідацыі ўраўнілаўкі і правядзеньні прогрэсыўна-зьдзельнай і прэміяльнай аплаты.

6. Становішча працоўнай дысцыпліны ўсё яшчэ застаецца нездавальняючым. Гаспадарчыя, профсаюзныя і партыйныя арганізацыі не вядуць належнай барацьбы з парушэньнямі працоўнай дысцыпліны, шырокія масы рабочых не мобілізуюцца на барацьбу з кожным асобным выпадкам парушэньня яе як з боку рабочых, так і адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсоналу. Слаба праводзіцца прэміяваньне лепшых ударнікаў. Невыстарчальна ўкаранена сапраўдная адказнасьць выканаўцаў за даручаную работу, няма рэгулярнай і настойлівай праверкі выкананьня. Адным з вынікаў такога становішча з працоўнай дысцыплінай зьяўляецца значная колькасьць здарэньняў.

Пленум ЦК і ЦКК ставіць перад партыйнымі і профсаюзнымі організацыямі на транспорце задачу рашучай барацьбы за працоўную дысцыпліну, як адну з важнейшых асноўных задач.

7. Гаспадарчы разрахунак, як асноўны вагар правільнай організацыі гаспадаркі, скарыстаньне ўнутраных рэсурсаў па ўсіх раёнах і асобных гаспадарчых зьвеньнях фактычна адсутнічае. З боку раду гаспадарнікаў назіраецца простае опортуністычнае процідзеяньне і ігнараваньне гаспадарчага разрахунку.

Пленум ЦК і ЦКК абавязвае дырэкцыі чыгунак, раёны, партыйныя і профсаюзныя організацыі забясьпечыць сапраўднае правядзеньне гаспадарчага разрахунку ва ўсіх зьвеньнях не пазьней чым да 1-І-1932 г. Прыняць рашучыя меры па экономіі апалу. Дырэкцыям чыгунак і начальнікам раёнаў спусьціць ва ўсе нізавыя зьвеньні нарады-заказы і трансфінплян, організаваць улік работы па ўсіх зьвеньнях.

Дырэкцыям чыгунак найстойліва дабівацца перад НКПС тэрміновага вырашэньня ўсіх пытаньняў, зьвязаных з правядзеньнем гаспадарчага разрахунку.

8. Транспортныя коопэрацыя яшчэ не спраўляецца з ускладзенай на яе задачай па бесьперабойным забесьпячэньні рабочых, пашырэньні і паляпшэньні грамадзкага харчаваньня, максымальным скарыстаньні мясцовых харчовых і прамтаварных рэсурсаў. Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК прапануе ўсім коопэрацыйным організацыям зьнішчыць якія-б там ні было перабоі ў снабжэньні рабочых транспорту, палепшыць грамадзкае харчаваньне, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на разгортваньне мясцовых загатовак. Абавязаць Наркамснаб і Белкоопсаюз аказаць максымальную дапамогу транспортнай коопэрацыі, не дапушчаючы зьніжэньня фондаў з мясцовых рэсурсаў, выдаючы іх поўнасьцю ў адпаведнасьці з колькасьцю чыгуначнікаў.

Пленум падкрэсьлівае, што справа паляпшэньня рабочага снабжэньня зьяўляецца аднэй з важнейшых задач гаспадарчых, партыйных і профсаюзных організацый на транспорце. Пленум даручае бюро ЦК забясьпечыць выкананьне дырэктывы ЦК УсеКП(б) ад 16/Х-31 г. аб пасылцы 10 адказных работнікаў на ўзмацненьне транспортнай коопэрацыі.

9. Адзначаючы нездавальняючае становішча жыльлёвых і бытавых умоў рабочых-чыгуначнікаў ва ўсіх раёнах (асабліва па Жлобіне і Воршы) і зусім невыстарчальную ўвагу з боку гаспадарчых і профэсіянальных організацый да паляпшэньня жыльлёвых і бытавых умоў, пленум ЦК і ЦКК абавязвае дырэкцыі чыгунак форсаваць скончэньне намечанай на 1931 г. програмы жыльлёвага і бытавога будаўніцтва на працягу лістапада, прывесьці ў належны парадак дэпо (ацяпленьне, ашкленьне, паляпшэньне санітарных умоў і г. д.).

10. Пленум ЦК і ЦКК прапануе гаспадарчым, партыйным і профсаюзным організацыям на транспорце зьвярнуць асаблівую ўвагу на задачу ўзмацненьня, падрыхтоўкі і правільнай расстаноўкі кіруючых кадраў, асабліва ў нізавых зьвеньнях. Неабходна весьці рашучую барацьбу з цякучасьцю кадраў, не дапушчаючы частых зрываў і непатрэбных перакідак работнікаў, разгарнуць шырокую падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў, рашуча вылучаючы лепшых ударнікаў з рабочага актыву на кіруюча-гаспадарчую і партыйна-профсаюзную работу. Пашырыць сетку і контынгенты курсаў, школ і тэхнікумаў без адрыву ад вытворчасьці, забясьпечыўшы павышэньне якасьці вучэбнай работы.

Дырэкцыям чыгунак і раёнаў прыняць безадкладныя захады да поўнага ўкомплектаваньня школ ФЗВ і паляпшэньня ўмоў (пабудова інтэрнатаў, вучэбнай плошчы), асабліва жлобінскай, магілеўскай, калінкавіцкай.

Дырэкцыям чыгунак і раёнаў зараз-жа скласьці плян падрыхтоўкі кадраў на 1932 г., а таксама прыступіць да складаньня пляну будучай пяцігодкі.

Пленум катэгорычна забараняе перакідку работнікаў транспорту бяз ведама ЦК на іншую работу. Даручыць бюро ЦК разглядзець пытаньне аднос(?)а перасоўваньня раду партыйных і профсаюзных работнікаў на найбольш адказныя ву(?)асткі гаспадарчай работы ўнутры транспорту.

11. Пленум прапануе дырэкцыям чыгунак і раёнаў безадкладна падрыхтавацца па ўсіх лініях да барацьбы з сьнежнымі заносамі, закончыўшы ўсе падрыхтоўчыя работы і забясьпечыўшы лінію неабходнымі сродкамі барацьбы (сьнегаачышчальнікі, лапаты, шчыты і інш.) не пазьней 20-га лістапада.

12. Адзначаючы, што з боку кліентуры маюць месца яшчэ да гэтага часу безадказныя адносіны да скарыстаньня транспорту (несваячасовыя і няправільныя заяўкі, затрыманьне вагонаў пад пагрузкай і выгрузкай, сустрэчныя перавозкі), пленум ЦК і ЦКК прапануе безадкладна рэорганізаваць і ўзмацніць апарат па плянаваньні перавозак і палепшыць яго работу, вылучыўшы ў якасьці старшыні МСМ т. Шапіра. Абавязаць усе гаспадарчыя і коопэрацыйныя організацыі (Лесбел, Белкоопсаюз, ВСНГБ) цьвёрда выконваць дырэктыву ЦК аб скарыстаньні транспорту. ЦКК прыцягнуць да суровай партыйнай і судовай адказнасьці вінаватых у зрыве работы транспорту.

Адначасова пленум абавязвае Лесбел выканаць дагаворы па забесьпячэньні транспорту дрывамі і драўлянымі матэрыяламі, а ўсе гаспадарчыя організацыі дакладна і ў тэрмін выканаць свае абавязкі перад транспортам.

13. Профсаюзныя організацыі на транспорце яшчэ не дабіліся сапраўднай мобілізацыі рабочых мас на выкананьне асноўных вытворчых задач, на ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны, на далейшае разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва і падняцьця іх на вышэйшую ступень, не праявілі належнай настойлівасьці ў ліквідацыі ураўнілаўкі ў заработнай плаце і слаба спраўляюцца з задачай па падняцьці масавай і выхаваўчай работы на належную вышыню.

Выходзячы з гэтага, аб'яднаны пленум абавязвае ўсе профорганізацыі на транспорце ліквідаваць адставаньне ў профрабоце, рашуча змагаючыся з момантамі абязьлічкі і безадказнасьці і опортуністычным „благодушием" з боку раду профработнікаў і профкамітэтаў. Узмацніць нізавыя проф. зьвеньні (брыгада, зьмена, група), наладзіць пастаяннае інструктаваньне, дыфэрэнцыяванае кіраўніцтва і жывую дапамогу нізавым профорганам з боку райпрофсаюзаў і МК. ЦСПСБ забясьпечыць належную дапамогу з боку ўсіх мясцовых профорганізацый профсаюзам на транспорце.

14. У радзе выпадкаў комуністы і асобныя парторганізацыі не ажыцьцяўляюць кіруючую авангардную ролю на вытворчасьці, не зьяўляюцца перадавікамі ў барацьбе за лепшыя паказальнікі, ня ўся маса комуністаў і комсамольцаў уцягнута ў соцспаборніцтва і ўдарныя брыгады. Рад партыйных організацый яшчэ не вядуць даволі рашучай і жорсткай барацьбы з опортунізмам, „очковтирательством" і бюрократызмам на транспорце.

Слаба разгорнута самакрытыка—гэта магутная зброя па выкрыцьці і зьнішчэньні недахопаў на транспорце.

Пленум ЦК і ЦКК прапануе партыйным організацыям галоўную ўвагу сконцэнтраваць на паляпшэньні якасьці работы нізавых зьвеньняў (цэх, партгрупа, зьмена і г. д.), наладзіць опэрацыйнае, дыфэрэнцыяванае кіраўніцтва і штодзенную дапамогу нізавым партзьвеньням і дабіцца хутчэйшага аўладаньня тэхнікай комуністамі, якія працуюць на транспорце.

Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на ўмацаваньне работнікамі і паляпшэньне кіраўніцтва нізавым транспортным друкам. Неабходна таксама значна палепшыць якасьць матэрыялу аб транспорце ў цэнтральных газэтах.

Абавязаць ЦК комсамолу палепшыць конкрэтнае кіраўніцтва і дапамогу транспортным комсамольскім організацыям.

15. Пленум лічыць зусім ненормальным наяўнасьць шматлікіх абсьледваньняў на транспорце і частага адрыву вялікай колькасьці работнікаў ад опэрацыйнай работы. Пленум ЦК і ЦКК катэгорычна забараняе ўсякага роду абсьледваньні транспортных організацый без дазволу ЦКК і прапануе ўсім тэрыторыяльным парткомам і транспортным парторганізацыям організаваць работу так, каб не дапушчаць частых адрываў работнікаў транспорту ад сваёй непасрэднай опэрацыйнай работы, у прыватнасьці для шматлікіх дакладаў у розных організацыях.

16. Адзначаючы, што ў раёне, асабліва ў нізавых гаспадарчых зьвеньнях недаволі цьвёрда праводзіцца адзінаначальле і назіраецца рад выпадкаў нарушэньня адзінаначальля як па віне партыйных і профсаюзных організацый, якія ўмешваюцца ў опэрацыйную работу, так і па віне саміх гаспадарнікаў, што ўхіляюцца ад адказнасьці і хаваюцца за сьпіну іншых організацый,—пленум прапануе гаспадарчым, партыйным і профсаюзным організацыям зьдзейсьніць гэтае зьявішча, цьвёрда і пасьлядоўна ажыцьцяўляючы прынцып адзінаначальля ва ўсіх зьвеньнях транспорту і ствараючы належную абстаноўку і аўторытэт для гаспадарнікаў.

17. Ня гледзячы на рад дырэктыў ЦК УсеКП(б) аб узмацненьні кіраўніцтва і дапамогі транспорту і павышэньні адказнасьці за становішча транспорту з боку тэрыторыяльных парткомаў, да апошняга часу кіраўніцтва ў большасьці выпадкаў застаецца павярхоўным, неконкрэтным, а замест сапраўднай дапамогі маюць месца факты ўмешваньня ў опэрацыйнае кіраўніцтва транспорту. [illegible] пленум катэгорычна
патрабуе ад усіх мясцовых парторганізацый паляпшэньня [illegible] ыяцыі кіраўніцтва
паасобнымі галінамі работы транспорту, папярэджваючы, і [illegible] ы работы мясцо-
вых парторганізацый ЦК і ЦКК будуць улічваць становішча [illegible] а мясцох.

Вылучыць у вузлавых гаркомах і райкомах аднаго [illegible] тодзен-
нага кіраўніцтва работай на транспорце, максымальна разг [illegible] бот.

Пленум даручае бюро і сакратарыяту ЦК, а таксама [illegible] Б
увесьці ў практыку пастаноўку дакладу аб рабоце нізав
транспорту (дэпо, станцыя, паравоз і г. д.).

18. Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б падкрэсьл
транспортам задачы, ліквідацыя адставаньня транспорту ад
даркі будуць выкананы пры ўмове няўхільнага ажыцьцяўле
ліна, мобілізацыі шырокіх мас рабочых і партыйных організ
нізмам, коснасьцю, „очковтирательством", якія тармозяць по
партыі аб узмацненьні транспорту, пры ўмовах разгортва
тэмпаў ва ўсёй рабоце.

Работа партыйных і комсамольскіх організацый поўна
радзе выпадкаў адстае ад тэмпаў, якія прад'яўляюцца т

# Аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі парторганаў

## Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б

Заслухаўшы інформацыю аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі парторганаў, аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б адабрае рашэньне Бюро і Сакратарыяту ЦК і дырэктыўны ліст аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі і прапануе ўсім партыйным організацыям максымальна скарыстаць справаздачна-перавыбарчую кампанію парторганаў для далейшай шырокай мобілізацыі мас навокал выкананьня ўсіх задач 3-га рашаючага году.

Пленум ЦК і ЦКК пастанаўляе:

1. Адобрыць рашэньне Бюро ЦК аб тэрміне правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі парторганаў з 15 лістапада.

2. Пленум ЦК і ЦКК прапануе гаркомам, райкомам, сельпарткомам і партячэйкам організаваць самую шырокую праверку работы ва ўсіх зьвеньнях партыйнай організацыі, уцягнуўшы ў гэтую работу ўвесь партыйны актыў.

3. Пленум прапануе ўсім парторганізацыям удзяліць асаблівую ўвагу ўзмацненьню ўсіх кіруючых парторганаў зьнізу да верху (парторганізатар, партгрупа, бюро яч., сельпартком і г. д.) шырока высоўваючы на кіруючую партыйную работу актыў з лепшых комуністаў, рабочых-ударнікаў і колгасьнікаў.

4. Пленум прапануе ўсім парторганізацыям забясьпечыць самае шырокае абгаварэньне справаздачных дакладаў на падставе сапраўднай бальшавіцкай самакрытыкі, дабіваючыся таго, каб давалася правільная ленінская ацэнка рабоце кожнага кіруючага партыйнага зьвяна.

5. Пленум даручае Бюро ЦК, усім гаркомам і райкомам забясьпечыць самы актыўны ўдзел друку ў перавыбарчай кампаніі, шырокае асьвятленьне ходу перавыбараў і асноўных задач, якія стаяць перад партыйнымі організацыямі.

6. Пленум даручае ЦК вызначыць тэрмін гарадзкіх і раённых партконфэрэнцый і забясьпечыць пастаноўку дакладаў ЦК альбо ЦКК на ўсіх гарадзкіх і раённых партконфэрэнцыях, буйных партколектывах прадпрыемстваў і на транспорце.

---



6. Заказ № 3680. Тыр. 2800 экз. $7^1/_2$ арк.

